ў жыцці, як і ты. Дзе шукаць выйсця? Вось так і ў гэтым фільме. Толькі на тваім месцы — князёўна, якая сама, разумееш, сама робіць выбар! Такі выбар, за які сплачвае потым усё жыццё — балюча, пакутліва, цераз абразу і ганьбу. Але не шкадуе. Зразумей: у кожнага чалавека вялікі выбар бывае толькі раз у жыцці. Дастаткова, напрыклад, адзін раз схлусіць, пайсці супроць свайго сумлення, каб потым ужо ніколі не спыніцца. Для тваёй князёўны і настаў такі выбар. Адзіны, небяспечны, але на ўсё жыццё. Гэты выбар робіць не толькі яна, гэты выбар робіш ты разам з ёю!

Ціха, з надзеяй у голасе рэжысёр дадаў:

— Ну, паспрабуем яшчэ раз.

Яна толькі кіўнула галавою. Прагучала каманда, заспяшалася, застракатала кінакамера. Над пляцоўкаю навісла цішыня.

— Стоп, стоп, стоп! — рэжысёр у роспачы кінуўся ў крэсла. Ажно зарыпела пакрытае лакам бліскучае дрэва.— Ну скажы мне, што смешнага падалося табе на гэты раз?

Ганначка бліснула на яго гарэзлівымі вачыма, потым адвяла іх убок і зноў апусціла долу.

Па-чалавечы ён яе разумеў. Звычайная дзяўчынка, маладзенькая. Для яе здымкі ў кіно, як і для большасці яе аднагодкаў, былі нечым фантастычным. Раней яна нават у марах не магла ўявіць сябе на экране. Гэта ўжо зараз здаецца, што ўсё навакол існуе толькі для яе, яна тут галоўная. Але ж ёсць яшчэ і людскі натоўп, дзе кожны наскрозь працінае цябе дапытлівым позіркам. І гэта трэба вытрымаць, ні на што не звяртаць увагі ды яшчэ і ролю сваю іграць! Хоць у сцэне толькі тры словы, астатняе — вочы і рухі. Як гэта цяжка!..

— Мы ж з табою дамовіліся — ніякіх усмешак! Дзе ты бачыла, каб тут нехта смяяўся? Дзе? — Рэжысёр павёў рукою навокал. Той, на каго скіроўвалася рука, або хаваў усмешку, або паспешліва адварочваўся.— Можа, мне разагнаць гэтых разявак? Толькі май на ўвазе: яны хоць і разыдуцца, але ўсё роўна будуць глядзець — хоць адкуль. Апошні раз паўтараю: наша стужка — трагедыя чалавечага лёсу. У тваім жыцці былі трагедыі? Ат,— ён безнадзейна махнуў рукою,— адкуль яны ў твае гады?.. Ну, прыгадай, мо ты калі палохалася? Злога сабакі, напрыклад, або віскату тармазоў?

— Ды не, не памятаю...

— Мо даводзілася моцна злавацца? У гэтай сцэне павінна быць суквецце ўсіх адмоўных эмоцый. Ты зразумей — твой горад, тваю родную хату, матчын прытулак выпальвае чужынец. Ён прыйшоў за табою — раззлаваны, абражаны тваім адказам, з аголеным, акрываўленым мячом. Для яго няма перашкод. Ён пераможца. Ты яшчэ не ведаеш, але адчуваеш уласную ганьбу, на тваіх вачах забіваюць маці, бацьку, братоў. І няма ніякага ратунку, ніякага выйсця. Твой любы не прыйдзе. Гэта самая страшная хвіліна ў тваім жыцці. Толькі ты не баішся жудаснага лёсу. Ты адмаўляеш захопніку, б'еш словамі, роўнымі ўдару мяча. Ты — жанчына, і твой гонар — галоўная мяжа, праз якую не мае права перайсці ніхто ў свеце. Давай яшчэ раз... Матор!.. Камера!..

— Стоп, стоп! Зноў нікуды не варта! Хвіліна на перадых. Усе застаюцца на месцы!

Раптам, праціскаючыся праз натоўп, хісткаю хадою на пляцоўку выйшаў чалавек. Запаволеныя, няўпэўненыя рухі і спроба ўчапіцца за асвятляльны прыбор выдавалі ў ім аматара «зялёнага змія». Яго не адразу заўважылі, і ён без перашкод залез пад самую камеру. Мутна-п'яныя вочкі знізу ўверх пазіралі з-пад пасмаў брудных валасоў. Запэцканая вопратка вісела на ім, як на жардзіне. Адным словам, каб і з'явілася жаданне, знайсці тыпаж больш агідны было б немагчыма.

Нечакана на вочы п'янаму трапілі босыя ногі. Нізка нагнуўшыся, ён схіліў галаву набок і нейкі момант разглядаў іх збянтэжана і ўважліва. Потым натуральная цікавасць павяла позірк угару. Перад ім стаяла прыгожая, дзіўна апранутая дзяўчына. П'яны адхіснуўся, потым зноў нахіліўся наперад, зноў адхіснуўся. На яго твары з'явілася задаволеная ўхмылка. Імгеннне —і ягоная рука з бруднымі пазногцямі ўчапілася за дзяўчыну.

— У-ту-ту, якая цыпулечка! Красулечка ты мая!.. Давай таго... гэта... пазнаёмімся, га? Я — Во... Во-вік! Мо ў цябе тэ-тэлефончык ёсць? Давай з-запішу. А там — шуры-муры, у кіно пойдзем... Ык! — ён ікнуў, і зноў ліслівая ўсмешка распаўзлася па твары.— Ты не глядзі, што я такі п-п'яны. Я не п'яны, я — цвярозы. П'янага ты мяне яшчэ не бачыла. Але ўбачыш!.. Я добры... Дай В-вовіку буську! — І, склаўшы ў трубачку слінявыя губы, палез цалавацца.

Нарэшце п'янага заўважылі. Некалькі чалавек кінулася да яго. Рэжысёр толькі адкрыў рот, каб нешта сказаць, але ў гэты момант, зрабіўшы намаганне, дзяўчына вырвалася з п'яных абдымкаў. Расправіўшы плечы і горда падняўшы галаву, яна спінаю павярнулася да яго. Ва ўсёй яе паставе, у гнеўнай бліскавіцы вачэй з'явілася раптам такая пагарда, такая нянавісць, што нахабнік ажно адхіснуўся.

Праз сцятыя зубы, ледзь растуліўшы рот, яна вымавіла напаўголасу, але так, што чуваць было далёка:

— Прэч пайшоў, смерд!

Рука рэжысёра імгненна ўскінулася ў бок апаратара, і ледзь чутна прагучаў загад:

— Камера!..

Застракатаў матор.

Мал. **П. Драчова.**



*Юрка*
*Голуб*

## ПАЗІЦЫЯ

Не чапляйся за крысо былога,
Не цягні адтуль адчаю ніць,
І сумлення цёмная бярлога,
Абсмактаўшы лапу, будзе жыць.

І навошта лезці праз галовы,
Як здаўна казалі, на ражон?
Ты ж не быў халодным і галодным,
Не хадзіў, балесны, пад ружжом.

І без дай прычыны марна пяцца
Адганяць ад роднага свіней:
У цябе ж не храбусцелі пальцы
І, тым больш, не абсвістаў свінец.

І ці варта ўспамінаць пра гены
І трасці традыцый футарал?
Не на тое зваў вусаты геній,
Каб слабінцы кожнай патураць.

І найлепей пачакаць. А раптам
Засапе ізноў былая раць,
І таго, хто пёрся на арапа,
Не паспеюць костак пазбіраць.

## ПЧОЛЫ АПАНАСА ЦЫХУНА

А пчолы знаюць вуллі
Свае. Сказаў прарок.
Ім не трымацца вуліц
Ні ўдоўж, ні ўпапярок.

Няма пчале дыстанцый,
А ёсць дзівосны код:
Да родных сцен дастацца
Праз бездань перашкод.

Ёй крыж нялёгкі несці,
На лёс не наракаць.
Такім жа чынам дзесьці
Нясе сябе рака.

У кветках валавокіх,
З вішнёвай вартай рал
Пазначана валока —
Пчаліны арэал.

Браню з тугога воску
Не возьме хіжа восць,
Бо ёсць у вуллі войска
І маршал войска ёсць!

Калі ў пашане праца,
Гудзе крылаты род,
І можна не спрачацца,
Што ў нас — наадварот.

І чуецца за гулам
Дакладных спраў расклад,
А плён іх падагуліць
Святочны стол каляд.

...Духмяны падвячорак.
І Апанас Цыхун
У цяжкіх гронах пчолаў
Стаіць, нібы вястун.

## РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ ЎЦЁКАЎ

Заблытаў канцы радаводу.
Пакінуў жанчыну ў слязе.



Упаў у пустую падводу,
Дзе чорт мармытаў у лазе.

Трапляла былінка пад кола.
Грымела падкова аб свет.
Няўжо так рабрыну падколе
З піковае касты валет?

І трэслася долі фурманка
Па далі калматых карчах.
Маўчала дарога наранку,
Увечары мела крычаць.

Цягнулася Млечнага Шляху
Разбітая ўшчэнт каляя.
На ёй фанабэрысты шляхціц
Калісьці сустрэчнага кляў.

Кідалася птушка наўцёкі.
Наперадзе стайня ў каня —
І той з асалодаю цокаў,
Каб шлях немалы даканаць.

А вобак стаялі паданні,
І зёлкі не трэслі расу,
Не ведалі зёлкі падаўна
Пра тое, што носяць красу.

Нарэшце прыехалі. Поўня.
Рака. Незнаёмыя. Млын.
Ды ўсё немагчыма запомніць...
Прачнешся —
і ўцёкам амін.

## ВЯСНА. СУСТРЭЧА З ДРЭВАМІ

Зноў залечвае груша
Лёсу голае голле:
Так натруджаны грузчык
Рукі ў кіпені гоіць.

Учарнелай чарэшні
Незайздросная доля:
Ці арол, а ці рэшка,
Як марозік да долу?

І на споведзь да яблынь
Не спяшаюцца пчолы,
Бо зялёнае слаба
Разлілося па чорным.

Нечакана распаліць
Пнём альховым дзядзінец,
І рукою бяспалай
Вербы сонца падымуць.

Ліст упаў на галіну,
Ухапіўся аберуч,
Як за полымя гліна
Ці радок за паперу.

На гняздоўі пакоўным
Трубіць бусел пра стрэчу.
Пamіраць ад спакою,
Уваскрэснуць ад стрэсу.

## АБНАЎЛЕННЕ

Паўнее сонца круг.
Шаша страляе прама.
І робіць рэзкі зрух
Ракі кардыяграма.

Узбіўшыся на дах,
Паводзіць бусел лобам:
Яму — нішто ў лагах
Старых снягоў жалоба.

Сярожкі збоч вісяць
Па самай шчодрай мерцы.
Стукоча мне вясна
Тваім адталым сэрцам.

Мне голас твой чуцён,
Завоблачны, за плотам.
Такое пачуццё —
Як спосаб для палёту.

## ДЗЯКУЙ САКРАТУ ЯНОВІЧУ ЗА ДОЖДЖ

Разам з чэрвенем акурат
Быў я на стрэчу падкі.
Частаваў Яновіч Сакрат
Югаслаўскаю згадкай.

Капала сонца з грон —
Збан бы сюды парожні.
Недзе піпікнуў гром —
Выліты спадарожнік.

З ласкі настырных хмар
Біла вада ў рыштоку.
Схавала дзяўчына твар
На грудзях Беластока.

Казань нашто казаць,
Скрэбці за мудрым вухам?
Змые дажджоў касяк
Звады ва ўсіх завулках.

Сярэбранаму ездаку —
Дажджу
Праз усе загоны
Ехаць, ажно пакуль
Смагу іх не загоіць.

...Зноўку мне памяць шле
Словы з лацінскіх літар:
Сталі яны на шкле,
Леглі на мокрых плітах.

Раімся на пуцях,
Дзе адпачыць засядзем.
— Што у вас для піцця?
— Дождж у бліжэйшым садзе.

— Што ў вас пасля:
Стоміцца ж дождж заўзяты?
— Потым можам паслаць
За яго памагатым.

— Што ў вас за намер
На наступным стагоддзі?
— Дождж заліць за каўнер
Таму,
хто з пытаннем ходзіць!

## СЛАВАЦКІЯ ЭСКІЗЫ.
## ГАДАВІНА ПАЎСТАННЯ

Зноўку чуецца посвіст
Партызанскаму стану.
Нібы вечная позва,
Гадавіна паўстання.

І выносяцца коні
З закілзанае стайні...
Той пагляд заваконны.
Гадавіна паўстання.

Пралічыліся нацы,
Іжэ з імі таксама.
Хоча з воляй абняцца
Гадавіна паўстання.

Нелпатольнай гаркоты
Пацалунак астатні.
Чуеш,
Дукла грукоча!
Гадавіна паўстання.

Час застыне знянацку
Там,
Дзе ў бронзе пастава.
Хоча з болем спазнацца
Гадавіна паўстання.

Над зямлёй зааранай
Зоры сталі пастамі.
Як барвовая рана,
Гадавіна паўстання.

Баньска-Быстрыцы сховы.
Шлях агніста-расстайны.
Узняліся галовы.
Гадавіна паўстання.



Мы з табою браму мінавалі.
Ганак нораў паказаў круты.
Ды для нас зусім не існавалі
Плётак невідомыя драты.

Птушак несмяротныя забавы.
І кудысь гадзіннікі імчаць.
Нам з табою час не трэба бавіць,
Нам з табой яго не прыкмячаць.

Вочы слухаюць, а сэрца чуе.
І шугае музыка душы,
І раса на дубчыку начуе,
Маладзік гайдаецца ў Каўшы.

Мы з табою разарвалі ловы:
Іх прынесла звада, як вада.
Ты такія мне шаптала словы,
Што цяпер памерці не шкада.





*Упершыню ў „Маладосці"*

**Юрый Іваноўскі**

## ПАМЯЦЬ

Памяць!
Ты мой вялікі лес,
Мой гушчэзны пракаветны бор,
Твае дрэвы — хваіны —
Мае ўспаміны.

Памяць!
Ты мая драбнюткая ракаўка,
Якую знайшоў
На дне старажытнага сіняга мора,
Дзе схаваны —
сотні гукаў,
сонмы паданняў,
безліч надзей
і спадзяванняў.

Памяць!
Ты кіруеш мяне да сонца.
Памяць!
Ты цягнеш мяне ў зямлю.
Ты мяне знішчаеш
І ўваскрасаеш.
Памяць!



Агонь мінулы,
той, што апякаў
маё збалелае нутро,
сягоння
больш трывушчы і лагодны,
чым нават летась.

Трапеча, б'ецца і скуголіць на далоні,
як птушка,
што спазнілася ў вырай,
як трапяткое голле трыснягу
пад чэпкім вастрыём сякеры,
напятай глуха і халодна,
як ліст астатні і маркотны
замружанага снегам дрэва,
як дробністы камечак цела
перад Жыцця прасцягам неабмежным
і непазбежнасцю далёкай
Смерці.



Каханне расчыніла сад.
А гукі парадзілі ранне,
Дзе траў дрыготкая краса
Танула ў бяздані маўчання.

Дзе сон з павек маіх зляцеў,
Каб спелым водарам упіцца,
Над белым садам я хацеў
У бусляня ператварыцца.

Хацеў узвіцца над святлом
Пялёсткаў шалага трымцення,
Махнуць адбеленым крылом
Над краем смутку і натхнення.



Шэравокаю раніцай роснай
Прабягу басанож па траве,
Дзе высноўваюць сонейка кросны
Залатое руно ў сіняве.

Каля возера — човен рагаты,
Рассякаецца хваля вяслом.
І махае вятрыска кудлаты
Мне насустрач птушыным крылом.



*Алесь Кажадуб*




**АПОВЕСЦЬ**

**1**

Дуб стаяў пры балоце. Але дзе ж дубу стаяць, як не пры балоце, нездарма людзі расказваюць, што балота — тая ж зямля, толькі ўзараная дубам.

Некалі чорт падгледзеў у бога, як той рабіў зямлю. Бог плаваў у чоўне па вадзе і сеяў сухую зямлю з лесам, полем і сенажацямі на ёй. Браў жменяй насенне з чоўна і раскідваў, дзе ўпадабае. А чорт соваўся назіркам за ім і дзівіўся, адкуль што бярэцца. Урэшце злаўчыўся, украў жменю насення і хуценька праглынуў, каб не адабралі. Бог паплыў далей, а ў чорта пачало распіраць чэрава, расце як на дражджах. Чорт спалохаўся, снуе, бы павук, плюецца, кірхае, і дзе толькі ні рыгне, усюды вада ўкрываецца лазой ды непатрэбнымі травамі. Разгледзеўся бог, кінуўся выпякаць лазу сонейкам і гнясці маразамі — аж позна, не выгубіць лазы. Жыўцом закаранілася. Махнуў бог рукой, а поскудзь палезла на паплавы з палямі. Чалавек глядзеў, глядзеў на тую лазу — пачаў віць з яе вяроўкі. Чорт убачыў, як чалавек круціць вяроўкі ды пяе песні, узялі яго завідкі.

— Навошта,— пытаецца ён у чалавека,— табе гэтыя вяроўкі?

— А давай пакажу,— адказвае чалавек.

Схапіў чорта ды прывязаў да таўшчэразнага дуба, такіх вузлоў накрампаваў, ніхто не развяжа. Як рынуў чорт наўцекача разам з дубам — аж зямля затрэслася. Бяжыць, а дуб сукамі ды карэннем дратуе зямлю, адно лагчыны з равамі застаюцца ззаду. А чалавек сядзіць на рале дуба ды паказвае, куды яму паварочваць. Узвярнуў чорт ледзь не палову ўсяе зямлі. Вось і стаіць з таго часу балота з выжарынамі, азярынамі ды выспамі. Застаўся чалавек пасярод балота. Выцерабіў ляды, разбудаваўся, але ніяк не дасць да канца рады карчам: пакуль выдзера аднаго, вырастаюць дзесяць. Ведама, чортава балота голымі рукамі не возьмеш. А побач з балотам ды людской хатай стаіць дуб. Кудысьці за блізкі свет сышоў бог, уцёк чорт, а чалавек мусіць жыць сам-насам з балотам. І дуб побач, стары, як гэтае балота, а мо й яшчэ старэй.

Дуб стаяў раскладзісты, на пяць ці шэсць абдоймаў, вяршалінаю пад воблакі, і ніхто з тутэйшых людзей не мог угадаць яго ўзросту.

— Мо паўтысячы гадоў,— гаварыў дзед Рыхцік.— Каб спілаваць, дык па гэтых во колцах падлічылі б, а так невядома.

Дуб выкідаў лісце пазней, чым усе дрэвы. Ахінаюцца жоўтым дымком падлескі, запальваюцца на голых схілах зорачкі падбелу, гоніць траву на ўзлобках, а дуб яшчэ стаіць нежывы. Праўда, адсюль, з зямлі, ягонае голле не відаць, мо і набрыньваюць пупышкі, пухнуць, гатовыя вось-вось трэснуць, выпусціць чарвячкі кволага лісця,— але з зямлі гэтага не відно. І здаецца, што дуб ніяк не абзываецца на веснавое сонца, што не-не ды выкаціцца на падвышанае неба, на павевы сырога паўднёвага ці заходняга ветру, на перасвіст сініц, якія першымі заўважаюць праталінку — і ляцяць да яе напіцца, бо ведама, што талая вада дае моц. Дуб маўчаў, раскінуўшы тоўстае сучча, падпіраючы ім, бы рагацінамі, неба. І вось ужо абвешваліся гнуткімі косамі ніцыя вербы, набіралі зяленіва вольхі, асіны і арэшыны, спадаў з падлескаў жаўтлявы туман, а дуб чарнеўся, як абгарэлы. Адцвіталі куралесь і шчамяліца, сыходзілі паглядныя ружова-бэзавыя кветкі ваўчаягады, і толькі тады паказваліся на ніжэйшых катаках першыя лісточкі. Дуб апранаўся памалу, але ўпэўнена. Падрост даўно ўжо трасе лісцем, прыбіраецца, падстаўляе новыя сукні сонцу і ветру, а дуб яшчэ бы абцягнуты сеткай, з-пад якой выпіраюць старэчыя косткі. Нацягне спераду — ззаду гола, а распусціць лісце па ўсім целе — быццам і няма адзення. Але дуб даўно ўжо не ведае сораму, не заўважае нічыіх позіркаў, выпростваецца, распраўляе плечы, патрэсвае анямелымі рукамі, скідвае шмаццё засохлай кары, мыецца пад веснавой залевай, аглядае сябе ў нябесным люстры, удыхае рэзкае паветра на поўныя грудзі — і робіцца тым дубам, які ведае ўсё жывое не адну сотню гадоў. Паўтысячы? Болей? Ды хіба лічаць гады рака, лес, поле? Дуб стаіць, бо ёсць зямля, ёсць балота, пры балоце людскія вёскі, абвіваюць іх раўчакі-рэчкі, і над усім уладарыць сонца. Вось каму лічыць гады, каб была ахвота.

Сонцазваротам вызначаны зямны лад, жыве ім і дуб. Дрыжаць пад сібернымі вятрамі падлескі, скідаюць, спалохаўшыся, лісце, бяруцца інеем травы, пазвоньвае лядком вада ў калюгах, дажджы гразяць зямлю — а дуб нічога не заўважае, стаіць зеляней зялёнага, адно песціць моцныя, адзін у адзін жалуды. Позна ўстаў — позна і кладзецца. Разуліся асіннікі на балотах, учарнелі алешнікі, не ўтрымала апошняга лісточка лаза, а ў дуба шалахціць пад ветрам калянае лісце, быццам пяе песню. Жалуды з зялёных зрабіліся бура-жоўтымі, але сядзяць у гнёздах, не падаюць. Ды вось апёк зямлю сапраўдны мароз, шчыкнуў праз расколіны ў кары за жывое, хапіў за карані, якія вылезлі наверх,— тады толькі дуб сыпле сабе пад ногі лісце, укрывае карані, абтрасае і жалуды, якім добра ляжаць праз усю зіму ў тоўстым кіліме. Аднак не ўсё лісце ляціць долу, шмат яго застаецца на галінах. Упартага не пераўпарціш. Учуўшы жалудовы пошчак, да дуба цягнуцца дзікі, цэлыя чароды дзікоў поруць лычамі лісце, дабіраюцца да зямлі, рыюць — і дубу здаецца, што яму казычуць пяты. Сноўдаюць па вялізным ствале вавёркі, пералятаюць з сука на сук вароны, унізе чакаюць самага салодкага жалуда дзікі, а дуб ціхенька гудзе разам з ветрам, спявае. Ён не засынае доўга, бывае, глядзіць, як абносяць ягоны камель снегавыя намеці, як шчыруюць над ім завеі. Аснежаная зямля наводзіць на одум, і, угрэўшыся пад пульхнай шубаю, ён дрэмле. Але сонца не спіць ніколі, не дае і яму. Вось, вось ужо вяснее, далёка разносіцца па наваколлі перастук капяжу, уздымаюць вэрхал варанякі, што зімуюць на дубе,— і адкрываецца неба. Сонца паварочваецца з зімы на лета.

У гэтых мясцінах заўсёды было шмат вады, яна выбівалася крынічкамі, цурчэла раўчакамі, лена пакалыхвалася ў балотцах, гаманіла ў рацэ, рэчышча якой пакрысе аддалялася. Рака неўпрыкмет пайшла новым рэчышчам, а старое, якое добра бачыў дуб, спачатку было пратокаю, пасля зрабілася старыцай. Яна заплыла тхланню, закрылася лазнякамі, з травы расла адна асака, праз некалькі год старыца ўжо была звычайнай гнечаю, балотам. Але дуб яе не шкадаваў. Ён рос, разгортваў насустрач сонцу пышную карону і не заўважаў, як менела ягоных братоў. Але так і павінна быць, здавалася яму, вялікім дубам патрэбна вялікае месца, яны адсоўваюць ад сябе меншыя дрэвы, і яны не вінаватыя, калі меншым раптам не хапае сокаў. Яму дыхалася вальней і вальней, ён не глядзеў, што робіцца пад нагамі. А братоў менела. Самага блізкага, гонкага, як свечка, вышэйшага за астатніх, спаліла маланка. Другі ўсох, бо стаяў на ветравеі, нейк адышоўся ад сям'і — і выпетраў, яшчэ доўга тырчаў, як помнік самому сабе. Трэцяга з'елі губы-нараслі разам з невядомай хваробаю. Стаяў прыгажун, тоўсты, прысадзісты,— і раптам пайшоў губамі, ачах, лісце ўзялося дзіркамі, над ім запырхалі плоймай матылі, а раз матылі, ведаў дуб, значыць, вусені, ён нават чуў трэск лісця, якое жэрлі мільёны вусеняў. Сабрат хутка струхлеў, рассыпаўся, праз некалькі год не засталося нават пня.

А ён рос, раздаваўся ўшыркі, таўшчэла і рэпалася ад гэтага росту кара. Перш яна была гладкая, нават бліскучая, уся ў сачавічках, а з гадамі пацямнела і парэпалася, аднак рэпіны не былі знакам хваробы ці старасці. Дрэва распірала моц. Кожную вясну ў красавіку — маі дуб распускаў лісце, адначасна расцвітаючы, развешваючы тычынкавыя каташкі, у кастрычніку прываблівау дзікоў жалудамі. Далёка адбеглася рака, загушчэла перад ім балота, упэўнена падняўся пры ім малады лес, і дубу нічога не замінала дыхаць. З суседняй пушчы да яго часта прыходзілі туры, зубры, ласі, алені, чухаліся аб ягоныя бакі, частаваліся жалудамі, пілі паветра, якое пры дубе было крышку не такім, як усюды. Гэта былі ягоныя малодшыя браты, якія вандравалі па зямлі, дуб ім радаваўся. Звяры лізалі кару, абкусвалі маладую адросль на каранях, цягнулі з калюжынак буравататую ваду, настоеную ім, дубам.

Прыходзілі да дуба і людзі. Яны жылі на рацэ, на высокім рачным беразе, але не трымаліся толькі за яе, за свае хаткі. Людзі былі больш прабеглыя, чым звяры, усё некуды ішлі, нечага шукалі, не праміналі ні поплава, ні балота, ні лесу. Дуб ведаў, што людзі сякуць дрэвы, з якіх робяць свае хаткі, выдзёўбваюць чаўны, дрэвамі яны ратуюцца ад халадоў. Але як дуб быў малады, людзі каля яго стыкаліся рэдка, не было каму падняць на яго сякеру. А цяпер ужо не было сякеры, пад якой задрыжаў бы дуб.

Аднак людзі прыходзілі. Зрэдку збіралі жалуды, а часцей ірвалі з ніжэйшага голля шышкі, чавілі іх у вялікіх місах і тым настоем змазвалі балячкі. Людзі, як і звяры, ведалі, што дуб лечыць, гэта было добра. Але нейкага дня людзі забілі на дубе дзвюх чапляў, ім спатрэбілася доўгае белае пер'е чапляў, і з таго года птушкі з дуба зляцелі. У адным з гнёздаў доўга ляжалі вялікія блакітнаватыя яйкі, халодныя, мёртвыя, не было каму іх нават з'есці. Пустое гняздо раз'ехалася, спачатку выкуліліся з яго яйкі, затым рассыпалася пад ветрам і само ламачча. Увогуле, гнёздаў на дубе было шмат. Унізе, сярод тоўстага голля, гняздзіліся дубаносы, якія карміліся дубовымі кветкамі. У гэтых чорна-каштанава-ружавата-белых птушак з моцнай дзюбай былі незвычайнага колеру яйкі — шаравата-зялёныя з фіялетавымі кропкамі. Тут жа жылі пярэстыя пішчухі, крыху вышэй — шэра-блакітныя попаўзні, зусім высока чак-чакалі чарналобыя саракушы, у адным з дуплаў гадавалі вывадкі цемнаспінныя клінтухі, іхняе буркание часта ўспаміналася дубу ў зімовую завіруху. Бывала, на дуб прылятаў сапсан, што сядзеў на балоце. Вялікая цёмна-бурая птушка, чарнавусая, жаўтавокая, вастракрылая, цяжка падала на голы сук, моцна сціскала яго доўгімі кіпцямі, аглядалася. Усё тутэйшае птаства затойвалася ў густым лісці, замірала, дуб адчуваў дробную калатню іхніх сэрцайкаў — і шчыльней захінаў птушак лістотаю. Сапсан высочваў маладых клінтухоў, і самыя неасцярожныя іншы раз гінулі ў яго кіпцюрах. Аднак гінулі толькі слабыя і дурныя, тыя, што не здагадваліся ныранць у карону дуба. Сокал-сапсан доўга на дубе не заседжваўся, ляцеў на сваё балота,—а дуб пра яго ўспамінаў. Чымсьці ён быў з дубам падобны.

Чаплі паляцелі з дуба таму, што дзвюх з іх забіў чалавек. Дуб гэта запомніў. Увогуле, людзі нагадвалі дубу мурашак, што жылі на яго ствале. Мурашкі несупынна цяклі струменьчыкамі ўверх-уніз, цягнулі дробных кузурак і вусеняў, пераносілі ў лепшае месца жаўтаватыя яйкі, іхні рух пачынаўся з першымі сонечнымі промнямі і сціхаў з апошнімі. Людзі, праўда, не супыняліся і ўначы. Але людзі, як і мурашкі, цяклі па вядомых толькі ім дарогах, нешта пераносілі, нечага шукалі, у сваім руху не надта заўважаючы тое, што вакол іх. Зямля? Балота? Вада? Людзі гэтага не бачылі, як мурашкі не бачылі дуб. А зямля пад іхнімі нагамі мянялася, як мяняўся дуб. Зніклі з навакольных лясоў спачатку туры, за імі зубры і алені, апошні раз прабег табунок тарпанаў, растварыўся ў паветры сапсан. А людзей паўз дуб праходзіла ўсё болей. Падсунуліся бліжэй да яго і іхнія хаты. Дуб прыглядзеўся. Хаты стаялі між узаранай зямлі, на ёй раслі дрэвы, якіх, ведаў дуб, у лесе няма. Дрэвы густа апеньваліся вясной бела-ружовым кветам, былі больш безабаронныя перад сонцам і маразамі, чым лясныя, аднак людзі ім дапамагалі, захутвалі ў салому, палівалі, абпырсквалі тым, ад чаго гінулі і вусені, і птушкі, якія імі карміліся. Але гэта ўсё было справай чалавека, дуб узнімаў галаву да сонца: не, сонца было тым жа, крышку інакшым, ды толькі крышку. Дуб абмывалі дажджы, закручвалі ў снегавы бурнос завеі, яго абсядалі птушкі, па ім зрэдку праслізвалі маланкі, пакуль што бяскрыўдныя, і ўсё гэта было жыццём, якому дуб радаваўся.

Дрэва ўбірала ў сябе ўсё, што адбывалася на ягонай зямлі з ракой, лесам, балотам і полем, яно запамінала гукі і пахі — і запамінала трывала, назаўжды. Прабягаў па рацэ мароз, ад якога сінімі іскрамі страляў лёд,— дуб запамінаў. Гулялі мігатлівымі бліскавіцамі нябёсы — дуб прапускаў іх праз сябе. Крычаў лось, выклікаючы другога лася на бойку,— гэты крык асядаў у ім. Гаманілі аб нечым сваім людзі, што селі адпачыць пад дубам,— дрэва разумела іхнюю мову. А найбольш дуб ведаў пра зямлю, у якую глыбока ўваходзілі яго карані. Ці хапае зямлі вады ў сухмень, ці далёка падземны агонь, які таіўся на сухіх балотах, знянацку вырываючыся на паверхню, ці хапае снегавых намецяў, каб зямля не вымерзла, ці бруяцца падземныя крыніцы, якімі жывяцца дрэвы... Балота на былым рэчышчы таксама спатрэбілася зямлі, яно ўтрымлівала ваду. Пайшла рака, паменела вады, а балота яе збірала і аддавала, калі трэба, усяму жывому.

Некалі дуб стаяў тут разам з братамі і дзецьмі, цяпер застаўся адзін. На ўсе чатыры бакі не было побач з ім дрэва. І зямля даўно сказала дубу, што дрэва ўжо не вырасце. Сыходзілі падземныя воды. Спачатку аціхлі крынічкі, пасля спыніліся на паўдарозе раўчакі, за імі згубілася і падземная рэчка. Дуб не ведаў, куды яна дзелася, яму нават здалося, што рака раптам паднялася да сасмяглай глебы — і выпарылася з яе. Зямля наўкола дуба перасыхала. Каля балота шчыравалі людзі, церабілі лазу і алешнік, капалі канавы, па якіх выцякала з балота вада, і не бачылі, што разам з ёй прападае і вада падземная. На паверхні зямлі заставалася тонкая скарынка перасохлага торфу, яго хутка развейвалі вятры, якія раней заблытваліся, аціхалі ў балотных хмызняках. На вочы паказаўся пусты пясок. Людзі, відаць, не ведалі, што на пяску нічога не расце, а можа, яны і хацелі, каб паўсюль быў пясок, сухі, жоўты, глыбокі. Ва ўсякім разе, машыны на балоце не суніманіся, яны грукацелі зусім блізка ад дуба. Але дуб не надта слухаў іх. Адзін дуб у полі — то не лес. Па звычцы цягнуў з слабога балота ваду, і некаторыя яго галіны вясной ужо не абзяленьваліся. Яны адсыхалі разам з каранямі, але дуб гэтага як бы не бачыў.

Канчалася балота, канчаўся дуб пры ім — скончыцца і вёска за балотам. Дуб ведаў, што вузлу рассыпацца лягчэй, чым завязацца. А вузла ўжо і не было. Дуб толькі зрэдку пазіраў на сонца, якое выкочвалася на неба штораз мацнейшае. Ці гэта толькі здаецца, што яно апякае зямлю? Дуб засынаў і з цяжкасцю прачынаўся, у непаразуменні глядзеў на буслоў, якія кружыліся над зямлёй, некага выглядаючы. Дуб, балота, вёска за ім... Дуб адчуваў, што ён гэтай зямлі зацяжкі, зямля пад ім нават прасядала.

## 2

На Яна сонца купалася рознымі колерамі — то сінім зробіцца, то вішнёвым, але ўбачыць гэта можна было толькі на заранцы. Дні стаялі пагодныя, зыркія. У палях млела, падымалася ўгору разагрэтае паветра, здавалася, што яно грала пад купальскім сонцам. Гаварылі, што рэдка выпадае такое лета: аб дзень пагода, цяпло, а ўночы або цёплая раса, або ціхенькі дожджык. Яно і добра — падымуцца жыты, выкаласяцца, нальюцца. Як палічыць, што жыта два тыдні зеляніцца, два тыдні калосіцца, два тыдні расцвітае, два тыдні наліваецца, два тыдні даспявае — дык да жніва засталося няшмат. Але хто гэта зараз лічыць, калі ўрун, калі жыта. Выйдзе загад — сеюць, выйдзе другі — жнуць. Некалі гаварылі: хто сее пасля Лукі, не мае ні хлеба, ні мукі. І клалі ў рунь юрчык, вялікі каравай, каб ведаць, які ўраджай чакаць. Схаваўся каравай — добра, відаць ён — кепска. Цяпер на ўсё быў загад з раёна, таму і не балелі галовы. Скажуць — засеемся, не скажуць — таксама добра.

У Савосціка галава балела, але не ад таго, якія жыты разлягаюцца паабапал дарогі. Жыты, зрэшты, як жыты, тут кустом, там лысінаю. Некалі дзед палохаў яго: як хто прапусціць пры сяўбе загон-два, зробіць абсеў, то нехта ў ягонай сям'і памрэ. Цырк на дроце! Цяпер не тое што за-

гоны, палі не засейваюць, і нічога. Забабоны... На халеру іх людзі выдумлялі?.. Аднак далей пытання думкі Мішкі не ішлі. Балела галава, і балела моцна.

Учора ён паехаў у раённае ўпраўленне меліярацыі, каб пагаварыць пра расцэнкі. Хлопцы даўно гаварылі, што расцэнкі заніжаныя, ён і падахвоціўся — а паеду ў раён, няхай пакажуць, якія ў нас расцэнкі. Сапраўды, зарплата апошнім часам выходзіла намнога меншай, як раней, і Мішка, які працаваў у меліярацыі нядаўна, толькі летась прыйшоў з арміі, напінаўся таксама — мала! Мала грошай, раней было больш. Хлопцы пакрычалі ды ў кусты, а Мішка на аўтобус. Ідзе пагалоска, што Мішка Савосцік заядлы? Няхай будзе па-вашаму. Ды і чаму не пракаціцца ў раён, глынуць піўка, завярнуць у рэстаран? Цяпер, праўда, не тое, што раней, на ўвесь райцэнтр два вінна-гарэлачныя магазіны, натоўп пад імі — не падступіцца. Але ж ёсць рэстаран! Мішка зухавата падбіў шапку, кінуў брыгадзіру, што абчэсцвенныя справы вышэй за асабістыя,— і паехаў.

Увогуле ён быў задаволены, што трапіў не ў калгас, а ў меліяратары. Па-першае, жыве ён усё роўна ў сваёй вёсцы Зарэчча, асушэнне дабралася і да іхняга балота, а па-другое — воля. Хто яго пракантралюе на тым балоце? Адны кнігаўкі ды буслы. Сеў у трактар і шукай ветру ў полі. А самае галоўнае — два законныя выхадныя дні, у калгасе пра іх толькі прысніць можна. У суботу і нядзелю ён нават нудзіўся, соваўся па вёсцы, як ачмурэлая муха. Але колькі тае вёскі, крама ды клуб, яшчэ пошта. Як ні старайся, больш гадзіны нідзе не выседзіш. Сяброў мала. Аднакласнікі раз'ехаліся, хто падаўся ў горад, хто жаніўся, у маладзейшых свае танцулькі, скачуць пад магнітафоны, ён па-іхняму не ўмее. І з дзеўкамі непярэліўкі. Амаль усе ўцяклі ў горад, а тыя, што засталіся, не падабаюцца. Не з дзецьмі ж звязвацца... Праўда, дзеткі зараз такія, што лепей ад іх падалей. Нядаўна Тонька Сарока так адсцябала пры ўсіх у клубе, калі п'яны пацягнуў яе ў скокі,— дагэтуль ікаецца. Усе рагочуць, а ён стаіць як абвараны і вачамі лыпае. У якім гэта яна класе, восьмым ці дзевятым? Ды якая розніца, чысціла яна яго, а не наадварот? Дзяўчына, канечне, відная, ужо і вырасла ўсё, з твару як артыстка, высокая, амаль з яго ростам. Насмеліўся — і атрымаў. Дыхнуў, ты ж разумееш, не тым араматам, не духамі з адэкалонам. Трэба было і сказаць, што адэкалону яшчэ не п'е, як апошні апівоха, хапае грошай на бутэльку чысценькай плюс пару чырвонага, так сказаць, для лакіроўкі. Але што яны разумеюць, шылахвосткі?..

Прыехаўшы ў горад, Мішка адразу падаўся ва ўпраўленне. Запал яшчэ не сышоў, яшчэ рупіла даказаць ці разабрацца. Але перад дзвярыма канторы, што займала стары пашарпаны будынак, яшчэ, мусіць, даваенны, ногі раптам пачалі заплятацца, у жываце захаладала. Мішка ведаў гэты халадок, гэты ледзячок, які рос, большаў, падпіраў пад сэрца,— і з ім расла, запаўняла яго ўсяго трывога, напятасць. Мішка нечага баяўся — і адразу паяўляўся ледзячок.

«Яшчэ ж нічога не робіць,— гаварыў сам сабе Мішка,— і магазіны закрытыя, і рэстаран, піва не прадаюць. Так што няма чаго дрэйфіць».

Ён пайшоў па калідорах. Хлопцы, калі падбівалі яго ехаць у горад, гаварылі пра галоўнага інжынера.

— Дуй адразу да галоўнага,— вучыў яго Сцяпан Сучкоў.— У галоўнага ўсе расцэнкі, астатнія так, паперкі носяць. А гэты скажа — закон. Ён крэпкі, трох дырэктараў перасядзеў. Так і скажы — на пяцьдзесят рублёў меней выходзіць. Га? Цэлых пяцьдзесят рублёў! А план даём. Хай аб'ясніць, чаму менш.







Мішка і пакіраваўся да кабінета галоўнага інжынера, Горбача Пятра Пятровіча. Адчыніў па дарозе некалькі дзвярэй, каб паказаць, што нічога тут не баіцца. У пакойчыках цесна стаялі сталы, заваленыя паперамі, хто пісаў, хто гаварыў па тэлефоне, хто ўглядаўся ў лічбы мікракалькулятара, дзве дзяўчыны шапталіся, для гэтага, мусіць, і паставілі ўсутыч свае сталы,— і ніхто на Мішку не паглядзеў. Відаць, не ў дзіва тут чужы чалавек. Ну і добра, што не ў дзіва. А дзеўкі канторскія нічога, адна рыжая, другая белая, абедзве нафарбаваліся, аж блішчаць.

Дзверы кабінета галоўнага інжынера былі шырока адчыненыя, за імі таўклося шмат людзей, Мішка зайшоў таксама. За сталом сядзеў Горбач, Мішка яго бачыў, як афармляўся на работу, астатнія стаялі.

— Няма чаго панікаваць,— гаварыў Горбач,— нас яшчэ не расфарміравалі. Сёння ў газеце адзін артыкул, заўтра будзе другі. Непрыемна, канечне, што наша ўпраўленне ўпамянулі, але газета не апошняя інстанцыя. Факты таксама можна па-рознаму павярнуць. Я ва ўсім гэтым бачу толькі адзін мінус — незасвоеныя фонды. Кепска працуем, браткі! Тэхніка прастойвае, недакамплектаванасць кадрамі, слабая арганізацыя. Гэта корань нашых недахопаў, але я пра гэта на ўсіх узроўнях гавару.

— Дык пішуць, што аддача ад асушаных зямляў удвая меншая, чым планавалася,— сказаў мажны чалавек у акулярах, можа, сам дырэктар.— А наконт гэтай прыроды — зусім гвалт! Закрываць нас трэба...

— Глупства! — скрывіўся Горбач.— Аддачы няма, бо за зямлёй глядзець трэба, у прымусовым парадку абавязаць калгасы даглядаць землі, якія мы ім перадаём. Яшчэ адно вы не ўлічваеце, таварышы,— моду. Зараз мода вінаваціць ва ўсім меліяратараў і гэтых... што цэрквамі займаюцца. Якую газету ні возьмеш — то разбураюцца помнікі мінулага, то загінула зямля. Але мода праходзіць, а нам працаваць трэба.

— Д-да, не даюць працаваць! — падтрымаў начальства чалавек, які стаяў побач з Савосцікам, ён курыў, страсаючы попел у запалкавы карабок.

— Можа, трэба прыслухоўвацца? — паглядзеў на яго той, што ў акулярах.

«Не, не дырэктар,— падумаў Мішка,— дырэктар таксама сядзеў бы».

— Пішуць пісакі,— махнуў рукой Горбач.— Зараз такая сітуацыя, пра што хочаш можна пісаць. Гласнасць, ты ж панімаеш! Але разумных людзей таксама хапае. Аргвывадаў няма? І не будзе. Працаваць трэба, а пісакам адказваць аргументавана, па пунктах. Раманавіч, вы падрыхтуйце папярэдні адказ, і мне на стол. Трэба намякнуць, што мы не толькі канавы капаем, але і закрытым дрэнажом займаемся, культуртэхнікай. Але толькі ў працэнтах, без канкрэтных лічбаў.

Чалавек, які курыў каля Мішкі, патушыў цыгарэту, усім выглядам паказаў, што не падвядзе.

— У нас тут,— вярнуў на сваё «не дырэктар»,— таксама адзін пасяліўся. Купіў у Казлах хату і піша. З абкома пазванілі і пытаюцца, як там такі і такі. А ў нас і не знаюць, хто гэта. З Мінска прыехаў. Нідзе, кажуць, не працуе, але ж... Вось і думай, пра што ён напіша.

— Хто, кажаш?..— зацікавіўся Горбач.— Кім працуе?

— Ды нікім, пісацель. У абкоме знаюць.

— Гэта не страшна,— кінуў на газету ручку галоўны інжынер.— Пакуль напіша, пакуль выдасць... Вось на газетчыкаў трэба націскаць, каб у другі бок пабеглі. Костку ім якую-небудзь падкінуць, ці што... Яны пра бытавое абслугоўванне любяць, га, Раманавіч?

— Нядаўна пісалі,— кіўнуў галавой Раманавіч.— Ды з гэтым усюды аднолькава, што ў нас, што ў сталіцы. Яшчэ доўга будуць цягнуць ката за хвост.

— А табе што? — нарэшце заўважыў Мішку галоўны інжынер.— Адкуль, з якога ўчастка?

— З Зарэчча...— папярхнуўся Мішка, закашляўся.

— Зарэчча? Гэта які ўчастак, казлоўскі?

— Не, замосцеўскі. А я ў Зарэччы жыву.

— Зарэчча, Замосце,— усміхнуўся Горбач,— за гарамі, за даламі... Ну, што ў вас там?

— Я наконт расцэнак...— зрабіў крок наперад Мішка.— Усе ў нас пытаюцца пра расцэнкі, можа, яны памяняліся? Зарабляем мала.

Цішыня ў пакоі выбухнула рогатам, Раманавіч ажно плакаў, выціраючы вочы насоўкаю. А Мішка стаяў чырвоны, як рак.

— Ну, малайчына!..— ляпнуў яго па плячы Раманавіч.— «Зарабляюць мала...» У нас тут, панімаеш, фонды, ліміты, газетчыкі — а яны «зарабляюць мала»! Хоць трэсні, а давай. Што значыць рабочы клас, гегемон! Га, Пятро Пятровіч? Малайцы, хлопцы, доўга жыць будзеце...

— Цябе хто прыслаў? — стукаў па стале ручкай Горбач, таксама смяяўся.— Хто там у вас у Замосці?..

— Брыгада мяне адправіла,— злосна кінуў Мішка.— Мы ж нічога не ведаем, за што нам налічваюць, за што здымаюць. Распісваемся ў ведамасці — і ўсё... Хай бы прыехалі ды расказалі.

— Ладна, ідзі да нарміроўшчыц, там ёсць старшы інжынер, яна ўсё пакажа. Ясна? Давай.

Мішка выскачыў у калідор, але спыніўся пры дзвярах. Трэба было перавесці дух, адсапціся. Папаў у нерат — ні ўзад, ні ўперад... Відаць, зараз пра яго будуць гаварыць, трэба паслухаць.

Аднак гаварылі, як ні дзіўна, зноў пра газетныя артыкулы. Самымі начытанымі былі Раманавіч і той, не дырэктар.

— Мне тут адну газету паказалі,— расказваў Раманавіч,— на беларускай мове, там пра літаратуру ды артыстаў пішуць... Дык што вы думаеце — і яна за прыроду ўпілася. У Латвіі будуюць электрастанцыю, вадасховішча падтопіць і частку нашых земляў на Віцебшчыне.

— Віцебшчына?..— перабіў яго Горбач.— Я адтуль родам...

— Дык так распісваюць пра тое вадасховішча,— працягваў Рамановіч,— аж пер'е ляціць. І тое не падлічана, і тут не пасаветаваліся, зямлю губяць, людзей ссяляюць. Гэту... ахову прыроды расчахвосцілі за тое, што супраць не выступае. Во час настаў! Засланку паднялі, дык крычаць усе, каму трэба і каму не трэба.

— Я «Литературную газету» выпісваю,— Мішка пазнаў голас чалавека ў акулярах,— вось там драконяць, не то што ў нас. Міністры аж крэкчуць!

Усе ажыўлена загаманілі, некаторы час не разабраць было ніводнага слова.

— У нас пакуль спакойна,—урэшце выбіўся з гаманы голас галоўнага інжынера,— пакуль асцерагаюцца высокае начальства чапаць. А ў Маскве не цырымоняцца, могуць урэзаць так, што мошкі з вачэй пасыплюцца.

— Дык во і ў нас,— Раманавіча Мішку было чутна лепей, чым астатніх,— я ж кажу, нейкая газета — і пра электрастанцыю. Я ледзьве прачытаў па-беларуску, непрывычна, але разабраўся. Трэба сказаць — востра...

— Таксама засланка саскочыла? — падпусціў нехта шпільку.

Зарагаталі.



Мішка пасунуўся па калідоры. Ісці да нарміроўшчыц яму ўжо не хацелася, ды і не было сэнсу. Ведаў ён гэтую публіку, наплятуць кашалёў, а ты будзеш стаяць дурань-дурнем. Просты чалавек кругом вінаваты. Але ён усё ж адчыніў дзверы пакоя, у якім бачыў дзвюх прыгажунь, рыжую і белую. На гэты раз яны паднялі галовы, утаропіліся ў назолу: што трэба? Мішка падміргнуў абедзвюм адразу — пайшлі выйдзем! Дзяўчаты дуэтам наравіста чмыхнулі, заняліся сваімі паперкамі. Ну што ж, не — дык не. Мішка выбраўся на ганак. Ва ўпраўленні пабыў, галоўнага інжынера пабачыў — што яшчэ трэба? Хлопцы ж не дурні, каб верыць, нехта паедзе, дакажа, адразу прымчыць машына і прывязе грошы, калі ласка, распісвайцеся ў ведамасці. Даказваць свае ніхто не забароніць, але толку з гэтага — як з казла малака. Хадзіў-хадзіў, а прайшло сорак мінут, толькі-толькі на дванаццатую гадзіну паказвае. Мішка і паехаў бы дахаты, ды на цэнтральнай плошчы раптам убачыў Ваньку Курчыка, з якім сябравалі з дзяцінства. Нават абняліся, дзіва што — з выпускнога вечара не бачыліся. Ванька пасля дзесятага паехаў паступаць у тэхнікум, а Мішка застаўся ў Зарэччы, чакаў, калі забяруць у войска.

Што прыдумаюць сябры, якія даўно не бачыліся? Ясна што, пачалі раскідваць мазгамі, дзе б гэта пасядзець і пагаварыць.

— Рэстаран...— заікнуўся Мішка.

— Будзем браць магазін! — аддаў загад Ванька, ён тут быў за старэйшага — мясцовы.

Цэлых тры гадзіны ціскаліся ў чарзе каля магазіна. Справа была сур'ёзная, магазін адчыняўся ў дзве гадзіны, людзі займалі чаргу ў дванаццаць.

— Гэта ж колькі людзей на работу не ходзіць! — дзівіўся Мішка.— Во нарабілі гэтымі законамі. Вунь і міліцыя...

— Без міліцыі магазін разнясуць! — тлумачыў Ванька.— Праз гадзіну пасля адкрыцця гарэлка скончыцца, праз паўтары — чарніла. Усяго два магазіны на горад, не хапае. Эй, не пускайце без чаргі!..

Сапраўды, дастоялі свайго, вылузаліся з магазіна з бутэлькамі ў руках, прагна хапалі паветра, ловячы зайздрослівыя позіркі мужчын у чарзе. Ранняя пташка раток выцірае, позняя вочкі прадзірае!

— Пайшлі! — падштурхнуў Іван.— У мяне тут адно месца ёсць... Культурна вып'ем, як людзі, пасядзім, ніхто не заўважыць.

Мішка памацаў бутэльку ў кішэні — сапраўды, ён і не падумаў, як яе выпіць. На вёсцы пад любым кустом можна, а тут...

Ванька прывёў у сталоўку з буфетам, загадаў сесці за стол у цёмным куце, сам матнуўся па шклянкі і мінеральную ваду. Усё ў яго атрымлівалася досыць спрытна. Адкаркаваў пад сталом Мішкаву бутэльку, хуценька разліў па шклянках, бутэльку кінуў у сметніцу.

— Чыстая работа! — падміргнуў ён Мішку.

Той няпэўна паціснуў плячыма. Чыстая то чыстая, але неяк няўтульна ва ўсіх на вачах, людзі абедаюць, а яны з гарэлкаю... Ванька прынёс з буфета дзве порцыі каўбасы.

— Мяне тут ведаюць,— хваліўся ён.— Міліцыя сюды рэдка заходзіць. А зойдзе — у нас мінеральная. Галоўнае — не кідацца ў вочы. Ну, будзем!..

Мішка са страху хапануў амаль усю шклянку, ледзь аддыхаўся. Але нічога, прайшла. Зажавалі, запілі мінеральнай — і ўсё адразу палепшала. Пасвятлела сталоўка, барзджэй пабегла кроў па жылах, прапаў страх. Зноў загаманілі пра сябе, пра сяброў-таварышаў, Мішка напіраў на службу ў войску, а Ванька гаварыў пра дзяўчат. У яго іх было не менш дзесятка, і ўсе падатлівыя, даступныя, самі на шыю вешаюцца.

 

— У мяне таксама!..— размахваў відэльцам Мішка, але сябар яго не надта слухаў, такаваў, як цецярук, пра Машку і Наташку.

— Хлопцы, выйшлі б на вуліцу! — сказаў з-за суседняга стала дзядзька ў ботах і пінжаку з гальштукам.— Няма чаго вам тут расседжвацца.

Дапілі гарэлку, бадзёра ўскочылі, у Мішкі паваліласяя крэсла, выбраліся на паветра.

— Нармалёва! — ікнуў Ванька.— Крыху паходзім, пасля возьмемся за другую. Паспееш ты ў сваё Зарэчча. Мі-лі-я-ра-цы-я!..— працягнуў ён па складах.— Бач, яшчэ не п'яны.

Мішку за меліярацыю зрабілася крыўдна.

— Пра нас у газетах пішуць, лаюцца,— сказаў ён,— а мы... Асушым балоты к чортавай мацеры, і ўсё!..

— Правільна,— згадзіўся Іван.— Прэмію дадуць і гэты... медаль. А куды па ягады будзеце хадзіць?

— Ягады?..— не зразумеў Мішка.— А каму яны трэба. Будуць ягады, не бойсь. Горбач сказаў, што гэта кампанія проціў рабацяг... Мяшаюць працаваць! У нас зарплата стала малая.

— Раз малая, значыць, кідай. Трэба рабіць там, дзе вялікая.

— Было добра, а цяпер горш. У Латвіі электрастанцыю хочуць будаваць, дык у газетах таксама пішуць. Можа, скінуць Горбача?..

— Аднаго скінуць, другога паставяць. Якая розніца? Я от да галавы нічога не бяру. Гуляю, пакуль гуляецца, а там будзе відаць. Прарвёмся!

— Хлопцам раскажу пра газеты, хай ведаюць. Кампанія проціў нас, поняў?

— Поняў, поняў. Ты на трактары робіш?

— Ну.

— А я ў горадзе. Сячэш? Як у анекдоце — разумныя пайшлі да разумных, а табе пакет. Поняў?

— Сам дурань! — раззлаваўся Мішка.— Задаецца, як... Даўно козам хвасты круціў? Гарадскі знайшоўся...

Мішка пра многае можа ўспомніць. Яны з Ванькам зусім малымі разам пасвілі свіней і коз. У Курчыкаў былі козы, а ў Савосцікаў апарасілася свіння. Каб гуляць разам, хлопцы сваю жывёлу пасвілі ў адным месцы — за ручаём. Там было добра — балотца, траўка. Козы з парасятамі на балоце далёка не разбрыдуцца, гразка. І хлопцам хораша, барукаюцца на беразе, гуляюць у «ножыка» ці вырэзваюць дубчыкі. Самым цяжкім было пераправіць свінню з парасятамі праз ручай. Месца там плыткае, вераб'ю па калена, але ж парасяты зусім маленькія, плывуць, задраўшы лычы, за маткаю, якую гоніць Мішка. Свіння, канечне, пераходзіць лёгка, сама ўзлазіць на адхоністы беражок, а парасят трэба падсаджваць. Яны вішчаць, боўтаюцца ў вадзе, Мішка выкідвае іх, сам увесь у гразі. А Ванька гоніць коз да кладкі, бо казёл у ваду ісці не хоча. А не ідзе казёл — не загоніш туды і коз. Аднаго разу Мішка пераправіў парасят — аж чуе нейкі крык. Бачыць: ляжыць каля кладкі Ванька, а над ім трасе галавой казёл, не дае ўстаць. Мішка за палку і на выручку, ледзьве адагнаўся. Аказалася, Ванька дапусціў стратэгічную памылку, пайшоў праз кладку паперадзе казла. А казлу гэта толькі і трэба — падчакаў, пакуль хлапчына перайшоў кладку, разагнаўся і бац пад адно месца. Ляжыць гаспадар, галосіць, а казёл трасе барадой, таксама мэкае. Уся вёска рагатала з Ванькі.

Праўда, і з Мішкам здараліся канфузы. Як той казаў, не паплакаўшы — не навучышся. Мішка заўсёды круціўся каля большых хлопцаў, глядзеў ім у рот, радаваўся, што не пстрыкаюць у лоб і не гоняць ад сябе. А тыя боўдзілы і рады, што знайшлі дурня.



— Схадзі, Мішка, пажабруй,— абняў яго за плечы, як дарослага, Мікола Струк.— Булак смачных надаюць, цукерак...

— А як жабраваць? — глядзеў у чэсныя вочы бамбізы малы.

— Паўтарай за мной: падайце Хрыста радзі беднаму сіраціне, няма чаго есці... Мацней гавары, каб пачулі.

Мішка стараўся. Яму надзелі цераз плячо торбу, якая была ў аднаго з падпаскаў, прывялі да бліжэйшай хаты, падпіхнулі да дзвярэй.

Пачуўшы гэтае «Хрыста радзі», цётка ў хаце бадай не заплакала:

— А божачкі, хіба ж цябе не кормяць удома?.. На, еш булачку, маё ты дзіцятка...

І тут згледзела ў сенцах «настаўнікаў», што зазіралі ў прачыненыя дзверы, штурхаліся, каб лепей бачыць жабрака.

— Ах вы, байструкі!..— схапілася цётка за чапялу, стукнула ёю аб вушак, затупала нагамі.— Ах, лежні!..

Хлопцы сыпанулі з сенцаў на вуліцу, а баба яшчэ доўга не магла супакоіцца, шкадавала Мішку, дала яму цукерку.

Маці пра «жабрака» даведалася адразу — і чакала сыночка з папругаю. Так адперыла «хрыстараднікa» — ахрып, бедны. Прыйшоў бацька, таксама дабавіў. На ўсё жыццё была навука, дасюль помніцца.

— Казёл...— сказаў Мішка, адвярнуўся, каб і не бачыць сябра.

— А што, уляцела мне тады за казла!..— ажывіўся Ванька.— Помніш, як баба памерла?.. А я з казлом.

Сапраўды, як гэта Мішка забыўся? Памерла баба Ганна, жыла яна побач з Курчыкамі ў маленькай хатцы. Надарвалася, гаварылі людзі, адна жыла, дзед не прыйшоў з вайны, дык і дровы, і агарод, і скаціна, у поле за яе таксама ніхто не выйдзе. Сын жыў сваёй сям'ёй, памагаў, але мала. Піў... На хаўтуры сабраліся бабчыны сяброўкі, чыталі кантычкі, мянялі свечкі, плакалі-прыгалошвалі. А Ванька, унук, прывёў пад бабчыну хату казла. Хадзіў, хадзіў кругом свае і бабчынай хат, узяў за вяроўку казла і прывёў, паставіў ля акна.

— Вунь бачыш?..— узлезшы на прызбу, паказваў ён у маленькае акенца.— Гэта ляжыць мая баба, а плача Кулічыха. Бачыш?..

Казёл таксама стаяў пярэднімі нагамі на прызбе, дзівіўся ў сляпое акенца. Ванька прыклаў да шкла рукі, каб лепей было відаць, яму ў вуха дыхаў казёл. Мусіць, не часта пазіраюць на нябожчыкаў праз акно, тым больш — казлы з хлапцамі. Людзі ў хаце падхапіліся, забегалі, выскачыў на вуліцу і Ванькаў бацька. Тое, што Ванька круціў голым задам між бацькавых ног — гэта ясна, заслужыў. Але ж і казлу папала, а ён, як той казаў, ні сном, ні духам. Ляцеў, сыплючы «гарохам», па вуліцы, а нехта з дзядзькоў гнаўся за ім і лупіў палкаю па баках, як у бубен. Казёл з таго часу далёка абыходзіў усіх людзей, і малых і вялікіх.

— Урэдны быў казёл! — усміхнуўся Мішка.— Успамінаеш яго?

— Ды не, вось толькі зараз,— падфутболіў каменьчык Ванька.— Без яго пра маю бабку даўно б забыліся, а так расказваюць, як казёл прыходзіў. Правёў, так сказаць, у апошнюю дарогу.

Мішка на вуліцы неяк ацяжэў, хацелася дзе-небудзь прыткнуцца і задрамаць, а Ванька нічога, падскокваў, пасвістваў, штурхаўся.

Далей Мішка помніў ужо слабавата. Некуды заходзілі, выпівалі, Ванька штосьці расказваў, Мішка крычаў пра меліярацыю, грозіўся газетчыкам. Потым пайшлі да дзяўчат, але ў адной хаце ім ніхто не адчыніў, у другой



 

пусцілі толькі Ваньку, ён доўга дамаўляўся, угаворваў, і ўсё ж нічога не выгарала, а ў інтэрнаце палаяліся з вахцёркаю.

— Міліцыю зараз вызаву! — крычала тая.— Мала што п'яныя — дык без дакументаў!.. Не пушчу!

— Штурмам будзем браць! — падміргваў Ванька.— Зараз па пажарнай лесвіцы залезем. Не бойсь, якое-небудзь акно адчынім і ўлезем. Тут заўсёды па лесвіцы лазяць. Бабскі інтэрнат, дык ахраняюць, як турму!

Але бабка-вахцёрка, відаць, таксама ведала пра лесвіцу. Не паспелі яны абысці будыніну, як след разгледзецца — жвава падскочыла жоўценькая «канарэйка» з вялікім нумарам на кузаве, з яе выскачылі два бадзёрыя сяржанты.

— На подзвігі пацягнула? — спытаў адзін у Мішкі.— У машыну сам пойдзеш ці памагчы?

— Ды я нічога...— замармытаў Мішка,— я проста так... З вёскі прыехаў, ва ўпраўленне...

А Ванька брыкаўся ўжо каля машыны, толькі што стаяў побач — і ўсё, прапаў у дзверцах, на імгненне паказалася з іх ягоная галава без шапкі і знікла. Быў Ванька — і няма.

— Чэснае слова, дахаты трэба...— Мішка раптам прачухаўся, адчуў, як затрымцелі паджылкі.— Адпусціце...

— Цябе адпусці, а ты на лесвіцу, га, герой?..— уважліва ўглядаўся ў яго сяржант, ацэньваў.— Нябось, да аўтобуса сам не дойдзеш?

— Дайду! — страпянуўся Мішка.— Я першы раз тут...

— Сябра забярэш ці нам аддасі? — урэшце вырашыў сяржант.— Мы яго хуценька дамчым, з ветрыкам.

— Не, мы дахаты, чэснае слова... Адпусціце!

— Іван! — крыкнуў сяржант, азірнуўшыся на машыну.— Як твой, спакойны?

З машыны выскачыў напарнік, паправіў папругу з кабурой:

— Маўчыць.

— Ладна, няхай ідуць дахаты. Назбіраем яшчэ такіх гаўрыкаў. Тут месца ўраджайнае!

«Канарэйка» ад'ехала.

— Адкруціліся! — ляпнуў Мішку па плячы Іван.— Завезлі б у выцвярэзнік — чацвяртак далоў. А так можна працягваць!..

— Не, я дахаты...— адскочыў ад яго Мішка.— Хваціць, другім разам да дзевак сходзім...

— Пачакай, зараз мае лялькі з работы прыйдуць, і ўсё будзе нармальна. Не панікуй!

— Не...

Мішка ледзь не пабег да аўтастанцыі. Гараць яны гарам, такія гулі. Яшчэ б чуць-чуць — і начаваў бы за казённы кошт, дакладней, за свае кроўныя, а там і паперка на работу. Трынаццатая накрылася б. Не, хай Ванька адзін дагульвае. Але адчайныя яны тут, у горадзе! Пайшлі, кажа, працягваць. Ванька гуляе, а Іван з пагонамі на «канарэйцы» следам ездзіць. На вёсцы адзін участковы, і таго ўбачыш на тыдні раз. Мішка ўсё збіраецца перабрацца ў горад, але ж для горада характар патрэбен, як у Ванькі Курчыка. Забралі ў міліцыю — чорт з ім, не забралі — гайда дагульваць. Няўжо яму нічога не бывае за міліцыю? Так і не спытаўся, вучыцца Ванька ці робіць. А можа, не тое і не другое? Гулялі за Мішкавы грошы і сустрэліся на вуліцы белым днём, калі нармальныя людзі на рабоце. Затое будзе што расказаць сябрукам, збрахаць трохі можна, хто праверыць?



У аўтобусе Мішка заваліўся на апошняе сядзенне, скурчыўся ў куце, крыху перадрамаў. А дома з радасці, што вярнуўся жывы і здаровы, знайшоў прыхаваную маці ў кладоўцы бутэльку самагонкі, палову выпіў, а палову ўзяў у клуб. Людзей там, як заўсёды, было няшмат, бегалі туды-сюды школьнікі, шчаміліся ў кожную дзірку, лена перастукваліся шчарбатымі шарамі більярдысты, Базыль Лявончык і Сяргей Паплёўка.

— Пацягнуць не хочаце? — Мішка да іх з шчырай душой, так сказаць, па-сяброўску, аднак тыя закруцілі насамі — не хочам.

— Ну і не трэба,— схаваў Мішка бутэльку.— Мне больш застанецца. Кіно сёння будзе?

— Назбіраюцца людзі — будзе,— Лявончык гуляў як сырое гарыць,— не назбіраюцца — не будзе...

— Дай я! — Мішка схапіўся за кій, захацеў паказаць, як трэба гуляць у більярд.

Аднак Базыль хлопец здаровы, Мішка грукнуўся спінаю аб сцяну — тая аж загула.

— Шутак не панімаеш?! — быў пакрыўдзіўся Мішка, але надоўга яго не хапіла.— У горад ездзіў, дык загуляў, чуць у міліцыю не папалі!..

— Дык відаць,— Паплёўка так трэснуў, што шчарбаты шар вылецеў за борт, пакаціўся, кульгаючы, па падлозе, таксама гнілой, дзіравай.— А чаму не забралі?

— Адкруціўся. Ва ўпраўленні быў, у галоўнага інжынера.

— Выпівалі разам?

Цяпер цэліўся Лявончык, рука ў Мішкі так і часалася стукнуць па абцягнутым штанамі задзе, але спіна яшчэ балела, ён стрымаўся.

— Пра наш участак бяседавалі, доўбня! — Мішка стараўся гаварыць разважліва, сур'ёзна, але словы ўсё роўна блыталіся, мяшаліся, добра выходзіла толькі лаянка.— Прыказана расчысціць усё к чортавай мацеры, асушыць!.. У нас тэхніка знаеш якая? Мой трактар па любым балоце ідзе, як танк!

— Гарынь пераплысці можаш?

— А што Гарынь?.. І да Гарыні дабярэмся, не бойсь.

— Я то не баюся,— з Мішкам гаварыў Паплёўка, Базыль толькі гмыкаў.— Наша балота асушыце — трэба далей грэбціся. А тама Гарынь. Цячэ яшчэ, зараза!

— Ты мяне не падкалвай. У газетах таксама пішуць, што мы процiў прыроды, не трэба нам даваць грошы, а Горбач ім — на, выкусі! Разумныя да разумных пайшлі, а дурныя з дурнямі. Я яго паважаю, галавасты мужык.

— Ну, калі вы з ім спеліся, дык дзела будзе. У цябе лоб маленькі, зато мазгі густыя. У калгас не захацеў ісці, адразу да меліяратараў. Газеты во чытаеш. Гэтыя балоты асушаць, га, Базыль? Асушаць?

— Як дахаты будзеш ісці,— павярнуў галаву да Мішкі Базыль,— за плот трымайся. Тама лужына глыбокая, паваліцца і ўтонеш. Якое тады асушэнне? Давай, дуй адсюль! Асушыцель...

На кіно людзей не назбіралася, нават школьнікі разбегліся па хатах, а Мішку што рабіць? Дапіў самагонку і пасунуўся дахаты. «У яго лоб маленькі, зато мазгі густыя... Ладна, пабачым яшчэ, у каго густыя».

На вуліцы было досыць светла, Мішка ўсё азіраўся, спадзеючыся каго-небудзь убачыць, гразіў кулаком у той бок, дзе хаваліся ворагі. Не ведаюць яны яшчэ танкістаў! Падумаеш, Гарынь. Фарсіруем! Адзін марш-кідок, і гатова. Ён ім яшчэ пакажа...

Дома, не зважаючы на матчыну лаянку, паваліўся адзеты на ложак — і ўсё паплыло, закруцілася перад вачыма: танкі, трактары, Ванька з сяржантам, шчарбатыя більярдныя шары...

### 3

Галава пасля ўчарашняга трашчала. Мішку нудзіла. Добра, што яму загадалі зграбаць у лаўжы выцерабленыя лазнякі. Мішка думаў толькі аб адным: прыехаць на дзялянку, загнаць у кусты трактар і адаспацца. Якая работа?! Галава ад грукату і трасяніны зусім была гатовая трэснуць, як пераспелы кавун. Усё самагонка. Каб не піў яе — быў бы чалавекам. Але што ўжо цяпер... Па вопыце ведаў: моташна будзе аж да абеду, а то і да вечара.

Мішка грукацеў палявой дарогаю, тая выкручвалася перад вачыма, збягала ў невялікія лагчыны, успаўзала на ўзлобкі. Было яшчэ не горача, але Мішка сціраў з ілба халодны пот, адчуваў, як падступае да горла ўчарашняе. Думкі варочаліся, як мухі ў павуціне, не маглі вырвацца з мяккіх, але неадольных повязяў. Чым больш б'ешся, тым мацней заблытваешся. У роце перасохла. Канца няма гэтаму полю.

Дарога вялізнай пятлёй абмінала стары дуб, за ім, ведаў Мішка, пачынаюцца хмызнякі — і прахалода, цішыня, спакой... Ён рашуча рвануў нацяжнькі. Яшчэ аб'язджаць, трактар — той жа танк, толькі без гарматы. Праврвёмся...

Ногі слаба слухаліся ачмурэлую галаву, не ў лад націскалі педалі, кепска ўключалася перадача. Але трактар поўз наперад, вось ужо насунуўся на яго дуб, закрыў амаль усё лабавое шкло. Матор раўнуў і сціх.

— А, каб ты спрах! — вылаяўся Мішка.

Але больш не запускаў рухавік, выкуліўся з кабіны, стаў, прагна хапаючы паветра. Трактар упёрся гусеніцамі ў вялікі корань, які вылез з зямлі ледзь не на паўметра.

— Чакай, зараз аддыхаюся...— Мішка стукнуў нагой у корань і адчуў, як нага адскочыла ад закамянелага дрэва.

— Во, падла... Цвёрды, як жалеза.

Мішка абышоў вакол дуба. Дрэва стаяла вялізнае, высознае, не бачыла чалавека, што блытаўся ў ягоных каранях, падобны быў да мурашкі, якіх поўзала каля дуба — не злічыць. Мішка задраў галаву — аддало ў патыліцу, ён ажно прысеў.

— Стаіш, гад?..

На ўзроўні Мішкавых вачэй зеўрала дупло, ён зазірнуў у цёмную глыбіню. З расколіны патыхнула вільгаццю, прэллю, але пах ішоў чысты, без гнілі. Разгледзець у дупле Мішку нічога не ўдавалася. З-пад адсталай кары вывернуўся нейкі жужаль, Мішка ад нечаканасці ажно адскочыў.

— Струхлеў, падла, а ўсё роўна стаіць! — ад лаянкі Мішку рабілася неяк лягчэй, расціскаліся абцугі, якія абхоплівалі галаву.— У, порхаўка! Яшчэ аб'язджаць яго...

Мішка раптам спыніўся. Сапраўды, калі спраміць дарогу — людзі толькі дзякуй скажуць. А што гэты стаіць... Яму начальства які загад давала? Расчысціць усю дзялянку, ніводнага дрэўца не пакінуць. Самыя вялікія дрэвы ўжо выкарчавалі, яму застаўся толькі хмызняк і гуры ламачча. Зграбай у кучы, трамбуй, раўнуй, расчышчай. Вось і тут можна расчысціць. Толькі дзякуй скажуць...



Мішка ўлез у кабіну, завёўся, апусціў крыху нож-прычэп — і папоўз на дуб.

Мінут праз пяць трактар зноў сціх, Мішка вылез з кабіны. Узрытая зямля, абдзёртыя гусеніцамі карані, глыбокія надрэзы на кары,— але ўсё гэта дубу, як камарыны ўкус. Дуб стаяў, як стаяў, а над трактарам плаваў шызы дымок, пахла перапаленым маслам. Яшчэ крыху — і спячэцца трактар.

— Не бярэць...— пачухаў Мішка патыліцу.— Во, галава менш баліць! Яснае дзела — тут думаць трэба...

Ён яшчэ раз абышоў вакол дуба. Здаравеннае дрэва... Калі спілаваць, напрыклад, чалавек дваццаць наўкруг пня абсядуцца. Усім сталам стол будзе. Але дзе такую пілу ўзяць, каб спілаваць? Хіба што цыркулярную падцягнуць сюды. Вось задачка, дык задачка... Аднак паваліць трэба. Чаго ён, Мішка Савосцік, варты, калі не здолее звярнуць нейкі дуб? Няхай вось такі, дзеда ўсіх тутэйшых дубоў? Астатнія даўно спарахнелі, і следу не засталося, а гэты зажыўся. Дык што? Трэба памагчы, калі сам паміраць не хоча.

Мішка хадзіў, прыглядаўся, асцярожна задзіраў галаву, рассоўваў ботам траву, быццам пад ёй нешта магло схавацца. Не, трава як трава, высокая, густая, карункавай накідкай на ёй ляжыць россып бледна-блакітных зорачак крынічніку, у іх кажуць — жабіных кветак. Ясна, што жабіных. Драбната, якраз для жаб. Чым жа яго ўзяць, заразу?.. Дынаміту няма, дынаміт адпадае. Ён чуў, дзесьці пад Жыткавічамі граніт здабываюць, парода там залягае суцэльным пластом, ніяк не падбярэшся, дык б'юць шурфы, закладваюць узрыўчатку, аманал, здаецца, і ўзрываюць. Пасля выбуху адна шчабёнка застаецца, дарогі ёй высыпаюць. Сюды б таго аманалу. Не, трэба сваімі мазгамі абыходзіцца... Як жа раней такія вось дрэвы карчавалі? Хіба што тросам паспрабаваць... Ды не, які трос. Ну, абкруціш, зачэпіш, тузанеш раз-другі. А ён возьме ды лопне. У іх летась аднаго чалавека якраз тросам і знявечыла. Стаяў побач з напятым тросам, дык як дало — чуць галаву не адарвала. Цяпер пенсію па інваліднасці атрымлівае, а інжынера па ахове працы пагналі з работы. Маглі і пад суд аддаць. Не, такому дубу не трос патрэбен.

Мішка ажно забыўся на сваю хваробу. Нездарма кажуць — работа любое пахмелле лечыць. Да абеду пакруцішся, ператопчашся — глядзіш — ізноў можна да магазіна кіравацца. А ён яшчэ і да дзялянкі не даехаў. Не, пакуль не прыдумае, чым яго ўзяць, не паедзе. Мазгуй, Мішка, старайся!

Да войска ён скончыў шафёрскія курсы, але папрацаваць як след не паспеў, пайшоў служыць танкістам. Вадзіцель танка — гэта вам не местачковы фурман. У танкавых войсках вадзіцелі лічыліся асобнай кастай, іх і ганялі меней, чым стралкоў ці механікаў, камандзір танка часта не загадваў, а прасіў.

— Як, Міша, пройдзем?

— Нармальна, таварыш камандзір,— паважна адказваў Мішка, рабіў паўзу: — Гатовы? Ад вінта!

Ездзіць ён умеў, на танкадроме ўпэўнена здаваў нарматывы, не падводзіў і на вучэннях. Апошнія паўгода ездзіў на танку камандзіра ўзвода. Праўда, на гэтым танку і здарылася самая вялікая непрыемнасць. Начны маршкідок закончыўся, яны прыгрукацелі ў парк, камандзір выскачыў з танка — і аслупянеў.

— Савосцік, вылазь!

Мішка паволі выбраўся з свайго гнязда, падышоў — і таксама здзіўлена

свіснуў. Не было аднаго катка, вялізнага, цяжкога. Замест яго зеўрала дзірка, гусеніца ў ёй правісала. Як толькі даехалі?! Назаўтра памчалі шукаць каток, але дзе ж ты знойдзеш. Марш-кідок быў начны, і адлегласць вялікая, сто дваццаць кіламетраў. Атрымалі сваё, канечне, і Мішка, і ўзводны, і ротны. А саслужыўцы рагаталі, кпілі, прасілі навучыць, як губляць каткі.

— Відаць, нялёгка?

— А ты думаў! — храбрыўся Мішка.— Чытайце кніжкі, газеты, статут, можа, навучыцеся.

Пасля войска ён некаторы час хадзіў у кіцелі, адно зрэзаў пагоны. А сны, у якіх ягоны танк імчаў праз агонь і ваду, прыходзілі дасюль. У тых снах Мішку было добра. Ды сны снамі, але трэба было выбіраць, куды падавацца. Зрэшты, паехаў бы ён, як большасць хлопцаў з іхняй вёскі, у горад, каб не ПМК меліярацыі, якая атабарылася ў Замосці. Мішка ахвотна сеў на трактар. А што ж — не трэба думаць пра жыллё, пра тое, дзе пад'есці. Іхні ўчастак вялікі, работы хопіць надоўга. Пасля будзе відаць, што і як. Не спадабаецца — паедзе ў горад. Яшчэ ж не стары, яшчэ ўсё наперадзе.

Мішка далёка не зазіраў, не загадваў. Няхай коні думаюць, у іх галовы вялікія. Але зараз быў якраз той выпадак, калі можна і памучыцца. Дуб, вялізнае старое дрэва, стаяў перад ім, засціў, загароджваў свет, нічога за гэтым дубам не было відаць, і Мішка злаваўся. Ад слабасці ў каленках ён мусіў сесці. Можа, на траўцы што прыдумаецца. Трашчалі-сквірлілі конікі, прыляцела і ўселася на голым суку варона, узялася разглядаць маленькага чалавека пад дрэвам. Далёка над полем узлятаў іападаў лёгкі шолах, жыта гаманіла пад ветрыкам, быццам клікала да сябе. Але Мішка ведаў, што ў жыце спаць кепска. Гарачыня, задуха, вецер гуляе над калоссем, а з зямлі падымаецца парнасць. Спаць добра ў цяньку на мурожніку. Тут, пад дубам, трава шорсткая, рэдкая, старая, як і гэты дуб. Сучча валяецца, відаць, абламаў вецер. Сухі ўжо, вось і ламаецца. Сухі?.. Добра, што сухі. Раз сухі, будзе гарэць. Гарэць будзе!

Мішка знайшоў — і ўзрадаваўся, падхапіўся на ногі. Ён яшчэ пакажа, хто такі Мішка Савосцік. А то некаторыя яго і ў знак не ставяць, начхаць ім, што Мішка вадзіцель танка, узводны з ім, як з роўным... Два гады на такой тэхніцы ездзіў, а тут задрыпаны драндулет падсунулі, другога, кажуць, няма. Нічога, ён і на драндулеце пакажа, адкуль у каня хвост расце. Мішка сваё адарве, хай не думаюць! Пад корань расчысціць, калі на тое. Нябось, здзівяцца, калі ўбачаць, што дуба няма. Вось тут стаяў — і няма. Цікава, а танкам ён дуб паваліў бы? Відаць, не, таўшчэзны, зараза. Але ў танкаў снарады ёсць, уляпіў бы парачку — толькі трэскі пырснулі б!

Ён сцягваў да дуба ламачча, кідаў у кучу сухое галлё, пакулле, якое знайшоў у кабіне. Аднак кучка атрымлівалася мізэрная, ледзь-ледзь паднімалася над зямлёй.

«Не, тут цэлую валакушу трэба,— выцер узмакрэлы твар Мішка,— абкласці кругом, каб вышэй галавы, abліць саляркаю — і запалку. Паболей сухастоін трэба, яны добра гарэць будуць. Удваіх лепей было б, весялей. Паклікаць Сцяпана Сучкова?..»

Сучкоў, Мішкаў напарнік, быў меліяратар са стажам, асушаў балоты ўжо гадоў пятнаццаць, гэта ён першы намовіў пра малыя заробкі. Мужык ён галавасты, свайго не прапусціць. У каго ў ведамасці самая вялікая сума? У Сучкова. Экскаватаршчык, махае каўшом, як заведзены, яму і ка́пае болей, чым астатнім. Мусіць, ужо не адну тысячу кіламетраў канаў







накапаў. А яшчэ болей тысяч паклаў у кішэню. Арыенцір, так сказаць, маяк, пра яго і ў раёнцы, і ў абласной газеце пісалі. Але беспартыйны. Не хоча ўступаць — і ўсё. Не раз і не два ўгаворвалі, як жа, перадавік, не валяецца п'яны пад магазінам. «Не,— кажа,— не даспеў. Надумаю — сам прыйду». А Мішку неяк сказаў, што не хоча ўзносы плаціць. Маўляў, тры працэнты з заробку, многа грошай давядзецца аддаваць.

— Падумаеш, тры працэнты! — чмыхнуў Мішка.— Я за адзін раз болей прап'ю.

— Прапівай хоць сто,— зірнуў спадылба Сучкоў,— а я не мільянер. Навошта мне такі хамут на шыю? Сходы, выбары, пасяджэнні... Вунь наша партгрупа як збярэцца — да ночы сядзяць. У розныя фонды падпісваюцца, за мір, за бяспеку, на Чарнобыль па дваццаць пяць рублёў аддалі.

— Я таксама на дзённы заробак падпісаўся,— сказаў Мішка.— У мяне дзядзька пад Хойнікамі жыве. Пісаў, іх таксама зачапіла, няможна ні парэчак, ні гуркоў есці. Высяляць будуць. Аблучэнне, нам у арміі расказвалі. Нацягнем процівагазы на морды — і пагналі...

— Я не пра тое,— як малому, тлумачыў яму Сучкоў.— Ты захацеў — падпісаўся, а ў іх абавязкова. Скажуць пяцьдзесят — аддасі пяцьдзесят, а то і ўвесь заробак. Дысцыпліна! А я не люблю па ўказцы. Палучыў заданне — і на ўчастак. Ніхто над душой не стаіць. Мяне бацька вучыў: не высоўвайся, а то нос прышчэмяць. І ў начальнікі, кажа, не лезь. Высока, кажа, лятае, ды дзе ён сядзе.

Вось і ў горад паехаў не Сучкоў, а Мішка Савосцік. Цікава, а дуб ён захоча паліць? Ці таксама — мая хата з краю?.. А, не захоча Сучкоў — сам справіцца. Зараз і пачне.

Мішка ўлез у трактар, ірвануў з месца. Што-што, а ездзіць ён умее. Нож-прычэп на трактары мяшае, цяжкі, халера, але скінуць яго можна толькі ў гаражы. Нічога, паглядзім, што за дуб. Трос у Мішкі ёсць, зачэпіць некалькі паваленых дрэў і прывалачэ. Валакушу добра было б ці тралёвачны трактар. Расчысцім дзялянку, будзе роўненькая, як стол. Калі ласка, сейце жыта з аўсом і ўспамінайце меліяратараў. А то ў газетах пішуць... Нешта зачапілі яго тыя газеты. Бач, іхнюю ПМК памянулі. Выходзіць, асушаць не трэба? Няхай балоты застаюцца? Якія раней тут дарогі былі, смешна сказаць. Падсушыць — тады едуць у мястэчка. А цяпер хоць пешшу ідзі, нават ногі не замочыш. Праўда, няма дурных лупіць пехадралам, на машынах едуць. Хто на сваіх, хто на калгасных, аўтобус ходзіць. А некаторыя, значыць, за балоты?.. Во даюць пісакі! Балота, пэўна, не бачылі, не знаюць, што гэта такое, і распісваюць — ахова прыроды, звяроў мала, птушак. Хапае яшчэ птушак, буслы вунь навучыліся пылянят красці. Суседка іхняя, Гарэлічыха, прыбегла і расказвае, што бусел качаня дзеўбануў і ў гняздо панёс, на свае вочы бачыла. Хіба такія прападуць? Жабу не знайшоў — за качаня і ў гняздо, дзяцей карміць. Закон прыроды, заўсёды нехта некага есць. А яшчэ тая ж Гарэлічыха расказвала пра коршака.

— Выйшла на двор,— сыпала словамі хуткая, маленькая Гарэлічыха, дасюль яшчэ падобная на дзяўчо,— аж чую — нехта ціўкае, быццам цыпляня дзесьці ўбілася, заве матку. Я туды, я сюды, глядзь на рабіну, што каля хлява стаіць,— а на ёй коршак. І ціўкае, дальбог, як цыпляня ціўкае! Гэта ж вон маніў так, каб прыбеглі. Ухапіў бы — і след прастыў. Дык я палкаю яго. А вон хоць бы што, адно пазірае, саўсім не баіцца. Во свет пайшоў, ужо і коршакі панавучваліся!..

А як па Мішку — нічога дзіўнага. Коршакам таксама жыць трэба, людзі іх не накормяць. Тыя коршакі яшчэ ў вёскі перабяруцца. Вароны даўно

не хочуць у лесе заставацца, крычаць каля хат. І сарокі недалёка ад жытла круцяцца, яны, праўда, больш пудкія, ды ўсё роўна сядзяць на платах ці яблынях, цікуюць, дзе б што ўкрасці.

Экскаватар Сучкова Мішка ўбачыў недалёка ад дарогі. Экскаватар цягнуў за сабой нітку канавы, з аднаго боку яе кучы бурай зямлі, з другога — роўнае поле. Навучыўся Сучкоў канавы капаць, яны ў яго глыбокія, акуратныя, на дне цурчыць каламутная вадзіца. Мішка пакінуў трактар на дарозе, сам пашыбаваў па полі да Сучкова. Экскаватар апошні раз махнуў каўшом, скрыгатнуў жалезнымі сківіцамі і сціх, падавіўшыся зямлёю.

— Многа намахаў? — крыкнуў Мішка.

Сучкоў вылез з кабіны, саскочыў на зямлю, дастаў цыгарэты.

— Ты, я гляджу, толькі ездзеш? — кіўнуў ён на Мішкаў трактар.— А я ўжо тры гадзіны ламаюся.

— Слухай, а нашто табе грошы?! — шчыра здзівіўся Мішка.— За свае не п'еш, новую хату паставіў, «жыгуля» купіў... Праўда, нашто?

— А каб такія, як ты, пыталіся, куды я іх дзяю,— прыжмурыў вочы Сцяпан.— Мне от скора дзевак замуж аддаваць, сячэш?

— Дзеўкі без цябе аддадуцца. Ці ты іх пасеш, як коз?

— Пасу не пасу, а такога зяця, як ты... Доўбняю адганюся. Да абеду на дзялянку не выехаў, работнічак!..

— Шкада, твае дзеўкі шчэ малыя, а то б паказаў, якія ў цясцёў зяці бываюць. Ладна, замнём. Ты старога дуба на лузе знаеш? Ездзіў паўз яго, здаравенны такі, тоўсты?..

— Ну,— пыхнуў цыгарэтаю Сучкоў.

— Баранкі гну. Спаліць трэба.

— Каго?

— Дуба.

— Якога?

— Гэтага самага, якога аб'язджаем. Дарогу спрамляць будзем.

— Якую дарогу?

— Што паўз дуба ідзе. Слухай, ты не прыдурвайся!..

— Дык хай той паліць, хто загадаў,— закашляўся Сучкоў.— А мы паглядзім. Яму ж не адна сотня гадоў.

— Во, я і кажу, стары, а ўсё стаіць. Няўжо яго нічым не возьмеш?

— Не, брат, не возьмеш. Ад натугі, знаеш, усякае можа здарыцца... А хто гэта ўдумаў?

— Хто-хто... Я. Мы з табой меліяратары ці не? Балота асушылі, хмызняк спляжылі, а дуб як стаяў, так і стаіць. Горбач сказаў — каб ніводнага дрэўца не засталося.

— Дык гэта табе Горбач сказаў? Тады другое дзела, тады старайся. За гэтым, значыць, і ездзіў? За дуба расцэнкі павысяць?

— Можа, і павысяць... Паехалі?

— У мяне канавы. Бач, колькі пракапаў за сёння? І ты старайся. Як дуба звернеш — цябе ўсё наваколле знаць будзе, аж у горадзе пачуюць.

— Я думаў, разам возьмемся.

— Не, тута я не памочнік. Галава слабая. Слухай, а што гэта ты да ночы ўчора саўтаўся? Перабраў, ці як?

— Ага, у горадзе. З сябрам, панімаеш, сустрэліся. А табе хто пра мяне далажыў?

— Па радыё перадавалі. У шэсць гадзін, перад навінамі.

— А я прыдумаў, што з дубам рабіць.

— Ну?



— Спалю. Абкладу сухастоінамі, саляркі туды, ануч — згарыць, як міленькі.

— Ну давай... А ты, як малы быў, з печы не падаў? Галава, гляджу, у цябе надта моцная...

— Пайшоў ты...

Мішка павярнуўся і памаршыраваў назад. Калі рубіш крок, ісці лягчэй. Ён і рубіў, хоць кожны крок аддаваўся ў галаве.

— Ты б расолу папіў!..— крыкнуў наўздагон Сучкоў.— Можа, прайшло б...

Капай-капай, крот рагозаўскі. Сучкоў з суседняга Рагозава, у Зарэчча прыйшоў прымаком, а як укапаўся — нічым не выкалупнеш. Яго завуць то Сучком, то Абыціха. Мянушка такая — Абыціха. Разгаварыўся сёння. Эх, зараз бы на ўчарашнія дрожджы літр піўка... ці сотачку. Другім чалавекам быў бы. А то язык не паварочваецца адказаць. Няхай капае сваю канаву. Мішка паехаў бы па лякарства ў вёску, але ж у магазіне зараз раней трох гадзін гэтае лякарства не прадаюць. Ды і бывае не заўсёды, раскупляюць. Раней што хочаш стаяла, белая, жоўтая, віно, каньяк... Цяпер людзі толькі ўспамінаюць. І свойскую не надта купіш. Хто баіцца, хто перастаў гнаць. На продаж ужо зусім ніхто не выганяе. Мала што штраф — у турму могуць пасадзіць. І п'юць цішэй, хаваючыся. Бывала, павыносяць сталы на двор ці ў сад, пасядуць, дзынькаюць шклянкамі. А зараз некаторыя нават аканіцы зачыняюць. Ну, гэта, праўда, гледзячы хто. Начальства, настаўнікі, партыйныя — тут ясна. Яны і раней асцерагаліся. А які-небудзь Грышка Шула як хадзіў п'яны, так і ходзіць. Участковы, праўда, страшыў, што здасць у ЛТП, але на Грышку ўжо даўно рукой махнулі. Вось гэты знаходзіць, чым палячыцца, для яго ніякіх законаў няма.

Мішка даехаў да высечкі — і адразу натрапіў на паваленыя дрэвы, якія лесарубы сцягнулі ў адно месца, але вывезці забыліся. Гэта добра, што забыліся, Мішку лягчэй. Падагнаў трактар, дастаў трос. Ён вырашыў прычапіць адразу некалькі дрэў, але ж для гэтага трэба і падцягнуць іх, і як след прыкруціць тросам, каб не згубіліся па дарозе.

«Усё адно згніюць,— напінаўся Мішка, падсоўваў пад камлі трос,— нават не абцерабілі. Але з сухім лісцем гарэць будуць весялей».

Ён засопся, аднак абкруціў тросам тры вялікія камлі, накінуў пятлю на крук. Пастукаў нагой па ствалах — можна ехаць. Не з задніцы растуць у яго рукі, захоча — зробіць. Нездарма кажуць: калі Мішка надумаўся, ніхто яго не перапрэ. Маці злуе іншы раз — папярэка!.. У бацьку ўдаўся, той таксама даказваў-даказваў, казырыўся перад усімі — і згінуў, драпаў недзе ў Казахстане, цаліннік. «Каб яму там сну не было, кабелюку!..» — дабаўляла яна, а Мішка смяяўся. Не ён адзін без бацькі вырас, можа, і сам яшчэ ў які Казахстан матане. А што, свет паглядзець не шкодзіць. Служыў ён недалёка, пад Бабруйскам, а хлопцы ў іх былі з Сярэдняй Азіі, Казахстана, Каўказа, Масквы. Усе расказваюць, а Мішка маўчыць. У адных горы, у другіх маскоўская фанабэрыстасць, трэція дынямі хваляцца, урукам. Мішка ж тутэйшы, падумаеш, Палессе, усё адно Беларусь. Многія на моры былі, хадзілі ў турпаходы. Савосцік не паказваў, што зайздросціць, але таксама хацеў і мора, і гор, нават пустку. Чаму не? Галоўнае — захацець. Зрэшты, што яго трымае ў Зарэччы? Нават дзеўкі няма, каб вісела на шыі. Маці баіцца, што з'едзе, не любіць, калі прыходзяць пісьмы ад армейскіх сяброў.

Трактар поўз, цягнучы за сабой пылавую завесу, аж сонца ў ёй прападае. Насустрач ехалі на ровары хлопец з дзеўкай на раме, дык саскочылі,

адбегліся падалей ад дарогі. Тонька?.. Так, Тонька Сарока, тая самая шылахвостка, што ў клубе накінулася. Бач, раз'язджае з шыбздзікам даўгагрывым, Карачуном Толікам. Ён, здаецца, дзесяты клас сёлета скончыў ці перайшоў у дзесяты? Кажуць, лепей за ўсіх вучыцца, усе кніжкі ў бібліятэцы перачытаў. Але ж во таксама — за дзеўку і ў лес. Ці яны і там пра кніжкі гавораць?..

Мішка ўсміхнуўся. Зараз такое агнішча развядзём — ахнеце! Ніхто яшчэ такіх не паліў. І гэтыя хай паглядзяць, разумнікі. Разумныя пайшлі да разумных, а табе пакет... Цьфу, прычапілася, быццам Ванька Курчык сядзіць побач і ў вуха гаворыць. Добра ўчора пагулялі, каб не Мішка — паехалі б у выцвярэзнік. У Мішкі трыццаць рублёў як карова языком злізала. Ёсць з чаго галоўцы пабалець.

Вось ён, дуб. Стаіш? Стой-стой, нядоўга табе засталося. І тут, каля самага дуба, лопнуў трос. Мішка не адразу ўцяміў, азірнуўся — аж дрэвы ляжаць метраў за дзесяць ад трактара, абрывак троса валачэцца па зямлі. Добра, што тут, а не ў лесе абарваўся. Без троса не прыцягнуў бы. Пакуль з'ездзіў бы ў гараж, пакуль вярнуўся — ужо не захацелася б займацца.

Развярнуўся амаль на месцы, апусціў нож, падгроб дрэвы да дуба. Во, ёлкі-палкі, сонца даўно на абед паказвае. Аднак есці яшчэ не хочацца. Яшчэ ўчарашнім пад'еўшы. Сябры яго вучылі — перамучайся гадзін да трох-чатырох, ніколі алкаголікам не станеш. А што ж, раз апахмелішся, другі, уцягнешся — і прапаў. Вунь Грышка, зранку п'яны. Не, мы пацерпім. Перадыхнём крышку, пасядзім — і да дуба. Малавата трох дрэў, увогуле, на такі дуб. Ці ўсё ж зоймецца? Але другі раз ехаць па дрэвы ўжо няма сілы. І трос парваўся. Паспрабуем падпаліць тым, што ёсць.

Мішка курыў, адплёўваўся, глядзеў на дуб, маўклівы, абыякавы. Па-ранейшаму дуб не заўважаў Мішку, гэта не падабалася.

— Салляркай трэба паліць..,

Дастаў вядро, падвешанае ззаду, шланг. Але гаручае цякло слаба, толькі як падсмокчаш. З горам папалам наліў паўвядра. Хопіць! Гэта ж толькі для затраўкі. Дрэвы ўсохлі, абветрыліся, павінны добра гарэць.

Мішка падцягваў ламачча, старанна абкладваў таўшчэзны камель, усё ніяк не мог прывыкнуць да яго неверагоднай таўшчыні. Увесь дуб не абкладзеш, тут дроў у пяць разоў болей трэба. Але спыніцца ўжо не мог. Мішку ніхто не перапрэ. Сухастоіны ён стараўся паставіць старчма, каб даставалі да ніжэйшых катакоў. Але дрэвы, якія прыцягнуў ён з балота, побач з дубам выдавалі мізэрнымі трэсачкамі. Мішка злаваў. Цяжка аднаму, вось каб з хлопцамі, адзін падцягвае, другі ладзіць агнішча, трэці саляркай палівае, чацвёрты падтыкае сухім галлём. Калектыў — сіла, Мішка гэта добра ўведаў у арміі. А можа — загарыцца?.. Надзея была слабая, але ўсё ж была.

Ён запарыўся, узмакрэў — затое і думаць забыў пра ўчарашнюю п'янку.

— Што значыць работа! — Мішка адышоўся ад дуба метраў на дзесяць, ацаніў.

Здаля тое, што ён называў агнішчам, здалося недарэчнай забаўкай. Здаравенны дуб, падтыкнуты нейкімі палкамі, ламачча ледзь-ледзь узвышаецца над травой. Не такі патрэбен лоўж, не, не такі. У яго на балоце вышыня іх метры тры-чатыры, вось там загарыцца — нічым не патушыш.

А, дзе наша не прападала!

Пайшоў на дуб, як у атаку, насупіўся, угнуў у плечы галаву, абкручаную анучай палку трымаў, як аўтамат з штыхом. Дуб навісаў над ім, за-



паўняў усё наваколле, за яго кронаю не бачылася нават сонца. Прарвёмся, не можа быць, каб не прарваліся!..

Занялося сухое голле, засмярдзелі анучы, языкі полымя папаўзлі па сухастоінах. Гарыць, хто сказаў, што гарэць не будзе?! Вунь ужо і кара задымілася, бач, жоўта-белым дымком узялася! Нічога, зараз раскачагарыцца, аж трэск пойдзе!

Мішка стаяў, задаволена жмурыўся, закрываўся рукой ад дыму. Анучы надта смярдзяць, нездарма яны малымі запіхвалі іх у бляшанкі і падпальвалі, калі нялеталі на вёску ў пачатку лета хмары мошак. Да бляшанак прыкручвалі дрот і бегалі з імі, як з кадзіламі. Прывыкалі да смуроду, нават не заўважалі — і мошкі меней кусаліся. Харошы пах, звыклы.

Агонь ужо гуў, падымаўся ўсё вышэй, але абгарала голле сухастоін — і вясёлыя язычкі хаваліся пад дымам, пабліскваклі на ствалах, баяліся пераскокваць на кару. Тоўстая каструбаватая кара іх глушыла. Яна падгарала толькі там, куды трапіла салярка, аднак і салярکі было замала, каб прабіцца агню да жывой сарцавіны. Ламачча трашчала, дымілася пакулле, мігатлівыя бліскаўкі прабягалі па ствалах сухастоін, аднак сапраўднага агнішча не было. Дуб быццам адкідаў ад сябе агонь — і вось падламілася адна сухастоіна, спаўзла другая, патухла трэцяя. На зямлі дровы яшчэ патрэсквалі і дымелі, але ўгары агню не было.

Мішка расчараваны плюнуў.

## 4

Дуб адчуў перш не агонь, а пах дыму. Пацягнула слабым дымком, той падымаўся з зямлі, абвіваў ніжэйшае голле, заблытваўся ў лісці — і прападаў. Дуб ведаў, што гэта не пажар. Пажары прыходзяць зусім не так. Пра падземныя яму расказвала зямля, яна перадавала дубу іхні шалёны гул, і дрэва разам з ёй прыслухоўвалася. Падземныя пажары лютавалі далёка ад дуба, аднак усё роўна яны апякалі карані, дубу ад гэтага было балюча. Недзе тыя пажары ўрэшце выбіваліся на паверхню, вецер прыносіў гар, і дрэва задыхалася ў ім. Здаралася, яно нават да часу скідвала веснавую квецень ці восеньскія жалуды, бо часам пажараў звычайна былі вясна ці восень. Маланкі, якія перылі зямлю, таксама не налятаклі знянацку. Найбольш страшныя перуны ляцелі на спадзе лета, але яны прыходзілі разам з усясветнымі хмарамі, разам з грымотамі, разам з прасякнутым трывогаю паветрам, у якім патрэсквалі нябачныя іскры. Тыя іскры паколвалі дуб, ён пад імі сціnаўся, аброшваўся, адчуваючы ўсю веліч зямлі і неба. Але страшна яму не было. Навальніцы знішчалі задуху, якая навальвалася на лясы, і дрэвы чакалі грымотаў з маланкамі. Пажары, што ўспыхвалі ад удараў маланак, былі намнога слабей, чым падземныя, яны хутка затухалі. У дуб маланкі цалялі не раз і не два, але ён быў моцны, здаровы, і агонь праслізгваў, не зачапіўшыся, ён раствараўся ў зямлі, у каранях, у падземных водах. Пасля ўдару маланкі дуб прагна піў ваду, трос лісцем, скідаў выпоўзіны мёртвай кары і засохлае суччa, аглядаўся. Яму раптам бачыліся новыя лясныя выпусткі, новыя крыніцы, новыя рэчышчы ручаёў і рэк, на зямлі і пад зямлёй, новыя людскія паселішчы. Дуб запамінаў усё — і зноў аддаваўся сонцу, вятрам, дажджам, завеям.

Дымок, што курэў зараз, быў не падобны і да нядаўняга выбуху агню, калі разам з жалезам у дуб увайшоў пякучы боль і апаліліся карані. Выбух быў імгненны, сляпы, моцны, ён скалануў дуб, але ўсё ж не такі магутны, каб яго паваліць. Удар ішоў з зямлі, а не з неба, дуб гэта запомніў.

Удараў тады было шмат, яны часта калацілі зямлю, і дуб урэшце зразумеў, што ішлі яны ад людзей, зноў ад людзей. Згарэла адна з вёсак, якія бачыў дуб. Згарэла яна разам з людзьмі, дуб ведаў гэта па дыму, які наплываў адтуль. Стаіліся птушкі, пахаваліся звяры, нават паменела крыніц, і лес адступіў ад спаленай вёскі. Ён таксама гарэў разам з людскімі хатамі.

Дуб ведаў, што чалавек заўсёды жыве з агнём. Агонь быў у ягоных хатах, штораніцы ўздымаліся над хатамі высокія зімовыя дымы, знікалі ў нябеснай шэрані. Чалавек разбудоўваўся, цярабіў ляды — і перш абранае месца выпальваў. Людзі пускалі агонь на лес, аднак не давалі яму разгуляцца, стрымлівалі. У лясных гушчарах яны выпальвалі вугаль, выкопвалі вялікія ямы, складалі ў іх дубовыя ці бярозавыя бярвенні і падпальвалі. Дзе чалавек, там агонь, пра гэта ведала ўсё жывое.

Але самым першым чалавечым агнём былі для дуба вогнішчы, якія людзі распальвалі на панадрэчным поплаве ў самую кароткую летнюю ноч. Гэта была ноч агню, Купалы. Начны морак ахінаў лес, ваду і поле — і тады ўспыхвала адно вогнішча, другое, трэцяе, агні нават плылі па вадзе, вабячы да сябе рыб і змей. Дуб таксама глядзеў на агонь. Пад ім палала вогнішча, вакол скакалі людзі, гукалі Купалу. Дзяўчаты падбягалі да дуба, тады яшчэ маладога, танклявага, гонкага, кідалі на яго вянкі з кветак, нешта крычалі ці шапталі, і дуб лавіў гэтыя вянкі, хаваў у сваім голлі.

Сёння Купала, заўтра Ян,
Пойдзем, дзевачкі, у зялёны гай,
Пойдзем, дзевачкі, у кляточкі
Ды наўём сабе вяночкі.
Ды наўём сабе вяночкі,
Ды пакладзём на галовачкі.
Пойдзем, дзяўчаты, на мяжыцы
Пільнаваці жыта і пшаніцы.
Пільнаваці жыта і пшаніцы,
Дзе ходзіць чараўніца.
Каб яна па межах не хадзіла,
Раннія росы не абівала.
Раннія росы не абівала,
З жыта спору не збівала.

**Працяг будзе.**

Мал. **У. Лукашыка.**



*Алесь Бабаед*

## ВІТАЮ

Лічыла зязюля гады
Натхнёна і смела,
І добра, як ты малады
І сцежка твая не ўтравела.

І рана яшчэ наракаць
На лёс, на людзей, на турботы.
І страты яшчэ не баляць,
А ў сэрцы ёсць месца для цноты.

Дзень добры на добрых людзей.
Дзень доўгі, вясна маладая.
Дзень шчодры і спраў, і надзей,
Дзень шчыры, цябе я вітаю.

◆

*Я чалавек абстрактны.*
В. Дашкевіч

Баюся гадзіннік спыняць,
Баюся памыліцца ў часе
І апынуцца па-за часам,
Бо тады
Можа здацца верагоднай праўда,
Што я —
чалавек абстрактны.

## ЛЮДЗІ І ДРЭВЫ

Ціхі смутак асенняга гаю
Напаткае цябе неўспадзеў.
І ты доўга задумна блукаеш
І спагады шукаеш у дрэў.

Толькі дрэвы і самі адвеку
Хочуць нам зразумелымі стаць.
Лёсы дрэваў і лёс чалавека,
Вам адзін аднаго спасцігаць.

Каб хоць зрэдку у хвілі цяжкія
Не з адчаем адчай, а спярша
Дакраналіся душы людскія
І прыроды жывая душа.

## КАСЦЁР

Гарыць касцёр,
Шматлюдна ля яго.
Я ўсіх тут пазнаю,
Адно не разумею...

Гарыць касцёр,
І ён душу мне грэе,
А нехта рукі
Грэе ля яго.

## ЗЛАСЛІЎЦАМ

Чую кепікі і кпіны
за сваёй спіной,
ды папрок я вам не кіну —
ўсё маё — са мной.

Хай жа вам мая няўдача
сэрцы не дзяўбе...
Пасмяемся і паплачам
кожны сам з сябе.

## ВОСЕНЬСКАЕ

Асенні свет разважлівасць прынёс,
А першы снег лёг сівізной на скроні.
І што дарэмна наракаць на лёс,
Калі сініца цінькае ў далонях,

Калі прыйшла пара аддаць даўгі
За хлеб, за соль, за шчырасць ласкі матчынай.
Ах, белы свет, як ты мне дарагі,
Хоць і нічога ў ім не перайначу я.



# *Іван Логвіновіч*

## ЛЯДА

Не хацеў сініцу ў рукаве,
З неба жураўля чакаў-выглядваў...
Па духмянай паплаўной траве
Прыблукаў да горычнага ляда.
Дзіды абгарэлых верасоў,
Вываратаў жудасныя горкі...
Не чуваць птушыных галасоў,
Не відаць увішнае вавёркі.
Скрутная, здранцвелая зямля,
Шэры попел гліцы ды лістоты...
Адчуваю ўсёй сваёй істотай,
Як апёкі на кары смыляць.



Гарыць на маім акне
ў гарадской кватэры
вечны агонь прыроды:
многа гадоў назад
у архаічным гаршчэчку
папараць пасадзіў я.

## ВЯРТАННЕ

Бярозы, асіны, крушыны...
Балоты, лясы і палі...
Галінку калючай ажыны
Сціскаю, і мне не баліць.

Праз церні — па твані, па гліцы,—
Праз цемру разлукі з тугой
Прайшоў я. Дазволь прытуліцца
Да променя сонца твайго.

## ПРАПРАДЗЕД

Хоць і няма яго партрэтаў,
Магу ўявіць, які ён быў:
Рухавы, з постаццю атлета,
Жыццё і родны край любіў.

Ён абжываў ля Цны разлогі,
Засноўваў гэтае сяло.
Імя прапрадзедава Логвін
Навечна ў прозвішча ўрасло!

*Вясна 1987 г. была доўгачаканай: снег ляжаў да канца красавіка*

Галосіць горліца над снегам —
Дзесь заблудзілася вясна.
Чаго б ёй вынесці паснедаць?
Відаць, галодная яна.

Знайшоў зярнятак родных жменю,
Акраец чэрствы пакрышыў,
Зямному роднаму стварэнню
Панёс ад шчырае душы.

Зляцелі ўніз і з дрэў, і з дахаў
Шпакі, сініцы, вераб'і...
І сам сябе шчаслівым птахам
Адчуў я раптам на зямлі.



## ВЯРНІСЯ

Так прагне сустрэцца рака з акіянам,
Так дрэва да сонейка цягнецца лісцем,
Так папараць-кветку шукаюць на Яна,
Так моліць матуля:
— Сыночак, вярніся!..

Я не на Алімпе і не на Парнасе...
Куды там! Я нават ніжэй, чым унізе:
У шахце глыбокай працую ў Данбасе,
Ды чую выразна:
— Саколік, вярніся!..

І зорка з капра у сусветным сузор'і
Маёй запаветнаю стала зарніцай,
А груша і ліпа на родным падвор'і
Штовечара клічуць:
— Іванка, вярніся!..



*Васіль Гігевіч, Алег Чарноў*

# СТАЛІ ВОДЫ ГОРКІЯ

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ



**Раздзел чацвёрты. Што людзі пішуць...**

Сёлета спаўняецца чатыры гады, як адбылася чарнобыльская аварыя. Здавалася б, як і ўсякая бяда, гэтая бяда з часам павінна калі не зусім забывацца, дык хоць крыху мякчэць, адклікацца ў чалавеку не такім пякучым болем, як у першыя дні і месяцы. Час лечыць, час мірыць непрымірымых — гэтак кажуць людзі. Здавалася б, нешта падобнае павінна было б быць і ў гэтым выпадку.

Але тут, мо ўпершыню ў гісторыі Беларусі, як і ў гісторыі чалавецтва, мы сутыкнуліся з такой бядою, якая чым далей па часе, тым набывае ўсё большыя памеры.

Зноў жа, каб не кідацца ў бяздоказныя абвінавачанні, звязаныя з эмацыянальным парывам, прывядзём у гэтым раздзеле вытрымкі з лістоў, якія паступілі на Беларускае тэлебачанне пасля шэрагу перадач пра вынікі чарнобыльскай аварыі. Лісты атрыманы ад людзей у асноўным у 1989 годзе.

**«Мы жывём і працуем у населеным пункце Чудзяны, які з-за павышанага фону радыяцыі ў гэтым годзе планаваўся пад высяленне ў пасёлак Майскі * — гэта аддзяленне нашага саўгаса.**

**Просім адказаць на пытанні: як плануецца забяспечыць нас работай у чыстым пасёлку, які нельга інакш назваць, як «чыстым пятачком» у забруджанай зоне? Усе жывёлагадоўчыя памяшканні, аўтатрактарны парк, адміністрацыйны цэнтр, школа, дзіцячы сад, гандлёвы цэнтр знаходзяцца ў зоне, якая будзе высяляцца ў вёску Малінаўка (цэнтр саўгаса).**

**Хоць мы і будзем выселены — працаваць будзем на сваіх забруджаных месцах — да якога часу?»**

Жывёлаводы саўгаса «Сцяг» Чэрыкаўскага раёна Ярмоленка П. С., Ярмоленка Е. М., Лушчаева Е. М. і інш., усяго 12 подпісаў.

**«Мы, жыхары в. Каюды Кармянскага раёна... рашылі звярнуцца да вас. Можа, вы паможаце нам у нашай бядзе... Быў адзін куточак у Беларусі, дзе працавалі, адпачывалі, культурна было пець і танцаваць. Але прыйшла бяда і да нас, на нашу вёску. Усё замерла, ходзяць людзі, як атручаная рыба ў рацэ, і ніхто не можа дапамагчы нашай бядзе. Вось у студзені месяцы мы прайшлі камісію на ЛІЧы, дзе паказалі ў насельніцтва ад 8 да 10 адзінак. Як быць? Што рабіць? Як жыць далей у гэтай зоне? Яшчэ калі адбылася аварыя, нам забаранілі ўжываць малако. Прадукты нашы забруджаныя, а дапамагаць нам ніхто не дапамагае. Няма дастаўкі ў наш магазін чыстых прадуктаў, а мы працуем па 7 гадзін, механізатары і даяркі, і нашы дзеці таксама дапамагаюць нам у рабоце. Дык дапамажыце ў нашым горы разабрацца».**

Жыхары калгаса Балбукоў А. Л., Грышчанка І. Е. і інш., усяго 150 подпісаў. Ліст атрыманы 29 студзеня 1989 года.

**«...Вось ужо прайшло больш двух гадоў з дня аварыі. У нас у в. Млынок Ельскага раёна пасля аварыі рабочым на тэрыторыі гэтай вёскі пачалі даплочваць 25 працэнтаў за шкодныя ўмовы работы ў сувязі з радыяцыяй.**

---

* У Чудзянах, як і ў Малінаўцы, зафіксавана 140 кюры на км² (газета «Праўда», 24.07.1989 г.). Пасёлак Майскі, як аказалася, таксама забруджаны радыяцыяй, жыць у гэтым пасёлку нельга з-за павышанага фону.

**Працяг. Пачатак у № 4.**

**А жыхарам, якія пражываюць на тэрыторыі гэтай вёскі, ніякіх ільгот і даплат няма. І куды мы ні звярталіся — у сельсавет, у райсавет — усюды быў адзін адказ: ёсць пастанова, што даплату рабіць толькі тым, хто працуе.**

**Але дагэтуль незразумела, чаму людзі, якія прыязджаюць на работу, то для іх работа лічыцца ў забруджанай зоне. А жыхары, якія знаходзяцца ў гэтай зоне, нічога не атрымліваюць. Калі наша вёска лічыцца забруджанай зонай, то, відаць, радыяцыя дзейнічае і на пражываючых у ёй».**

Кандыдат у члены КПСС, дэпутат райсавета Мазурэнка Сяргей Анатольевіч, в. Млынок Ельскага раёна.

Вадзіцель Брагінскага РКБА:

**«Пішу з абурэннем, даведзены да адчаю...**

**Два месяцы назад я запрасіў камісію для замераў радыяцыі ў доме. Урач СЭС і старшыня ГА вызначылі аднагалосна: у некаторых месцах дома прысутнасць радыяцыі перавышае норму ў 3—4 разы. Гэтыя людзі чэсна падпісалі даведку, я спадзяюся, яны нясуць за яе адказнасць. Пасля маіх хаджэнняў у райком (да першага сакратара Г. М. Панькова), райвыканком (старшыня А. М. Пракоп'еў), скаргаў у адрас Міністэрства аховы здароўя БССР, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР тав. Таразевічу таварыш Пракоп'еў незадаволеным тонам пасварыўся на мяне за нейкія недакладнасці пры афармленні маёй даведкі, а праз тры дні прыбыла камісія ў другім складзе і напісала даведку, згодна з якой, цытую адказ: «паўторнымі замерамі ўзроўняў радыяцыйнага фону ў Вашым доме перавышэння дапушчальных узроўняў не знойдзена».**

**Дык вось, прысутнасць гэтых дзвюх даведак мяне трывожыць. Канечне, дай бог, каб другая даведка была справядлівая. Ну, а калі наадварот — маю трох дзетак, самі маладыя (сарака яшчэ няма) і так разумеем, што не ў раі жывем — не выплочвалі б двайную зарплату і датацыю (пенсію) з першага дня жыцця дзіцяці...»**

Ліст маладой сям'і з Чачэрска. Муж Чубукоў С. Б., закончыў Гомельскі універсітэт, біяфак, у 1989 годзе па размеркаванню накіраваны ў Чачэрск. Жонка Чубукова І. Н., закончыла Мінскі тэхнікум савецкага гандлю, выехала па месцы размеркавання мужа.

**«...Нам прадаставілі інтэрнат.**

**...Але нічога, і тут людзі жывуць, працуюць, нараджаюць ПАКУЛЬ нармальных дзяцей.** (Тут і ніжэй у лісце падкрэслена аўтарамі ліста.)

**Па ачыстцы экалагічнай зоны ад забруджанасці нічога не робіцца, ва ўсякім выпадку нават калі што і робіцца, то нічога не паведамляецца, і людзі жывуць тут, хоць радыяцыя вялікая, а якая — ніхто вам не адкажа.**

**У райбальніцы замяраюць ступень забруджанасці кожнага, хто звяртаецца, але апроч незразумелай яму лічбы ніхто не ведае, рызыкоўна гэта для здароўя ці не.**

**Праводзіцца іншая работа. Гэта выплата так званых «грабавых» (30 р.) на кожнага ПАСТАЯННА ПРАЖЫВАЮЧАГА тут чалавека (уключаючы нованароджаных) за радыяцыю па асобнай ведамасці. А як быць тым, хто працуе без прапіскі? Плюс ідзе надбаўка 20 працэнтаў да зарплаты ўсім без выключэння работнікам (мабыць, таксама за пражыванне ў гэтай зоне).**

**Усіх пастаянна пражываючых забяспечваюць спецпайком (у месяц 2 банкі тушонкі на чалавека, 0,5 кг грэчкі Ў КВАРТАЛ).**

**Усе вучні з першага па дзесяты клас забяспечваюцца бясплатным неблагім харчаваннем, кормяць добра. У ежы свежая садавіна, пастаянна сокі, мінеральная вада, салаты, кандытарскія вырабы.**



**Усе прадукты грамадскага харчавання прывазныя. У школе ў асноўным выкарыстоўваюць сухое і канцэнтраванае малако. Вось ужо два разы дзецям прывозілі апельсіны, ТОЛЬКІ ДЗЕЦЯМ па школах і дзіцячых садах— 2 кг на дзіця.**

**А ў магазінах — пустыя паліцы. Вельмі дрэннае забеспячэнне жыхароў мясам, птушкай, яек увогуле няма, як і няма садавіны, гародніны. Тлустае, звычайнае малако цяжка купіць. Завозяць штодзень, але ў малой колькасці. Тварагу няма ў продажы.**

**Пра медабслугоўванне мала што можна сказаць. Бальніца невялікая, едуць з усяго раёна — вялікія чэргі да дактароў.**

**Забеспячэнне неабходнымі медыкаментамі ў аптэцы добрае.**

**Праз кожныя тры месяцы прыязджаюць дактары-гінеколагі з Масквы з усёй апаратураю, яны вядуць назіранне за развіццём цяжарнасці ва ўмовах павышанай радыяцыі.**

**У школах вучням трох класаў выдадзены на 3 месяцы індывідуальныя дазіметры, але даведацца дозу, якую атрымалі школьнікі, немагчыма, бо гэтыя дазіметры накіроўваюць у Мінск. А адтуль ніякай інфармацыі, апроч новых дазіметраў.**

**Такім чынам, складваецца ўражанне, што вось усё даследуюць, вывучаюць і робяць, але пра асноўную работу — ачыстку забруджанай зоны — нічога не чуваць і не паведамляецца. Мы, напрыклад, НЕ ВЕДАЕМ, ЦІ ЗНІЗІЎСЯ ЎЗРОВЕНЬ РАДЫЯЦЫІ З ТАГО ЧАСУ, ЯК АДБЫЛАСЯ АВАРЫЯ.**

**Калі б ведаць, што справы лепшыя, можна было б падумаць, застацца ці не, а так, адпрацаваўшы тры гады, хочам з'язджаць. Я не хачу, каб у маіх дзяцей нараджаліся непаўнацэнныя дзеці, бо тут, АПРОЧ ЧУТАК АД НАСЕЛЬНІЦТВА, БОЛЬШ НІЧОГА НЕ ДАВЕДАЕШСЯ».**

Ліст адпраўлены ў лютым 1989 г.

Ліст маладых настаўнікаў Халмянскай СШ Чэрыкаўскага раёна, што знаходзіцца ў зоне асаблівага санітарнага рэжыму.

**«Ужо некалькі разоў мы звярталіся ў Маскву з запытам аб высяленні з в. Малінаўка, Халмы, Чудзяны. Масква ігнаруе нашы скаргі, бо мы пастаянна атрымлівалі адказ з Мінска, у якім нас запэўнівалі, што мы пражываем у чыстай зоне і што нашы асабістыя прадукты годныя для спажывання.**

**Калі ў нас усё так добра, то чаму нам плоцяць «грабавыя» (30 р. і 20 працэнтаў да зарплаты)?!**

**Чаму да нас гэтак часта прыязджаюць камісіі, замяраюць узровень радыяцыі, бяруць аналізы крыві, але вынікаў нам не паведамляюць?!**

**У кастрычніку 1988 года прыязджала камісія на чале з тав. Волкавым. Імі быў праведзены дазіметрычны аналіз мясцовасці. На аснове гэтых даследаванняў таварыш Волкаў сказаў, што мы жывём на «міне замаруджанага дзеяння».**

**Радыяцыя ў названых вёсках у 3 разы большая, чым у трыццацікіламетровай зоне Чарнобыля.**

**Дык чаму такая ўвага ўдзяляецца гэтай зоне (пішуць у газетах аб немагчымасці пражывання ў гэтай зоне яшчэ працяглы час)?! А пра нас замоўчваюць. Чаму?**

**Людзей, якія пражывалі ў трыццацікіламетровай зоне і ў блізкіх вёсках, вывезлі. А людзі, на якіх цэлае лета самалёты збівалі радыяцыйныя воблака, жывуць ужо тры гады ў няведанні, што іх чакае наперадзе. А тут жа ёсць маленькія дзеці і жанчыны, якія рыхтуюцца стаць мацярамі.**

**У вёсках Вепрын, Малінаўка, Чудзяны няма дзіцяці, у якога гемаглабін быў бы прыбліжаны да нормы.**

**Праглядаючы шэраг перадач, прысвечаных трагедыі ў Арменіі, міжвольна паяўляецца думка: няўжо людзі, якія пражываюць у зоне асаблівага санітарнага рэжыму, не заслугоўваюць хоць бы часткі такой увагі? Няўжо не знойдзецца кавалка зямлі, дзе нас маглі б прыняць, прадаставіць работу, жыллё?**

**Нам абрыдла жыць у няпэўнасці. Просім вас дапамагчы нам развеяць нашы сумненні. А можа, мы і сапраўды жывём у самым чыстым кутку свету?»**

Плескацэвіч М. І. (пісала), Стах Л. Т., Барысенка І. П., Лямаева І. А., Шаўцова Т. П. Чэрыкаў 25.01.89 г.

Ліст з вёскі Папоўка Слаўгарадскага раёна ад настаўніцы Тамары Мікалаеўны Аўраменка, ёй 36 гадоў, мае сям'ю з 6 чалавек *.

**«...Кожны дзень мы сустракаемся з Чарнобылем, бо і сёння яшчэ шмат нявырашаных пытанняў, і дапамагчы нам мясцовыя нашы ўлады не могуць, бо ў іх няма ўпраў на вышэйстаячыя ўлады, а тыя жывуць і працуюць, а таксама забяспечваюцца прадуктамі харчавання не з нашага раёна.**

**А ўзяць кошт прадуктаў. Ці ўсе змогуць есці кожны дзень каўбасы па кааператыўнаму кошту, калі ў магазінах не заўсёды ёсць мяса, а калі і ёсць, то зноў жа кааператыўнае?**

**Чаму не купіць мандарыны? Але ў мяне трое дзяцей, і заплаціць за 1 кг 4 рублі — гэта вельмі накладна. Я маю падсобную гаспадарку: карову, свіней. Кожны дзень марную час на догляд яе, а малако ўжываць нельга, мяса нельга, так ці рацыянальна мне іх, гэтых свіней і карову, мець, калі я гэтыя прадукты здам па таннай цане, а куплю іх жа па кааператыўнай? Ды дзе ўзяць грошай столькі, каб адзяваць дзяцей і самім апранухца (не, не модна), паесці «чыстых» гародніны, садавіны, мясных і малочных прадуктаў, а яшчэ аздаравіць дзяцей і сябе?**

**Да ліку 36 вёсак наша вёска не адносіцца, нашы дзеці не праходзяць абследавання (спецыяльнага) у райбальніцы, мы нічога не ведаем пра стан іх здароўя.**

**Чаму ж не вырашана пытанне аб даплаце ў нашай «зоне», аб паляпшэнні санітарна-гігіенічных умоў, аб забеспячэнні нашых «зон» прыродным газам? Бо мы ж для ацяплення ўжываем дровы і брыкет, якія таксама «забруджаны».**

**Хто нам дапаможа? Ці, можа, мы нікому не патрэбныя?»**

Піша Драздова Таццяна Аркадзьеўна з в. Кулікоўка Слаўгарадскага раёна:

**«Мая сям'я, як і многія іншыя, пражывае ў адной з «забруджаных зон» Магілёўскай вобласці, Слаўгарадскі раён, вёска Кулікоўка. Гэта вёска ўпаміналася ў адной з публікацый вашай газеты** (ліст, накіраваны ў «Знамя юности», трапіў на тэлебачанне.— Заўвага В. Г., А. Ч.). **Менавіта з гэтай вёскі паехалі студэнты БДУ, якія прыехалі на сельгасработы. Яны спалохаліся, што павышаны фон паўплывае на іх малады арганізм. У тэлеперадачы ўпаміналася пра гэту гісторыю. Значыць, да нас у калгас могуць ехаць толькі абсалютна здаровыя людзі, бо на хворыя органы ўсё-такі ўплывае**

* У адрозненне ад іншых лістоў, якія напісаны па-руску, гэты ліст мы не перакладалі. Пры падрыхтоўцы гэтага, як і іншых лістоў, мы імкнуліся як мага паўней захаваць іх арыгінальнасць і своеасаблівую танальнасць.



**гэты фон? Так я зразумела з перадачы. Але чаму гэтыя паважаныя людзі нічога не сказалі пра жыхароў такіх вёсак, якія рэгулярна працуюць на гэтай «забруджанай» глебе? А ў гэтых зонах жывуць і вучацца дзеці, як пісаў У. Ліпскі.**

**Цэлы год дзеці «глытаюць» ізатопы, а потым у летнія канікулы пачынаецца аздараўленне, кампанія па аздараўленню. А на працягу года ў школьнай сталовай дзеці мала атрымліваюць грэчкі, садавіны, гародніны. Адным словам, аслаблены кантроль за дзіцячым харчаваннем у «зонах жорсткага рэжыму».**

**Мабыць, таму дзеці з зон усё часцей і часцей знаходзяцца на лячэнні і абследаванні ў абласных і рэспубліканскіх бальніцах і дыспансерах.**

**Чаму нашы дзеці абдзелены такой увагаю, якую атрымліваюць армянскія дзеці? Я думаю, Чарнобыль нясе больш жахлівыя вынікі, чым землетрасенне. Проста хтосьці хоча забыць гэту аварыю і паказаць, што ў нас усё добра. Добра, што галоснасць адкрыла дарогу да праўды, нарэшце такі ў прэсе пачалі з'яўляцца артыкулы кампетэнтных людзей, якія цвяроза глядзяць на вынікі чарнобыльскай катастрофы. А мы робім вывад, што ўсе гэтыя тры гады нас ашуквалі, малюючы ўсё ў ружовым святле. І нам бы не хацелася атрымліваць 30 р. узамен чыстага паветра, зеляніны, свежага малака і мяса. А даводзіцца «пасціся» каля магазіна, чакаючы прывозу прадуктаў. Пражываючы на зямлі, мы ператварыліся ў нахлебнікаў, не ведаем, хто мы, жыхары вёскі альбо горада? А што казаць пра вёскі, якія лічацца «чыстымі», дзе людзі свабодна ядуць малочныя прадукты, дары лясоў, хоць там не ўсё добра? Атрымліваецца, што да іх яшчэ не дайшла чарга, а ці не будзе позна? Я працую ў школе і таму пакутую за дзяцей больш, чым хто. Школа новая, але не хочуць у ёй працаваць маладыя спецыялісты, даўно няма «свайго» хіміка (з Віцебскага педінстытута сюды на аркане не зацягнеш выпускніка), настаўніка фізкультуры. Выйсце з гэтага становішча напрошваецца адзінае само па сабе — дзеці не павінны жыць у гэтых «зонах», для іх не створаны ўмовы. А дзеці — наша будучае».**

Ліст з Чачэрска. Пішуць работнікі «Райаграпрамтэхнікі», дзе працуе 400 чалавек. Подпісы пад лістом на двух старонках.

**«Што такое Чачэрск пасля Чарнобыля, вы ведаеце. Мы першыя на карце пасля тых, каго выселілі, і нас вельмі мала.**

**Просім падумаць над такім пытаннем: нам даюць даплату да зарплаты 20—25 працэнтаў і 30 р. на кожнага чалавека. Дык вось у нас па адной арганізацыі выплачана гэтых грошай за год 174 тысячы рублёў, гэта апроч 30 рублёў на кожнага. На гэтыя грошы можна было пабудаваць жылую плошчу і перасяліць нашых дзяцей. Ды плюс нашы асабістыя грошы, рабочую сілу... Кармілі б нашых мужчын і не давалі зарплату, а яны будавалі б жыллё для сябе.**

**У нас няма чыстых прадуктаў, усё па кааператыўных цэнах. Тое, што мы здаровыя, гэта няпраўда. Прыедзьце ў нашу бальніцу і паглядзіце на нашых дзяцей, колькі іх на прыёме, а дыягназу не ставяць.**

**Здарылася трагедыя ў Арменіі. Гэта — бяда. Мы таксама ім дапамагаем. Там адразу загінуў народ, а нас, беларусаў, пакінулі на павольную пагібель.**

**Правялі дэзактывацыю, колькі грошай уклалі, каб падчысціць бардзюры і абрэзаць кусты, памыць фасады дамоў, а ўсё гэта пайшло ў зямлю. Каму гэта трэба? У нас трэці год не даюць ураджаю яблыні, бульба зусім не родзіць.**

**Мы лічым, што гэта проста шкодніцтва. Райком маўчыць, галоўурач — таксама, сабе прадукты завозяць чыстыя, у нашых магазінах не бяруць.**

**Лухту ў газеце напісала Крутаўцова Т. Ф.*. Як ёй не сорамна, яна ў нас першы сакратар РК КПБ! І калі яна гаворыць, што мы не былі на дэманстрацыі, то нам, камуністам, сорамна за яе. Просім выселіць нас, падумаць пра нашых дзяцей, каго яны пакінуць пасля сябе.**

**Падумайце над тым: рыбу нельга браць з рэчкі, а ваду піць можна і купацца таксама. Грыбы, ягады, шчаўе нельга збіраць.**

**Прыемна было слухаць, як пра абстаноўку на сваёй тэрыторыі расказваў галоўны ўрач Краснаполля, адчуваўся клопат пра людзей. Просім запрасіць нашага галоўнага ўрача і кіраўніцтва раёна і выслухаць іх. Хай раскажуць пра абстаноўку. А то ў нас поўнае маўчанне і кругавая парука. А то, можа, яны інфармуюць вышэйстаячае начальства, што ў нас усё добра...**

**Мы не просім вярнуць нам усе каштоўнасці, як гэта зрабілі ў Арменіі, і кватэры далі, і вярнулі аўтамашыны, і ўсё-ўсё, а паклапаціцца аб нашых дзецях».**

Чумакоў. Трыбуналаў. Кавалёва. Новікаў і інш.

Піша Аляксандр Міхайлавіч Мятліцкі, жыхар горада Мінска.

**«...Мае бацькі жывуць у Хойніцкім раёне, і я ўсё ведаю не па чутках.**

**...Як цяжка жывуць людзі ўсе гэтыя гады, цяжка маральна. А ўсё таму, што жывуць на краі зоны і то высяляюцца, то засяляюцца, і ўсе тры гады з дня на дзень...**

**Вось і цяпер, пасля газет** (мабыць, маецца на ўвазе публікацыя картаў забруджанасці ў друку.— В. Г., А. Ч.), **мама прыслала ліст і піша, што зноў усе ўзбуджаныя, чакаюць высялення. Паважаныя таварышы, растлумачце людзям, пакажыце ім усю праўду, не папяровую. І людзі зразумеюць, я ўпэўнены.**

**А так, калі і прыязджаюць бюракраты ў «асобную зону», то сустракаюцца з сабе роўнымі, у кабінетах. А чаму б не выступіць перад людзьмі на мітынгу?»**

Яшчэ адзін ліст з Хойніцкага раёна. Перасяленцы з вёскі Кажушкі просяць адказаць на пытанні:

**1. Які ўрад прыняў пастанову аб стварэнні заказніка ў зоне, што прылягае да зоны адчужэння, на касцях нашых продкаў, якая абнесена калючым дротам яшчэ ў 1986 годзе,— рэспубліканскі ці агульнасаюзны?**

**2. На якія сродкі будзе існаваць гэты заказнік, бо ў ім не будуць вырабляць прадукцыю, а зарплату двайную трэба будзе плаціць рабочым і начальству, бо ўсе пераходзяць на гасразлік і якая карысць з гэтага заказніка?**

**3. Якую праблему рошыць заказнік — харчовую, сацыяльную, эканамічную ці экалагічную?**

**4. У якую суму абышлося дзяржаве ў цэлым ці БССР абнясенне калючым дротам гэтага заказніка і ці ўсе заказнікі, запаведнікі абнесены калючым дротам — да прыкладу, Белавежская пушча, Прыпяцкі запаведнік?**

**5. Па якому рашэнню ці ўказанню, з якой навуковай альбо эканамічнай і экалагічнай мэтаю знесена в. Пакроўск (Хойніцкі раён), частка будынін пахавана ў могільніку, а добрыя хаты звезены на дачы і дровы ў суседнія вёскі, хоць гэта вёска стаяла на лініі бруднай і чыстай зоны?**

Барабаш А. Т., Каледа Ф. Г. і іншыя калгаснікі.

---

* Крутаўцова Т. Ф. неўзабаве атрымае павышэнне. Цяпер яна—міністр сацыяльнага забеспячэння БССР.







Звяртаюцца жыхары в. Вялікія Нямкі Веткаўскага раёна. На канверце подпіс: Тайкова Т. Е., а ўсяго подпісаў пад лістом — на старонку ў два рады. Ліст адпраўлены 4.02.89 года.

**«...У нас не зняты абмежаванні на прадукты харчавання, хоць зону называюць чыстай.**

**Прадукты харчавання ў нас забруджаныя радыяцыяй, малако круглы год забруджана вышэй нормы, асабліва ў летні час.**

**Жывёлу часта вяртаюць з мясакамбіната па прычыне павышанай радыяцыі. Мы змушаны купляць прывазныя прадукты, але на іх проста глядзець жахліва, яны нам не па кішэні. Усе гады мы накіроўвалі сваіх дзяцей у піянерскія лагеры, санаторыі. Але гэта таксама грашовыя расходы, бо не выправіш жа дзяцей у нашым адзенні, трэба купіць у магазіне. Многія з бацькоў не ў стане купіць адзенне, заплаціць за пуцёўку, бо даходы на аднаго члена сям'і складаюць нямногім больш 50 рублёў у месяц. Даводзіцца харчавацца нашым дзецям сваімі прадуктамі, што і дарослыя ядуць.**

**Пры праверцы радыяцыі жыхароў нашай вёскі яна аказалася ў некаторых вышэй тых людзей, што жывуць у забруджанай зоне. Яны харчуюцца сваімі прадуктамі, а ў забруджанай — прывазнымі.**

**А таксама ў вучняў радыяцыя вышэй нормы ў 20—30 разоў. Правяраліся ў Свяцілавіцкай бальніцы. Вучняў суседняй Свяцілавіцкай школы бясплатна за кошт дзяржавы кормяць на 1 рубель 20 капеек штодзённа. А нашы дзеці ядуць на 26 капеек у школе за свае грошы. Імунная сістэма падаўлена, дзеці хварэюць, часта на ўроках млеюць. Хлопчык Пяўцоў Сяргей памёр пасля аперацыі на апендыцыт. Ва ўсіх жыхароў баліць галава, павышаны ціск. Вельмі часта нашых жыхароў з кровазліццём вязуць у бальніцу. Бо радыяцыя аслабляе арганізм, а есці лепш мы не маем магчымасці. Мы абязгрошалі зусім. Просім вас дапамагчы нам, каб нам аказаць грашовую дапамогу, як і жыхарам в. Свяцілавічы і ўсіх навакольных вёсак нашага саўгаса. Бо вакол забруджаная зона, а ў нас лічаць чыстай. Дадзеныя аб прадуктах з нашай тэрыторыі ёсць у Гомельскім НДІ. Яны бралі аналізы вясной і восенню. Просім вас, дапамажыце нам вырасціць дзяцей...»**

З пасёлка Гарадок Чачэрскага раёна піша Мінін Уладзімір:

**«...Усім вядома, што 26 красавіка 1986 года здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Але маўчалі прыкладна 10 дзён пра яе. За гэты час людзі наглыталіся ўсякай гадасці. Чаму нельга было тэрмінова паведаміць, хіба ў нас радыё і тэлебачанне не працуе? І хто за гэта панёс пакаранне, калі ўвогуле яно было?**

**А як было потым?..**

**...Па вуліцах праязджалі міліцэйскія машыны і папярэджвалі, каб дзеці не бегалі па вуліцах, а таксама і дарослыя сядзелі дома. Бялізну, якая сушылася, паздымалі. Па радыё і ў райгазеце пачалі паяўляцца паведамленні: у ежу не прымаць малако, сала, мяса, яйкі, а здаваць усё на прыёмныя пункты для перапрацоўкі. У калодзеж налілі нейкай ерунды смярдзючай, ад чаго вада стала белай, як адгон пасля перагонкі малака, карацей, непрыгодная для карыстання. Ды вось яшчэ праехала машына, паліла чымсьці па дарозе, і ўсё. Ну а далей — болей: у лес не хадзіць, грыбоў і ягад не збіраць, на сонцы не быць, не загараць і не купацца. Людзі прыціхлі, кладзіся і памірай.**

**У той злашчасны дзень я запраўляў самалёт мінеральнымі ўгнаеннямі. Раптам наляцеў ураганны вецер і пайшоў лівень. Быў ён кароткатэрміновы, але наліў вялікія лужыны, нават вясной такіх не бывае. Па краях лужын**

**утварыліся пеністыя накіпы колеру бліскуча-зялёна-фіялетавага. Увогуле відовішча прыгожае, на сонцы пераліваласн.**

**Калі мы з лётчыкамі спыталі ў агранома, што гэта такое, то ён адказаў, што гэта хвойка з дрэў.**

**Цяпер мы назіраем за гэтай хвойкай ад вясны да глыбокай восені».**

Ліст супрацоўнікаў Слаўгарадскага райвыканкома ў тры адрасы ва ўрадавыя ўстановы.

**«Дзень добры!**

**Пішуць вам жыхары г. Слаўгарада Магілёўскай вобласці.**

**Пра вынікі чарнобыльскай аварыі пачалі гаварыць усё менш, а для нас гэта праблема з моманту аварыі і па сённяшні дзень з'яўляецца адной з самых балючых.**

**Адразу пасля аварыі спрабавалі ад нас хаваць рэальную абстаноўку ў раёне, хоць чуткі хадзілі ўсякія. Але ў народзе праўду кажуць: «Шыла ў мяшку не схаваеш». І вось настаў момант, калі ў раённай газеце пачалі паяўляцца артыкулы, дзе жыхары раёна і мясцовае начальства рэальна апісваюць вынікі аварыі. І ў гэтых артыкулах суцяшальнага мала. Прачытаўшы ўказаныя артыкулы, вы ў гэтым упэўніцеся самі.**

**Сярод тых, хто звяртаецца да вас, у асноўным жанчыны-маці. Вы ўявіць сабе не можаце, як балюча глядзець на дзяцей. Бо мы ўжо цяпер заўважаем, што за мінулыя тры гады здароўе нашых дзяцей рэзка пагоршылася: твары бледныя, пастаянна скардзяцца на галаўны боль, ходзяць вялыя, санлівыя, а вучням жа трэба рабіць урокі, сядзець на занятках у школе. Нам балюча на іх глядзець. Калі-нікалі паплачаш у кутку ад бяссілля, разумеючы, што свайму дзіцяці нічым не дапаможаш. Іншы раз даводзіцца даваць замест садавіны аскарбінавую кіслату. У магазін не завозяць у дастатковай колькасці садавіны, а калі і завозяць, то кошт іх 4—5 рублёў. Пры такім кошце не кожная маці змажа штодзённа купіць свайму дзіцяці садавіну. Тое ж самае можна сказаць і пра іншыя прадукты харчавання, якія ў нашай зоне патрэбныя, як нідзе,— гэта мяса, грэчневыя крупы, сухое малако.**

**Вы прачыталі адказ галоўурача санэпідэмстанцыі, што малако, якое атрымліваюць у раёне, у ежу выкарыстоўваць нельга. А ў садзіках, школах, у раённым цэнтры ў асноўным у ежу выкарыстоўваюць малако, атрыманае ў Слаўгарадскім раёне.**

**Цэны на прадукты кааператыўныя, а даплаты робяць толькі ў некаторых населеных пунктах, узровень радыяцыі ўсюды высокі (гл. прылажэнне).**

**Як усё гэта можа сказацца на здароўі нашых дзяцей? Што з імі будзе далей?!**

**Замест таго, каб адправіць дзяцей пад час канікулаў адпачываць за межы вобласці, прадастаўляюць пуцёўкі ў піянерскія лагеры Магілёўскай вобласці, а ў час масавай кампаніі ўборачнай, пачынаючы з пятага класа, вучняў накіроўваюць на сельгасработы.**

**Людзей бадзёрыць, абнадзейвае дапамога і ўвага з боку дзяржавы. Возьмем для прыкладу апошнія трагічныя падзеі ў Арменіі. Нягледзячы на сваю бяду і гора, мы не маглі заставацца раўнадушнымі да бяды брацкага нам народа. Мы аказалі пасільную матэрыяльную дапамогу. І перажывалі за іх, як за сваіх блізкіх.**

**Дзякуючы аказанай дапамозе з часам Арменія будзе адбудавана. Тыя, хто застаўся ў жывых, змогуць вярнуць і чалавечыя страты. Пройдуць гады, і армянская нацыя будзе жыць.**



**Што чакае нас? На гэта пытанне наўрад ці хто адкажа. Ведаем адно — добрага ў нашым будучым мала.**

**Вельмі просім Вас, дапамажыце нам хоць чым-небудзь.**

Прыпіска ад рукі на палях: **Крыўдна і за тое, што прайшло тры гады, а ў добраўпарадкаваных дамах няма гарачай вады. А штодзённае купанне дзяцей у нашай зоне неабходна! Неаднойчы звярталіся ў жыллёва-камунальную гаспадарку, аднак зрухаў няма.**

Подпісы: Ільянкова, Лянкова, Гаўрыленкава і іншыя.

**Прылажэнне да нашага ліста** (на асобнай старонцы).

Узровень радыяцыі ў рэперных кропках па забруджаных населеных пунктах і ў г. Слаўгарадзе па дадзеных штаба ГА

| Назва населенага пункта | Узровень радыяцыі, мр/г | Прадастаўляемыя льготы | |
|---|---|---|---|
| | | 25% да зарплаты | 30 р. на члена сям'і |
| г. Слаўгарад | 0,07—0,08 | — | — |
| в. Н. Слабада | 0,03—0,03 | ёсць | ёсць |
| в. Дуброўка | 0,06—0,08 | ёсць | ёсць |
| в. Рогі | 0,04—0,04 | ёсць | ёсць |
| в. Аляксандраўка | 0,05—0,06 | ёсць | ёсць |
| в. Гайшын | 0,05—0,07 | ёсць | ёсць |
| в. Кліны | 0,06—0,07 | ёсць | ёсць |

**Рэперныя кропкі — гэта мясціны, дзе зрэзаны забруджаны слой глебы, выбрана пустазелле, праведзена дэзактывацыя.**

**На адлегласці 5—8 метраў ад гэтых кропак узровень радыяцыі павялічваецца ў 2—3 разы.**

**Узнікае пытанне: ці аналізаваў хто калі-небудзь гэтыя дадзеныя?»**

Ліст, атрыманы пасля перадачы, прысвечанай чарнобыльскай аварыі.

**«Удзельнікі «круглага стала» актыўна адыходзілі ад прамых адказаў. Асабліва цяжкое ўражанне пакінулі выступленні медыкаў — намесніка міністра аховы здароўя БССР.**

**Людзі, якія па доўгу службы больш ведаюць пра радыяцыйную абстаноўку, занялі пазіцыю злачыннага благадушша. Яшчэ б трохі часу, і яны паспрабавалі б нас запэўніць у тым, што радыяцыя не тое што шкодная, але і карысная...**

**Дзе ж іх грамадзянская пазіцыя? Як жа гэта сумясціць з тым, ува што яны і самі не вераць?**

**Тысячу дзён людзі, па сутнасці, былі заложнікамі ў сваім доме. І знакамітая карта надрукавана тады, калі ёй ужо людзі не вераць...»**

Інжынер з Пінска В. Уласаў.

**Раздзел пяты. Што людзі кажуць...**

Спадзяёмся, што некалі выйдзе цэлая кніга — а мо нават і некалькі кніг,— дзе будуць сабраны расказы людзей, якія так ці іначай сутыкнулі-

ся напрамую з чарнобыльскай бядою. Пакуль жа ў гэтым раздзеле мы прывядзём некалькі балючых споведзяў.

**Расказвае Любоў Рыгораўна Герасімава, перасяленка з г. Прыпяці. Нарадзілася ў г. п. Ліёзна Віцебскай вобласці, закончыла Віцебскі педінстытут. У Прыпяці да аварыі працавала завучам у сярэдняй школе. Цяпер разам з мужам жыве ў в. Пальмінка Віцебскай вобласці. Муж яе, Анатоль Аляксандравіч, працуе мастаком-афарміцелем, іграе на гітары, займаецца разьбою па дрэве.**

— Я памятаю... Вось я вам раскажу... Сам выбух. Я бачыла выбух. Прыйшла я са школы. Я дома заўсёды планы пісала, муж яшчэ смяяўся: што, гаворыць, ужо працуеш дваццаць гадоў, а ўсё ўрокі вучыш!.. Хацелася падрыхтаваць усё як трэба, таму што я там ішла як настаўнік сапраўдны. Вось... Я дзесьці да 12 ночы пісала планы. Стаяў ужо красавік месяц. У нас такая спякота стаяла. І вы ведаеце, я вось легла спаць. І не спіцца мне ніяк — спякота! І вось хтосьці мяне як быццам кусае. Я мужу кажу: паслухай, падыміся, па-мойму, клапы па мне недзе поўзаюць! Ён кажа: супакойся, спі! І вось дзесьці ля гадзіны, можа, крышку больш, вось так вот...

У нас калісьці трасянула — калісьці было землетрасенне — вось там, у Румыніі... Нас таксама трасянула. І ведаеце, вось такое: штосьці загрымела, трасянула, блісканула і супакоілася... Цяпер я ўжо свядома разумею, што гэта не маланка была, таму што яна была ярка-аранжавая, вось такая. Я мужу кажу: паслухай, падыміся, хоць фортачку зачыні, таму што, відаць, дождж і навальніца... Ён зноў мне: спі!.. Я зноў улеглася. Другі раз трасянула. І разумееце, вось як той лівень: зашумела штосьці... І зноў такая чырвоная-чырвоная маланка. Ну, я тады пачала зачыняць балкон, фізіяномію сваю высунула. І з балкона бачна было — ну, на тое імгненне да мяне не даходзіла — як воблака. Цяпер я разумею, што гэта грыб ішоў... Паветра гэта... А тады я глянула... Вось бачыце, хвалююся, аж дрыжыць усё! І гэты балкон зачыніла, фортачкі пазачыняла, кажу: вось і дождж пайшоў. Ну, яно шуміць усё...

Раніцаю прачнулася: дажджу, кажуць, ніякага няма і не было. Сухі асфальт на вуліцы, вось... Ну, а ў нас так усё і засталося зачыненым. У школу я звычайна прыходзіла без 15 восем, ранелька... Прыйшла ў школу, таму што нашы дзеці строіліся на зарадку — у нас была пад музыку зарадка ў другой школе. Прыйшла ў школу, свой кабінет адчыніла, склала кнігі — ну, думаю, пайду ўжо на зарадку да дзяцей. У мяне быў дзесяты клас, выпускны. Вось чую званок, у завуча кабінет адчынены. Я падышла, зняла трубку. Звоніць загадчыца рана Дзіна Генрыхаўна. Яна гаворыць: дзе вашы школьнікі? Я кажу: на вуліцы, строім іх на зарадку, зараз усе настаўнікі пойдуць. Яна кажа: зачыніце ўсе фортачкі ў памяшканні, настаўце якія-небудзь дзежкі з вадою, пасыпце парашку мыючага і мокрыя анучы — усё астатняе скажам потым...

Я ўсё гэта перадала, дзетак нашых мы завялі, пачаліся заняткі. Ну, а ў нашых настаўніц мужчыны працавалі на атамнай станцыі. Бачыце, як мяне б'е дрыготка... Успамінаю — мяне трасе ўсё (цяжка ўздыхае).

Дзесьці ў палове дзесятай прынеслі нам вось гэтыя маленечкія таблетачкі. Мы не ведалі, што ў гэтых таблетачках — а гэта нам выдалі ёдзіраваны калій. Мы гэтыя таблетачкі выпілі. Заняткі ў дзве гадзіны скончыліся — мы першая змена,— і пайшлі дамоў. Больш нам ніякіх указанняў не было. Я прыйшла дамоў, вось... Сядзяць у нас ля пад'езда на лавачцы Рыма Міхайлаўна Кулакова — настаўніца замежнай мовы з трэцяй школы, унук яе ў пяску корпаецца... Сонейка, цёпла. Ну, а тут папаўзлі ўжо чуткі, што на атамнай аварыя, ужо вязуць адтуль раненых... Ну, ніхто нам пра гэта не казаў — ні па радыё, ні па чым, нідзе!



Ну, а потым... Суботу адпрацавалі. А ў нядзелю ўжо ніхто нідзе не хадзіў. А потым недзе ў сем гадзін... А не, няпраўду кажу... Ноччу пазваніла мне ўрач. Яна кажа: «Любоў Рыгораўна, на атамнай станцыі адбылося штосьці сур'ёзнае, будзе эвакуацыя, і вы, відаць, паедзеце з класамі. Не пакіньце майго Арцёма». Гэта было гадзіны ў тры ночы. Я, грэшнай справаю, свайго мужа расштурхала, кажу: Толя, што гэта яна такое кажа? Потым пазваніла мне Ала Авяр'янаўна і кажа: «Люба, будзе эвакуацыя, але не па школах, а па мікрараёнах. Ты вазьмі маіх дзяўчатак». А яна з мужам развялася. Дзяўчаткі яе хадзілі ў нашу школу. Я кажу: «Добра, Ала Авяр'янаўна». А яна яшчэ кажа: «Збяры свайму Сашку чыстую бялізну, коўдру і на два дні падрыхтуй яду». Ну, тут я ўжо канечне... Саша спіць, я падышла... Разраўлася... вось (плача).

Сабрала. І курыцу, і печань засмажыла, сабрала, усё зрабіла. Потым пазваніла другая ўрач — тэрапеўт: калі будуць адпраўляць куды, дык забяры мяне з сабою. Я кажу: «Добра. Я іх адразу ў вёску завязу, там у мяне бабка знаёмая. У Гомельскай вобласці, станцыя Пасудава. У той бабкі і маліна ёсць, і гародзік быў...»

Я пачала збірацца і думаю: «Бог з ім, забяру ўсіх да сябе». Потым думаю: «Што ж гэта я іх збіраю, а ў мяне ж яшчэ там сястра родная, брат яшчэ родны, таму што бацькоў у нас няма, дваюрадных двое — аббягу іх, скажу, што трэба нешта рабіць». Дзесьці ў пятай гадзіне я пабегла да родзічаў сказаць, што будзем у мяне збірацца. Ніякіх жа ўказанняў ніхто не даваў.

Ну, а потым недзе ля сямі гадзін паднялася з першага пад'езда жанчына і кажа: «Будзем эвакуіравацца. Збірайцеся і чакайце на вуліцы».

Я ўзяла і пазваніла ў міліцыю па 02. Дзяжурны міліцыянер мне кажа: «Можаце ехаць цягнікам у любым накірунку. У якім заўгодна едзьце. Але не іншым транспартам, вось».

Сабраліся дванаццаць чалавек і паехалі. Ну, як дача ў нас там была. Ну, прыехалі мы ў гэта Пасудава, выйшлі, знялі дзеці сваё адзенне, прапаласкалі, нарвалі шчаўя, наеліся. Засмажылі гэтае, мабыць, радыеактыўнае мяса, якое ўзялі з сабою. Перабралі бульбу. Агарадзілі пад дажджом маліну, бо певень усё курэй вадзіў. Шкада нам было гэтай чортавай маліны! Прапалолі ўсёй кампаніяй клубніцы, якія сядзелі там, вось... Пераспалі мы ноч, а раніцою з саўгаса пачалі эвакуіраваць дзяцей. Ну, я сама ж настаўніца хіміі, зразумела, што тут, мабыць, нелады. І вось мы сабраліся і паехалі. І прыехалі сюды, у Ліёзна. Усе дванаццаць чалавек...

...Прапусціла момант: яшчэ раніцаю муж і брат мой паехалі назад у Прыпяць. Думалі, пусцяць іх у Прыпяць. Іх ужо не пусцілі, сказалі: «Едзьце, а пасля 9 мая — 10—11 выхадныя — тады вас заселяць...»

Прыехалі мы ў Ліёзна. У Ліёзна мы пражылі да 7 мая. Ну, а 7 мая, калі Рыжкоў пабываў на станцыі, пачалі нам аб'яўляць, што трэба часова працаўладкоўвацца, ну, тады прыехалі мы сюды, у Пальмінку. У Пальмінцы нас прынялі добра. Пасялілі ў гэты няздадзены домік. Далі і кватэру, і пасцель, бульбы нам прывезлі і малака, дапамогу аказалі. Я пра гэта ў газету «Правда» пісала і ў «Віцебскі рабочы». Вось так мы тут і засталіся. Думалі, часова. А вось цяпер засталіся на тры гады. Сын служыць у арміі.

...Я сама сябе адчуваю вельмі дрэнна. І з мужам у мяне дрэнна. Адлякалася вось тут нядаўна ў бальніцы. Я такая — у бальніцу іду, калі мне ўжо ўсё... Ну, а тут у маі... Мяне адвезлі з тэмператураю 39,9. Перад гэтым

3*

таксама была з тэмператураю, па мне такія, ведаеце, як чыры, чырвоныя пухліны і вакол яшчэ... І высокая тэмпература. Ну, ляжала я ў Гарадку на капельніцы. Потым узялі ў мяне аналіз крыві. У мяне вельмі нізкі гемаглабін, зусім мала эрытрацытаў. Накіравалі ў Віцебск да гематолага. Пабыла, а цяпер вось праз месяц трэба на кансультацыю. Ужо прайшло болей чым паўтара месяца, і вось я, чэсна кажучы, проста баюся ехаць. Таму што калі б я сама не чытала аналізы, а я іх чытала... Яны мне іх аддаюць на рукі.

Ну, а ў мужа... Ён жа ў мяне ніколі не хварэў. Я не ведала, што мой Толя можа калі-небудзь хварэць. Ён займаўся спортам, маржаваў увесь час. Не п'е чалавек, не кура. Ну, увогуле, сур'ёзны чалавек. А цяпер у яго зусім разгулялася нервовая сістэма. Вот быў такі перыяд, што думала, Толя пойдзе на дзесяты кіламетр (плача).

І вось цяпер бываюць такія перыяды, ён у такім стане (плача)... Двойчы адляжаў у бальніцы, цяпер вось прыходзіць з работы... Прыходзіць з работы, вось, здаецца, нічога не баліць, нічога... А ў другой палове дня і такая слабасць, што ні сядзець, ні гаварыць... Вось бачыце, які стан — плаксівасць. Вось такое жахоцце (плача, выцірае хусцінкаю слёзы).

І ён прыйдзе з работы, я кажу: Толя, што з табою? Стаў такі замкнуты. Ён кажа: разумееш, балець нічога не баліць, а вось такая дзікая слабасць, што нічога не хачу, не хачу нават рухацца. А чалавек жа ён такі, што ніяк не мог... За гэты час...

Ну, а да Сашы я ў жніўні паеду. Там у мяне ўрач знаёмая, мне трэба рабіць сур'ёзную аперацыю. Думаю, Саша прыйдзе з арміі... Не ведаю, гэта ў мяне будзе дзевяты наркоз... Я вось паеду ў жніўні, што мне скажа ўрач. Проста знаёмая, яна жыла ў Кіеве і паехала адтуль. Заеду да сына ў Загорск...

Я вось, бывае, сяджу адна ў кабінеце, работнікі ўжо ведаюць... Адчыняць дзверы — плачу, яны мяне ўжо не чапаюць.

Цяжкія ўспаміны... І вы ведаеце, калектыў, у нас быў такі калектыў!.. Мне пішуць, я па шэсцьдзесят паштовак атрымліваю — вучні пішуць...

А тут быццам прэтэнзій да мяне няма. Я ўжо ўцягнулася. У школу мяне ўзялі, сказалі, месцаў няма...

Парушана жыццё... Калі б разрушылася неяк раней, ведаеце... Мы пражылі там пятнаццаць гадоў. Калі б чалавек быў маладзей, дык яно б неяк зглядзілася, а так, уласна кажучы, там усё пражыта. Усё пражыта!

Ну што ж, прыехалі мы сюды... Мне і цяпер людзі ўспамінаюцца... У нас машыны не было, але ў нас была такая бібліятэка! Усё засталося там. Дазволілі ўзяць посуд, дакументы, золата, серабро — усё... А мэбля там засталася. А хто вывозіў — дык яна ж нягодная. Нам дырэктар даў «Калхіду» з двума прычэпамі. А мы прыехалі — нічога адтуль не прывезлі. Можна было — вось нам далі чатыры цэлафанавыя мяшэчкі. Пераапранулі нас у спецадзенне і ў нашым мікрараёне дазволілі гадзіну 20 хвілін пабыць. У жніўні 1986 года ездзілі. Таму што без дакументаў людзі, без нічога. Памятныя фотаздымкі можна было ўзяць.

Пабывалі ў сваёй кватэры, на чацвёртым паверсе мы жылі. Гадзіну дваццаць хвілін нам далі. Там мікрараёны былі далей, тым людзям больш далі часу. Наш самы першы мікрараён — першы дом, які быў здадзены ў Прыпяці... Мы з Толем з першага калочка там. Жылі і працавалі. І пасёлак Лясны памятаем, калі часова жылі. І садок там... І ўяўляеце, дажыліся да такога добрага часу, усё было: і кватэра, і цудоўны горад, і работа, і аўтарытэт... Ужо не трэба было на аўтарытэт працаваць, ужо ведалі — такія і такія людзі, мы звярталіся, і нам ніколі не адмаўлялі. Павінны былі там трохпакаёвую кватэру палепшанай планіроўкі атрымаць, мне званне старэйшага настаўніка прысвоілі. Можа, і заслужанай настаўніцай стала б... Усё рухнула, усё паляцела! (Плача...)

**Расказвае Антаніна Мікалаеўна Дашук, жыхарка в. Рудыя Хойніцкага раёна, 65 гадоў, пенсіянерка. Запіс зроблены 18 чэрвеня 1989 года.**

— У нашых Рудых сорак восем двароў. Цяперака. А да Чарнобыля было за паўсотню. Шэсць хадзяйстваў за ета ўрэмя вывелася. Адных дзеці пабралі, дык паўязджалі, другія — старыя — паўміралі. З етых шасці адна толькі хата стаяць асталася. Астальныя — ваенныя, што стаялі ў Рудакове (вёска, дзе знаходзіцца выканком сельскага Савета.— В. Г., В. Ч.), выкінулі. Разбурылі — і пазакапвалі ў ямы. Каб радзіяцыі менш було.

У етых жа сарака васьмі хатах, што засталіся, жыве нас душ восемдзесят. Большасць пажылых. У асноўным жэншчын, мужчын мала-мала. Ці сем, ці восем. І дзеці е. Каторыя ў школу ходзяць, а каторыя шчэ й не вырослі да першага класа. Етых дзяцей возяць вучыцца ў Стралічава. Сем кіламетраў да яго. На аўтобусе возяць. А раней, да аварыі, нашы дзеці ў Бабчынскую школу хадзілі. Там, у Бабчыне, цэнтр быў нашага калхоза «Акцябр». Колісь у ім старшынстваваў Мележ, дваюродны брат глінішчанскага пісьменніка, што пра наша Палессе пісаў. Харошы быў старшыня, цяперака ён у Хойніках пражывае. А патом за ім «Акцябр» узазглавіў Васюк. Як аварыя случылася, то Бабчын выселілі, а калхоз расфарміравалі. Васюк з'ехаў, а куды — ніхто не знае. Мабыць, дзесь работае.

З калхоза асталіся нявыселенымі нашы Рудыя, а такжэ Чахі, Плоскія, Мокіш. Етыя сёлы аб'ядзінілі ў адно аддзяленне і прысаядзінілі к саўхозу «Стралічава».

Цяпер нашы людзі з Рудых больш жыватнаводствам займаюцца. У Плоскім е ферма на дзвесце пяцьдзесят галоў ската, і яны там работаюць. Даяркамі, пастухамі. Чалавек пятнаццаць усяго. Малако адпраўляюць у Хойнікі, там на масласырзаводзе, кажуць, яго ў масла перарабляюць. Хто-ніхто з рудчан і на падсобныя работы ў саўхоз ходзіць. На салому, к прымеру, ці буракі гарцаваць. Ну, ета ўсё людзі пажылыя. Маладых жа сем'яў у нас цяперака, считай, не прыбаўляецца. Месныя і хлопцы, і дзеўкі паз'язджалі. Праўда, суседзі ў мяне вот маладыя паявіліся. Хлопец наш Смусянок Мікалай, шафёрам працуе, узяў прыезджую...

Калі ета аварыя праізашла, дык у Плоскім у магазіне лавашніцы не аказалася. Што рабіць? — людзі ва ўсіх нашых дзярэўнях забедавалі. Слава богу, дзеўка маладая к нам прыехала. Прадаўшчыца. Сама прыехала ці прыслалі — ужэ й не помню. Красівая-красівая. Харошая-харошая. З Маларыты. Тожа паляшучка, толькі западняя. Не пабаялася радзіяцыі, кажа, бяду з вамі раздзяляць прыехала. Галя, Галіна Міхайлаўна. Устроілася яна, значыць, у Плоскім лавашніцай, дзе з нашым Мікалаем і пазнакомілася. Цяпер у іх дзевачка паявілася, ужэ паўтара годзіка. Алёнка.

А магазін у Плоскім стаў лепшы, чым быў. Апусцелую хату, адкуль людзі выехалі, гасударства выкупіла. Прасторны — туды нам прадукты завозяць. Што іменна? Куры, качкі. Свініну раз у месяц даюць. Ета з м'яса. Шчэ тушонку, яечкі. Малако цераз дзень. Малако, кажуць, прывозяць з Гомеля, а ў Хойніках расфасоўваюць. Людзі гамоняць, што е там радзіяцыі німнога. Бо ў бочках возяць. А м'яса возяць з Каленкавічаў. Там яго і фасуюць. А вот раз тушу цэлую к нам прывезлі, дык людзі яе й не купплялі. А навошта яна, там жа адна радзіяцыя — у машыне такі вес не уберажэш.

З тых пор лавашніца тушы не прымае. Скажу шчыра, што з прадуктамі нас крэпка не абіжаюць. Вот толькі радзіяцыя абіжае. Е радзіяцыя...

Уласці ў нас не бываюць. Ні гомельскія, ні мінскія, ні маскоўскія. Дажа хойніцкія не паяўляюцца. Ніколі таго прадсядацяля райспалкома й не бачылі ў Рудых. Праўда, у Плоскае, бывае, прыязджаюць чужыя людзі. Называюць сябе ўласцямі. А чаго прыязджаюць? У магазін. Набяруць прадуктаў — і памінай, як звалі.

Што касаяцца чыстаты прадуктаў, дык за прывозныя мы менш баімся. Канешне, людзі гамоняць, што й яны загаджаны, але ж, відаць, не так, як нашы. Што ў нас растуць. Мы вот за тры гады й не знаем, чаго можна есці, а чаго не. Раней казалі, будта картоплі ўсім можна есці. Цяперака — толькі ўзрослым. А дзецям? Што даваць дзецям? У нас тут у аднаго рудчаніна шасцёра дзяцей. Хіба яны будуць есці макароны кожны дзень? Ды я па суседскай Алёнцы знаю. Паўтара годзіка — а без картопляў жыць не можа. Не дасі — гвалт. Крычыць, крычыць... Век жылі на картоплях — беларусы ж,— а тут нільзя.

А што са шчаўлем было?! Сначала нам сказалі, можна патрабляць. Затым у раённай газеце «Ленінскі сцяг» урач напісаў — нільзя. Ну, й мой дзед скасіў яго ў агародзе. Дый другія паскошвалі. Патом пішуць, што нільзя патрабляць толькі шчавель дзікі, а садовы можна. Хіба ета не камедзія? Паймі і разбярыся з такімі саветамі насчот яды. Чаму так? А таму, што нету належнай праверкі прадуктаў.

Я вот раскажу прыклад, як правяраюць. Прыехала ета ў тую восень адна такая праверка ў нашыя дзярэўні. Жэншчына з прыборам. Хто што хацеў, тое і правяраў. Сначала ў Чахах. Набрала я гарбузных семічак і пайшла туды. «Праверце»,— кажу. Жэншчына ета праверыла і атвячае: «Заражоныя. Выкідайце». Я ж іх не выкінула і панесла назад дадому. З Чахоў праверка прыехала ў Рудыя. Я за тыя самыя семічкі і зноў прашу жэншчыну: «Праверце». Яна праверыла іх і кажа: «Харошыя семічкі. Кушайце на здароўе». Я ж ёй не прызналася, што ў другім сяле яна пра іх другое казала. Пасмяялася горка сама сабе ў душы ды пайшла дахаты.

Ці не з таго і балеем мы? Канешне, з таго. А ў Мінску ды ў Маскве думаюць, што ў нас здароўе харошае. І ў газетах пішуць — у іх там на Палессі ўсё харашо. А дзе ж тут харашо, калі ўсе нашы людзі хворыя. У ва ўсіх вочы і галовы баляць. Што ў старых, што ў маладых. Каб хто паглядзеў, што цяперака ў нашай Хойніцкай бальніцы робіцца. Не прайсці па калідоры. У глазное аддзяленне — чэргі-чэргі. Маладая ўрачыха там рады ўсім даць не можа. А йшчэ людзі кульгаць чагосьці началі. Глянеш у бальніцы — усе дачыста кульгаюць. Як бы палкай ім ногі паперабівалі. І ў нашых Рудых гэтаксама. Вось неяк жа радыяцыя паўліяла. Людзі не толькі хварэюць, а і ўміраць больш пачалі. У Рудых вот за два гады чалавек шэсць умерла. І не скажаш, што ад старасці. Нідаўна я сваяка пахавала. Сестрынога мужыка. Дык яму толькі пяцьдзесят чатыры гады споўнілася. І ўміраюць людзі ў аснаўном ад рака. Ніякай другой, акрамя етай хваробы, не чуць. Хай бы хто ад якога туберкулёза. А то вот і ў Рудакове, гамоняць, ад рака чалавек памёр, і ў Высокім, і ў другіх сёлах... У вобшчым будзе так, што ўсе мы тут ад яго памром.

Не лечаць нас тут, не правяраюць. Вот назначылі мне ў Хойніках уколы, а хіба я наезджуся туды кожны дзень?! Далёка. А то неяк спіна забалела, нібыта кол у яе хто загнаў. Паехала к нервапатолагу. Ну, што ён памог? Выпісаў таблеткі — ды і ўсё. А другі ўрач казаў, што таблетак мне піць не трэба — урадзяць.



Каб жа нас хоць правяралі па-людску. А то за тры гады разы са два толькі і прыязджалі ў сяло праводзіць абследаванне. Ды, праўда, нядаўна яшчэ раз. Але кеб хто старонні бачыў етую праверку, то крэпка б падзівіўся. Раскажу чаму. Зайшла ета я да ўрача. Здаецца, ён з Гомеля быў. «Што баліць?» — пытае. «Серца»,— кажу. Ён так сукенку трохі адтуліў, трубку прыставіў. «Хіба серца на шыі?» — я яму прама ў вочы сказанула. Людзі побач аж засмяяліся. Урач тэй змаўчаў, але ўсё паняў. І я паняла. Ён не абследаваць нас прыехаў — адбываць службу. Сядзіць за паўкілометра, усё роўна як ад мяне баіцца радзіяцыі набрацца. А яно так і йе, я не сумняваюся. Гамоняць жа людзі, што ад нас радзіяцыя ісходзіць. І ўсіх-усіх людзей тэй урач у нашых сёлах так, як мяне, правяраў. Усе мы зразу ўбачылі, што ён тут чалавек урэменны. І ніхто нам па нашаму здароўю праўды не кажа...

Што будзе далей тут з намі, не ведаем. Жывем, як у вайну, у нейкім пастаянным страху. Ні смеху, ні песень. А як жа колісь спявалі! Наш народны дзепутат са Стралічава Кашперка прыехаў з маскоўскага з'езду і сказаў, што, відна, высяляць будуць. Людзі гамоняць, што ў Курскую вобласць. У Расею. А нашто ж у Расею, калі можна ў Беларусі аставіць. Кажуць жа, што пад Віцебскам пуста. А страшна-страшна высяляцца. Як ета сваю зямельку пакінуць! Тут жа ўсе дзяды-прадзеды пахаваны. Вун Варацец — такая дзярэўня за Рудымі была — выселілі. Дык варатчане і цяперака сваіх людзей толькі на свае могілкі вязуць хаваць. А ўзяць бабчынцоў. Як цяжка яны ў чужым кутку прыжываюцца. Дзве жэншчыны нідаўна прыязджалі і так ужэ плакалі-прасіліся ў прадсядацеля райспалкома, кеб дазволіў назад вярнуцца і ў сваіх хатах жыць. А тэй не дазволіў, сказаў, што толькі праз дзевяноста гадоў сюды можна вярнуцца. Вот як уцешыў бедных. Нас, відна, таксама такая судзьба ажыдае...

І ўсё ж, кеб Рудыя з самага начала выселілі, то правільней було б. А можа, неяк і прыжыліся б. Дый маладзейшыя мы тады булі. А то як жа ў такой радзіяцыі жыць. Кашперка з Масквы нейкі прыбор харошы прывёз. Прыехаў ён з Мартыненкам, дзірэктарам нашага саўхоза «Стралічава», у Рудыя мераць етую радзіяцыю. Бачаць, у крайняй хаце, дзе жыве Іван Савянок, дзевачка малая клубніку есць. Памералі ягады ў Савянковым агародзе і толькі галавой паківалі. Сказалі, каб больш к ім ніхто дажа не прытрагуваўся.

А йшчэ паўгода назад пра высяленне перасталі ўжэ думаць. Вясной у Стралічаве пяцьдзесят новых хат пастроілі. Для маладых сем'яў. Цэлы пасёлак. І вот каму ён патрэбен будзе, як выселяць. Заставіць таго б, хто аддаваў прыказ строіць, жыць у ім, у етых самых условіях. Хіба ж можна дзяржаць людзей у такім пекле?!

І ваабшчэ клапоцяцца пра нас мала-мала. Радам з дзярэўнямі могільнікаў радзіяакцыўных панарабілі. Усё ўрэм'я салдаты туды чобаты, бушлаты, смецце ўсялякае вазілі. Раней яно закапвалася, а цяперака панакідаюць-панакідаюць — і ўсё. А як дзезакцівацыю ў сёлах праводзяць?! Паедуць у балота, панабіраюць радзіяакцыўнай вады і льюць на крышы. Адкуль жа радзіяцыя такім разам паменшае? Не паменшае.

Чым усё ета скончыцца — не знаю. Шчаслівыя дзяды-прадзеды, што не пабачылі такога гора. Надзеяліся яны, што нам лепей будзе жыць, аж тут вот якая вялікая бяда случылася. Я вот аб чым думаю: хаця б жа Беларусь не ўмерла, хаця б жа яе званне збераглося.

**Навасібірская медсанчасць Трэцяга галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя СССР, кастрычнік 1989 год.**

**Гутарка з хворым Юрыем Мікалаевічам Аляксандравым, 1950 года нараджэння, былым мантажнікам-высотнікам БДУ-42 «Галоўнавасібірскбуда» (цяпер працуе на лёгкіх работах), удзельнічаў у ліквідацыі аварыі ў Чарнобылі з 25 чэрвеня па 5 лістапада 1986 года. Колькасць атрыманых рэнтген згодна рэгістрацыйнай картачкі — 18. Узнагароджаны медалём «За отличие в воинской службе» I ступені (за Чарнобыль).**

— Юрый Мікалаевіч, як пачалася ваша камандзіроўка, як вы трапілі ў Чарнобыль?

— Я ад'язджаў, нас пяць чалавек было, мы на замену ехалі, там студэнтаў адпраўляць трэба было. Спачатку, канечне, усё было цудоўна. Пакуль тут камісіі прайшлі, пакуль...

— З настроем ехалі?

— Ну канечне, я дабравольцам ехаў. А дабраволец — гэта што: трэба напісаць паперу, каб цябе накіравалі.

— Ведалі, на што ішлі?

— Ды ўвогуле-то і не зразумець было, на што мы ехалі і куды ехалі. Не зразумець было... Я — хімік па ваеннай спецыяльнасці. На Сяміпалацінскім палігоне служыў, ведаю, што гэта такое. Але вось калі сутыкнуўся непасрэдна адзін на адзін з гэтым... Ну, прыехалі ў часць у 12 гадзін дня. Калі зірнулі — адразу ж гэта абстаноўка прыгнятае. Па-першае, часць на балоце размяшчалася. Ну, такая балоцістая мясцовасць — у Радзянскім заказніку стаялі, у пасёлку Арджанікідзе. Вецер, вецер — пыл гэты радыяцыйны гуляе... Палівалкі палівають. Спачатку непрыемна было, а потым дзеньдва — уцягнуліся.

Я быў прызначаны намеснікам начальніка штаба. Адразу ж пачаўся кругаварот у рабоце. Тут ужо некалі было думаць пра штосьці там... Трэба было батальёны накіроўваць на апрацоўку, на АЭС трэба было накіроўваць. Практычна там не было мясцовага насельніцтва. Часць наша стаяла якраз у зоне 30-кіламетровай. У самой зоне. А потым нас перавялі ў Церамошню.

— І чым вы там займаліся?

— Дэзактывацыя, радыяцыйная разведка. Вялі апрацоўку і самой станцыі і навакольных вёсак. Апрацоўка дамоў, зняццё грунту, прамыўка калодзежаў... Страху не было. Але вось калі на АЭС прыехаў, падняўся на дах — 78 адзнака,— калі туды выйшаў, мне сказалі: «Таварыш капітан, вы што тут стаіце? Тут жа 350 рэнтген!» Дзе, што? А там такая вось ерундовіна ляжыць, не адразу і заўважыш. Ну, нешта там ляжыць — і бог з ёю. (Смяецца.) А потым падумаў: жарты дрэнныя з гэтай справаю. Вось нашы хлопцы — аднапалчане, першы састаў — многія атрымалі апёк сятчаткі, бо працавалі без ахоўных акуляраў. А працавалі ў такіх вось месцах па трыццаць — трыццаць пяць секунд, усё бягом, калі там было надзяваць тыя ахоўныя акуляры... Людзі не шкадавалі сябе. Першыя чарнобыльцы — гэта героі, сапраўдныя героі! Таму што яны ішлі, у такія мясціны ішлі... Ды ўсюды там радыяцыя суцэльная была! І ўсюды людзі паспявалі, ніякай работы не цураліся. Трэба вёску дэзактываваць — ішлі, на АЭС ехаць — ехалі... Мы збіралі графітавыя асколкі, мы падымалі на дах робаты, тэлекамеры... Здымалі мяккае дахавае пакрыццё з трэцяга энергаблока. Гэта ўсё наша часць... Дарогу апрацоўвалі, залівалі яе латэксам. Такая дэталь: помпы хапала на дзве запраўкі спецмашыны. Потым помпа выходзіла са строю. Па нарматывах тэрмін яе рамонту — паўтара сутак. А рамантавалі помпу за 35 хвілін. Як гэта назваць?!

Сумленна працавалі! Я сустракаўся там з мірным насельніцтвам. Пытаюцца: адкуль вы? З Сібіры. О, калі сібіракі прыехалі — будзем жыць! Таму што яны ў вайну нас адстаялі і цяпер прыехалі. І ўвогуле сібіракі, я лічу, самы надзейны народ... Мы працавалі там і па дванаццаць гадзін, не пакладаючы рук. Не глядзелі на тое, што ў цябе мазалі паявіліся, афіцэр ты ці радавы...



**Пад час нашай гутаркі наведаць хворага таварыша прыйшоў Генадзь Іванавіч Кандаураў, працуе ў Новасібірскім аўтатранспартным аб'яднанні № 7, шафёр. Займаўся дэзактывацыяй у «зоне».**

— Вас вінавацяць у радыефобіі,— працягваем мы гаворку,— што вы на гэта скажаце?

— Правільна, калі мы ішлі на рэактар, мы не баяліся,— адказвае Аляксандраў.— Працавалі там цэлымі днямі, гэта было нармальна. А цяпер у нас радыефобія... Тое, чаго мы нахапаліся, гэтага ўжо не выганіш. Гэта ўсё застаецца ў касцях.

— Але ж для вас прадугледжаны пэўныя льготы?

Аляксандраў: — Асаблівых ільгот не было... Вось наконт акладаў... У трэцяй зоне — гэта значыць работа на самой АЭС — мы атрымлівалі трайны аклад і болей... Ды не ў грашах у рэшце рэшт справа! Вось што было адказваць людзям на пытанне, чаму нам плацілі надбаўку толькі за восем гадзін у суткі. Мы жылі ў зоне пастаянна, мы ж нікуды не выязджалі — цэлымі суткамі ў экстрэмальных умовах! Гэта ж не тое, што вахтавы метад...

У гаворку ўключаецца Кандаураў:

— Мы працавалі без выхадных. Без адпачынку, толькі адзінае, што нам заставалася на адпачынак,— ноч, адбой — пасля вячэрняй паверкі, пасля рытуальнага маршу перад пустымі трыбунамі. А ногі ад стомы, бывае, не цягнеш... Памятаю, ужо на другім тыдні многія пачалі здаваць. Ахрыплі ўсе. Хто там быў, усе прайшлі цераз гэта...

— Мінералку трэба было піць,— падказвае Аляксандраў.

— Калі мы ехалі дамоў,— працягвае маналог Кандаураў,— нам выдалі — не ўсім — вось такія карткі. Бачыце, прозвішча, воінскае званне і асобнай графой — колькі рэнтген «злавіў» у перыяд знаходжання на ЧАЭС. У мяне запісана, што за час знаходжання ў Чарнобылі набраў восем цэлых і 258 тысячных рэнтгена.

— Гэта дакладная лічба?

Кандаураў: — Думаю, што не... Я нават упэўнены. Таму што, знаходзячыся побач з АЭС, перад тым, як нас прывезлі, там уборачку рабілі... Збілі фон. А праз тыдзень адбыўся выкід, і ўсё, лічы, прапала дарэмна... Па новай трэба было рабіць. Так што і самым першым, і нам хапіла па завязачку...

Аляксандраў: — Не думайце, што мы толькі за льготамі туды паехалі. Не за льготамі. Мяне яшчэ на свеце не было, калі быў выбух у Хірасіме і Нагасакі, на Сяміпалацінскім палігоне я ўжо непасрэдна сутыкнуўся... А тут — мірны час — 86 год. На табе перад Першым маем падарунак краіне! Ды калі б не я, то хто пайшоў бы туды? Мне, як грамадзяніну і афіцэру, сумленне не дазволіла...

Кандаураў: — Штосьці падобнае і ў мяне было. Як студэнт я мог не паехаць. Пачалі мы з хлопцамі гаварыць, я і кажу ім: «Бідаць, не паеду». Яны кажуць: «Э-э, таварыш, ты чаго гэта?..» Ну, па нашаму, па шафёрскаму лексікону гэта як бы заказліў ты... Я пасля гэтага падумаў: чаму яны павінны ехаць, а я заставацца?.. Мне асабіста нічога не трэба было. Кватэра ў мяне трохпакаёвая, машына ёсць... Наконт зарплаты я не скардзіўся. У мяне 350 сярэдняя...

Аляксандраў: — Пры адпраўцы казалі: «Паможам усім! Хлопцы, толь-

кі трэба... Трэба, трэба, трэба... З усімі просьбамі звяртайцеся да нас. І ў ваенкамат, і ўсюды — звяртайцеся». А калі адтуль мы прыехалі — ужо ўсё! Тут яны рукамі разводзяць: ды хто вам даваў такія абяцанні? Ды вы што? Вось так во стаім, адзін аднаму ў вочы глядзім: ды ты што, гаворыць, я ніколі такія абяцанні не даваў...

— Гэта хто — улады?

— Не, ваенныя людзі. Іх цяпер няма ў Новасібірску... Мы з Савецкай уладаю ўвогуле не сутыкаліся, таму што мы — ваенныя людзі. Я рабочы, прыйшоў з трэцяй змены, мяне ўжо чакаюць...

— Які ж вы ваенны? — не зусім карэктна перабіваем мы.

— А як жа? Мы ж увесь час знаходзімся ў запасе. Нас у любы момант падымі — мы падняліся і паехалі. Загад — і ўсё...

Кандаураў: — Нас ваенкамат не пытаецца. Тым больш, я вадзіцель. Нас увогуле не пытаюцца: трэба на ўборку — на ўборку паедзеш. Трэба на зборы — на зборы паедзеш.

Аляксандраў: — У мяне толькі дзіця нарадзілася — я на зборах быў. Я прасіўся, каб мне далі адтэрміноўку якую — не, нельга.

Запытанне: — Была пастанова ўрада аб ільготах чарнобыльцам? Скажам, вы звяртаецеся ў кватэрны аддзел, і вас ставяць на асобную чаргу...

Аляксандраў: — Так, была пастанова Савета Міністраў СССР № 147 ад 26 чэрвеня. У ёй запісана: «усяляк садзейнічаць паляпшэнню жыллёвых умоў». Але калі б было сказана: жыллё даваць, як афганцам... А «садзейнічаць» можна ўсяляк, можна гадамі садзейнічаць, пакуль на Кляшчыху не завязуць.

— У вас як склалася?

Аляксандраў: — У мяне дагэтуль няма кватэры.

Кандаураў: — З ім наогул цікавы выпадак адбыўся, яго сутыкнулі з афганцам. Выдалі Юрыю ордэр, ён рэчы свае перанёс. Так атрымалася, што ордэр на тую ж самую кватэру выдалі і афганцу... Разбірайцеся цяпер... Падалі ў суд. А суд можа вырашыць так: у афганца льготы пэўныя, а ў нас...

Аляксандраў: — А ў нас ільготы былі такія: калі ласка, ты можаш дабравольцам ехаць у Чарнобыль. Гэта льгота была. А вось калі ты вярнуўся адтуль, а тым больш, калі захварэў і хварэеш не першы год, тут на цябе ўжо глядзяць так: ты, таварыш, хварэеш, давай-ка лепей па асабістаму жаданню!.. Звальняйся, пакуль яшчэ не позна. Пакуль мы цябе не выгналі, ты па асабістаму жаданню лепш ідзі. Такія вось ільготы засталіся...

— У гэтым годзе ў бальніцу трапілі?

Аляксандраў: — У гэтым годзе ў бальніцы ўжо другі раз. А на бальнічным, мабыць, разоў пяць ці шэсць.

— А калі вы адчулі пагаршэнне?

— У 87-м годзе.

— Як гэта пачалося?

— Спачатку забалелі суставы, суставы ног... Пальцы забалелі, потым галенастоп, калені... Потым рукі здаваць сталі... Галаўныя болі паявіліся адразу ж пасля АЭС. Да АЭС не было галаўных боляў. Цяпер, канечне, многае разумееш... Аднойчы за адзін дзень я «злавіў» адразу 19,820 рэнтгена, пераабпраменіўся, што называецца... На другі дзень якраз правяралі кроў — 2 тысячы лейкацытаў. У мяне работы было шмат, калі 2—3 гадзіны ў суткі паспаў, то добра. Не месяц, не два, а тры з паловаю круціўся ў гэтай кашы... Пасля Чарнобыля ў верасні месяцы мы да брата паехалі ў Наваі. А брат мой мае чорны пояс па каратэ. Ён на мяне: ты чаго такі вялы? Ты





варушыся... А як варушыцца? Раней для мяне 190 кілаграмаў было не ў цяжар падняць — займаўся цяжкай атлетыкай. А тут не магу асіліць гіру двухпудовую. Рукі пачалі выпадаць, пачало хрусцець усё... Далей — болей. У мінулым годзе ляжаў тут. Каб размінаць суставы, я бегаў у падвал, памагаў... І вось медыцынская сястра кажа: пойдзем, дапаможаш вядро прынесці. Двума рукамі тое вядро абхапіў і... Ты што, гаворыць, такі мужык быў, вядро падняць не можаш! Не магу! А што я — худы, на выгляд бледны? На 27 кілаграмаў пасля Чарнобыля паправіўся.

Кандаураў: — Пасля Чарнобыля ўсе папраўляюцца. Я таксама паправіўся.

Пытанне: — Як да вас ставяцца ў калектывах?

Аляксандраў: — Гэта гледзячы які калектыў. Некаторыя, як і раней, лічаць, што мы ехалі туды за грашыма. У асноўным так і думаюць: калі мы былі там — то рваліся толькі за грашыма, урваць сабе кавалак. Я ведаю такіх людзей, якіх з работы звольнілі толькі за тое, што яны хварэюць. Вось ён месяц хварэе, два хварэе... І яго раз — звальняюць.

— За хваробу?

Аляксандраў: — Канечне, за хваробу. Потым ён бярэ плакат і ідзе да гарвыканкома, садзіцца і аб'яўляе галадоўку. Падыходзяць двое, забіраюць яго: ты чаго бастуеш? Чаму аб'яўляеш галадоўку? А ён гаворыць: а я — ніхто! Я — ніхто!..

— Але ж яго не за хваробу звольнілі?

Аляксандраў: — Прычыну можна знайсці любую.

Кандаураў: — Вось у нас ёсць таварыш — пастаянна хварэе пасля Чарнобыля. Лечаць яго. Ён быў у Омску, у інстытуце, по блату яго туды праштурхнулі. Пабываў... Сустрэў я яго, ён адпачыў там месяц. Пахваліўся: быццам адчуваю сябе някепска, усё нармальна. Праз тыдзень сустракаю, ён зноў кульгае. Я кажу: што такое? Махае рукою: зноў... Карацей, таго лячэння хапіла на тыдзень. Ён кажа: у мяне ўсе рукі сколатыя, кроў бралі, калолі...

Аляксандраў: — Сабралі нашых жонак. Гэта ж трэба было бачыць, як яны плакалі. Бо адпраўлялі ў Чарнобыль здаровых мужыкоў. Калі выступала Клаўдзія Васільеўна з гарадскога аддзела аховы здароўя, яна казала: а, такія-сякія, вы самі не хочаце... А жанчыны кажуць: як не хочам? Мы адпраўлялі туды каго? А цяпер хто прыехаў?.. Тады ж жанчыны спыталі, ці ёсць памерлыя сярод чарнобыльцаў? Сказалі: адзін чалавек памёр ад хранічнага алкагалізму. Ну, тут бабы закрычалі: ды што вы кажаце, мужыкі чаркі не могуць выпіць! Калі чарку выпіў, у яго галава расколваецца. А вы пра алкагалізм гаворыце! Як вам не сорамна?! Вось, калі ласка — трэба было бачыць сваімі вачыма гэтых жанчын.

Кандаураў: — Падыходзіла да нас маладая жанчына, у яе малады муж, у Чарнобылі пабываў. Плача, плача і гаворыць: ай, мабыць, ужо ніколі дзяцей у нас з мужам не будзе!.. Чулі мы ўжо не раз пра такое...

Аляксандраў: — Быў такі загад — пасылаць у Чарнобыль людзей да 45 гадоў і каб абавязкова двое дзяцей было. Такі клопат быў... А нам цяпер на працягу пяці гадоў не дазваляецца мець дзяцей. Але што будзе пасля пяці гадоў? Якія дзеці, калі яны будуць?

Кандаураў: — А ў нас адзін малады хлопец вярнуўся з Чарнобыля, нарадзілася ў яго сям'і дзяўчынка... Ён ходзіць па чэргах, атрымліваючы дзіцячае харчаванне. І ўвесь час яму ставяць нейкія перашкоды. І ён гаворыць: мне крыўдна, крыўдна! Гэта дзяўчынка нарадзілася ад чарнобыльца — хоць бы за ёю які догляд быў, медыцынскаеназіранне... Нічога не ро-

 

біцца. Ну што ж гэта за наша Савецкая ўлада, яй-богу?! (Уздыхае.) Такія справы...

Аляксандраў: — У нас, я ведаю, трое дзяцей нарадзілася пасля Чарнобыля...

14 верасня 1989 года, в. Грыдні Нараўлянскага раёна.

У гэты дзень разам са здымачнай групаю «Тэлефільма» мы наважыліся пабываць у адной з адселеных вёсак, дзе жылі самасёлы. Якраз такою і была вёска Грыдні, якая знаходзіцца недзе ў шасці кіламетрах ад Нароўлі. На той час, як вядома, Нароўля адсяленню не падлягала.

Каб не глытаць пыл за самазвалам, які каціў наперадзе нашай машыны, вадзіцель звярнуў на дарогу, што пятляла сярод лугавіны і вяла напрасткі да вёскі. Хутка наш «уазік» забуксаваў у лужыне, што хавалася ў траве. Давялося выйсці з машыны, агледзецца.

З сабою ў нас меўся прыбор для замеру радыеактыўнасці — ДРГ-01 Т. Уключылі. Прыбор адразу ж расшчодрыўся на ўсе тры дзяленні — 0,156 мілірэнтгена ў гадзіну. Гэта амаль у восем разоў вышэй натуральнага фону. Першае жаданне — ускочыць у машыну, там надзейней.

Пакуль шафёр прымяраўся, як пераадолець тую лужыну, мы пешкі рушылі да крайняй хаты. У двары хтосьці поркаўся.

За намі сачылі і, па ўсяму бачна, рабілі прыкідку: што мы за людзі, з чым прыехалі?.. Здаецца, за начальства нас не палічылі.

Дзве кабеты — адна старая, другая маладзейшая, абедзве пенсійнага ўзросту — ветліва паздароўкаліся, запрасілі зайсці ў хату.

Мы зноўку ўключылі прыбор.

— Е? — сцішана запыталася маладзейшая, пазіраючы на прыбор.— Мусіць, не... Нядаўна во яйкі здавала ў краму, дык казалі, што няма...

На дарожцы да ганка прыбор паказаў 0,137.

Што сказаць людзям, якія чакалі ад нас зусім іншага?

— Дык можна жыць? — па-свойму расцаніла наша маўчанне жанчына.— Дзе яна, тая радзіяцыя, каб ліха на яе?!

— Е, радыяцыя, цётачка. Прыбор рэгіструе. Можа, доза гэтая і невялікая. Але ніхто дакладна не ведае — ні вучоныя, ні ўрачы,— як яна ўздзейнічае на наша здароўе. Таму і мы вам нічога не можам сказаць, ці можна тут жыць...

— О, то разумныя людзі прыехалі! Паслухайце, што кажуць! — абрадаваная жанчына звярнулася да суседак, якія падышлі тым часам, як толькі зразумелі, што мы прыехалі не за тым, каб агітаваць за іх высяленне з вёскі.— А замерайце ў хаце. Пэўна ж, нічога няма...

У хаце фон быў павышаны, але ў тры разы ніжэйшы, чым на вуліцы.

— Во і добра! Можна жыць, можна! — даверліва заглядала ў вочы гаспадыня хаты. Прынесла кошык свежапамытых антонавак, таксама папрасіла змераць яе, радыяцыю.— Яблыкі ў нас прымаюць на сок.

Прызнацца, нас разанула не тое, што яблыкі прымаюць на сок, не... Кожнага пранцяла адна і тая ж думка: чаму ніводная з жанчын не прапанавала нам яблыка пакаштаваць? Калі ж такое магло здарыцца на Беларусі? Паявілася пачуццё, што мы дамовіліся моўчкі, не падаючы выгляду, гуляць у нейкую гульню. ...Быццам нічога нідзе не здарылася, толькі вось яблыкамі частаваць нельга.

Як толькі пачалі распакоўваць кінакамеру, аднекуль як з-пад зямлі паявіліся хлопцы гадоў дванаццаці. Па-вясковаму расхрыстаныя, без шапак,— мо ад рэчкі прыбеглі ці з лесу?.. Як колісь яны, пэўна, хацелі адчуваць сябе тут гаспадарамі, уладарамі вёскі. Але і яны, гэтак жа, як і дарослыя, спачатку насцярожана цікавалі за намі з вуліцы, баяліся падысці бліжэй. У кожнага з нас сціснула ў грудзях. Мо нам трэба было штосьці сказаць, папярэдзіць? Ды толькі няўжо яны не чулі такіх жа слоў да нашага прыезду?



А якой парады чакае ад нас паляшук, што сядзіць на прызбе самотнай хаты? Калі падышлі да яго, ён сам апярэдзіў нас: пачаў радасна расказваць пра кошык, які пляце, якія харошыя дубцы нарэзаў на поплаве. Аказалася — ён яшчэ і кароў тут пасе... Потым падхапіўся, павёў нас у зацемненыя сенцы, дзе на століку ляжалі сабраныя ім раніцаю грыбы. Грыбы, трэба прызнацца, на выгляд былі шыкоўныя, такія рэдка дзе ўбачыш.

— Гэта во — масլякі... А то — белыя, прыгажуны, праўда? Прайдзіце ў хату, прайдзіце!..— дабрыня струменілася ад старога, гадоў васьмідзесяці, чалавека. У хаце пасля спякоты было добра, ціха. Толькі вось, па ўсяму відно, у ёй ужо з месяц як ніхто не мыў падлогі — нейкім запусценнем дыхала ўсё...

— З кім вы жывеце тут, дзядуля?

— А во — з катом! — усміхнуўся ён.— З катом удвух засталіся...

Тым часам замералі грыбы... Маслякі паказвалі 0,108 мілірэнтгена ў гадзіну, белыя — 0,087.

...Да нас падыходзілі новыя самасёлы.

— А колькі вас тут усяго? — запыталіся мы.

— Дваццаць восем.

— Усе мясцовыя?

— Усе, усе мясцовыя... І вайну тут перажылі, і дзяцей выгадавалі.

— А выселілі вас калі?

— Дванаццатага верасня нас вывезлі адсюль. Чарнобыль калі здарыўся — у красавіку, так? Вось з красавіка па дванаццатае верасня мы жылі тут...

— За адзін дзень усіх вывезлі?

— Не, не ў адзін... Хіба ў адзін дзень такое сяло, як наша, перасяліш — у нас жа сто пяцьдзесят хат тады було...

— І куды вас перасялілі?

— А каго куды... У Нароўлю пераехалі. А нас астальных — у Ельскі раён.

— І што вам там не спадабалася?

— Не спадабалася... а дзе ж будзе лучча, як дома?

— Вам там кватэру далі? — спыталі ў нашай гаспадыні.

— Спачатку пасялілі ў маленькую хатку. Цераз год выдзелілі новы домік. Харошы домік.

— А вы вярнуліся сюды...

— А чаго я там, старая, буду? У мяне яшчэ маці — ёй 94 гады, мы з ёй і вярнуліся... Тамака яшчэ паравое самому трэба паліць. Яго век не паліла... А як у сваю хату вярнулася, запалю грубу — што яшчэ трэба!

— А маладзейшыя засталіся ў новым пасёлку?

— Яны, думаеце, чаму не вяртаюцца назад? Баяцца, што нас павыганяюць адсюль, таму і не едуць. Калі мы тут зачэпімся, дык і маладыя вернуцца...

— А хаты дазваляюць прадаваць?

— А хто ж іх будзе купляць? На чорта яны каму, такія хаты! Іх ніхто не купляе і ніхто не прадае.



 

— Дык вы ўсё, што расце ў агародзе, ясцё і яблыкі збіраеце, толькі шчыра скажыце?

— Канечне... Сваё толькі. А па чужых я не хаджу, божа барані! І многія нашы прыязджаюць, а як жа. І соткі тут свае пазасявалі. Дарма, што яны ў Нароўлі ці дзе — усё сваё адсюль бяруць...

— А што начальства вам кажа?

— А што начальства нам кажа? Анічога не кажа...

— А хлеб дзе вы купляеце?

— Нам возіць аўталаўка.

— Прыязджае сюды?

— Два разы ў тыдзень, у суботу і ў аўторак, возяць хлеб, малако і ўсё іншае, што трэба...

— І электрычнасць е на вёсцы?

— Е і электрычнасць. Плацім за свет і за радзіво. Мы заплацілі б за цэлы год наперад, каб толькі не выселілі нас...

— І вы тут жывяце? — пытаемся ў самай маладой жанчыны.

— У Нароўлі пакуль. Вось адрамантую сваю хату і пераеду ў Грыдні.

— Дык вы, пэўна, прыехалі здымаць забастоўку ў Нароўлі? — раптам пацікавіўся дзядзька з суседняй хаты.— Што яны хочуць, тыя забастоўшчыкі? Ім толькі людзей ускаламуціць! Адсяленне ім трэба? А мы не хочам! Мы ўжо паездзілі па свеце — хопіць!

— А як жа радыяцыя?

— Дзе яе няма? Хай хоць у Кракаў нас павязуць, дык колькі ўжо таго жыцця? Позна нас ратаваць, старыя мы. Ды і што пераязджаць у той жа Ельскі раён — там такая ж радзіяцыя, а мо і болей. Таксама малако не пі, ягады, грыбы не збірай... Дык якая розніца? На зімку сюды многія вернуцца, вось пабачыце. Чаго яны будуць па свеце матляцца?

— Гэтым перасяленнем колькі здароўя ў нас адабралі! — горача азвалася жанчына.— Хай бы ўжо адразу ўвесь калхоз выселілі. А то Вербавічы тут засталіся — во суседняя вёска, а нас выкарчавалі... Парабіліся людзі пасля гэтага перасялення як шалёныя, нервныя... Гэта ж скажы каму, чалавек астаўся там, а жонка сюды вярнулася...

— Ваш чалавек?

— Мой, а то чый жа... пакінуў мяне...

— З-за радыяцыі?

— З-за радзіяцыі, выходзіць, прападзі яна пропадам! Адзін перасяляецца, другі не перасяляецца. Той баіцца радзіяцыі, а той не. Чым ужо так жыць... Але ўсё роўна мы нікуды не паедзем! Пішыце, здымайце так, каб усё добра было, каб нас не выганялі толькі адсюль...

У той жа дзень у Нароўлі на цэнтральнай плошчы перад будынкамі райкома партыі і райвыканкома сабраліся сотні гараджан — вадзіцелі аўталалон (ніводны аўтобус, ні адна машына, аказваецца, сёння не выйшлі ў рэйс), рабочыя і служачыя завода гідраапаратуры, ПМК, «Сельгасхіміі»...

Людскі паток усё цячэ на плошчу па адной з свабодных вуліц: астатнія перакрыты міліцыяй (і адкуль яе столькі ў Нароўлі?!).

Перад гэтым мясцовыя ўлады забаранілі правядзенне мітынгу-пратэсту супраць рашэння Урадавай камісіі, якая вынесла на сесію Вярхоўнага Савета БССР Праект Праграмы ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі на тэрыторыі рэспублікі без папярэдняга абмеркавання дакумента ў працоўных калектывах.

Няма сэнсу ў правядзенні мітынгу — расцанілі сітуацыю мясцовыя ўлады. У адказ — папераджальная забастоўка.






Чарнобыльскі мітынг у Мінску.

Сярод тых, хто сабраўся на плошчы, жанчыны, дзеці...

Стомленыя, зямлістыя твары... Любое пытанне-зварот да людзей — нібы на міннае поле ступіць...

— Тры гады ад нас хавалі праўду. Мы ўжо нікому не верым — ні уладам, ні ўрачам, ні іх прыборам. У адзін і той жа дзень хоць тры разы прыйдзі — усе тры вынікі скажуць па-рознаму... А часцей адказ адзін: усё ў нас нармальна!

— Прыборы такія...

— Ім далі загад: да гэтых лічбаў гаварыць, а вышэй — не!

— Хто абароніць нашых дзяцей?! Кожны дзень ідзе носам кроў... галава баліць, ірвоты... Як нам жыць?

— Аб чым гаварыць сёння, не маючы зацверджанай урадам праграмы? — спрабуе задаволіць усіх сваімі адказамі старшыня райвыканкома М. М. Маркоўскі.— Вось як толькі праграма будзе прынята, тады мы збяромся і абмяркуем яе з народам...

— Зноў пустыя абяцанкі! Нам Хусаінаў яшчэ абяцаў: праект будзе прадстаўлены на ўсенароднае абмеркаванне. Але мы яго так і не ўбачылі! Ніхто не жадае нас слухаць. Мы павінны самі рашаць свой лёс і лёс сваіх дзяцей!

— Чаму нас не высяляюць? За гэты час можна было арганізаваць будаўнічыя брыгады, выдзеліць нам месца на чыстых тэрыторыях, мы самі пабудуем горад. Што ў нас няма муляроў? Цесляроў ці зваршчыкаў няма? Ёсць! І сродкі ёсць, калі разумна гаспадарыць. Навошта набярэжную ў На-



**«Чарнобыльскі шлях-89».**
**Народны дэпутат СССР С. С. Шушкевіч з удзельнікамі мітынгу.**

роўлі распачалі будаваць? На гэтыя грошы, што ў пясок закапалі, можна было б палову Нароўлі выселіць і людзей уладкаваць на новым месцы!

— Адкажыце нам, хто аддаў загад збіраць па адселеных вёсках даільныя ўстаноўкі, трубы і перавозіць усё гэта заражанае ў чыстыя вёскі?

— Мы такі загад не давалі. Гэта самадзейнасць!

— А хто пасылае людзей у зону рабіць там нейкія копанкі?

— Вы ж разумееце, што ў зоне трэба мець вадасховішчы на выпадак пажараў. Калі загарыцца лес — помніце, як было ў Даўлядах,— і зноў падымецца радыяцыйнае воблака, паплыве на нас і далей... Людзі ведаюць, на што ідуць, усё робіцца па дамоўленасці. Гэта неабходна!

І зноў пытанні, пытанні... Колькі іх накапілася за апошні час!

— Не, вы скажыце, чаму за нас вырашае, дзе нам жыць, маскоўскі акадэмік Ільін і яго каманда, якія прыдумалі гэту лжывую версію ў 35 бэр, якая не праверана нідзе ў свеце? Мы што — падвопытныя?

— Я знаю адно,— прабіваецца голас Маркоўскага,— што з першага дня аварыі і па сённяшні дзень я жыву адным з вамі жыццём. Працаваў, як і вы, калі трэба было, па дванаццаць і васемнаццаць гадзін у суткі і рабіў усё, што мог. Іншага я вам сказаць не магу...

...Ужо якую гадзіну не разыходзіцца народ на плошчы. Над галовамі мітынгуючых — плакаты, транспаранты: «Выратуем беларускую нацыю!», «Хто адкажа за Чарнобыль?», «Беларусь сінявокая — дзе ты?»...

А ўнутры будынка, у кабінеце на другім паверсе, зашчыліўшыся ў кут, сядзіць, курчыцца ад нясцерпнага болю — разгулялася хворая печань — старшыня Нараўлянскага райвыканкома М. М. Маркоўскі.

У супрацьлеглым кутку — Мікалай Лапцеў, першы сакратар райкома партыі. На ягоным твары разгубленасць, калі не сказаць больш — адчай...

Чым яны могуць супакоіць людзей, душы якіх развярэджваліся трывогаю і хваробамі не дзень, не тыдзень, а — гады? І тут — у начальніцкім кабінеце — пакута, і там, за вокнамі, на цэнтральнай плошчы, таксама...

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

**Раздзел першы. 35-бэрная канцэпцыя.**

Недзе ў канцы 1988 года і на пачатку 1989 сітуацыя ў Беларусі, звязаная з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай аварыі, пачала ўскладняцца. Чаму?

На гэта было шмат прычын, сярод іх можам выдзеліць некаторыя. Прайшло больш двух гадоў пасля аварыі, тыя меры, якія прымаліся для паляпшэння жыцця пацярпелых, аказаліся не тое што недастатковымі, а, як мы ўжо прачыталі ў лістах, глыбока не прадуманымі канцэптуальна. Напрыклад, тая ж грандыёзная тэорыя дэзактывацыі забруджаных зямель, вёсак і пасёлкаў, на якую многія ўскладалі вялікія надзеі, на практыцы не атрымала пацвярджэння. У многіх вёсках і пасёлках дэзактывацыя звялася да замены стрэх і платоў, людзі як спажывалі, так і працягвалі спажываць прадукты, што вырошчваліся на забруджанай зямлі. Як паказала рэальная практыка, не надта хутка змяншалася радыеактыўнасць на забруджаных землях — тэарэтычныя распрацоўкі вучоных у гэтым выпадку разыходзіліся з практыкай.

Што б там ні гаварылі, але, на наш погляд, вялікую маральную шкоду нанеслі людзям так званыя «грабавыя»: насельніцтва суседніх вёсак аказалася падзеленым на чыстых і нячыстых, атрымліваючы «грабавыя», многія не разумелі, за што і чаму ім плацяць грошы, не разумелі таму, што людзям амаль што нічога не гаварылася ні пра ўзровень радыяцыі, ні пра вераготнасць радыеактыўнага забруджання як ад зямлі, так і ад прадуктаў. Адсюль — пачуццё разгубленасці, бязвер'я, а то — і паніка...







Высяленне, якое праводзілася, вялося часта непрадумана і хаатычна, многія, не вытрымаўшы неўладкаванасці на новых месцах, вярнуліся назад, у забруджаныя раёны, і пачалі там жыць. Паявіліся самасёлы. Як жыць гэтым людзям, на што ім спадзявацца?..

Увогуле, усіх хвалявала прынцыповае пытанне: як жыць на землях, якія забруджаны? Трэба было прымаць — і гэта разумелі як вучоныя, так і кіраўніцтва рэспублікі, краіны — сур'ёзную навукова абгрунтаваную доўгачасовую праграму дзеяння па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Якой павінна была быць гэта праграма, па якіх навуковых канцэпцыях яна павінна быць разлічана, калі ў сусветнай навуковай практыцы яшчэ не было падобнай аварыі?

Пытанні гэтыя вельмі і вельмі сур'ёзныя,— ад чыста, здавалася б, навуковага падыходу да гэтай праблемы залежаў лёс мільёнаў людзей.

І не толькі лёс пацярпелых. Калі ўжо разглядаць гэту праблему з чыста прагматычнага боку, то ад навуковай канцэпцыі бяспечнага пражывання на забруджаных землях залежалі і сродкі, якія дзяржава павінна была выдзеліць ні ў чым не вінаватым людзям.

Як гэта ўжо неаднойчы было ў гісторыі нашай шматпакутнай радзімы, і на гэты раз неверагодна складаная праблема хутка і ціха вырашылася за зачыненымі дзвярыма ведамасных інстытутаў і ўстаноў.

Сутнасць новай канцэпцыі бяспечнага пражывання на забруджаных тэрыторыях, на нашу думку, даволі ясна выказаў пад час гутаркі з карэспандэнтам «Медицинской газеты» дырэктар Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР акадэмік Л. А. Ільін. Гутарка гэта надрукавана ў вышэйпамянёнай газеце 23 красавіка 1989 года. Вось што сказаў акадэмік:

— Экалагічныя асаблівасці — медыка-біялагічныя аспекты аварыі на Чарнобыльскай АЭС вызначаюцца яе беспрэцэдэнтным характарам і велічынёю выкідаў радыеактыўных прадуктаў у знешняе асяроддзе... У знешняе асяроддзе трапілі многія дзесяткі мільёнаў кюры радыеактыўных рэчываў *. Пры гэтым побач з **двума залпавымі выкідамі** (выдзелена намі.— В. Г., А. Ч.) выцяканне высокарадыеактыўнага газааэразольнага струменя з агаленай актыўнай зоны працягвалася на працягу дзесяці сутак. Апроч гэтага адбылася сепарацыя асколачнай радыеактыўнасці ў бок яе абагачэння біялагічна значымымі радыеактыўнымі ізатопамі цэзію.

**Пытанне карэспандэнта: — Раскажыце, калі ласка, пра асаблівасці існуючай радыяцыйна-гігіенічнай абстаноўкі за межамі 30 кіламетровай зоны.**

---

* Паспрабуем хоць трошкі ды расшыфраваць гэтыя мільёны кюры радыеактыўнасці... Вось што гаворыцца ў матэрыялах выніковага даклада МКГЯБ «Аб нарадзе па разгляду прычын і вынікаў аварыі ў Чарнобылі»: «Савецкія эксперты падлічылі, што на станцыі было выкінута 100 % радыенуклідаў высакародных газаў. Выкід астатніх кандэнсуемых радыенуклідаў склаў прыкладна да $2 \cdot 10^{18}$ Бк, альбо каля 3—4 % агульнай колькасці радыенуклідаў у актыўнай зоне. Гэты выкід складаўся прыкладна з 10—20 % радыенуклідаў цэзію, ёду і тэлуру і каля 3—6 % іншых радыенуклідаў.

Выкід радыеактыўнасці з Чарнобыльскай АЭС не быў адзінкавым выкідам. Хутчэй за ўсё быў першы магутны выкід, які суправаджаўся разбуральнымі падзеямі аварыі. Магутнасць выкіду на працягу некалькіх наступных сутак зніжалася, дзякуючы прынятым мерам па ліквідацыі аварыі. Магутнасць выкіду складала каля $7 \cdot 10^{16}$ Бк/дзень ($2 \cdot 10^{6}$ Кі/дзень) праз пяць дзён пасля аварыі. З гэтага моманту магутнасць выкіду пачала ўзрастаць і дасягнула $3 \cdot 10^{17}$ Бк/дзень ($8 \cdot 10^{6}$ Кі/дзень) прыкладна праз дзевяць дзён

Адказ: — Выпадзенне радыеактыўных ападкаў адбылося на вялікіх тэрыторыях Еўрапейскай часткі СССР, уключаючы і трансгранічны перанос значнай колькасці радыенуклідаў. Забруджанасці радыенуклідамі ёду і цэзію падвяргаліся ў асноўным тэрыторыі Беларусі, Паўночнай Украіны і Цэнтральнага эканамічнага раёна РСФСР (больш паловы ад агульнай колькасці радыенуклідаў, што выпалі на тэрыторыю СССР).

...Агульная колькасць насельніцтва, што пражывае ў гэтых раёнах, складае каля 1,5 мільёна чалавек, у тым ліку каля 160 тысяч дзяцей ва ўзросце да 7 гадоў (на момант аварыі).

Радыяцыйная абстаноўка за межамі 30-кіламетровай зоны істотна ўскладнілася пасля дажджоў над некаторымі раёнамі ў арэале распаўсюджання радыеактыўнага воблака. На асобных тэрыторыях гэтых раёнаў адбылося фармаванне так званых «цэзіевых плямаў» з павышанымі шчыльнасцямі забруджання асколачнымі нуклідамі. Гэтыя «плямы» характарызуюцца значнымі нераўнамернасцямі размеркавання па плошчах, па ўзроўнях забруджання і, што асабліва важна, рэзка выражанай мазаічнай структурай нават у межах аднаго і таго ж населенага пункта і прылягаючай мясцовасці.

Далей акадэмік Ільін выказвае такую думку: мяжа пажыццёвай дозы абпраменьвання, якая ўводзіцца з 1 студзеня 1990 года, вызначана ў 35 бэр за 70 гадоў пасля аварыі. Тут жа Ільін заручаецца падтрымкаю калектыву: «Калегія Міністэрства аховы СССР пацвердзіла сваю пазіцыю аб немэтазгоднасці зняцця ў цяперашні час існуючых абмежаванняў (напрыклад, замены некаторых прадуктаў харчавання на прывазныя)...»

Калі мы правільна зразумелі таварыша Ільіна, то ў яго, як і ў работнікаў Міністэрства аховы здароўя СССР, такое меркаванне: тэрыторыя можа быць забруджаная, чыстыя прадукты на ёй атрымаць нельга, насельніцтва можа карыстацца толькі прывазнымі, і між тым яно павінна там жыць да таго часу, пакуль не атрымае 35 «паложаных па навуцы» бэр...

Як зразумець усё гэта?..

Дарэчы, у гэтым жа інтэрв'ю, здаецца, ці не ўпершыню, прыводзяцца факты, з якіх становіцца зразумела: шматпакутны беларускі народ больш за ўсіх пацярпеў ад аварыі. Згодна карты, надрукаванай у тым жа нумары «Медицинской газеты», у РСФСР забруджана 2000 кв. км, у УССР — 1000 кв. км, у Беларусі — 7000 кв. км. Семдзесят працэнтаў ад усёй чарнобыльскай бяды лягло на плечы нашага народа!..

Варта адразу ж падкрэсліць, што сутнасць праблемы не ў асабістай канцэпцыі акадэміка Ільіна, як гэта можа падацца на першы погляд. Думаецца нам, што тут усё нашмат складаней, проста акадэмік Ільін выказваў пазіцыю пэўнай групы людзей... Вось што піша старшыня Дзяржаўнага камітэта СССР па гідраметэаралогіі Ю. Ізраэль у газеце «Правда» ад 20 мая 1989 года ў вялікім артыкуле «Чарнобыль: мінулае і прагноз на будучае»:

— Скажу, што яшчэ ў маі 1986 года былі ўстаноўлены часовыя нормы па шчыльнасці забруджання глебы: па цэзію-137 — 7,0 (а затым 15), па стронцыю-90 — 3,0, па плутонію-239 і -240 — 0,1 Кі/км$^2$.

...У сувязі з гэтым Міністэрства аховы здароўя ў лістападзе 1988 года прыняло рашэнне аб устанаўленні прыжыццёвай дозы абпраменьвання насельніцтва раёнаў аварыі ў 35 бэр.

...Мабыць, трэба прытрымлівацца (калі ўзяць за аснову норму ў 35 рэнтген на працягу жыцця) у якасці бяспечнага нарматыву забруджанасці паверхні па цэзію-137 — 15 Кі/км$^2$, а пры ўмове правядзення актыўнай дэзактывацыі і інтэнсіўных аграмеліяратыўных работ (зніжаючых унутраную дозу ад харчовых прадуктаў да 4 разоў) доза 35 рэнтген будзе забяспечвацца на забруджаных тэрыторыях і да 40 Кі/км$^2$ па цэзію-137 (гэта залежыць і ад глебы), тут патрабуецца жорсткі геафізічны і медыцынскі кантроль і пры неабходнасці завоз чыстых прадуктаў, а пры забруджанасці 40 Кі/км$^2$ (гэта назіраецца ў асобных пунктах) побач з жорсткімі мерапрыемствамі тут не выключаецца магчымасць і адсялення людзей з асобных пунктаў, дзе ўзроўні радыяцыі асабліва вялікія. Напрыклад, у Беларусі 20 такіх сёл, дзе пражывае каля 3 тысяч чалавек. Тут патрабуецца абавязковае пастаяннае забеспячэнне насельніцтва чыстымі (завознымі) прадуктамі — асабліва малаком і мясам, толькі тады доза ў 35 бэр не перавысіць...

Дагэтуль тут ішлі па шляху забеспячэння гэтага насельніцтва (на тэрыторыях з забруджаннем вышэй 15 Кі/км$^2$) чыстым харчаваннем і дадатковай аплатаю. Менавіта гэты шлях быў выбраны на тэрыторыях Магілёўскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцей (і іншых) і атрыманы станоўчы вынік — асобы, якія выконвалі пералічаныя патрабаванні (а такіх была абсалютная большасць), не атрымалі доз, што перавышаюць дапушчальныя...

Вось што сказаў таварыш Ізраэль. Першае, што хочацца ўсклікнуць пасля прачытання артыкула: малайцы беларусы, пасля ўсяго, што абрынулася на іх галовы, яны і тут паказваюць прыклад усяму свету!..

Як жа на практыцы адбываецца забеспячэнне насельніцтва чыстымі прадуктамі, мы ўжо прачыталі ў лістах людзей. Узнікаюць і многія іншыя пытанні, іх, як кажуць, безліч. Напрыклад, дзе ж узяць тыя чыстыя прадукты, калі пастаўкі ў агульнасаюзны фонд, як мы ведаем, не зменшыліся? Куды дзяваліся забруджаныя прадукты? Што будуць рабіць людзі на забруджанай тэрыторыі?

Ёсць пытанне і чыста тэарэтычнага плану. Напрыклад, такое: як, па якіх навукова абгрунтаваных законах спачатку было прынята рашэнне аб максімальнай забруджанасці глебы па цэзію-137 у межах 7 Кі/км$^2$, затым, як толькі здарылася аварыя, гэта лічба павялічылася ў два разы? А ў прынцыпе, як мы даведваемся з артыкула Ізраэля, можна жыць прыпяваючы і там, дзе 40 Кі/км$^2$. Гэта значыць, можна жыць там, дзе максімальная забруджанасць вышэй дааварыйнай нормы аж у 6 разоў!..

Што ж гэта за навука такая!..

Паслухаем яшчэ аднаго навукоўца. Вось што сказаў 1 чэрвеня 1989 года ў Мінску ў Доме літаратара пад час сустрэчы з грамадскасцю тагачасны намеснік міністра аховы здароўя таварыш Бур'як, які некалі сцвярджаў у газеце, што «прадукт павінен вылежацца», і тады ў ім сама па сабе знікне радыяцыя *.

---

пасля пачатку аварыі. Затым адбылося зніжэнне выкідаў радыенуклідаў да $4 \cdot 10^{13}$ Бк/дзень ($1 \cdot 10^3$ Кі/дзень). З гэтага моманту магутнасць выкіду працягвала зніжацца».

Як выцякае з даклада, фактычна было не два, а тры выкіды... На пачатку нашай хронікі мы прыводзілі вытрымку з часопіса, дзе сцвярджаецца, што радыеактыўнае забруджанне пасля чарнобыльскай аварыі эквівалентнае больш чым 100 бомбам, якія былі скінуты на Хірасіму. Колькасць выкідаў вельмі прыблізная, яшчэ і сёння сярод вучоных вядуцца спрэчкі пра тое, што выкінулася 3 працэнты ад агульнай актыўнасці ў рэактары ці 30 працэнтаў.

А цяпер давайце зноў успомнім, чым у той час былі занятыя людзі, калі на іх галовы пасля залпавых выкідаў днём і ноччу сыпалася радыяцыя? Што ж ім **тады** гаварылі медыкі, вучоныя, партыйныя і савецкія дзеячы, якія павінны клапаціцца аб бяспецы народа? Хто ж усё-такі вінаваты, што **тады** амаль што не прымалася ніякіх элементарных мер бяспекі: не ведаючы аб смяротнай пагрозе для здароўя, людзі сеялі, палолі, загаралі, ішлі святочнымі калонамі ў дэманстрацыях?.. За што, за якія такія заслугі тагачасныя спецыялісты і кіраўнікі атрымалі неўзабаве павышэнні і адзін за адным перабраліся ў вышэйшыя кабінеты?

* Пытанні і адказы Бур'яка мы не рэдагавалі, усё гэта знята з магнітафоннай стужкі.

Пытанне: — Ёсць меркаванне медыкаў, што сёння ў людзей мяняецца формула крыві. Як спецыяліст, вы можаце сказаць, ці праўда гэта? Якое становішча ў нас і ў тых людзей, якія жывуць у забруджаных зонах?

Адказ: — На сённяшні дзень у нас няма дадзеных пра тое, што ў Мінску змянілася формула крыві ў дзяцей, дарослых і іншых груп насельніцтва. Хаця такіх даследаванняў вядзецца даволі шмат. Што датычыць Магілёўскай і Гомельскай абласцей, то там ёсць адна... яе нельга яшчэ назваць хваробай... Такі не вельмі добры стан крыві, можна так сказаць. У значнай большасці дзяцей Магілёўскай і Гомельскай абласцей, дзе ёсць большы радыяцыйны фон, колькасць дзяцей, якія маюць анемію, значна большая, чым у Мінску. Але спецыялісты лічаць, што тыя працэнты, якія ўплываюць на анемію, на самай справе павінны быць значна большымі ў сілу асаблівасцей і ўмоў, якія там ёсць. Напрыклад, на Украінскім Палессі 60—65 працэнтаў дзяцей маюць анемію. У нас пакуль 45 працэнтаў. Нам трэба яшчэ многа шукаць. Звязаць яе якім-небудзь чынам з радыяцыяй... Сёння вучоныя стаяць на тым, што такой сувязі няма.

Пытанне-рэпліка з залы: — Вы залішне спакойна гаворыце пра такія вялікія лічбы захворванняў дзяцей анеміяй. Мабыць, трэба гаварыць пра нацыянальную катастрофу. Якім будзе патомства пасля нас, каго мы пакінем? Няцяжка падлічыць прагрэсію захворванняў і той час, за які нацыя поўнасцю выродзіцца...

Адказ: — Я думаю, што вы не надта ўважліва слухалі мой адказ, або я недастаткова ўважліва сфармуляваў сваю думку. Справа ідзе вось пра што. Па-першае, той стан крыві, пра які я казаў, салідными медыкамі не ацэньваецца як хвароба *. Гэты фізіялагічны стан характэрны для тэрыторый, якія бедныя мікраэлементамі.

...Стан дзяцей у рэспубліцы далёкі ад добрага ўзроўню. Сёння ў нас 25 працэнтаў дзяцей у Мінску маюць хранічныя захворванні. Прыкладна гэткі ж узровень з невялікімі ваганнямі ва ўсёй Беларусі... **

Зноў агаворваемся: асабіста мы не выступаем ні за ні супроць канцэпцыі Ільіна, Ізраэля і той жа калегіі Міністэрства аховы здароўя — у далейшым яе звычайна называюць 35-бэрнай канцэпцыяй акадэміка Ільіна, хоць, як мы ўжо гаварылі, справа тут не ў пазіцыі акадэміка Ільіна. Магчыма, і сапраўды 35 пажыццёвых бэр для чалавека не так ужо і жахліва, але як

* Анемія—група захворванняў, якія характарызуюцца змяншэннем колькасці эрытрацытаў і (альбо) гемаглабіну ў крыві, што прыводзіць да гіпаксіі. Прычыны: змяншэнне крыві, павышанае кроваразбурэнне альбо парушэнне кроваўтварэння... Праяўленне анеміі: слабасць, галавакружэнне, адышка, сэрцабіенне, бледнасць скуры... (дадзеныя ўзяты намі з СЭС).

Калі анемію не лічыць за захворванне, то цікава, што ж тады можна лічыць хваробаю?

** Цяпер параўнаем выказванне Бур'яка з фактамі, якія прыводзяцца ў артыкуле «Радзецелі» і «панікёры», надрукаваным у газеце «Сельская жизнь» 20 чэрвеня 1989 года:

«Нядаўна адбылася сустрэча групы экспертаў, якую ўзначалілі намеснік старшыні Бюро Савета Міністраў СССР па паліва-энергетычнаму комплексу В. В. Мар'ін. Ад імя 10 беларускіх вучоных віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР А. В. Сцепаненка зачытаў дакумент, згодна якому захворваемасць дарослых у параўнанні з даварыйнай павялічылася ў Гомельскай вобласці ў 2,4—2,8 раза, Магілёўскай—1,8—2,1, дзіцячая ў той жа перыяд у раёнах Гомельскай вобласці вырасла ў 4,1—4,9 раза, Магілёўскай—у 3,5—4,1 раза. Адзначаны рост хранічных бранхітаў, ішэмічнай хваробы сэрца, раку, шчытападобнай залозы. Растуць захворванні цяжарных жанчын.

...Але чаму людзі павінны верыць не Сцепаненку, а Мар'іну альбо Ільіну? Па іх і іх калегаў рэкамендацыях у «зону» ўкладваліся агромністыя грошы. Напрыклад, толькі па Магілёўскай вобласці ў тэрыторыю, адкуль сёння трэба рабіць высяленне, укладзена ўжо больш 100 мільёнаў рублёў. Цяжка, канечне, сцвярджаць катэгарычна, але ці не лагічна будзе меркаваць, што сённяшнія запэўніванні і гарантыі—не больш чым спроба апраўдаць учарашнія памылкі».







на практыцы, у рэальным жыцці ажыццявіць гэтую 35-бэрную канцэпцыю? Ці рэальна гэта?

Але не будзем забягаць наперад: сёння, праз чатыры гады пасля сусветнай катастрофы, паспрабуем узнавіць па меры магчымасці тую праўду, якая з цяжкасцю даходзіла да народа. Напачатку паслухаем вучоных.

**Раздзел другі. Гутаркі з вучоным.**

Прывядзём магнітафонны запіс гутарак, зроблены з Я. П. Пятраевым. Чаму гэты чалавек зацікавіў нас? Яўген Пятровіч Пятраеў, доктар хімічных навук, прафесар, радыехімік. З 1954 года працаваў у Радыевым інстытуце імя В. Р. Хлопіна, а з 1986 года загадвае кафедрай радыяцыйнай хіміі ў Белдзяржуніверсітэце імя У. І. Леніна, віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза.

Я. П. Пятраеў — аўтар шэрагу кніг і больш пяцісот навуковых прац, у тым ліку звыш ста вынаходніцтваў. Пад яго кіраўніцтвам абаронена трыццаць дзве кандыдацкія і адна доктарская дысертацыі ў галіне радыяцыйнай хіміі.

З першых дзён аварыі на Чарнобыльскай АЭС ён арганізаваў лабараторыю радыехіміі, сотні аналізаў якой на ўтрыманне ў глебе стронцыю і плутонію ўвайшлі ў карты забруджаных тэрыторый Беларускай ССР. Неаднаразова па запрашэнню Урадавай камісіі выязджаў для работ у Чарнобыль, узнагароджаны граматамі Урадавай камісіі.

Член навукова-тэхнічнага савета і Камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі, член праўлення Радыялагічнага саюза, адзін з сааўтараў канцэпцыі беларускіх вучоных, у адпаведнасці з якой нельга пражываць там, дзе нельга атрымаць чыстую сельскагаспадарчую прадукцыю.

Упершыню ў Савецкім Саюзе паказаў прысутнасць «гарачых» часцінак у лёгкіх чалавека і патрабаваў уліку гэтага пры рашэнні пытання адсялення людзей з забруджаных раёнаў.

Неаднаразова публічна выступаў па пытаннях чарнобыльскай трагедыі па тэлебачанні, радыё, у прэсе. Як віцэ-прэзідэнт БЭС арганізоўваў грамадскія мітынгі і прэс-канферэнцыі.

Першая гутарка з Яўгенам Пятровічам адбылася 27 красавіка 1989 года.

Яўген Пятровіч: — Я — прафесіянал. З радыеактыўнасцю працую сорак гадоў. У свой час закончыў Ленінградскі дзяржаўны універсітэт. Нас рыхтавалі для атамнай прамысловасці... Так што мне, як прафесіяналу, многае вядома, як кажуць, з першакрыніц. Скажам, пра тую ж аварыю ў Чалябінску многія даведаліся толькі цяпер, а я працаваў там...

Пытанне: — Там фактычна рвануў могільнік, так?

— Там... было вадкае сховішча ядзерных адыходаў... пайшоў радыёліз * вады. Атрымалася грымучая сумесь. Уключылі вентыляцыю — адбыўся выбух. Даволі простая сітуацыя... Такія аварыі, на жаль, не рэдкасць. Чарнобыль, канечне, ні ў якое параўнанне не ідзе... Хаця даведаўся пра гэту аварыю, скажу адкрыта, толькі 29 красавіка. Бо я не маю адносін да ядзернай энергетыкі, працую ва універсітэце... А 29-га мне паведамілі...

— Гэта — у панядзелак?

— Так. Мы якраз сустрэліся з віцэ-прэзідэнтам АН БССР Белым. І вось Уладзімір Аляксеевіч мяне пытае, што рабіць, якія будуць рэкамендацыі. Я кажу: у мяне адна рэкамендацыя — у Гомельскай вобласці пабудаваць

* Радыёліз—наведзеная радыяцыя вады.



Сляды «гарачых» часцінак, выяўленых у лёгкіх чалавека (×4).

«Гарачая» часцінка. Мікрафатаграфія (×1000).





След «гарачай» часцінкі (×6). Радыеграфія.

завод калючага дроту... Я тады гаварыў тое, да чаго мы сёння прыходзім. А ў Бараўлянах — пачаць закладку новых карпусоў бальніцы па лячэнню анкалагічных захворванняў... Можа, гэта выглядае і песімістычна, але, паверце, адпавядае той рэальнасці, у якой мы апынуліся. Усе размовы аб тым, што можна дэзактываваць забруджаныя радыенуклідамі тэрыторыі, што можна неяк атрымліваць чыстыя прадукты — малако, мяса, гародніну — усё гэта марныя турботы. Адзіны варыянт разумнага выйсця з гэтага становішча, і дарэчы, пацверджаны эксперыментальнымі данымі,—гэта выселіць усё насельніцтва з тых тэрыторый, дзе забруджанасць складае болей пятнаццаці кюры на квадратны кіламетр. З зоны так званага жорсткага кантролю. І рабіць гэта трэба неадкладна! Тая зямля павінна быць агароджана калючым дротам, на ёй — пасаджаны лес...

— Апошнім часам сёе-тое робіцца...

— Ага, як кажуць: паступова, паэтапна, па меры ўдакладнення абставін... Дык як жа можна паступова, паэтапна, калі тыя абставіны нам былі вядомы ўжо восенню 1986 года?

— Тады была ўжо дакладная карта забруджанасці тэрыторыі рэспублікі?

— Абсалютна! Усё было вядома. І навошта адкладваць адсяленне людзей да 89-га? Навошта адкладваць да 91-га? Альбо вы скажыце тады народу праўду...

— Хіба што праводзіцца эксперымент?

— Гэта не эксперымент, а дурасць самая звычайная, недавер людзям... Паўтараю, трэба было сказаць адкрыта, сумленна, што не па сілах сёння

ўзяць і адразу ўсіх адсяліць ударным парадкам. Тым больш, што час ёсць. Можна год які пажыць на месцы. Але, паўтараю, пачынаць адсяленне трэба было ў першы пасля аварыі год. Трэба было скласці праграму, мець дакладны план дзеянняў. Але і цяпер ніхто толкам не ведае, як яно ўсё будзе праводзіцца, наогул, ці адселяць. Ільін сюды прыехаў і спяваў нам, што вось у гэтай зоне можна жыць семдзесят гадоў і атрымаць толькі 35 бэр, што зусім, маўляў, бяспечна... Але хто гэта калі і дзе праверыў? Як можна раіць людзям жыць там, дзе немагчыма атрымаць чыстую сельскагаспадарчую прадукцыю, нельга спажываць тое, што расце ў лесе, полі?

— Прабачце, а што тады такое гэтыя суцяшальныя 35 бэр?

— Вось менавіта суцяшальныя. 35 бэр — гэта зусім умоўная велічыня знешняга і ўнутранага абпраменьвання чалавека. Ніколі і нікім не правераная. Ёсць меркаванне, што гэта завышаная доза, моцна завышаная. Пры гэтым, паўтараю, яна не мае ніякіх навуковых абгрунтаванняў.

— А па лініі МАГАТЭ ёсць адпаведныя нормы?

— Ёсць 41-я рэкамендацыя Міжнароднай камісіі па радыяцыйнай ахове, дзе гаворыцца, што першы год пасля аварыі можна атрымаць шэсць бэр. Затое ўсе наступныя гады — не больш адной дзесятай. У суме за 70 гадоў гэта павінна скласці недзе трынаццаць — пятнаццаць бэр. А рэкамендацыя акадэміка Ільіна «дазваляе» атрымліваць паўбэра ў год, альбо 35 бэр за 70 год жыцця. Больш таго, прадстаўнікі атамнага лобі лічаць, што можна дапусціць і сто бэр.

— А ці ёсць такая методыка, згодна якой мы можам дакладна падлічыць, колькі на сённяшні дзень чалавек атрымаў бэр? Трэба ж, пэўна, улічваць і тое, што калі чалавек жыве на забруджанай мясцовасці і карыстаецца забруджанай ежаю, то часткова ў яго будзе накаплівацца радыяцыя, але ж яна будзе і часткова выводзіцца...

— Так, падлічыць можна толькі прыблізна. Наколькі гэта будзе дакладна — невядома. Ёсць некалькі спосабаў. Адзін з іх заснаваны на тым, што нам вядома, колькі ўсяго тых ці іншых нуклідаў можа «прыняць» арганізм чалавека. Што звыш таго — выводзіцца. Аналізы даюць пра тое ўяўленне. Вызначыць дозу паглынутай радыяцыі можна з дапамогай апарата ЛІЧ * — лічыльніка імпульсаў чалавека. Замяраецца ўтрыманне цэзію.

— Але ж гэта толькі па цэзію, а па іншых радыенуклідах?

— Па іншых — ніякай яснасці няма. Напрыклад, той жа стронцый некантралюемы. Аналізы даюць нейкае ўяўленне, але дакладнасць разлікаў невысокая... А трэба ж улічваць яшчэ і знешняе абпраменьванне...

Між іншым ёсць яшчэ адзін падыход да праблемы. Прадугледжваецца пэўная залежнасць колькасці храмасомных аберацый ** ад паглынутай радыяцыі. Па эфекту абпраменьвання можна вызначыць, колькі чалавек набраў.

— Але ўсё гэта, мабыць, пакуль што навуковая праблема...

— Навуковая, канечне, але ў прынцыпе замеры такім спосабам можна весці, іншае пытанне — з якой дакладнасцю.

— Значыць, так званая 35-бэрная канцэпцыя і з гэтага пункту гледжання, калі можна так сказаць, слаба забяспечана. Як наогул яна тады ўзнікла?

* Па-руску ў літаратуры лічыльнікі імпульсаў чалавека называюць звычайна СІЧы.

** Аберацыі храмасомныя, структурныя змены храмасом, суправаджаюцца разрывам храмасом, за якімі звычайна ідуць злучэнні разарваных канцоў у новых спалучэннях. Пры храмасомных аберацыях назіраюцца пераразмеркаванне альбо страта часткі геннага матэрыялу клетак (СЭС).







— Тут робіцца проста... Узяць тую ж Магілёўскую вобласць. Акрамя цэзію там іншай забруджанасці няма. Няхай так. Значыць, вы некалькі дзесяткаў тысяч чалавек заганяеце на ЛІЧы, атрымліваеце нейкія велічыні па ўтрыманню цэзію. Затым вы іх прыводзіце да сярэднеарыфметычнага значэння і кажаце: у вас у сярэднім людзі атрымалі столькі і столькі... Потым разлічваецца знешняе абпраменьванне, бо мы ведаем, якая была інтэнсіўнасць яго на тэрыторыі рэспублікі ў кожным канкрэтным месцы. Перамнажаем на гады жыцця... Атрымліваецца нейкая сярэдняя велічыня. Пра дакладнасць яе мы ўжо казалі...

— Значыць, няма апрабаванай методыкі, няма належных надзейных прыбораў, асабліва тых, якія дазваляюць наладзіць дзейсны і даступны кантроль за якасцю прадуктаў харчавання...

— Скажу проста: да верасня, нават да кастрычніка 1986 года ў нас практычна не было аніводнага дазіметрычнага прыбора, які б, як кажуць, на ўсе сто адпавядаў патрэбнасцям. Не кажучы ўжо пра такія, якімі можна было б кантраляваць вытворчасць малака, мяса, іншых прадуктаў... І ў Мінску, і ва ўсёй Беларусі ніхто не кантраляваў... А ўсе тыя прыборы, што меліся ў ГА, практычна не працавалі. Так званы прыбор УДП-5, які меўся на ўзбраенні, фактычна неадчувальны да цэзіевага абпраменьвання. Таму карысці ад яго ніякай.

Але гэтым я не хачу сказаць, што ў Беларусі нічога не рабілася, каб папрaвіць становішча. Тут трэба аддаць належнае вучоным і спецыялістам Акадэміі навук БССР, Міністэрству вышэйшай адукацыі рэспублікі. У кароткі час было зроблена каля шасцідзесяці простых спектрометраў на цэзій, якімі кантралявалі прадукцыю. Але факт ёсць факт: у 86-м годзе і, лічы, да сярэдзіны 87 года надзейных прыбораў у нас не было. Вось і ў нашай універсітэцкай лабараторыі апаратуры практычна не было ніякай... У мяне такое ўражанне: усе грошы, усе сродкі ішлі ў той час на Украіну. Дарэчы, і ўсе дазіметрычныя прыборы, якія выпускаліся на той час у краіне, былі сцягнуты туды. Магчыма, гэта і зразумела: «грэх» адбыўся на ўкраінскай тэрыторыі, псіхалагічна аварыю на Чарнобыльскай АЭС хацелася ўспрымаць як лакальную. Амаль уся ўвага была скіравана на трыццацікіламетровую зону... Хаця, паўтараю, пэўныя захады ўжо ў самыя першыя дні рабіліся і ў нас. Пра гэта цяпер маўчаць, але што зрабіў у правільнай ацэнцы таго, што здарылася, Інстытут ядзернай энергетыкі АН БССР?

— Раскажыце пра гэта крыху падрабязней, як развіваліся падзеі?

— У першыя дні Несцярэнка Васіль Барысавіч, тагачасны дырэктар Інстытута ядзернай энергетыкі, напісаў службовую запіску Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Кавалёву. І не толькі Кавалёву... Улічваючы тое, што грамадзянская абарона аказалася зусім не падрыхтаванай да разгортвання неабходных работ, Несцярэнка арганізаваў і адборы проб на забруджанай частцы тэрыторыі рэспублікі, і аналізы... Пасля была створана Урадавая камісія, а пры Акадэміі навук — навукова-тэхнічны савет. Тагачасны прэзідэнт Барысевіч сам прымаў удзел у гэтых пасяджэннях. Была створана лабараторыя па аналізу радыеактыўнасці, праведзены шэраг экспедыцый. Людзі працавалі напружана, адказна. Да кастрычніка мы мелі і стронцыевую і цэзіевую карту, вельмі дакладную. І фактычна ўсе ўдакладненні, якія рабіліся пасля, прынцыпова карціну не мянялі. Мы ведалі ўжо тады, колькі плутонію выкінута ў Гомельскай вобласці, колькі стронцыю, цэзію... Аднак усе нашы даныя перадаваліся ў Дзяржкамгідрамет СССР, дзе адбывалася іх «ўсрадненне». Пры гэтым «ўсраднялі» несувымерныя велічыні. Так, напрыклад, у гарадскім пасёлку Палескі (УССР)

Дзяржкамгідрамет дае сярэднюю велічыню 24,7 кюры на квадратны кіламетр. А на самай справе раскід 15—112 кюры на квадратны кіламетр, прычым ёсць «плямы», дзе шчыльнасць забруджання вышэй 300 кюры на квадратны кіламетр. Уся методыка складання карт і правядзення ізаліній метадычна заганная.

Таму дзеля справядлівасці павінен зазначыць, што намаганні нашых вучоных, спецыялістаў маглі даць большы плён. І вось чаму я так лічу. Як вядома, у рабоце па ліквідацыі вынікаў аварыі з самага пачатку прынялі ўдзел многія ведамствы, установы і арганізацыі. На вялікі жаль, яны часта дзейнічалі разрознена. У першы ж год была распрацавана такая колькасць навуковых праграм... Кожнае ведамства, лічы, сваю. І гэта без належнай каардынацыі дзейнняў, своечасовай узаемнай інфармацыі аб стане спраў, праведзеных даследаваннях. Нібыта сёй-той часам шукаў не зладжанай, дружнай работы, а таго, каб толькі вылучыцца, паўдзельнічаць у такім, прабачце, буйнамаштабным мерапрыемстве, скажу больш рэзка, нават пагрэць ля гэтага вогнішча рукі, атрымаць узнагароды... Карацей кажучы, на які момант складвалася ўсё так, што вучоныя нават адной нашай Беларускай акадэміі навук удзельнічалі ў розных праграмах, рабілі справаздачу перад Дзяржаграпрамам, Міністэрствам аховы здароўя, перад нейкімі — ліха іх ведае — камісіямі, толькі не перад беларускім урадам, не перад Беларуссю... Гэта цягнулася да той пары, пакуль мы не дабіліся спецыяльнай пастановы прэзідыума Акадэміі навук пра тое, што ў рэспубліцы будуць працаваць толькі па адной праграме, якая зацверджана акадэміяй.

— Гэта значыць, што ўсё ўдалося ўзяць у адны рукі, комплексна вырашаць усе пытанні?

— Так, працаваць стала цікавей...

— Вы асабіста прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі. Раскажыце, калі ласка, пра гэта.

— Паўтара года па запрашэнню Урадавай камісіі я працаваў непасрэдна ў Чарнобылі. Мы прагназавалі развіццё падзей на першы пасляаварыйны год. Асабліва трывожылі абставіны, якія маглі ўзнікнуць у час вясенняй паводкі 1987 года. Сітуацыя была вельмі складаная. Паседжанні Урадавай камісіі звычайна пераносіліся на дванаццаць, гадзіну ночы. Адным словам, работа вялася круглыя суткі...

— А як доўга рэактар даваў выкіды?

— Гэта працягвалася на працягу месяца. У першы тыдзень выкідвалася штодзённа дзесяць у сёмай ступені кюры, а затым — недзе трэцяга — чацвёртага мая — выкіды зменшыліся да аднаго мільёна кюры ў суткі. На гэтым узроўні колькі трымалася, потым раптоўна ўсё падскочыла да першапачатковай велічыні, як выбух. Яно і зразумела: рэактар быў закіданы рознымі рэчывамі, але рэакцыя працягвалася. Усё там збіралася, збіралася, а потым выбухнула, як вулкан...

— Ходзяць чуткі, што выкіды адбываюцца рэгулярна, праз васемнаццаць сутак.

— Лічу, што гэта легенда. І вось чаму. Да той пары, пакуль саркафаг не быў пабудаваны, не быў закрыты, гэта, канечне, была крыніца радыеактыўнасці. Высокія тэмпературы, паветраабмен... Вы ўявіце сабе комін: у ім цяга, як у насоса... А на сценах ляжыць радыеактыўнасць, аэразоль падымаецца... Але, з другога боку, рэактар, калі працуе, заўсёды з'яўляецца крыніцаю радыеактыўнасці. Наколькі я ведаю, пасля таго, як пабудавалі саркафаг, ніякіх ЧП не адбывалася. Ну, а чуткі, вядома ж, ходзяць... Аднойчы



вяртаюся з Чарнобыля, а жонка і кажа: слухай, днямі, кажуць, зноў зарыва над станцыяй было... А я ж там знаходзіўся — ніякага зарыва...

— У памяці людзей засталіся жахі той красавіцкай ночы...

— Канечне, той выбух і пажар на АЭС нарабіў спраў... Графіт загарэўся, плавіліся канструкцыі і гэтак далей...

— А яшчэ больш страшнае магло здарыцца?

— Я павінен вам сказаць, што выказвалася такая думка, што гэта быў мікраядзерны выбух. Цяжка сказаць... Каб сказаць адназначна, трэба мець дакладны пералік выкідваемых рэчываў. Я гэтым не займаўся... Туды і бор кідалі, як замаруджвальнік. І выказвалася такая думка: гэта ўзнаўляльнае асяроддзе... Гарачы графіт мог узнавіць паліва да металу — урану і плутонію. І калі б адбылося расслаенне, аддзяленне плутонію ад урану і дайшло да крытычнай масы, тады... Але і без гэтага маштабы аварыі ашаламляюць. Гэта ж уявіце сабе, у адно імгненне перад выбухам магутнасць рэактара ўзрасла недзе ў сто разоў вышэй наміналу. А номінал — гэта тры тысячы мегават. У сто разоў — гэта магутнасць усіх станцый, якія маюцца ў краіне! Дык вось з пункту гледжання радыеактыўнай забруджанасці гэта куды болей, фактычна, у сотні разоў вышэй радыеактыўнасці, якая была выкінута на Хірасіму.

Вядома, звесткі аб маштабах аварыі разыходзіліся, людзі пачыналі разумець, што Беларусь у гэтым пажары пацярпела, бадай, як ніхто. Таму некаторая заспакоенасць ці растарможанасць, з якой у кіруючых колах рэспублікі ставіліся ў першыя месяцы да гэтай небывалай трагедыі, была недаравальна неабачлівай. Асабліва гэта было кантрастна на фоне той жорсткай, напружанай работы, што вялася ў зоне на Украіне.

Не вытрымаў, напісаў дакладную запіску першаму сакратару ЦК КПБ — ужо Сакалову: дарэмна, маўляў, супакоіліся, дарэмна... Праўда, у хуткім часе і была створана навукова-тэхнічная камісія пры Акадэміі навук БССР і секцыя каардынацыйнага савета, якая, як ужо казаў, кіруе ўсімі работамі. Гэта добра... Але заўважце, такая важная ў гэтай справе галіна, як медыцына, ідзе сама па сабе. З медыкамі ў нас ніякіх кантактаў. Яны поўнасцю падпарадкоўваюцца свайму ведамству, робяць справаздачу толькі перад Міністэрствам аховы здароўя СССР. А гэта значыць, што даныя аб спецыяльных даследаваннях медыкаў, статыстыку захворванняў і гэтак далей рэспубліка атрымлівае з Масквы, пасля пэўнай карэкціроўкі. З чым гэта звязана — у мяне ёсць свае меркаванні. Я асабіста думаю, што за гэтым стаіць сяброўская карупцыя, кругавая парука... Улічыце, галоўным санітарным урачом краіны назначаецца Кандрусёў, які да гэтага працаваў у Мінску, гэта пры ім панавала тая заспакоенасць і растарможанасць, чыноўнікі ад медыцыны хлусілі нам, як хацелі. І атрымлівалі павышэнне па службе... Як і той жа Бур'як, як тыя, хто аказаўся затым у Маскве... А цяпер паспрабуй таму, хто застаўся тут, у Мінску, сказаць: хіба ж так можна было рабіць — хлусіць, марнатравіць?

— Цяжка не пагадзіцца з вамі...

— А з аграпрамам рэспубліканскім тая ж прыкладна сітуацыя. Здавалася б, ён павінен у першую чаргу клапаціцца аб Беларусі, быць як мага бліжэй да тых, хто вымушаны жыць і працаваць на атручаных радыяцыяй землях... На самай жа справе іх парады і клопаты таксама даходзілі на Палессе цераз цэнтр. Нашы аграпрамаўцы спачатку рабілі справаздачу Мурахоўскаму. А потым ужо Мурахоўскі перадаваў, што рабіць у Беларусі. Вынікі? Памятаеце, як мы ў маі, калі на нашы паўднёвыя палеткі сыпаўся

радыяцыйны попел, паказвалі ўдарную працу на пасяўной? Ды гэта ж злачынства самае сапраўднае!

Дарэчы, мы не маглі нават карыстацца ў сябе тымі данымі па забруджанасці тэрыторыі, якія самі ж збіралі, дакладна ведалі, а ўрад рэспублікі, калі казаць па праўдзе, не мог прымаць своечасовых адпаведных рашэнняў... Усё гэта перасылалася ў Дзяржкамгідрамет СССР, дзе служба Ізраэля канчаткова вызначала ступень забруджанасці. Ні адзін паказчык на карце без подпісу Ізраэля не лічыўся дакладным. Нам даводзілася сядзець і чакаць, калі вернецца да нас тая карта...

— ...якую вы самі рабілі?

— Якую мы і рабілі! Але атрымлівалі мы ўжо карту Ізраэля, Дзяржкамгідрамета СССР. Вось чаму я лічу, што наша кіраўніцтва часам фактычна не мела апаратыўнага прастору, вымушана было чакаць, пакуль яму перададуць з Масквы, у якім стане мы знаходзімся... Вось на Украіне сітуацыя была іншая. Там яны самі рабілі карту. Яны былі больш самастойнымі. Гэта мая асабістая думка, у мяне там ёсць сябры, якія вядуць тую ж работу, якую я вяду тут. У нас жа — што і дзе сеяць — гэта цераз саюзныя органы вырашаецца, калі і каго высяляць — таксама... Разумееце, што крыўдна: вы ведаеце, што тут жыць нельга, але прыняць рашэнне не можаце да той пары, пакуль яго не прымуць там.

Вось ідзе чацвёрты год, а мы яшчэ не рашылі самага галоўнага пытання — гэта высяленне з забруджаных месцаў. Хоць я вам скажу, час яшчэ ёсць. Але чым больш мы цягнем, тым у горшае становішча трапляем.

— А як вы ацэньваеце так званыя ў народзе «грабавыя», што выдаюцца людзям, якія жывуць у забруджаных зонах. Ці не далі яны маральны ўрон, комплекс нейкай непаўнацэннасці? Чым гэта выклікана?

— Псіхалагічны бок гэтых «грабавых» не бяруся ацэньваць. Я вось што скажу... Пачынаючы з 49 года, я працую з радыеактыўнасцю. А з першага курса вучобы ў інстытуце і да шэсцьдзесят восьмага года, калі сюды прыехаў, мы атрымлівалі спецхарчаванне коштам адзін рубель у дзень. Звяртаю вашу ўвагу, гэта тыя самыя трыццаць рублёў, што цяпер даюць. Гэтыя трыццаць рублёў не выпадкова паявіліся. Ва ўсёй атамнай прамысловасці было два тыпы талонаў на харчаванне. Талон на рубель і больш дарагі. Прыязджаеш у Чарнобыль, калі ласка, вам даюць талоны — сняданак, абед і вячэра — гэта недзе на ўзроўні двух пяцідзесяці. І вы харчуецеся. У атамнай прамысловасці гэта нармальная з'ява. Ужо сорак гадоў. І калі людзі, якія працуюць з радыеактыўнасцю, атрымліваюць спецхарчаванне. У пяцідзесятых гадах давалі кожны дзень паўлітра малака, гематаген, вітаміны... Усё гэта правільна: падтрымліваецца здароўе, вы ж абпраменьваецеся... Так што калі гаварыць пра так званыя «грабавыя», за гэтым стаіць клопат аб людзях, іх здароўі. Гэта нармальная з'ява. Вы можаце на дадатковую суму купляць прадукты харчавання, можаце зберагчы грошы, каб паехаць на іх у адпачынак, падлячыцца на курорце ці ў санаторыі. Я не бачу нічога абражаючага чалавека ў гэтай даплаце. Іншая справа, ці кампенсуюць гэтыя грошы тую рызыку, пад якой апынуліся жыхары пацярпелых раёнаў...

— Асабліва, калі ўлічыць, што трэба харчавацца толькі чыстымі прадуктамі, а як атрымліваць іх у забруджанай зоне?

— Гаварыў і паўтару яшчэ раз сваё меркаванне: чыстую прадукцыю на забруджанай тэрыторыі атрымаць нельга! Я маю на ўвазе не толькі зону жорсткага кантролю, дзе пятнаццаць і болей кюры на квадратны кіламетр. Гледзячы што мы разумеем пад чыстай прадукцыяй... Дапусцім, вы пасеялі збожжавыя — у зерне пяройдзе адносна мала. Але калі гаворка заходзіць пра малако, то ў Магілёўскай вобласці, напрыклад, можна атрымаць брудны прадукт нават там, дзе забруджанасць усяго два-тры кюры на квадратны кіламетр. І там малако будзе бруднае. Гэта залежыць ад многіх фактараў: фізіка-хімічнага складу глебы, якія расліны на ёй растуць... Гэта цэлы комплекс пытанняў. Адным словам, забруджаныя радыенуклідамі тэрыторыі — гэта палігон для навукі, адрас экспедыцый вучоных, спецыялістаў. А вось тое, што там усё яшчэ жывуць людзі, з майго пункту гледжання можна растлумачыць толькі нашай поўнай безадказнасцю перад народам, хаця трэба прызнаць, што мы не можам у кароткі тэрмін стварыць людзям нармальныя ўмовы ў чыстай зоне, гэта значыць пабудаваць новыя гарадкі, новыя вёскі, куды гэтых людзей можна перасяліць. А жыць у бруднай зоне і харчавацца тым, што прывязуць аднекуль... ды пры нашым дастатку і дысцыплінаванасці... Каго вы можаце пераканаць, што ўсё гэта нармальна? А як растлумачыць той бабцы, што вось расце цыбуля ў агародзе, але яе нельга есці, у лесе ягады, але іх не трэба збіраць? Ды гэта ж смех горкі!

— Вядомы факты, калі з адных брудных месцаў перасялялі ў іншыя, а там радыяцыя аказалася не меншай... Чым гэта растлумачыць?

— Па-першае, паспешлівасцю, няўзгодненасцю з вучонымі... Па-другое, маглі быць пераносы радыеактыўнага пылу з месца на месца, асабліва там, дзе вядуцца інтэнсіўныя сельскагаспадарчыя работы. Вось у Магілёўскай вобласці ёсць вёска Чудзяны. Там вельмі вялікая забруджанасць. А зусім побач — новы пасёлак Майскі, куды перасялялі людзей. Вы мяне прабачце, але ж гэта... ну, як назваць?!

— Вы ўдзельнічалі ў рабоце навуковай канферэнцыі ў Кіеве. Які, на вашу думку, самы важны вывад там быў зроблены?

— Самы важны, бадай, быў вывад аб тым, што трэба спыніць усякія навукова-тэхнічныя работы, звязаныя з дэзактывацыяй у забруджанай зоне, бо яны не даюць ніякага выніку.

Асабіста мае перакананні ў тым падмацаваны фактамі, здабытымі ў нашай універсітэцкай лабараторыі. Трэба ўлічваць тое, што радыеактыўны выкід пасля выбуху на ЧАЭС меў такую асаблівасць: у паветра ўзняліся і аселі на зямлю не толькі тыя нукліды, якія ўтвараюцца ў працэсе нармальнай работы рэактара, але і само ўранавае паліва, яго часцінкі. Гэта так званыя «гарачыя» часцінкі... Вось паглядзіце... (Пятраеў паказвае фотаздымак часцінкі.) Павелічэнне тут у шэсцьсот разоў. Бачыце, яна аплаўлена. У рэактары высокія тэмпературы, часцінкі паліва аплавіліся...

— Яны ўтрымліваюць уран?

— Там уран і плутоній... Але ёсць і іншыя элементы. На сёння найбольш небяспечныя цэзій, стронцый і плутоній. Але пакуль яны знаходзяцца ў гэтых часцінках, то не самі элементы шкодныя, а іх выпраменьванне.

— Якое ідзе выпраменьванне?

— І альфа, і бэта, і гама... Калі адна такая часцінка трапіць у лёгкія чалавека, японцы, напрыклад, лічаць, што стопрацэнтная гарантыя, што будзе рак... Ну, можна спрачацца: адна часцінка, дзве, дзесяць... Але калі ў вас у лёгкіх гэтыя часцінкі, то вам не трэба атрымліваць 35 бэр, вам не трэба атрымліваць сто бэр. Справа ў тым, што такая часцінка ў лёгкіх — вось танюсенькая, мікронная — яна выдзяляе не 35 бэр, а ўсе дзесяць тысяч бэр у мікравобласці лёгкіх, разумееце? Вас можна правяраць на лічыльніках выпраменьвання чалавека — усё будзе спакойна, знешне вы будзеце абсалютна здаровы. А па сутнасці...

— Дзе знаходзяцца «гарачыя» часцінкі?

— Найперш у глебе. Вось паглядзіце яшчэ на гэтыя здымкі-радыеграфіі з белымі плямачкамі пасярэдзіне... Гэта глеба, якая нанесена на падложку. На яе накладаецца рэнтгенаўская плёнка. Вытрымка хвілін пяць, затым — праяўленне, павелічэнне... Вось гэтыя белыя плямкі-зорачкі і ёсць так званыя «гарачыя» часцінкі...

— Вы бралі звычайную глебу?

— Гэта глеба паўднёвых раёнаў. Як вы думаеце, колькі іх на глебе?.. Дзесяць штук на квадратны сантыметр.

— Гэта — дзе?

— Гэта так званы заходні след. Ён пачынаецца ад Чарнобыля і цягнецца па Брэсцкай вобласці. Тое ж самае і ў Гродзенскай вобласці, толькі ў меншай колькасці. На ўсёй гэтай тэрыторыі вядуцца сельскагаспадарчыя работы.

— Грамадскасць, людзі, якія там жывуць, ведаюць пра гэту небяспеку? Мы можам паведаміць аб гэтым у друку?

— Я лічу, што трэба.

— Але непазбежны і такі вывад: трэба поўнасцю пераглядаць і ўдакладняць карты забруджанасці Беларусі, і не толькі Беларусі...

— Так, нам патрэбна карта ўтрымання «гарачых» часцінак. Падыходы павінны быць розныя: на тых тэрыторыях, дзе няма «гарачых» часцінак,— адны, а там, дзе яны ёсць,— іншыя...

Другая гутарка з Яўгенам Пятровічам адбылася 19 чэрвеня 1989 года — пасля таго, як на З'ездзе народных дэпутатаў СССР першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў сфармуляваў сутнасць прынцыпу новага падыходу да вырашэння задач, звязаных з ліквідацыяй вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Сваю гутарку мы пачалі з пытання:

— У апошні час пагоршыўся стан здароўя людзей у пацярпелых ад радыяцыі раёнах, пачасціліся выпадкі анкалагічных захворванняў. Гэта што — першы званочак?

— Як лічыць... ёсць такія даныя, што пік захворванняў выпадае на сёмы-восьмы год пасля абпраменьвання.

— Гэты вывад заснаваны на вопыце Хірасімы?

— Так, але горкі вопыт Хірасімы яшчэ не дае нам адказы на ўсе пытанні. У нашым выпадку ўступаюць у сілу аспекты зусім нявывучаныя. Гэта адно, калі нейкую дозу радыяцыі чалавек атрымлівае, скажам, за секунду, кароткае імгненне, як і было ў Хірасіме. І зусім іншае, калі чалавек падвяргаецца ўздзеянню небяспечнага фактару працяглы час, нават калі атрымлівае пры гэтым меншую дозу. Вынікі зусім розныя. Дзейнічае так званы эфект малых доз. А ён не вывучаны. Ёсць меркаванне, што малыя дозы выпраменьвання ўздзейнічаюць куды больш страшна... Магчыма, гэта той жа эфект гамеапатыі, калі гранічна малыя дозы лекавага рэчыва дзейнічаюць, уплываюць на арганізм.

А як праяўляе сябе радыяцыя? Гэта яшчэ для нас загадка... На гэту тэму была цікавая, на мой погляд, публікацыя ў штотыднёвіку «Собеседник» за гэты год — «Эффект малых доз». Пачытайце...

— Як жа так? Поўнай яснасці няма, і тым не менш мы сёння даём рэкамендацыі, дзе можна жыць, як карыстацца прадуктамі, якія атрыманы на забруджанай тэрыторыі, і гэтак далей. А мы ж маем справу з радыяцыяй, дзе патрэбна асаблівая асцярожнасць. Што гэта? Самаашуканства? Бескультур'е?



— Мы ў пошуку. Два тыдні назад сустракаўся са старшынёй Савета па радыебіялогіі Бурлаковай, намеснікам дырэктара Інстытута генетыкі. Раіліся па гэтых малых дозах. Устаноўлена такая вось залежнасць: на самых мізэрных дозах (малюе графік)... з павелічэннем паглынутай дозы эфект уздзеяння павялічваецца! Гэта значыць пры нейкіх мінімальных дозах эфект можа ўзрастаць. Гэты факт устаноўлены! Але тут якая асаблівасць? Мы ўвесь час жывём пры малых дозах радыяцыі... і шкоды не адчуваем. Але мы не ведаем той гранічны ўзровень, пасля якога ўзнікае рызыка... Дзе ўздзеянне сыходзіць на нуль, а дзе пачынаецца той узрастаючы эфект, пры якім значэнні. Трэба знаць гэту мяжу!

— Выходзіць, з улікам эфекту малых доз сітуацыя ў Беларусі можа аказацца куды больш складанай?

— Катэгарычнаа сцвярджаць гэта мы не можам. На сёння мы толькі, калі верыць службе акадэміка Ільіна, ведаем, колькі і дзе можна атрымаць радыяцыі. Кожная вёска пашпартызавана. Разлічаны дозы ўнутранага і знешняга абпраменьвання для жыхароў кожнага населенага пункта. Выдзелены зоны, дзе можна вырабляць сваю прадукцыю і спажываць яе, а дзе — жыць на прывазной. Так, ад пятнаццаці да сарака кюры — можна жыць, але спажываць прывазны чысты прадукт. За сорак — трэба высяляць. Ад пятнаццаці і ніжэй — можна жыць, як быццам нічога не здарылася...

Але мы лічым, што ўсё гэта хлусня! Малако можа быць брудным і пры пяці кюры! У выступленні першага сакратара ЦК КПБ Сакалова на З'ездзе народных дэпутатаў гэта прагучала недвухсэнсоўна: нельга жыць там, дзе немагчыма атрымліваць чыстую прадукцыю. Але гэта значыць, што нельга жыць і пры пятнаццаці кюры! Гэта зусім іншы падыход. На жаль, на гэтым у выступленні акцэнт не быў зроблены.

— Можа скласціся ўражанне, што ўся Беларусь заражана.

— Я гэтага не сказаў бы... Іншая справа, што любы жыхар рэспублікі падвяргаецца небяспецы заражэння. Прадукты ўсюды адны і тыя ж. І праз прадукты ідзе заражэнне. Узяць хаця б тую ж адносна чыстую Віцебскую вобласць. І туды ж распаўзаецца радыяцыя...

— Апошнім часам выяўляюцца ўсё новыя адрасы забруджаных участкаў — на Гродзеншчыне, Брэстчыне, Міншчыне... Вось пад Барысавам аказалася пляма. Гэта што — другаснае забруджанне?

— Не, такія абставіны скласіся з першых дзён пасля аварыі. Калі 27—29 красавіка над намі ішлі радыяцыйныя аблокі, тады і адбылося гэта забруджанне.

— Яшчэ ходзяць чуткі аб тым, што радыяцыйныя чарнобыльскія хмары, якія ляцелі ў бок Масквы, былі расстраляны і «пасаджаны» на Магілёўшчыне, Браншчыне. Ці магло быць такое злачынства? Дарэчы, такое пытанне прапанаваў пісьменнік Алесь Адамовіч *.

— Мне цяжка меркаваць аб гэтым... Скажу толькі, што ніякіх тэхнічных праблем, каб «пасадзіць» радыеактыўнае воблака, няма. Гэта робіцца вельмі проста. Маральны аспект гэтага, вядома, не паддаецца ніякай крытыцы і разуменню.

Трэба, канечне, улічваць, што ўтаймаванне выйшаўшага з-пад кантролю рэактара, асабліва ў першыя дні, патрабавала неймаверных намаганняў. І, вядома ж, мелі месца накладкі, і многа было безалабернасці, той, што ўсюды ў нашым жыцці... Ну, узяць хаця б такое. Палыхае агнём чацвёрты блок, а суседні трэці працягвае працаваць! І працуе яшчэ цэлыя суткі! Што

* «Туча с грифом «секретно». «Комсомольская правда» за 11 мая 1989 года.

гэта? Як гэта растлумачыць? Восьтут і думай, што было, а чаго быць не магло...

А канкрэтна наконт расстрэлу радыяцыйных хмар... Тады была такая перасцярога: раптам пойдуць дажджы — увесь бруд змые, і гэта пойдзе ў Днепр. І з вадой будуць заражаны многія мільёны жыхароў Украіны. Таму ўсе хмары, якія паяўляліся ў раёне Чарнобыля, расстрэльваліся. Дажджу не было... На нядаўняй сустрэчы начальнік Дзяржкамгідрамета СССР Ізраэль назваў гэта выступленне Адамовіча «смехотворным обвинением». Яго ведамства рыхтуе афіцыйны адказ на гэту публікацыю газеты *.

— Адкрытасці, інфармаванасці людзей па пытаннях чарнобыльскай аварыі стала больш. Гэта добра. Але, пэўна, ёсць яшчэ і белыя плямы... Дарэчы, а як паводзяць сябе так званыя «гарачыя» часцінкі, якімі вы займаецеся?

— Матэрыялу па «гарачых» часцінках дабавілася. Праведзены новыя даследаванні, атрыманы фатаграфіі, на якіх зафіксаваны «гарачыя» часцінкі ў лёгкіх, страўніках людзей, а таксама — у глебе, паветры. Супрацоўнікі маёй лабараторыі яшчэ ў 1987 годзе ў заборах проб паветра пад Мінскам заўважылі «гарачыя» часцінкі. Гэта значыць, што яны пераносяцца рухам паветра. Вятрамі, пыльнымі бурамі яны могуць падымацца і пераносіцца на вялікія адлегласці. Канцэнтрацыя нібыта і невялікая — шэсцьсот часцінак на мільён кубоў паветра. Небяспекі няма... Пакуль... А ў раёнах, блізкіх да Чарнобыля? Па нашых папярэдніх даных, у Гомельскай вобласці, дзе вяліся нашы даследаванні, вельмі высокі працэнт людзей, у лёгкіх якіх знаходзяцца гэтыя часцінкі. Гэта вельмі насцярожвае! І справа ў тым, што звычайнымі прыборамі, якія прымяняюцца ў медыцыне, выявіць прысутнасць у арганізме «гарачых» часцінак немагчыма. Вельмі складаны аналіз...

— Адным словам, нашы трывогі вакол Чарнобыля далёка не залішнія, асабліва, калі чуеш аб размяшчэнні новых АЭС, пошуках пляцовак для захавання радыяцыйных адыходаў...

— У Беларусі мы, напэўна, не павернем грамадскую думку ў бок станоўчага ўспрыняцця «мірнага» атама. І на Украіне, бадай, таксама. Хаця яна ўжо і без таго напічкана атамнымі станцыямі.

— Але ж і наша рэспубліка ў акружэнні знаходзіцца — на поўдні — Чарнобыльская, на ўсходзе — Смаленская, на поўначы — Ігналінская АЭС, лічы, на тэрыторыі Беларусі. А яшчэ хацелі пад Мінскам пабудаваць АТЭС і пад Віцебскам — АЭС. Як вы ацэньваеце сітуацыю?

— Як спецыяліст, я павінен зазначыць, што рэактар, які быў прапанаваны для Мінскай АТЭС — дасканалы. Па тыпу Нававаронежскай АЭС. Корпусны. Нармальная канструкцыя... Іншая справа — цепласеткі саракакіламетровыя. Колькі з гэтым праблем?.. Ну, і голас грамадскасці... Так было і з Віцебскай АЭС. Грамадскасць паднялася.

---

* У нумары за 26 мая 1989 года «Комсомольская правда» змясціла «Ответ на запрос депутата» міністра атамнай энергетыкі СССР М. Ф. Луконіна. Прыводзім вытрымку з яго. «Алесь Адамовіч пытаецца, ці праўда, што далёкія ад Чарнобыля раёны Магілёўскай вобласці атрымалі радыяцыйнае забруджанне тым, што на іх «пасадзілі» чарнобыльскую хмару, тую, якая неслася да Масквы?

Адказваю: гэтага не было. Міністэрства па гэтаму пытанню звярнулася ў Дзяржкамгідрамет СССР і атрымала афіцыйнае пацверджанне, што ніводнае воблака не было «пасаджана» ў раёнах, указаных у артыкуле.

На самай справе ў перыяд з 11 мая па 8 чэрвеня 1986 года самалётамі-метэалабараторыямі Дзяржкамгідрамета ў мэтах прадухілення выпадзення дажджавых ападкаў у раёне Чарнобыльскай АЭС рабілася ўздзеянне з наветранага боку (30—80 км ад АЭС) на воблакі, якія яшчэ не падвергліся радыеактыўнаму забруджанню.

Дзякуючы гэтаму чыстыя воблакі на подступах да Чарнобыльскай АЭС разбураліся альбо змяншаўся іх аб'ём, як правіла, без ападкаў. На воблакі, што прайшлі над зонай АЭС, уздзеянняў не рабілася».



— Але ж не без падстаў? Людзей абурае тое, што атамныя станцыі, як сведчыць наш вопыт, часта размяшчаюць там, дзе іх нельга размяшчаць па гідралагічных, сейсмічных і іншых умовах.

— Менавіта да такой высновы прыходзілі спецыялісты-атамнікі пад час аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Яе як быццам спецыяльна паставілі там, дзе зусім нельга было,— у двухрэччы. А ўніз па цячэнню Дняпра — трыццаць мільёнаў чалавек... Вярнадскага ўспаміналі — ён пісаў аб гэтых мясцінах, як аб праклятых Богам. Адны назвы тутэйшыя чаго варты — Чарналессе, Чарнобыль, Кацюжанка...

— А як ставяцца да будаўніцтва атамных станцый на тэрыторыі нашай рэспублікі вучоныя АН БССР?

— Негатыўна. Рэзка негатыўна. Вучоныя даказваюць непажаданасць размяшчэння АЭС на тэрыторыі рэспублікі. Яшчэ да Ігналінскай у нас павінны былі пабудаваць аналагічную. Адбіліся. Тады кіраўніком партыйнай арганізацыі рэспублікі быў Машэраў, ён падтрымаў вучоных... А ўсё ўжо ішло да таго — вяліся пошукавыя работы, падбіраліся пляцоўкі... Канечне, такая вялікая будоўля нямала абяцае і для рэспублікі — адкрываюцца магчымасці для развіцця сацыяльнай сферы...

— І зараз такія адносіны да будаўніцтва АЭС застаюцца?

— Нядаўна абмяркоўвалі палажэнне, якое стварылася ў Полацку. Там рэзка не хапае энергіі. Была задума пабудаваць там рэактар. Такі, каб ён забяспечваў і цяплом і энергіяй. Прыйшла папера за вельмі высокім подпісам у Дзяржплан, і было абмеркаванне. АН БССР катэгарычна супраць: у нас адна чыстая вобласць, а вы туды хочаце ўкараніць рэактар. Не дапусцім!

**Заканчэнне ў наступным нумары.** Фота **А. Шаблюка.**

*Ларыса Геніюш*

# СПОВЕДЗЬ

# ЛАГЕР

Мяне выпісалі. У бараку было дзіка і халадно. Памалу я пачынала звыкацца са сваёю доляй. Пазнаёмілася з літоўкамі і ўслухалася ў іх маліцьвенныя сьпевы, то ў дэталі жудаснага сьледства над імі. Зноў цесна зблізілася з украінкамі, асабліва самымі беднымі простымі жанчынамі, якія цьвёрда трымаліся абычаяў, праўды і свае веры. Нікога не баяліся і нічога ад ворагаў добрага не чакалі.

Аднойчы ў барак прывялі высокую, тонкую яўрэйку з этапу. На плячах у яе быў непамерна вялікі да яе фігуры мяшок, з якім яна змагалася, каб зьняць. Я падышла і памагла ёй. Гэта была Камунэла Маркман з Грузіі, таксама са срокам 25 гадоў ІТЛ. Мы разгаварыліся, але яна хутка перапрасіла мяне, што мусяе знайсьці тут адну пісьменьніцу, жонку доктара з Чэх. Знача, яна шукала мяне. Я да сяньня ня пэўная, ці ўжо тады не была яна, як і Люда Васількоўская, заангажаваная і прыстаўленая да мае асобы праз КГБ... Яна ўзялася мне расказваць, як толькі што ехала з маім мужам і абяцала яму мяне знайсьці. Мужа павезьлі на Варкуту, гэта за 300 км далей на поўнач... Стала нейк безнадзейна, нясцерпна цяжка. Не зрабілася лягчэй, калі выклікалі нас усіх на праверку на двор. Дагэтуль па два разы на дзень строілі, лічылі і правяралі нас па бараках. На дварэ была сьлякаць, холад, балота па косткі. Навокал вялікага чатырохкутніка гэтага асаблівага паселішча былі старанна і ўмела на роўных, высокіх стаўбах нацягнутыя драты. Два рады стаўбоў і на іх наежаная, роўная, густая пярэпляць калючага дроту. Між радамі стаўбоў гладка, як на асфальце — ні травінкі, ні камяка, каб лягчэй было попкам-канваірам, якія дзень і ноч «красаваліся» на вышках, заўважыць эвэнтуальны пабег... Пабегаў там, як правіла, не бывала. Тундра, балоты, жудасная адлегласьць ад людзей, драты і палкі адданых Сталіну тупых канваіраў учэпіста спынялі наш кожны крок... Вось пачалі нас выводзіць на тую праверку. Йшлі мужчыны і жанчыны, юнакі і дзяўчаткі, амаль школьніцы, бабусі старэнькія і дзядкі на склоне гадоў. Цягнуліся калоны сініх, худых людзей. Ніколі я не думала, што тыя баракі змаглі ўціснуць у сябе такую колькасьць няшчасных. Падаў сьнег з дажджом, і некалькітысячны шнур людзкі, пастроены па пяцёрках, праз чатэры гадзіны, пакуль усіх далічыліся, таптаў і таптаў рэдкае месіва з балоту і сьнегу, амаль так, як яшчэ нядаўна ў Асьвенціме і Майданэку. Навука Гітлера не пайшла ў лес... Што будзе, куды гэта дойдзе людзкасьць такімі шляхамі, пад такім кіраўніцтвам партыяў і адзінак? Я не магла забыцца аб адной беларускай жанчыне на этапе. Ёй было 93 гады, але яна была кулачка, якой дзеці-кулакі не ўзялі з сабою на высылку, і вось бабусеньку, у даўгім кажуху, але яшчэ даволі крэпенькую, каб залезьці ў вагон, гналі недзе цяпер за дзецьмі. Баюся, што сканала яна на адной з перасылак, як і іншыя... Некалі ў Празе я, вечны народнік, часам абуралася залішняй цывілізацыяй, якая забівае ў людзях здаровыя інстынкты зямлі. «Юберкультывірт»,— казалі на гэта немцы. Вось цяпер я магла ня тужыць па падобным. Перада мною быў найстрашнейшы, тэхнікай і сталінскімі ідэямі падмацаваны прымітывізм, які ня сьніўся нават ардзе Джынгісхана... Калі вецер данёс да мяне з-за рогу барака маліцьвенны сьпеў двух дзядкоў, я расплакалася.

Лагер на Інце, куды нас прывезьлі, т. зв. 5-ты ОЛП пад уладаньнем гнусавага Шапіры, быў толькі перасылкай, на якой сартыраваліся людзі на другія ОЛПы гэтага лагера, які нечаму называўся «Мінлаг». Мы думалі часам, ці не падманьвалі нас злыдні? На 5-м было затрымацца вельмі цяжка. Там панавалі побач з Шапірам выбраныя лекары са зьняволеных, якім жылося няблага. Сэгрэгуючы паводле жаданьняў начальства народ і ўслугоўваючы болей надзірацелям, як хворым, яны карысталіся шматлікімі прывілегіямі, уключна мары ўсіх зьняволеных — лагерных жонак — у разуменьні не плятанічным. Цяжарных адсылалі на жаночы ОЛП Інта, гэта быў т. зв. горад, пабудаваны нядаўна зьняволенымі над рэчкай такой жа назовы. Дзеравяныя, за маяго прыезду, баракі і дамы ператвараліся рукамі зьняволеных паступова ў шматкватэрныя блокі. Вось у Інце было ўпраўленьне гэтымі ОЛПамі, якіх галоўным начальнікам быў Казлоў, сыты вол, які жыў у раскошным як на Інту асабняку ў поўным камфорце са сваімі выведкамі. Яго імя, як і яго выгляд, былі ненавіснымі для нас, вязьняў. Вакол Інты былі ўсе лагеры, якія абслугоўвалі шматлікія шахты, будавалі Інту. Сярод іх быў адзін жаночы, куды нас і пагналі строем з сабакамі. Такі ж абнесены дратамі квадрат, як на 5-м, з азьвярэлымі попкамі на вышках, вахтай і брамай, праз якую ўпускалі і выпускалі нас на работу. Калі мы падышлі бліжэй, убачылі нізкія, даўгія баракі, ля іх нары, клункі і снуючых людзей. Гэта была чарговая, няўпынная там пражарка блашчыцаў. Як аказалася, стварэнні гэтыя пладзіліся і ў 40-градусным марозе. У нарах і ў сьценах баракаў была іх цьма! Параньне нараў было вечным, ненавісным для нас прыказам пасьля цяжкой працы за зонаю. Бальшавіцкія лагеры пастроены так, што там не даюць людзям вольнай хвіліны. Апрача пражарак ганяюць у капцёрку, на праверкі, шмоны, суботнікі, нядзельнікі, у сталовую, у баню, па цукар, якога на 20 дзён давалі па шчопцях і па які мы беглі ахвотна. Лустачка камякаватай пайкі ледзь пасыпаная цукрам была несказаным прысмакам нашага ўбогага меню.

Пакуль нас шманалі (каторы раз!) і правяралі дакументы, да нас падыходзілі белыя і чорныя людзі. Чорныя — маладыя дзяўчаты рабацягі, якіх ужо вятры і сонца пад гэтым нізкам небам здолелі ператварыць на ўзбэкаў. Мяне ўбачылі мае немкі з Вены, і пачаўся віскат. У мяне быў той рубель яшчэ з Арла, і я дала ім яго, як гасьцінца. Здалі мы рэчы ў капцёрку, пагналі нас у баню, а пасьля ў баракі. Назаўтра далі сукенкі з шэрага, лінючага палатна, чаравікі з парусіны, бушлаты і панчохі «цвета утренней зари», у якіх мы хадзілі, як буслы. Нам сьлед было забыцца, што мы жанчыны, а памятаць толькі, што мы рукі для кіркі — рабочая сіла... Рабсіла, як нас называлі. Далі нас з Людкай у брыгаду Ілгі Дзіндонс, гдзе былі адныя латышкі. Ілга была тупая, жудасная асоба, якая падлізвалася да начальства і ўсю работу, якая цяжэй, узвальвала на чужы элемэнт у брыгадзе, на нас. Не прывыкшая да цяжкай фізічнай працы, аслабелая ў цюрме, я ледзь выжыла ў тае жудаснай Ілгі ў той першы час.

На ОЛПе аказалася і Роза, баптыстка з львоўскай перасылкі. Я яе проста нечакана сустрэла, яна йшла ў маей сукенцы. Роза запрасіла мяне ў свой прывілегіраваны барак для швачак. Я была вельмі галодная і з радасьці прыняла пачастунак Розы — хлеб з цукрам. Шапталіся мы паціху, бо Роза вельмі баялася свае начальніцы са зьняволеных. Але тая начальніца ўсё ж падышла да нас і пачала выпытваць, якой я нацыі і т. п. Мае адказы яе насьцярожылі, і калі я сказала, што я прытым з Прагі, яна пачала пытаць мяне: каго я там ведаю з беларусоў? Я пару асоб назвала, рэшту пачала называць яна. Тут то я зьдзівілася, а калі я назвала сваё прозьвішча, яна ледзь не кінулася на мяне з кулакамі, крычучы, як гэта я, паэтка, сьмела сюды трапіць, чаму я не схавалася гдзе, не ўцякла? Аказалася, што латышка Люцыя Антонаўна Лепаціс (здаецца) была роджаная Клагіш, беларуска. Яна нават амаль год вучылася ў Празе, а яе брат дык там закончыў студыя. Цяпер яна тут загадчыцай гэтай майстэрні. Яна аракул для начальнікавых жонак, якіх абшывае лагерная бяздольная моладзь... Адзіная яна жыве не ў бараку, а ў асобным пакойчыку і мае асабістую слугу старую фраў Буш, з якой разам і сьпяць і ядзяць... Роза дрыжыць перад ею... Усё гэта мне не падабалася... І зімою і летам тыя савецкія дамы шылі выключна кваціствя крэпдэшынавыя сукенкі. А што, мелі грошы, дык шылі іх у вялікай колькасьці. Дарма шукаў бы там ваўняны, адпаведны клімату касьцюмчык ці сукенку — усё было парадная, прэтэнцыянальна крыклівае. Кваліфікава-

Працяг. Пачатак у № 1—4.

ныя швачкі шылі добра. Малакваліфікаваная, але спрытная ля начальства Люцыя Антонаўна ўмела жыць. Яна была адным з першых лагерных прыдуркаў, як называлі адміністрацыю са зьняволеных. Гэта быў сталы кантынгент людзей, якія ніколі не хадзілі за зону, а толькі часам мяняліся прыдуркавымі сваімі месцамі як нач. сталовай, нарадчыцы, загадчыцы, лекаркі, медсёстры, пажарніцы і т. п. Апошнімі ў гэтай ерархіі былі днявальныя, сьвінаркі і розныя прыбіральшчыцы ці шаўцы, але і гэтым пашанцавала, бо хадзіць кожны дзень за зону, як тады без выхадных, без якіх колек абагравалак у тундры ў 40 град. мароз было амаль згубай.

З беларусак на нашым ОЛПе была Зарэцкая, жонка Міхася Зарэцкага, праўда, яна тады называлася Касянкова, Каця Грынкевіч, Таіса (прозьвішча не памятаю) ды яшчэ пару асоб. Мы крыху зблізіліся з Таісай.

Побач, за які кіламетр, быў мужчынскі 1-шы ОЛП, там быў док, на які часам вадзілі брыгады і ад нас. Павялі туды аднойчы і нас. Лета халоднае на поўначы, абманчывае, дык я надзела яшчэ пад спаднічку паласатыя мужавыя нагавіцы ад піжама і завязала пражскую хустачку, бо яшчэ «формяных» тады не было. Круціцца пас з таго дока, а мяне тая Ілга паставіла адкідаць з паса апілкі. Што ж, няцяжка, павявае ветрык, і я махаю лапатаю колькі трэба. Бачу, падыходзіць мужчына, невысокі, рыжаваты, знаёмы твар... Так, гэты чалавек быў у нас у Празе... Чалавек зьбялеў, падбег да мяне і вырваў лапату: «Я не магу, я не магу бачыць у вашых руках лапаты, Ларыса Геніюш»,— закрычаў з нейкім болем. «Нічога,— кажу,— я ўмею абыходзіцца і з ёю»,— і папрасіла лапату назад... Гэта быў Сямён Раманчук. Да канца работы ён ад нас з Таісаю не адыходзіў, прывёў яшчэ Федзю Вялёнду і Пятра Рашэтніка, а калі сырэна прагула канец працоўнага дня, дык пайшоў за намі. Нас яшчэ не адводзілі, і мы сядзелі на бярвеньнях і гутарылі. Асьцярожна, але настойліва папытаўся Сямён, як я сюды трапіла. Ён сьмяртэльна спалохаўся, што дабравольна. Я ўсё коратка яму паясьніла, тады ў яго вырваўся цяжкі ўздох і словы: «Ах, каб я мог узяць сабе вашых 25 лет, а аддаць вам свае 5, што мне сядзець засталося». «Кожны мае свой лёс,— кажу,— і мне мой срок, Вам Ваш». «Божа, каб хоць вашую брыгаду закрапілі за докам,— прастагнаў Сямён,— каб я вас мог бачыць...» Назаўтра нас павялі туды зноў. Сямён быў бледны, яму дрыжалі рукі. Проста прызнаўся, што ноччу меў тэмп. 38. За ўвесь час цяжкіх лагерных мукаў не захварэў, а тут падбіла яго лапата ў маіх руках... Зноў пасьля работы мы сядзелі на бярвеньнях, ён расказваў, як уцякаў з вязьніцы ў Менску, як зноў злапалі яго. Казаў аб бясплодным, цяжкім прабываньні ў бытавых лагерах з блатнымі, гдзе не было магчымасьці ніякай паліт. працы і што цяпер ён зробіць усё магчымае супраць ворагаў людзкасьці... «Жаль вас,— казаў мне,— але калі вы ўжо сюды трапілі, дык памагайце, пішэця нам, бо задыхаемся з голаду роднага слова...» Аб гэтым мяне ня трэба было ўпрошваць... Назаўтра Сямён паведаміў мяне, што яны гатовяць пабег. Я спалохалася і пытаюся: пашто гэта? «Для славы Беларусі»,— адказвае. «А колькі працэнтаў за тое, што пабег падарыцца?» «5»,— адказвае Сямён. «Не,— кажу,— не! Нам нельга аддаваць жыцьця дзеля жэстаў, нам трэба жыць, і калі йсьці на нешта, дык каб яно было пэўным». Ён абяцаў мне паслухацца, але пад варункам, што і я ўключуся ў працу. Прасіў пісаць яму асабіста любоўныя лісты. Паясьніў мне, што тут караюць за ўсё, за любоў не караюць. Што яны тут апаганілі гэтае слова, прынізілі. Калі горды француз робіць каралеву з прастытуткі, якую кахае, то расеец сяньняшні з каралевы гатоў зрабіць прастытутку... Мы дагаварыліся, што калі будзе трэба, дык Беларусь у сваіх лістах-запісках будзем называць «нашая гаспадарка», а сяброў нашых, якіх на олпе было да 200 асоб, будзем называць: сыны... Мусяць ад таго і пачалі называць мяне нашыя: маці...

Час бег. На док нас болей не павялі, і я Сямёна болей не ўбачыла, але ляцелі да іх мае запісачкі, мае вершы, якія яны празвалі глюкозаю. Калі доўга няма новага верша, так і пішуць — маці, глюкозы! Людзі, якія гадамі не бачылі жанчын і не чулі роднага слова, ажылі нейк, акрэплі... А вершы ляцелі. Калі ж было якое сьвята ці так, дык я старалася ім нешта паслаць заўсёды. Наказала гэта і дзяўчатам. То мы вышыем ім торбачкі на хлеб родным васільком, то на цукер, то хустачку. А ніцей не было. Іду і прашу ў загадчыцы Люцыі Антонаўны... Дастане, бывала, велькі скрутак розных ніцей, аж мне разбягуцца вочы, але неахвотна дасьць адну, дзьве нітачкі, а ведала ж, для чаго... Часам зробіць мне заўвагу, што хаджу па яе падлозе ў сваіх ботах цяжкіх і брудных, я аж заплачу і доўга не йду да яе, тады яна мне гэта вымаўляе. Я не любіла яе. Да





У лагеры. Крайні справа І. А. Геніюш.

яе і да Зарэцкай не даходзілі нашыя патрыятычныя пачынаньні, яны былі больш-менш задаволеныя сваім лёсам, а аб іншых ці аб Радзіме яны ня думалі. Адна няблага зарабляла ад кліентак і начальства, другая ўсё вышывала дачцы макаткі ды хварэла.

Інта — гэта т. зв. гарадзкі пасёлак у Комі АССР. Гэта цэнтр быўшых лагероў Мінлага, яго ўпраўленьне. Калі я туды прыбыла, дык гэта былі драўляныя будынкі і вельмі ўбогія будкі, якія быўшыя нявольнікі, не маючы права вяртацца дамоў, пастроілі сабе, каб жыць. Пасьля толькі пачалі тут будаваць будынкі з цэглы паводле праекту зьняволеных нямецкіх і балтыйскіх архітэктараў. Пабудавалі і нейкую вежу, зьзяючую лямпачкамі. Кажуць, зрабіў на яе праект у памяць сваяго зьняволеньня нейкі швэд. Пэўна, далі яму ў цяжкі час большую пайку ці дазволілі напісаць дамоў. Нядорага для іх каштавала праца, жыцьцё і ўсе веды зьняволеных. Выкарыстаць іх яны ўмелі. Казаў мне адзін яўрэй, якога быццам люта ненавідзе Сталін, што многія аб'екты мела пад сваёй «апекаю» МГБ. Знача, бралі яны такое прадпрыемства і планавалі, якія кадры ім патрэбныя. Паводле гэтага плану рабілі сваявольна арышты патрэбных ім людзей, ад вялікіх спэцыялістых пачынаючы. Як стымул выкарыстоўвалі толькі сыцейшую пайку і крыху лепшыя варункі існаваньня, і работа йшла. МГБ заграбала прэміі, а людзі, пазбаўленыя волі і ўсякага асабістага жыцьця і шчасьця, стараліся для іх, як маглі, каб толькі выжыць. Кажуць, пасьля сьмерці Сталіна гэта спынілася. Была ў Інце і агароджана дача, такі сабе асабняк Казлова, начальніка ўсіх лагероў на Інце, гдзе жыў ён, як удзельны князь. Шматлікае начальства зусім спакойна глядзела на калоны няшчасных жанчын, якія га-

дамі закіркоўвалі ў інцінскую мерзлату сваю маладосьць, здароўе і само жыцьцё. Інцінскія дамы праходзілі міма нас з агідаю, а іхнія выдаткі хрысьцілі нас рознымі «контра» ці фашыстамі. А мы кіркавалі, білі кувалдамі ў нейкую сівую мерзлую гліну. Здавалася нам, што ад тых цяжэрных кувалдаў, калі дзьвігаеш, варочаюцца кішкі ў жываце і абрываюцца ўсе селязёнкі. Як шэрыя страшныя камякі ў ватніх нагавіцах, старых валенках і бушлатах, мы, замарыўшыся, сядалі на сьнег, даставалі зьмерзлы кусок пайкі, калі хто яе здолеў ня зьесці выходзячы, і грызьлі. Сьвятам якім мы бралі ў кішэнь крыху цукру і, пасыпаўшы ім камяк сьнегу, проста аблізваліся з насалоды. Дзяліліся на групкі, бо і ў нашай няшчаснай кампаніі было болей стукачоў, як добрых людзей. Вэрбоўка іх — гэта мэта жыцьця і гвоздзь сыстэмы ўсіх КГБ. Кажуць, і, здаецца, не без падставы, што на мяне працавала палова лагера. Я ім была сольлю ў вачах, нечым, чаго яны яшчэ не сустракалі. Без страху сама — я дзейнічала гэтак жа на людзей і горай таго — на мужчынскія лагеры. Выжыць — гэта для мяне было сьмешна, важна было зьняволеным вярнуць веру ў тое, што яны лепшыя людзі за гэтую набрыдзь, якая душыла нас, загнаўшы ў сьнягі. Я была вельмі тактоўнай, чэснай і добрай, і таму я была для іх страшнай. Мне верылі і мяне слухалі. Амаль кожны ліст з волі быў прычынай да плачу. То прыбавілі срок, калі хто прасіў яго зьменшыць, то адмаўляліся мужыкі ад жонак ці партыйныя бацькі ад дзяцей. Праўда, ніколі не адмаўляліся маці. Нават савецкія маці засталіся на вышыні і заслугоўваюць за гэта пашаны. Я ведала толькі адзін выпадак, калі маці начыста адраклася ад дочкі. Усе з горам прыходзілі да мяне, і ля маіх нараў утваралася проста чарга. Пасьля мяне заперлі на верхнія нары і прыказалі ня злазіць далоў.

Жыцьцё нашае было няпэўным, нейкім вечна нэрвовым, настарожаным. Мала, што шманалі нас, выводзячы за зону і зноў у яе пускаючы (што часам было падобнае на гінекалагічны агляд на марозе), але пэрыядычна і ўзвыш нормы шманалі нас у бараках. Трэсьлі нары, пераварочвалі пасьцелі, раскідалі рэчы. Часам нападалі ўвечары на перапоўнены барак, заганялі ўсіх у адзін кут і пачыналі дзейнічаць. Суправаджалася гэта неймаверным крыкам Кір'янава ці Прасьветава і віскам знамянітай надзірацелькі Дусі, што надавала гэтай апэрацыі характар дагістарычны. Забіралі што папала, а калі трапляліся запісачкі ці малітоўныя абразкі і т. п., дык бур ужо быў абясьпечаны. Бур — гэта вязьніца ў самым лагеры. Ізаляцыя, гдзе давалася вада, 200 грамаў хлеба ў суткі, на трэці дзень місачка баланды і рэшту па столькі ж хлеба на суткі. Пасьля буру выходзілі «п'яныя», а то і выносілі іх, вывалакалі. Так, ледзь вярнулі да жыцьця ўкраінскіх дзяўчат, якія на Каляду пайшлі калядаваць па лагеры і прасьпявалі: «Сьпі Ісусе, сьпі на сіні, дай Бог шчасьце Украіне». Шчодры Казлоў нагарадзіў бедных дваццацьцю суткамі буру. Дзяўчаткі маглі каяцца, пляваць на рэлігію і свае абычаі, але гэта былі Украінкі. Яны цярпелі ўпарта, пакуль іх амаль нежывых ня вывалаклі з буру. Мы клялі стукачоў, ад якіх не было гдзе дзецца. Былі яны і сярод украінак, але лічаныя. Маса ўкраінцаў была імпануюча стойкай, шляхотнай і вельмі дружнай. Яны мяне прызналі сваёй і толькі сваёй, і я ў лагеры пераважна гутарыла на іх мове. Мне і Олі Мароз (украінцы) забаранялася нават высушыць нашыя лахманчыкі ў сушылцы, але днявальныя ціхенька нам іх бралі і памагалі нам, як толькі маглі. Часта папераджалі, пачуўшы на нас нешта ў сушылцы, якая была клюбам для ўсякіх у лагеры ўпрывілеёваных элемэнтаў.

Нам дазвалялася пісаць два разы ў год. Я пісала мужаву бацьку ў Зэльву. Старэнькі доўга не адказваў, людзі тут кажуць, што ён адрокся ад нас быў, начыста выракся. Дзіва тут няма. Кажуць, што быў такі жах, створаная такая атмасфера, што людзі адракаліся ад усяго, нават ад бацькоў і родных дзяцей, каб толькі выжыць. Пасьля дзед пісаў нам. Лісты яго былі больш-менш такія: «Дарагая Ларыса, мне куды горш, як Вам. Я ўжо зрабіў сабе труну, і яна ляжыць у мяне на гарышчы. Жонку сваю я пахаваў паводле ўсіх законаў рэлігіі, а вось хто мяне пахавае» і т. п. Дзед пісаў няпраўду. У яго былі запасы, і ён шмат пакінуў пасьля сьмерці чужым, вельмі нячэсным людзям, каб яны перадалі нам. Былі гэта Архімовічы, надта пабожныя каталікі. Ледзь вырвалі мы ад гэтых пабожных сваю старую хату. Калі мы вярнуліся з лагеру, дык хата нашая была занятай. Архімовіч пасяліў там траіх кватэрантаў, а сам пабег хутчэй у міліцыю з заявою, што мы антысавецкі элемент і нас зноў трэба вярнуць у Комі... Прыйшлося мне пісаць у Менск у галоўную пракуратуру, каб дазволілі нам вярнуцца хутчэй у Чэхаслаў. Тады загадалі вярнуць нам хату і тэстамант бацькаў. Быў там напісаны параграф, паводле якога хата належала нашчадкам, і яшчэ рукою Архімовіча было дапісана, што ён абавязваецца яе вярнуць: сыну, унуку альбо нявестцы памершага. Зэльвенскі адвакат



і пракурор, падкупленыя Архімовічам, перакруцілі значэньне таго параграфа, і толькі растлумачыла нам яго нейкая камсамолачка, на дзіва чэсны і сумленны юрыст. Быў спісаны акт па сьмерці бацькі ўладамі на рэчы па ім і т. п. Гэта «ўлады» зажылілі, і мы маўчалі, бо вельмі дрыжэлі пасьля лагероў. Так і выехаў той Архімовіч з сям'ёю ў Польшчу, адвозячы нашыя рэчы і крыўду. Праўда, быў у яго сын Раман, і вось той Раман аднойчы прынёс нам пачку нашых сямейных старых здымкаў, за якія мы яму ўдзячныя і сяньня. Страшны быў яго сын Пётр і яшчэ страшнейшай дачка — наколькі пабожныя, настолькі нелюдзі. А мы нейк жылі.

Адбілася ад тэмы. Знача, арыштаваныя 5 сакавіка 1948 году ў Вімпэрку, выданыя саветам 1948 г. 12 жніўня, прывезеныя ў Менск у кастрычніку, суджаныя 1949 г. 7 лютага па адной справе § 58 і § 4 савецкіх законаў. Першы, гэта была групавая арганізацыя, а другі нешта накшталт: «Ведаючы, што на зьмену капіталізму мае прыйсьці камунізм, усе ж трымаўся з буржуазіяй...» Кляты той Коган сказаў мне, што ён мог на падставе гэтага параграфу асудзіць на 25 гадоў Чэрчыля, калі б той трапіў у яго рукі. Чэрчыля не любілі. І так, маючы разам з мужам паўстагодзьдзя маскоўскай кары, разорванай на тры часьці сям'ёй уліліся мы ў шэры, убогі натоўп далёкіх лагероў ледзяной поўначы. Муж быў на Варкуце, і я гэта ведала ад Элкі Маркман, я была на Інце, і муж аб гэтым ня ведаў. Коган мне прапанаваў на сьледстве разьвесьціся з мужам і наагул пачаць пісаць па-расейску. Я яшчэ раз пашкадавала харошага чалавека, якому лёс назначыў быць маім мужам і які сапраўды цярпеў з-за мяне і з-за свае дурноты, веры ў сацыялізм. Муж і, галоўнае, сын... Божа мой, што было рабіць мне няшчаснай? Не, нельга было йсьці на ніякія ўступкі, мы ж, як ваякі, і Народ наш, і Зямля наша, і ўсе гуманныя здабыткі чалавецтва, і праўда, і Бог — ад такога не адступаецца нават перад грозьбай сьмерці. Што ж, пабачым, што прынясе час. Коган нейк казаў мне, пасьля даносаў Нэлкі Гардзей, што грузіны жывуць вельмі доўга і Сталін добра трымаецца, але я ведала, што гэты «айцец народаў» вытрымае ўсю «малітву» і ўсю хвалу ачумелых паэтаў і ўсякіх ідыётаў без розуму, але стогну мільёнаў ім загубленых — не стрывае.

І так лагер. Доўга цягнуцца ўпрогаладзь працоўныя дні за зонай у той клятай Ілгі Дзіндонс (і запамятала я гэтае прозьвішча). Калі мне надта хацелася есьці ці было ня вытрымаць цяжка, я малілася Богу. У краі гэтым нігдзе не было і ніколі не было хрысьціянскіх сьвятыняў, дарогу ў тундру пракладалі мы, але Бог йшоў за намі і, як мне казала простая малдаваначка манашанька Галя, Ён ніколі не пакідае тых, якія Яму моцна верацъ, дык і хлеб нам дасьць, і Поўнач ацепліць, і пераменіць сэрцы ворагаў, абудзіць сумленьне... Так, тое сумленьне... Калі мы прыдумвалі кару ворагу за ўсё, што тут рабілася з мільёнамі людзей, дык мы прасілі Бога, каб абудзіў у іх сумленьне і яны ясна сабе ўсьведамілі, што чыняць з людзьмі. Гэта была б тады на іх пякельная кара. Бо навошта асьвенцімскія печы, калі ў мірны час спальвае мільёны маладых, найлепшых людзей мароз і голад. Тупеюць і зьвярэюць яны ад зьдзеку і нявольнай працы, на дзесяцігодзьдзі адарваныя ад сем'яў, ад сяброў і сьвету... [...]

Знача, мы ходзім на «док». Ужо другі дзень туды нас пасылаюць. Раманчук, сталы працаўнік «доку», сустракае нас з раз'іскранымі вачыма і, калі канчаецца праца і зноў мы чакаем на канвоя на бярвеньнях ля вахты, ён прыходзіць з сябрамі Хведарам Вялёндай і Пётрам Рашэтнікавым і кажа, што не захварэў ні разу за ўсё сваё пакутнае прабываньне ў лагерох, а вось сяньня ноччу меў тэмпературу, і гэта таму выключна, што я тут апынулася ў гэтым пекле, і як я толькі магла так зрабіць? Ён пачаў асьцярожна і са страхам выпытваць у мяне, як жа я тут апынулася. Беднаму, відавочна, здалося, што я сюды завітала проста па добрай волі, можа, захопленая самым «мудрым і геніяльным усіх вякоў і народаў». Я расказвала, як гэта з намі здарылася, і Раманчук уздыхнуў з палёгкаю. «Вельмі мне жаль, што вы тут,— сказаў ён,— але калі ўжо так здарылася, дык памагайце нам, Л. Г., пішэцця. Ах, каб я мог узяць на сябе ваш срок, а вам аддаць тых пяць гадоў, што мне засталося»,— зноў застагнаў ён. Справа ў тым, што спачатку давалі максімум па 10 гадоў кары, калі гэта не было ўжо сьмяротнае рашэньне, і чвэрць стагодзьдзя на чалавека гэтыя нехрысты прыдумалі толькі пасьля свае т. зв. «пабеды». Каб паказаць народу не велікадушнасьць да ўсіх тых, якія здолелі перажыць гітлераўскую жудасьць, а нешта яшчэ страшнейшае за гітлерызм, бо і той вырадак роду людзкога, пэўна, не змог бы такога чаўпсьці з радасьці, каб перамог. Тут зьдзеку не было граніцаў, і кожнага нават зусім не вінаватага чалавека распісвалі сьледавацелі паводле загаду з гары так, што ён сам сябе ледзь пазнаваў і за галаву браўся з усяго гэтага. Болей я не ўбачыла ў жыцьці Раманчука, гэтага нашага сьветлага героя, які ве-

даў адно толькі — сваю Радзіму і жыў толькі для яе і ею. Нас болей на 4 «док» не павялі.

Пачалася перапіска. Тоненькія запісачкі насілі дзяўчаты, якія хадзілі на бліжэйшыя аб'екты. Насіць запіскі было небясьпечна, жыць без іх было немагчыма зусім, і кожная з нас гэта разумела. Цярпелі дзяўчаты бур, і голад, і гора, але спагадалі адна адной і памагалі. Мае запіскі насіла пераважна нейкая Жэня Врублеўская з Варшавы. Была гэта маладая, прыгожая дзяўчына, расейка. Мне яна не падабалася, бо не была дружна і часто цьвердзіла, што каб выжыць, дык кожны павінен глядзець толькі сябе і йсьці напралом праз лагер, не зьвяртаючы ўвагі на рэшту зьняволеных. Запіскі ад Раманчука былі палкія, цікавыя. Прага барацьбы і волі бурліла ў іх, да гэтага прымешвалася, праўда, стрыманае ў словах, але між радкамі гарачае і глыбокае пачуцьцё да мае асобы. Я гэтаму не дзіўлюся, такія былі абставіны. Раманчук першыя сваіх пяць лет зьняволеньня адбыў у бытавых лагерах між блатных, жудаснага бандыцкага бездзэйнага і наагул выкалеенага з жыцьця элементу. Таму, калі ён трапіў у лагер палітычных зьняволеных, яму здавалася, што ён між харошых людзей. О, наіўны! Найгоршы бандыт ня так страшны, як тыя сталінскія «дзеці», якія, страціўшы ласку «самага мудрага», не маюць іншых пачуцьцяў і інтарэсаў, як толькі вярнуць тую ласку... Любымі сродкамі... Раманчук пачаў дзейнічаць, ён арганізоўваў пратэст і паўстаньне ў лагеры супраць бяспраўя і зьдзеку, згрупоўваў людзей. Ведаю, што ён быў зьвязаны з нейкім палкоўнікам ці генералам расейскім Паўлавым і Баляславам Рудкоўскім — паляком, які пасьля прадаў Раманчука. Здаецца, абодвыя яго прадалі. Паляк звычайна нават у лагеры нішчыў усе найменшыя праявы беларускай думкі, спакойна злучаючыся з ворагам — настолькі сільная была ў іх закаранелая прага каланізацыі Украіны і Беларусі.

А пакуль што ляцелі нашыя гарачыя запіскі, асабліва вершы мае мужныя і бадзёрыя, поўныя цярпеньня і змаганьня са злом. Мы жылі сваімі сябрамі, калі было Пятра ці так чые імяніны — мы стараліся пасладзь ім хоць драбнічкі, торбачкі вышытыя васількамі на хлеб ці на цукер, хустачкі да носа ці паясочак да кніжкі. На гэта я парола сваю пражскую гардэробу ці выпрашвала па нітачцы ад скупой і, як пасьля выясьнілася, здрадніцкай Люцыі Антонаўны Клагіш. Хлопцы былі задаволеныя нашай увагай, асабліва жа вершамі. Яны, на жаль, загінулі, забыліся амаль, і я толькі пятае праз дзесятае з іх помню. А былі, мусяць, як полымя, бо людзі жылі імі і мне трэба было пасылаць новыя якія, што пэвен час, бо так і пісалі: «Прысылайце хутчэй глюкозу!» Йзноў йшла за драты душа мая, мая «глюкоза», якою жылі зьняволеныя мае браты. Што будзе заўтра — ня думалася, а жылося мамэнтам, супольнай верай на лепшае. Каб ня думалі, не змагаліся б — хіба памерлі б ад лагернай гнуснасьці. Змагацца — значыло жыць! Першы ОЛП той, лагер, гдзе быў Раманчук, быў супраць нашага жаночага лагеру, заўсёды драты і вышкі іх у нас на вачах.

І вось аднойчы пад восень перавялі нас ад іх далей за лясок. Была там зусім яшчэ дзікая тундра, і перад намі была вытарфоўка пад будынкі і дарогі Інты. У тундры амаль усюды трансава, і каб дабрацца да цьвёрдага грунту, нам трэба было здымаць напластываньне моху. Пласт той быў часам у паўмэтра таўшчыні, а часам і ў паўтара. Зімой той мох змярзаўся з сівай глінаю, і мы яго лупілі кіркамі, сякерамі і клятымі цяжэрнымі кувалдамі і на насілках валаклі на сабе, угінаючыся, у вялізныя кучы. Толькі на вытарфаваным грунце пракладаліся дарогі, рабіліся шахты, узносіліся будоўлі.

З нашым пераходам у другі лагер перарвалася ўся мая перапіска. Было сумна. Я цесна падружылася з украінцамі, асабліва з мілай Люцынкай Воўк. Разам мы елі і спалі, былі ў адной брыгадзе. Люцына была чароўная жанчына, срок у яе быў на дзіва малы — усяго пяць гадоў. Сядзела яна за тое, што муж яе быў у бандэраўскім падпольлі. Яна ледзь выйшла за яго замуж, і ён пайшоў на змаганьне. І вось Люцына цяжарная! Тут за яе і ўзяліся — гдзе муж? Люцыну пасадзілі. Нейкі дураньчык з іх вёскі мужна аб'явіў МГБ, што гэта ён бацька дзіцяці, але яму не паверылі. Недзе ўдома ў старых цётак гадавалася яе дочанька Катруся. На сьледстве паказалі ёй здымкі забітага яе мужа, але яна ўсё жыла ім, любоўю да яго і нейкай упартай верай, што ён жыве. З інвалідаў дружыла з намі Каця Грынкевіч з Менска і крыху Марыя Зарэцкая. Былі яшчэ беларускі, але пераважна слабыя, нецікавыя тыпы, апрача адной Таісы, якой муж быў шаўцом, а яна сама, здаецца, настаўніцай. Таіса была разумнай і людзкай жанчынай. Раманчука яна ведала асабіста.

Аднойчы позьняй восеньню я нарэшце атрымала запіску. Мяне скаланула. Запіска на гэты раз была асабістая, толькі для мяне, не закраналіся там «гаспадарка» (Беларусь), ані нашыя дзеці (Сябры). Проста пісаў Раманчук, што ўсе здрадзілі яго, прадалі, гарыць яму зямля пад нагамі і што веру ён зьбярог толькі ў мяне адну. Я заплакала з бездапаможнасьці нашае, з гора. Мне прыпомнілася, як падобныя словы казаў мне, паміраючы, дзядзька Захарка, ускладаючы на плечы мае жаночыя непамерныя абавязкі. Час ішоў, не было болей ніякіх спраў, ніякіх запісак. Хацелася верыць, што ўсё нейк уладзілася. Аж выклікалі мяне раз нейкія дамы-начальніцы. Прычынай размовы, быццам, былі мае драбніцы, залаты абручальны персьцень, залаты крыжык на такім жа ланцужку, які мне пераслаў з Англіі брат Алёша, калі выжыў з вайны адзіны з нашай сям'і. Крыжык быў цудоўнай работы. Быў і звычайны гадзіньнік на руку. Усё гэта мне забралі пры вобыску, і ўсё, безумоўна, прапала, так і не аддалі. Вось яны нечаму пыталіся ў мяне аб гэтых рэчах. Я ведала, што думаюць яны нешта іншае. Пачалі выпытваць у мяне, як да мяне адносяцца расейкі з лагера і што я пра іх думаю. Я адказала, што як бы яны да мяне ні адносіліся і што я ні думала б пра іх, я гэтага ім усяроўна не скажу. Пыталіся, што я раблю. Я сказала, што вывучаю псыхалогію нацыяў у лагеры: хто чаго варты... Яны скрывілі нос. Тады папыталіся: ці ведаю праз вялікія будовы ў Саюзе? Я сказала, што іх «трудящіеся» праводзяць усё ж большасьць сваяго жыцьця ў кватэрах, убогіх, перапоўненых дзірах, для іх вялікія будоўлі ня маюць значэньня, пакуль людзі жывуць, што жывёла... Як доўга я думаю сядзець у лагеры? «А гэта ад мяне залежыць, проста калі мне захочацца перарваць гэту ніць жыцьця...» «А на што ў вас надзея?» — спыталі. «На «Северное сияние»,— кажу, проста, каб нешта адказаць ім. «Ну і спадзявайцеся на сваё «Северное сияние»,— мнагазначна сказала адна з іх, упорна на мяне пагладзеўшы... Тут я і зледзянела, нечаму нагадаўся мне Раманчук... Ад Люцыі Антонаўны я даведалася, што адна з жанчын, у кароткім чорным кажушку, падобная на яўрэйку, называлася, здаецца, Гарбунова ці Гарбатава, быццам з Менску. Аб маіх дарагіх драбніцах я ўжо і не думала.

Час ляцеў, наступіла суровая зіма, мяне пакінулі ў зоне разам з другімі арганізоўваць самадзейнасьць у нашым лагеры. Я, не падумаўшы, засталася. У ініцыятыўную групу ўвайшлі: Тамара Вераксо кіеўская — балерына, Кузьняцова — жонка нейкага коміка з «Малого театра» ў Маскве, Ларыса Донаці — артыстка з Горкага, маладая і вельмі прыгожая, ну і я. Мы разам усё абмяркоўвалі, ставілі адмысловыя канцэрты, гдзе маею справаю быў канферанс і розныя тэксты песьняў. Яшчэ я памагала рысаваць дэкарацыі, адзяваць у пачкі з марлі балерынаў і т. п.

Аднойчы зімою перад такім канцэртам паклікалі мяне ўкраінкі ў другі барак. Проста Люцынка з дзяўчатамі наварылі недзе ў качагарцы пшоннай кашы і клікалі мяне есьці. Схаваўшыся, мы аплятаді, як найвышэйшы прысмак, тую пасьнюткую кашу і цешыліся ўзаемна сваім таварыствам, як увайшла днявальная ад начальства, нейкая Зінкасучка і стукач адмысловая, і паклікала мяне на вахту. Была яна злосная, як зьвер, і нешта буркнула наконт бунтаўшчыкоў у лагеры. У чым, думаю, тут загваздка? На вахце сядзелі нейкія начальнікі незнаёмыя і наш лагерны опер. Аб гэтым оперы я чула неблагое. Адна мая знаёмая некалі была ў яго днявальнай і сказала, што ён мяне цэніць і людзей наагул шкадуе. Але той цяпер выйшаў і на яго месца прыйшоў нехта другі. Мяне заўсёды выклікалі трох чалавек, чаму? Не ведаю. За столікам сядзеў ваенны, невысокі, сіваваты чалавек. Пасьля апавешчаньня, як звычайна, пэрсаналіяў ён паглядзеў на мяне нейк пранікліва і сказаў: «Говорите!» Я маўчу, бо скуль магу ведаць, чаго нехрыст хоча? «Говорите или не говорите, смертного наказания вам не избежать!» Моцна падкрэсьлівае «не говорите» і глядзіць на мяне ва ўпор. Скуль я ведаю гэтага чалавека? Скуль? Што за несуразнасьць? Я яго ведаю са сну! Гэта ён мяне выцягнуў з ямы ў сьне, калі я йшла пустою тундраю ад адное царквы да другой! Я ўвалілася ў яму, з якой мне было ня вылезьці, і ён гэта, ён той самы сіваваты чалавек з чорнымі бліскучымі вачыма, мяне выцягнуў з ямы за руку. Што за кашмар! «Дык што вы маўчыце?» Кажу: «Я ня ведаю, у чым справа, пытайцеся». «Дык хто Паўлаў, хто Рудкоўскі, кажэця, а то скажаце ў вязьніцы ў Інце, прымусім!» «Зьгінь ты, прападзі,— думаю,— нелюдзь ты няшчасны». Кажу: «Ня ведаю я такіх людзей!» «Говорите, смертного наказания вам не избежать»,— зноў гаворыць. Ах так, дык ведай, каце: «Забралі вы мне маю Бацькаўшчыну, маяго сына і мужа, дык жыцьцё тут найменшая рэч, чаго ж чакаеце? Без волі Божае волас не ўпадзе з мае галавы, і я вас не баюся!» Крычу, быццам гэта не я гавару, і страху — ніякага. «Дык Паўлаў з вамі не па адной справе?» «Не,— кажу,— такога не ведаю!» «Дык ідзеце, рэшту скажаце ў Інце». І ўсё! Я выкацілася з той вахты. Пачынаўся канцэрт, і мне было трэба адзяваць тых балерынаў. Іду я на тую сцэну, калені

ўгінаюцца, але маўчу. Бачу: стаіць опер у зале, глядзіць на мяне, ледзь не крычыць з болю. Эстонка Эльвіра нясе мне папяросу, хоць ведаюць усе, што не куру з роду. Няўжо ў мяне такі дурны выгляд? Мяне пачынае трасьці, я ўцякаю недзе ў кут і раву, як жывёла. Мне сорамна, але сталася так. У лагеры ўжо ўсё ведаюць і якім чынам? Што ж, забяруць мяне, але ў мяне ёсьць вартасная рэч, гэта здымак, на якім муж, сын і я. Прыслаў мне яго ў адным сваім жудасным лісьце мужаў бацька. Яго трэба захаваць, мне ўжо не выйсьці... Бедны, дарагі сын, якая ж трагэдыя... Назаўтра панесьлі мілыя ўкраінкі здымак, каб перадаць яго беларусам у мужчынскія лагеры. Я чакала, калі мяне возьмуць на тыя мучэньні ў Інту. Мяне ўсё не бралі. Я зсохла, маўчала.

Аднойчы прыйшла да мяне лагерная парыкмахерша менчанка Дзіна і сказала, што ў яе брыўся палкоўнік усяго інцінскага МГБ і пытаўся, ці яна мяне ведае і хто я паводле яе. Дзінка сказала, што я старэйшая, вельмі тактоўная і спакойная жанчына. Ён сказаў ёй, што гэта самая небясьпечная птушка ва ўсім лагеры, якой ён прыгразіў «сухарыкамі» (вязьніцай) і радзіць ёй прыціхнуць... Як аказалася, гэта быў той тып, што мяне выклікаў. Так мяне і не забралі. Раманчук прасіў мяне пісаць другім, толькі з яго ведама, каб пазьбегнуць стукачоў. Трэба было падымаць крыху «кашаедаў», каб думалі. Пісаць толькі і выключна любоўныя эпісталы для бясьпекі, між радкамі ўпісваць усю рэшту. Прымушаць людзей думаць.

Дарога ў Інце была адна. Па ёй кожны дзень праходзілі даўжэзныя вужы калонаў зьняволеных на працу — з працы. Мы — на вытарфоўку, капаць канавы ля дарог альбо пад водаправод ці газ у Інце. Часамі чысьціць сьметнікі ў пасёлку. Тады дзяўчаты з Прыбалтыкі гаварылі: «Ну і гэтае начальства — на грамы ядуць, на кілаграмы с.... А жонка яўрэйскага рабіна вельмі мілая Міна Барысаўна казала: «У нас быў сьвяты Гаман, яму лілі г..... на галаў, але нам горай! Калі кіркуем, дык яно нам ляціць у рот...» Мужчыны йшлі ў шахты, доўгім, доўгім чорным шнуром. Усіх нас вадзілі пераважна з сабакамі. Яшчэ йшлі мужчыны на будоўлю. Так мы сустракаліся, міналіся па дарозе, нейк перадавалі запіскі, хоць канваіры дурэлі са злосьці і часамі стралялі.

Аднойчы мы капалі ў Інце канаву пад нешта там, а воддаль мужчыны, ведама, нашыя, зьняволеныя, ставілі дом. Паляцелі з каменьчыкамі запіскі. Пісаў мне з таго дому нейкі паляк. Перадаваў ад Сямёна словы: «Ідзем на дно, трымаемся моцна». Сядзеў гэны хлапец з імі ў Інце ў вязьніцы. Пісаў ужо ад сябе, што мяне затуляюць яны, ашчаджаюць. Маё становішча было ня так страшнае, бо хлопцы мяне ні ў якую справу не ўцягалі, ад мяне патрабавалася вершаў, вершаў і яшчэ раз вершаў — родных, беларускіх. Гэта знача — агітацыя, а за яе даюць 10 гадоў. Што ж яны мне маглі падкінуць, калі ў мяне ўжо было чвэрць стагодзьдзя? Прытым я лічылася чужынкай, хоць і без грамадзянства, але ня іхняй. Гэта і толькі гэта мне захавала жыцьцё. Знача, Сямён цярпеў, а з ім і другія.

Летам нас далёка не вадзілі. Праўда, як я даведалася аб правале хлопцаў, мне не схацелася болей быць у той іх культбрыгадзе, ды і ўсе мае сяброўкі ўкраінкі пераважна працавалі на агульных работах. Я падала заяву, што не хачу быць у гэтай брыгадзе. За пару дзён Тамара Вераксо, наш брыгадзір, аддала мне тую заяву назад, але я ўперлася, што там ня буду, і мяне за кару далі ў цяжкую брыгаду першай катэгорыі на самыя горшыя працы. Ля нашай зоны воддаль быў клуб салдацкі, гдзе пад восень судзілі хлапцоў. Кажуць, судзілі іх 60 чалавек з вольнымі разам. Інта была, здаецца, першай ластаўкай бунту вязьняў. Пасьля была Варкута, страшны Нарыльск і іншыя лагеры. Дарога адна. Вязуць у клуб судзіць закованых хлопцаў, і насустрач заўсёды нейкая з нашых брыгадаў. Хлопцы нам перадаюць прывітаньні. Пераважна беларусцы Ларысе Геніюш. Так амаль кожны дзень. Вечарам прыходзяць дзяўчаты рознай нацыянальнасьці, і ўсе мне нясуць тыя прывітаньні. А я зьнемаглася з гора, што я не з імі, не разам, не там... Нарэшце дзень, калі я гару ад тэмпературы, паліць мяне, мяне не выводзяць на працу. Ляжу. Вечарам прыходзяць брыгады, да мяне ніхто не заходзіць, лагер маўчыць. Аж паціху, пакрысе ідуць адна за адной, шкадуюць мяне... Закованыя, ужо засуджаныя хлопцы прасілі мне перадаць, што іх засудзілі на сьмерць... 12 чалавек. Раманчук перадаваў мне свае апошнія, сяброўскія словы, тады савецкі афіцэр ударыў яго па твары, і ён яшчэ сказаў: «Пашто мяне б'еш?...» Я маўчала як гроб, атупела з гэтага болю.

Так першыя беларусы пачалі першы вялікі бой супраць зьдзеку. Яны загінулі, а кашаеды, сябры іх, якія ад іх адракліся, вельмі асуджалі пасьля гэтых герояў, што пасьмелі выступіць супраць такога насільля. Гадко было слухаць, чытаць высказваньні ўсякіх [...] і іншай набрыдзі прадажнай і гадкай. Бог і Зямля нашая няхай іх некалі судзіць!

Хлопцы яшчэ сядзелі па бурах, яшчэ іх не адразу забілі. Такім чынам яны пасьпелі перадаць людзям весткі аба мне, каб навязалі кантакты. Мне ўсё ня верыцца, як той Люцынцы, да сяньня ня верыцца, што Сямёна забілі. Невысокі, каранасты, круглатвары хлапец з душою, аддданаю Беларусі. Як жа забыць аб ім? Уцякаў з менскай вязьніцы, у якой чуў, як Кастусь Езавітаў аднойчы ноччу крычаў: «Бывайце, сябры, я, генерал беларускі Езавітаў, уміраю, прысуджаны бальшавікамі да найвышэйшай меры наказаньня...» А ў лагеры цягнулі і цягнулі тых, якіх не пасьпелі вынішчыць немцы і штрафныя роты саветаў. Балела сэрца, і ня цяжка было цярпець з імі, цяжэй было б у гэты час раз'язджаць у галубых экспрэсах, як гэта рабілі іншыя, заліваючы гарэлкаю нячыстыя сумленьні.

Доўга пасьля гэтага суду цікавіліся мною канваіры, стараліся запыніць, зачапіць мяне словам: ці я з Чэх? Адзін часта падыходзіў да нашай брыгады на працы і казаў мне, што я — гэта розум. Другі прасіў напісаць яму верш аб зьняволенай дзяўчыне нашай, якую ён кахае і якой ніколі ня можа ўзяць за жонку. Памятаю пару слоў з гэтага верша:

> Догорают грустно огоньки костра,
> летят мои мысли с тёмно-синим дымом,
> ты мне как невеста, ты мне как сестра,
> почему не можешь быть женой любимой...

Мае вершы, дарэчы, казалі мне пасьля, усе нехта перадаў чакістам, але, відно, і сярод іх былі людзі, якія чыталі іх нездарма, як гэтыя канваіры.

І так справа Раманчука, гэты суд. Я і сяньня пра гэта амаль нічога ня ведаю. Калі мы спрабавалі каго аб гэтым пытацца, людзі сінелі са страху, нават у лагеры. Хведар Вялёнда, якому да 10 гадоў кары прыдалі яшчэ 15, выжыў, казалі, і жыве цяпер недзе ў раёне Баранавіч. Казалі, што моцна п'е. Тут няма дзіва. Некалі, памятаю, на тым «доку», гэты хударлявы ад пакутаў і голаду чалавек, падышоўшы, сказаў мне, што калі чытае мае вершы, дык яго постаць мімавольна стае на «зважай». Гаварылі, што ўсіх разам было 60 чалавек у гэтым, і з жанчынаў я адна. Мяне ўсё ж затуліў, засланіў нехта. Казалі мне, што мяне ўжо далі б у лагерную псіхбольніцу, каб толькі выратаваць па выпадак суду, але мяне не судзілі. Мне сказалі, што хлопцаў расстралялі на Інце, а пасьля адкопвалі, каб ім павырываць залатыя зубы. Гэта казалі мне яшчэ ў лагеры. Яшчэ казалі, што я наймацней трымалася на дапросе, гэта тады, у гутарцы з тым палкоўнікам. Усё гэта некалі некаму яшчэ належыць дасьледаваць, каб ведалі людзі.

А годы йшлі: зіма — лета, зіма — лета... Аднолькавыя да атупеньня годы. Інта была цэнтрам т. зв. «Мінлагу». Вакол яе былі т. зв. ОЛПы 1, 2, 3, 4 і т. д. Адзін з іх быў наш, жаночы. Стаялі і адкрываліся новыя шахты, разбудоўвалася Інта. Відавочна: не адна зьмена зэкаў загінула на Інце, магільнік быў разьлеглы. Пэўна, карчавалі ці пілавалі першабытны лес, бо пні па ім засталіся вялікія, аб'ёмістыя, і нам ня раз давялося карчаваць пад калгаснае поле. Бо ж і там быў калгас, пасьвіліся каровы, расла ранняя капуста, турнэпс і рэдзенькая, вадзяная на смак, невялічкая бульба. Пры нас тут не было ўжо магутнага лесу на ўзгорках. Толькі кругом тундра-трансава, а гдзе вышэй, дык бярозкі і яліна з моцна абсьцёбанымі ветрам верхамі. Хадзілі мы на свае рабочыя аб'екты з сабакамі найчасьцей. Насілі вяроўку і калкі, якія забівалі ў зямлю, нацягалі на іх вяроўку і там працавалі. Найцяжэйшыя былі працы для нас, каму кары было 25 гадоў. Бывала, кіркавалі па 14 гадзін у тундры без ніякага вогнішча ў найлюцейшы мароз. Без ніякае абагравалкі, такія пачалі заводзіць толькі пасьля сьмерці Сталіна. Доўгі час працавалі без выхадных. Канвой быў розны, большасьць нялюдзкі, але з часам дзяўчаткі іх перавыхоўвалі, і на далёкіх аб'ектах работы можна было з імі вытрымаць. Нават пяялі пад савецкі гімн:

> Союз нерушимый зэка и конвоев.
> Сплотила на дальних объектах Инта і г. д.

Найгоршыя былі канваіры з нававбранцаў. Ідуць Інтою такія недарасьлі, плачуць, на іх гледзячы, нашыя жанчыны, у якіх удома сыны, махаюць ім рукою шэрым, быле як апранутым з волі. Але вось іх апранаюць па-ваеннаму, муштруюць і так ужо «перавыхаваюць у камуністычным духу», што яны з абыякавых хлопцаў становяцца нелюдзямі,

катамі, вяротнымі Гітлерамі на нас. Чаго толькі не чаўпуць, які рэжым, а правакацыі? Выводзячы на работу, безумоўна, кожны доўга паўтарае нешта: «Шаг вправо, шаг влево — считаю побег и стреляю без предупреждения». Часта, калі хоча канвой на некім помсьціць, дык крычыць: «Выйдзі са строя!» Мы ведалі, што гэта нельга, бо крок ступіш і застрэліць і скажа: пабег, і толькі яму паверацъ. Часам трымалі да ночы нас у тундры, зьдзекваліся, стралялі ўгору, убок, а мы стаялі, як сьцяна, і сьпявалі. Сьпявалі ўкраінкі свае песьні з паўстаньня, адчайныя, гнеўныя, як: «Хлопцы б'юцца, не здаюцца, ідуць да бою і сьмяюцца, хлопцы, підэмо, змагатыся будэмо за Украіну, за рідны наш Край!» Калі мы ўжо ўволю насьпяваліся, ды намерзьліся і мы і яны, дык тады толькі ноччу вялі нас дамоў. Часам стралялі і забівалі. На Інце аднойчы, разгружаючы вугаль, дала нейкая жанчына ліста машыністаму, каб кінуў (так рабілі мы часам). Грузін-канваір убачыў гэта і зьбялеў, схапіў аўтамат. Жанчына ўпала на калені і ўзьняла рукі благальна ўгору. Застрэліў. Жаль, удома ў яе было пяцёра дзяцей. Нелюдзь дастаў нагароду і два месяцы водпуску ў сваю Грузію, якая, як бачна, дала з сябе беднай Расеі ня толькі Сталіна... Што ж, «земля наша широка и обильна»... Але час ішоў, і нашыя дзяўчаты памаленьку перавыхоўвалі нават канваіраў. Убачаць правяраючага, папярэдзяць, выясьняць усю хлусьню, якое вучылі, каб нас нішчыць. Паглянуць хлопцы, пераканаюцца: гдзе няшчасныя людзі, а гдзе нелюдзі, і тады толькі пачынаюць нас разумець і шкадаваць і тое, што і яны пакутуюць тут, на канцы сьвету, і мерзнуць разам з намі, але канчаецца срок іх службы, і нас чакаюць новыя, дзікія і ярасныя зьдзекі. Я з імі гутарыла мала. Часам скажу што, калі пытаюцца, дык аж зубамі са злосьці заскрыгічуць і болей баяцца зьвяртацца, а калі па-добраму пачнуць прасіць пару радкоў, дык скажу ім:

Конвоируй, стой верно на страже,
одного лишь, смотри, не забудь,
если даже тебе и прикажут,
не стреляй в нашу гордую грудь...

Мне здавалася, што такія ўжо ў нас страляць ня здольныя. Доўгі час перашэптваліся канваіры ля вогнішчаў (для іх былі вогнішчы), паглядаючы ў мой бок пасьля таго страшнага суда над нашымі хлопцамі. Канваіравалі, відавочна, іх бедных і многае ведалі.

А час поўз. Дні былі страшна даўгія і цяжкія, але годы праляталі хутка. Кожны дзень цяжкія работы, прагаладзь і дакучлівыя маразы. Часам так зьмерзьнеш, што здаецца табе — ты ледзяная сасулька. Жаночы, гладкі твар робіцца ад інею хлюпаты, быццам шэрсьць нарасла на ім. Плачам тады, як перад скананьнем, саграваемся сьлязьмі. Калі трэба выйсьці, дык часта канвой загадвае рабіць гэта пры ім. Мёрзлыя рукі не здолеюць разшпіліць ватніх нагавіцаў, а зашпіліць іх тым больш... Адна адной памагаем, ратуем сябе, і рукі нашыя робяцца як нежывыя калоды. Гэта калі халадно. Паўночным кароткім летам зноў вытарфоўка, карчоўка пнёў ці гоняць нас на рэчку Інту, гдзе баграмі выцягаем сплаўлены лес, альбо заганяюць нас у ваду, і так мы часамі па шыі ў ледзяной вадзе папіхаем наперад нагрувашчаны лес, кіламэтрамі ідучы па вадзе. Тады ў нас адна толькі думка, вось: гнаць бы так гэтай рэчкаю клятага «айца» тое савецкай Расеі і страляць гарохам яму ў патыліцу, і так пакуль здох бы. Няволя, і калі падумаеш, што так мучыцца сорак мільёнаў людзей (так мне казалі кампэтэнтныя: 40—45), то здаецца, сьвет ня той. Як жа могуць жыць спакойна тыя культурныя людзі ў высокацывілізаваных краінах, як жа могуць яны спаць і есьці, калі голас стольківмільёнаў людзей моўкне ў бесканечных прасторах краю, які ня мае права на існаваньне, бо ніколі ня ведаў людзкасьці ў адносінах да людзей, толькі мучэньні і нагайкі, якія цяпер замяніў аўтамат, які стаўся сымбалем гэтай сістэмы. 45 мільёнаў маладых, найлепшых людзей, мозг і сумленьне гэтага Краю, яго сіла. Калі ўзяць усю колькасьць насельніцтва СССР і адкінуць якіх 100 мільёнаў усякіх нацмэнаў, якія лагероў, як правіла, не засялялі, то знача, што гэта з Украіны, з Беларусі, з Прыбалтыкі і самой Расеі стольки найлепшых сілаў, а што засталося? У лагерох армія, вышкаленая прытым і камандны састаў, але ўсё маўчыць, ніхто яе не падымае, яна чэзьне, раскладаецца, гібне і ратуецца тым, што, як некалі, падае на жывот перад Джынгізханам і безапеляцыйна прымае ўсе яго несуразнасьці. Няма сьвятасьцяў, ёсьць адно: суцэльная хлусьня, і ў гэтым трэба трэніравацца, хто гэта можа. Шмат што тут нагадвае змрочныя часы і парадкі Джынгізхана. Тут прызнаюць толькі рамесьленьнікаў, лекароў тых, хто можа працаваць на гэты «гэршэндэ фольк», як казалі немцы. Іншыя могуць гінуць. Важны той, хто з 30 года (былі 50 гады), яго яшчэ хваляць, даюць большую пайку, пакуль глуміць кіркой мерз-





лату, а калі заняможа — на звалку. Страх з думкі, сьляпая паслушнасьць сьляпой тыраніі, а не, дык голаў далоў.

Божа мой, Ты з дзяцінства ўліў у маю душу літасьць, праўду і пачуцьцё справядлівасьці, даў сумленьне і розум, як жа я, чалавек, які ведае законы чалавечыя і Божыя, магу згадзіцца з Джынгізханамі пасьля Масарыка, Абрагама Лінкальна, Талстога, Рабіндраната Тагора? Не, не, я чалавек, гдзе б мяне ні закінулі, і ў гэтым мне памажы Божа! Я прыпадала душой да ўкраінскае стыхіі, простых дзяўчат і жанчын, якіх адарвалі жыўцом ад зямлі і іх сем'яў. Яны былі шчырыя, стойкія, чыстыя, як вада карпацкіх крыніцаў, і гэтым непаканана сільныя. Яны не стараліся зразумець, разгадаць, гаварыць з ворагам, яны яго раз пазналі і раз назаўсёды адкінулі, як нешта супрацьжыцьцёвае, агіднае і згубнае для жыцьця і людзкасьці. Сьмяяцца з такога не было ахвоты, згадзіцца з гэтым — ніколі. Іначай захоўваліся тыя болей інтэлігентныя ўкраінкі. І яны пераважна былі стойкія, але ізаляваліся ад свае масы, лічылі сябе лепшым элементам тады, калі было гэта наадварот. Мяне любілі адныя і другія, ды, урэшце, мяне, здаецца, любілі ўсе, калі ўжо не на вонак, то ў сэрцы, і я гэта адчувала! Нават тыя, якія губілі мяне і на мяне даносілі, а іх было болей, як можна было падумаць. Даносіць на мяне цяжка, я і сама скажу тое, што думаю, кожнаму ў вочы, а слова сапраўды жывая рэч! Прыклад дзейнічае яшчэ болей. У лагеры кожны адкрываецца, само жыцьцё паказвае нутра чалавека, тут чалавек — адкрытая кніжка, адзін другога ведае наскрозь. А людзі ёсьць людзі, яны як расьліны цягнуцца да сонейка, да лепшага, да праўды. Вякі хрысьціянства стварылі душу людзям, і яна прагне сьвету і адкідае ўсю агіду сярэднявечча, з якім усе амаль сустрэліся ў час допытаў, ну, і цяпер. Прад намі гады мукаў, ніякай надзеі на збаўленьне, а людзі ўсё ж хочуць застацца людзьмі.

Беларусак у параўнаньні з украінкамі было ў нас на Олпе няшмат. Апрача Таісы, думаю, усіх іх запалохалі і купілі. Трымаліся яны са мною, але ніводнай з іх нельга было верыць. Я загадала ім пісаць сябрам і адказваць на іх запіскі, а хлопцам-апекавацца выбранымі. Многія з такіх «параў» пасьля пажаніліся. Гэта было з мэтай, каб не забываліся роднае мовы і адчувалі нейкія абавязкі адносна сваіх і цеплыню на поўначы. Экспэрымэнт вельмі асьведчыўся. Усе лісты мы сабе чыталі калектыўна і часта калектыўна на іх адказвалі. Гэта рабіла з нас адну сям'ю. Вельмі многа хто пісаў мне. Часам гэта былі запіскі, поўныя пачуцьця, і мы тады хахаталі. Адказвалі, каб падтрымоўваць, не раніць, галоўнае, вытрымаць, усё пережыць. Сьмешна было тое, што цяжка было закахацца ў бясформеннае, шэрае стварэньне, у старых ватніх нагавіцах, жудасных вайлаках абодвух на тую самую нагу, закручаных немагчымымі хустамі, засмэрканых, пасінелых, часта з завязанымі ад марозу насамі няшчасных ахвяраў марксізму-ленінізму. Але ва ўяве нашых сяброў мы былі анёламі, мучаніцамі крыху. Мы бедавалі, што цяжэнька ім у шахтах, а яны — што мы на адкрытым лютым марозе па 10 гадзін. У шахтах хоць затульней. Правіла было — не выводзіць людзей, калі тэмпэр. ніжэй 40°, але нас выводзілі, і тады хоць сканай у адкрытай тундры. Пасьля пачалася правакацыя. Калі ўбачылі арганізаванасьць беларусаў, супраць мяне настроілі цэлы батальён стукачоў і правакатараў. Дайшло да таго, што я пачала атрымоўваць запіскі пад уплывам нейкага Гінька, што беларусам не патрэбныя арыстакраты, памешчыкі, як я, і т. п. Асабліва пазьбіваў нашую, як мы казалі, Беларускую Сям'ю нейкі обэрстукач Шапавал, Канвега, В. С., які быў падстаўлены да нас як правакатар. Ён належаў да арганізацыі «Чайка». Была гэта арганізацыя моладзі ў Слонімшчыне. С., як пасьля я даведалася, здрадзіў яе ўжо на сьледстве. Было іх 20 асоб, здаецца, хацелі беларускай мовы ў школах. Загналі іх нават шаснаццацілетніх «да белых мядзьведзяў». Кажуць, што на сьледстве яны трымаліся выдатна, зьдзіўлялі стойкасьцю і патрыятызмам.

Усе мы былі для саветаў нявольнай ненавіснай масаю. Працаваў хто з немцамі, ці толькі ў Бога верыў, ці толькі хацеў гаварыць на роднай мове, ці здуру расказаў страшны сон пра Сталіна — усе разглядаліся аднолькава, за выняткам тых, незалежна ад іх віны, якія верай і праўдаю кляліся ў вернасьці «бацьку Сталіну» і ў лютай нянавісьці да ўсяго іншага сьвету. Такія былі пераважна лагернымі прыдуркамі, і іх рукамі часта нас нямала мучылі. Прыдуркамі, безумоўна, былі пераважна расейкі, але здараліся і іншыя.

Была такая фінка, гадкая дзеўка Ліля Бірклан. Аднойчы нешта завялі ў лагеры новае. Узялі многа дзяўчат дваццаціпяцілетніцаў і далі іх у асобны барак пад яшчэ стражэйшы надзор, у такі штрафбарак. Іх вадзілі асобна на самыя цяжкія працы, закрывалі і ўдзень і нанач і наагул чаўплі, што хацелі. Мяне не забралі. У час гэтых цяжкіх работ

найболей над імі зьдзекавалася менавіта тая клятая фінка. Штрафбарак нарэшце разпусьцілі, было ўжо пад весну. Дзяўчаты столькі нацярпеліся ад прыдуркаў, што пастанавілі афяраваць сабою і хоць адной адпомсьціць. Згаварыліся яны яшчэ ў штрафбараку тоўчаным шклом сыпнуць у вочы Бірклан, як гэта рабілі блатныя, каб болей гадзіна не бачыла сьвету. У кожнай важнейшай справе амаль усе радзіліся са мною. Вось і явілася «дэлегацыя». Я іх выслухала. Сказала, каб мне прынесьлі тое тоўчанае шкло. Яго прынесьлі — добрую жменю ў хустачцы. Трэба было сьпяшацца, пакуль не надыдуць каротшыя ночы. Тады я кажу: «Дзеці, а ці варта гінуць нам за такую дрэнь?» «Трэба,— кажуць,— рады ад іх няма». Трэба — ведала гэта і я. Але такі мне жаль стаў дарагіх дзяўчатак, асабліва харошай, любай літовачкі Ядзяле, што я пачала іх спыняць. «Рэч страшная,— кажу.— А вы спрабавалі словам? Трэба спачатку словам спыняць іх». «Ды што вы, Л. А., яны, гэтыя гіены,— і словы, ды хто адважыцца гутарыць з дрэнямі, прададуць як міленькіх». «Я,— кажу,— сама буду гутарыць». Замерлі дзяўчаткі, калі аднойчы я выклікала Бірклан на лагерную дарогу і ўсё ёй сказала, а яшчэ і тое, як яна ў сушылцы радзіла надзорам трымаць мяне ў буры, далей ад людзей. Бірклан зьбялела, яна клялася і бажылася, што не вінаватая. Я ёй парадзіла не трымаць дзяўчат ля кіркі, калі сам канвой іх здымае, не даваць ім зьвярыных нормаў, не даносіць, іначай будзе тое, што мела стацца цяпер. Мяне яна не ўдала і год гадзіна была як чалавек, але пасьля ізноў за сваё ўзялася. Мяне вывезьлі ў штрафны лагер, і калі пасьля двох гадоў зноў вярнулі ў Інту, дык першай абняла мяне і расцалавала Ядзяле. У Інце ўжо пакрысе пускалі на волю людзей, і яна, стройная, высокая, мілая, сказала мне: «Як вам дзякую, што вы не дапусьцілі, каб я чалавеку высмаліла вочы. Як я тады змагла б глядзець у вочы сваяму дзецятку, якое, можа, некалі Бог мне дасьць...» Гдзе яна сяньня, гэта мая Шатрыя, такі быў яе псэўдонім.

Літоўцы нейк асабліва добра да мяне адносіліся. Часам, калі ляжала мая торбачка з кусочкам хлеба, яны падкрадаліся і між хлеб клалі кусочак «лашэнюкас», сала па-іхняму, і я толькі заўважвала гэта на рабоце, мне тады хацелася плакаць.

Дні міналі трывожныя, безнадзейна прыгнечаныя, начальства прыдумвала штораз то новыя, вышуканыя мэтады маральнага зьдзеку. Нарэшце начапілі нам на плечы нумары. Чорныя цыфры на белай ганучы. Мой номер быў 0-287. Калі быў крыху лепшы канвой, а пачыналася пурга, нельга было працаваць і заранье было яшчэ вясьці нас у зону, дык мы рознае прыдумвалі, а калі перамерзьлі, дык, як тыя дзікары, барукаліся, качаліся па сьнезе. Зусім не дзіўлюся, калі глядзелі на нас як на дурняў. А часам чапляліся, каб я гаварыла ім нейкую імправізацыю і так аднойчы аб намярох. Я сказала вершык на кожны номер. На свой яшчэ памятую сяньня:

Не на груди, как всегда,
ношу монограмму года.
Она как таинственный шифр,
монограмма моя из цифр,
как источник страдальческих тем,
номер ноль двести восемьдесят семь.

Многа было прыдумана розных эпіграм, яны забыліся амаль. Мы былі рабамі, і гэта груба, па-пралетар'яцкі, нейк зьдзекліва, давалі нам заўсёды адчуць. Тады я ім казала:

Если человек с умом,
а при том и с сердцем,
ему легче быть рабом,
чем рабовладельцем.

З намі хадзіла часам на работу полька пані Тэрэса. Звычайна яна была вечным прыдуркам і з начальствам знаходзіла супольную мову, але часам з нейкіх меркаваньняў выводзілі і яе. Была гэта даволі сымпатычная, інтэлігентная жанчына. Некалі, відно, даволі прыгожая, бо ўсё бедавала, што цяпер за ёю «никт пэвно шалець не бэндзе...». Аднойчы, калі мы кіркавалі асабліва брудныя сьметнікі ля начальнікавых кватэраў, яна вельмі міла папрасіла мяне аб вершы. Ну, я ўжо ёй сказала яго на яе мове:

Ленк мень пженика, гды видзэн сьметники,
цо ронк змэнчоных чэкаён поэты,
розпач огарня, гды відзэн тон псярнен,
цо мне на сьметник провадзи з багнэтэм.



Беларускіх вершаў не пішу тут, бо частачка з іх усё ж захавалася ня толькі ў памяці.

Я была лагернай энцыклапедыяй, і да мяне часта зьвярталіся ў спорах. Стаімо раз шэрай, ад сьвежага сьнегу прамоклай грамадкай пад сьцяною нейкага інцінскага «палаца», прад намі праходзяць інцінскія жыхаркі, едуць студабэкеры. Дзяўчаты з Прыбалтыкі і ўкраінкі пачынаюць крытыкаваць іх уборы, негустоўныя, прэтэнсыяльныя ў гэтым нялюдзкім клімаце. Расейкі тут і сьцяліся з імі, што ў іх лепш, як у Эўропе! «І машыны?» — пытаюцца ўкраінкі. «Да і машыны». «Та, пані Ларысу, скажыць вы: е ў іх маркі своіх машынів?» Кажу: «Е». Тут мае дзяўчаткі і ськсьлі... «А яка ж у іх марка?» «Яка? А чорны воран»,— кажу. Ну і пачаўся хохат. Нейкі начальнік лагера Палякоў, гад з гадаў, забараніў нам хадзіць па лагернай дарозе, гдзе маршыраваў звычайна сам з надзірацелькамі, а нам заставалася толькі дарога ля раду ўборных, якія адчайныя літоўкі на дзяржаўныя сьвяты ніколі не забываліся «ўпрыгожыць» дзяржаўнаю зоркаю. Усе былі прыніжаныя вельмі і абураныя, пакуль я не растлумачыла ім ясна, што па нашай дарозе сьмярдзіць уборнай, а на той другой жа сьмярдзіць начальствам, дык што горай? Усе згадзіліся, што лепей уборныя... Ідзем пяцёрачным строем Інтаю і бачым плакат: Містэр Чэрчыл, капіталіст, трымае запаленую галавешку, а над ім рука рабочага з нейкаю жалезінай, але так, што гэтая рука зусім над галавешкай. Мілая латышка Лайма Крэтуліс, якая дзень у дзень йшла са мною строем два гады, глядзіць на мяне і шэпча: «Глядзеця, як жа ён утрымае сваю жалязяку, калі гэты яму яўна добра прыпякае?» Дзелімся зараз спасьцярогаю з другімі. Лайма была цудоўная, высокая, стройная, вельмі чэсная. Была ў яе хворая сяброўка, а наступала вясна, было вельмі мокра. У Лаймінай сяброўкі, як у ва ўсіх, брэзэнтовыя чаравікі, якія днём поўныя вады, а пад вечар на лёд змярзаюцца разам з нагамі. Прыходзе раз Лайма і просіць адпушчэньня грахоў: у нейкага прыдурка ўкрала чаравікі ў далёкім бараку, жаль хворай Мільды... Пільна мне ўзіраецца ў вочы. Кажу: «Маладзец, добра зрабіла, тая дрэнь дастане іншыя, а вось Мільдзе будзе цяплей». Калі нам з ёю давалі норму, дык часта мы сварыліся. У Лаймы быў тубэркулёз, і я яе ашчаджала. Я была многа старэйшай, і яна ашчаджала мяне. Аднойчы загадалі нам адкідаць сьнег. Ніколі ў жыцьці я не бачыла столькі сьнегу разам, проста горы! Кідаем яго, кідаем, і я слабею. Лайма гэта бачыць і просіць мяне, каб адпачыла. Я — не. Не магу кінуць яе адну. Яна просіць мяне доўга, нарэшце з дзікай злосьцю кідаецца на мяне, коціць мяне на зямлю і сілай вырывае лапату. Тады стаіць і поўныя вочы адчаю... Харошая Лайма.

Мае нэрвы напружаныя, мне не даюць спакою. Бывае, ноччу прыходзіць якіх шэсьць надзоркаў са знамянітым азьвярэлым Прасьветавым. Сьпімо, мяне ж сьцягваюць з нараў, Прасьветаў залазіць з нагамі на мой убогі сяньнік без простыні і пачынае трасьці і вытрасаць усю маю лахманную маёмасьць. Выкідае нават стружкі з падушкі, на якой сьплю гады, бы мярцьвяк. Забіраюць мне звычайна кожны кусочак паперы, агрызачак алавіка. Вядуць мяне ў бур. Там гаспадарыць адзіны людзкі чалавек, нейкі Кабылін. Ён не прымае мяне, без віны, без загаду опера. Мяне водзяць так амаль да раніцы. Вяртаюся, уся дрыжу, але дзяжурыць украінка ў бараку, з ёю сядзіць нейкая другая. У іх поўныя вочы жалю, боль выпісаны на чыстых абліччах: «Выдэржыць, пані Ларысочко, просімо выдэржыць...» Мне лепей, людзкія словы часам так неабходныя. Да раніцы ўсё ж калоціць мяне, раніцай на работу. Аб працэсе далей не гавораць, часам шэпчуць. Жэня Врублеўская расказвае, як яе выклікалі. Пыталіся, што я пісала, што пасылала на 1-шы ОЛП? Яна сказала, што хустачкі, торбачкі і любоўныя запіскі і болей нічога. Яе цягаюць, яна ўсё цьвердзіць тое самае, бо і што ж інакшага магла сказаць? Які ж быў разумны Сямён... За «любоў» ня судзяць... Яна расказвала, як аднойчы на «доку» зайшла ў нейкую мужчынскую сушылку (яна была мед. сястра на аб'екце), там ляжаў той Паўлаў. Ён пачаў расказваць ёй аб патрэбе змаганьня, аб тым, што ніхто ня будзе нас ратаваць, трэба ратавацца самым і г. д. Жэня казала, што спалохалася гэтай гутаркі і адразу расказала аб ёй нейкаму сваяму знаёмаму на «доку», ня ведаючы, што ён быў стукач. Стукач там і нейкі Міхаіл Барысавіч, лагерны прыдурак. Стукалі, відно, і розныя Шапавалы, бо хто ж аддаў чакістам усе мае вершы, аб якіх ведалі толькі беларусы. Усюды здрада за пайку, за работу ў зоне, за баланду.

Палякі не маглі згадзіцца з правам беларусаў на беларускія землі, яны нішчылі нас усюды, і ў лагерох. Як мячык перакідалі нашыя землі між сабою палякі і расейцы. Усе яны раскошна жылі з нас. Для нас з іх ня жыў ніводзін, за выняткам, можа, Федароўскага. Народ давілі да неймавернае нішчаты, прынізілі да апошняе гібелі. Грамаду

нішчылі адныя і другія планова і па дагаворанасьці—усіх дзеячаў. Сьціналі і сьцінալі, як галовы, нарастаючую інтэлігенцыю народу. Ахвяры кляліся моўчкі, ніхто не крычаў і не пратэставаў за нас, нават за жудасны 37 год, за ўсіх нашых пісьменнікаў, за Бярозу Картузскую. Йшлі біцца за Польшчу, за свае путы... Наступаў Гітлер, быў жудасны, але ці ж меней жудасным быў для нас Сталін? Гітлеравых ахвяраў яшчэ ня ведалі, а сталінскія перавышалі ўсякія ўявы аб самавольнай, легальнай праступнасьці. Між кім выбіраць, калі абодвыя нелюдзі? Казалі, калі ў Беласток прыйшлі немцы пасьля саветаў, дык палякі выйшлі іх спатыкаць з кветкамі, адзін немец, які ўмеў па-польску, і кажа ім: «Не ойцец пошэдл, не матка пшышла...» Быў праў. Заставалася выжыць, ашчаджаць народ фізычна, не даць бяздольных і няшчасных на загубу.

Божа, дай жа мне сілы, каб хоць слова змагчы сказаць ім сваё, чыстае, праўдзівае, адпаведнае нашаму гору... Як абысьці гітлерызм і ўсё ж гаварыць? Гаварыць так, як наказвае сэрца. Стрымоўваю боль, каб ня мсьціцца, на гэта ня час. Маяго бацьку зьнішчылі саветы, вывязьлі ўсю маю сям'ю. Пасьля даведваюся, што ўсе мае тры браты на фронце. Божа мой, якая ж іронія. Як жа дарам пальецца нашая кроў. Нас проста аберуч вынішчаць. Спачатку брат Расьціслаў памагае партызанам, бо шкадуе сваіх людзей. Яны яго слухаюць, і ён ім радзіць, каб хоць захаваць свае сёлы. А ці сёлы яго захавалі, ці ўспомнілі? Пасьля кінулі ў яго каменем, як і ў сваю родную мову, у свае правы, у цьвярозы розум. Выйгралі не героі, а хітрыя, тыя, якія ўмелі пляваць на сваё і лізаць пяты фюрару, які выйграў. Нават аддалі каранную сваю Беласточчыну, падзялілі наш адзіны скарб Белавескую пушчу, разам з жывымі братамі разарвалі яе напалову. Гэта за партызаншчыну? Што вы думалі, партызаны? Ці вы наагул не ўмелі думаць? Героі думаюць аб народзе і аб дзяржаве, халуі толькі аб собскай выгадзе. Я не сустрэла сваіх землякоў, якія б любілі клятага Гітлера, такіх не было! Такіх ніхто не бачыў! Дурняў, якіх паліцаяў толькі яны, гады, выкарыстоўвалі для сваіх брудных спраў. Можа, йдучы, яны і ня ведалі, як жа іх выкарыстаюць, як іх унізяць бязмозглыя нацы. Якая трагэдыя! Сталін-Гітлер: і адно і другое нечалавечнае і ніякае трэцяй магчымасьці для народу...

Нічога не было для мяне немагчымага ў жыцьці. Я ўмела выйсьці з любой бяды, бо кожнаму змагла даказаць сваю праўду. Я не магла ратавацца толькі ад саветаў, бо тут была адна толькі магчымасьць: прадаць сумленьне, чорнае назваць белым, адрачыся ад Хрыста і ўпасьці на твар перад Сталіным. Не, не, не!!! Даруй, малы, пакінуты юнак, даруй, мой сын... Хачу, каб некалі ты зразумеў мяне, каб дараваў свае мучэньні. Не было ў мяне выбару, сын,— Бацькаўшчына і Яе інтарэсы важней за цябе, за мяне, за нашага тата...

І так толькі ўдумацца ў становішча сваяго народу. Выбітыя ці расьцярушаныя па Нямеччыне з польска-нямецкай вайны, вынішчаныя страшліва немцамі ў Краі, так жа на савецкім фронце, спаласаваныя ў 37 годзе, выгубленыя ў штрафных батальёнах, вывезеныя як кулакі двойчы, тысячы асуджаных пасьля вайны ў нязлічаных лагерох, тыя, што адразу паўцякалі ў Польшчу, тыя, што выехалі туды па дагавору ўжо ў мірны час, і тыя ўсе, што засялілі цаліну, Казахстан, Данбас і інш. Адарваныя разам з беларускаю адвечнаю Вільняй, жыўцом узяты беларускі элемент, аддадзены латышам Дзьвінск і з ім да 100 тысяч беларусаў, не гаворачы ўжо аб Смаленшчыне. Пусты Край, у які сілком сунуць чужы элемэнт, безумоўна, не на фізычную працу. Зьняважаныя і безгалосыя без прэтэсту прымаюць чужую мову, не свае парадкі. Зноў жывуць з нас, як яшчэ ніколі. Гінем. Яшчэ адно нашае гора — каталікі. Людзі, якія слова не ўмеюць па-польску, якіх спрадвечнай моваю была беларуская,— сталі палякамі. Ксяндзы йшлі да нас не толькі з Богам і з крыжам, йшлі, як калянізатары, дзяліць і няволіць народ, адбіраць яму сьведамасьць яго нацыянальную, яго мову.

Бедныя, цёмныя мае браты, кожны з іх, на загад тых, якім прадаўся ахвотна, павёў бы на эшафіт, а я ня сьплю начамі і думаю, што калі выжывем і далічымся якога мінімуму землякоў, дык, знача, станецца цуд! Родзіцца нас вельмі мала. Крывавыя рукі савецкіх гінеколагаў патрашаць без перарыву бедных жанчын. Такая сыстэма, што дзяцей гадаваць нельга многа, ды і няма гдзе, ды і няма як. Маці на дзяржаўнай працы, і маленькім належыць замоўкнуць... Працуючы сястрой-гаспадыняй больніцы, з жахам я глядзела на трупікі ў сьметніку, у рэчцы Зальвянцы. Калі чысьцілі ўборную, дык іхнія галоўкі затыкалі шланг, і трэба было яго дадаткова чысьціць... О мае ненароджаныя Купалы, можа, Багдановічы, а можа, і Кастусі... Засталіся зубры ў Белавежы, якіх, праўды, па-расейску гутарыць не навучаць, яны ня людзі.

Нейк зайшла да нас аднойчы настаўніца з Ваўкавыска, не хачу яе называць. Яе муж беларус, і мне жаль яго. Пераконвала мяне жыць, зьвяртацца да начальства, плюнуць на сваіх землякоў, з якімі можна рабіць рознае, яны як ня людзі, і г. д. Я ёй сказала, што я не пацьверджу на сваім прыкладзе яе тэорыі, няхай аб гэтым ведае. Чалавек яна, паводле яе слоў, які многа можа, зьвязаны так ці іначай з хэўрай усякага начальства ад вобласьці пачынаючы, і ўсе яны ня нашыя, і ўсе яны адно. Дык пытаюся: «Ну, калі мы ўжо такія, па-вашаму, нікчэмныя, пасыўныя, дык скажэце, а нам дазволілі б мець, нп., у Ваўкавыску свае школы?» «Это я могу сказать — никогда!» Яна абяцала нас адведаць са сваім мужам. Давялося прасіць яе сваякоў, каб не паказваліся лепш мне на вочы. Не маем права пагнаць к чорту нават усіх марадэраў і ўласаўцаў, якія аселі тут як «пануючая нацыя», увайшлі ў ролю «культуртрэгэраў». Такіх з грашкамі як жа выкарыстоўваюць да брудных розных спраў, да дэнацыяналізацыі. Яны як піяўкі на целе народу, і ім усе прывілегіі ад зямлі пад бульбу, сена для кароў, кватэр і т. п. пачынаючы. Гэта ў малым мястэчку, а што ў гарадах? Ёсьць, праўда, Акадэмія навук у нас, але на ўсю Беларусь, як яна шырокая і даўгая, няма ніводных дзіцячых ясьляў на нашай мове... Ёсьць школы з ангельскай, з французскай мовай выкладаньня, але на ўсю сталіцу Мінск няма ніводнай школы з беларускай мовай выкладаньня. Няўжо нам прыйдзецца загінуць? Як жа жаль мне маяго Народу, куды ж нам ужо адступаць? О Божа, Якому маліцца не даюць нам нават на роднай мове. О Рым, якога ксяндзы не йдуць да нас з салодкім і вечна мудрым словам Божым і любоўю, а з палітыкай, з дэнацыяналізацыяю тых, якія так намагаюцца, так хочуць выжыць як народ, як лепшыя людзі...

Я адарвалася ад лагера. Пра яго мне так ня хочацца пісаць, так цяжка вяртацца думкамі ў тое пекла. Божа, які ў найбольшай безнадзеі забраў крывавага Сталіна, зьлітуйся над народам, якога зямля прасякла сьлязьмі і крывёю яго замучаных сыноў. Гэта дом наш, гэта зямля продкаў нашых, і мы тут пратрывалі вякі. Сочаць і рыскаюць за намі, якія думаем аб народзе, і нож накіраваны ў нашыя сэрцы...

А ў лагеры міналі гады. Найчасьцей вытарфоўка. «Вот надо строить,— казалі часам канваіры,— сюда еще привезем и англичан и американцев, для их и строим...» Апэтыт ня згоршы. А тым часам архіепіскап Кантэбэрыйскі шукаў паразуменьня свае веры з камунізмам і сваіх мысьляў з думкамі Сталіна і яму падобных. Чыталі мы аб гэтым у газеце Komi ССР нейкай там «Северной», мусіць, праўдзе. Ах, сэр з Кантэбэры, казалі мы, каб гэта цябе папаганяць тут крыху на нашым месцы, то ведаў бы то, неразумны дзядок, з кім табе гутарыць, і да каго зьвяртацца, і чаго дамагацца для людзкасьці на тваім адказным становішчы. Не працягай рукі тым, якім яе не падала б мудрая жыцьцёвай практыкай простая ўкраінская жанчына. Падобнае не для дэбатаў, як яно і не для жыцьця. Нехта сказаў, што, калі б рабілі камунізм вучоныя, яны яго даcьледавалі б сьпярша на сабаках... І так мы ісьнавалі гады і дзесяцігодзьдзі. Такі элемэнт, які тут прамерз ужо, нам не страшны, цьвярдзілі начальнікі.

Далёка засталося тое, што называецца жыцьцём, а яно такое простае: голас сына, муж прыходзіць з працы, супольныя абеды, дружныя вечары. Радыё і мяккае крэсла, ложак выгодны, цішыня, цеплыня, кніжка. Шчыміць сэрца, калі гэта ўспамінаеш, проста спыняецца сэрца і ўвесь арганізм, бы ахапляе параліч, калі пачнеш думаць пра сына. Сьніцца вялікая камера, вязьні, вязьні, а пасярод іх мой сын, ужо юнак, бледны, танклявы. Падыходзіць да вязьняў і кажа: «Я вам дам проса, а вы мне кусочак сала...» Што за сон? У кожным лагеры ёсьць такія свае аракулы, старыя мудрыя бабкі, якія разгадваюць сны. Зьвярнулася і я да такое. Глянула яна на мяне сумна і кажа: «Недзе пасадзілі вашага сына, незьляцілага хлопца, і ён просіць есьці ў людзей, проса — гэта знача прасіць». Гэта аказалася праўдай, аб якой я даведалася пасьля.

Я хворая, брыгада нашая адыходзіць на аб'ект, а мяне пакідаюць у бараку. Днявальныя шаруюць швабрамі драўляныя дошкі падлогі, паляць у печках, на якія строга па норме выдаецца вугаль нават тут, гдзе ён дабываецца. Я заснула і з крыкам схапілася з нараў, крычу, шукаю сваяго сына, які, здаецца, быў толькі што тут, яшчэ чую на плячы дотык ягонай рукі і словы: «Уставай, мамачка, панясем з табою на Новы год ёлачку на магілкі...» Божа мой, што ж гэта? Мяне ўсю калоціць, у дзьверы ўрываецца стада надзорак, пачынаецца шмон. Усе пасьцелі на нарах ператрэсеныя і раськіданыя, шчупаюць мяне. Натрэніраваныя рукі абмацваюць зашыты ў целагрэйку сьвяты абразок, аблічча Божае Маці. Яго мне некалі вышылі на ганучцы ўкраінкі ў Львове, як жаль. Ёсьць яшчэ адзін, але гэтага жаль асабліва, там вышыты тры літары: БББ (Божа, барані Беларусь). Сяньня куцьця, вяртаюцца брыгады, некаму ўдалося пранесьці пад бушлатам малую ялінку. Божа мой, Сьвяты Вечар... «Пані Ларысачко, зробымо Святый Вэчэр».

Мне ўсё яшчэ ў вачах сын, як добра, што можна яшчэ некаму памагчы ў нечым, асабліва сяньня... Дзяўчаткі даўно ўжо зьбіралі камсу, не з'ядалі кусочкаў рыбы. Недзе ў сушылцы ці ў качагарцы зварылі куцьці і кампоту. У некага кансэрва, у некага з пасылкі яблык ці жменя гарэхаў. Вечар, стаіць ялінка на адзіным стале. Правізарычныя сталы зроблены з нараў, накрытыя, такія ж лавы. Ёсьць і кусочак прасьвіркі ў некага, у некага аплатак. Ежа на стале, мы ўсе па-сьвяточнаму. Раней умудрыліся дастаць якія драбніцы са сваіх мяшкоў, што перахоўваюцца ў капцёрцы. Чалавек, можа, сорак, такія ўсе сьцішаныя, па-хрысьціянску ўрачыстыя. Я ў белай блюзцы на першым месцы, мне належыць ад сэрца сяньня ўсіх прывітаць. Молімся супольна. Я ўстаю. Цішыня. Не змагла б паўтарыць таго сяньня, што мне тады дыктавала доля нашая горкая і змагарная, любоў да сваіх сем'яў і земляў, туга па іх і тая сіла, якая загадвае нам не здацца, а перамагчы! У вачах мне сын. Калі прыходзяць надзоркі, у нас ужо ўсё схавана, толькі ў сэрцах сьвятло, і доўга яшчэ пасьля іх адыходу не сьціхаюць калядкі. Новы год надыходзіць, да мяне адносяцца ўсе нейк дзіўна, мінаюць, маўчаць. Увесь лагер... Божа, што сталася? Элка кліча мяне ў кіно, купляе білет. Не памятаю, што паказвалі. Яна нахіляецца да мяне і просіць, каб я не закрычала, кажа даць слова. Даю. Тады яна кажа мне, што ёсьць тэлеграма аб сьмерці мужавага тата. Мне дадуць яе пасьля Новага Году, прыдуркі нават шкадуюць... Нейк так, як з тым судом над маімі сябрамі. Я ледзянею, але не крычу. Яна просіць мяне, каб трымацца, бо магу сказаць тут з бяды нешта, чаго сказаць нельга. На гэта разлічваюць, і стукачы ўжо нагатове. У бараку я енчу, гавару тое, што сказаў бы кожны людзкі чалавек на маім месцы! За іх, гэта з-за іх гінем мы па аднаму, забытыя, хворыя. Элка ў паніцы, а мне на ўсё, чым палохаюць мяне,— наплявать! Знача, ёлачка на магілцы на Новы Год... Сьпі спакойна, дарагі мужаў тата, які быў татам і для мяне, вечны пакой табе, даражэнькі замучаны, запалоханы, адзінокі і абакрадзены нават па сьмерці.

Хлопцы ўжо зараблялі, і нехта з іх пераслаў мне крыху грошай. О, якая я чулася багатая! Я купіла ад некага акуляры, бо інача ўжо не магла чытаць, і заказала манашанькам у лагеры паніхіду па тату. Ім не плацілася, але звычайна куплялася ў лагернай краме крыху цукеркаў, якіх сухарыкаў, калі былі, і пасьля па ўсіх правілах адпраўленай паніхіды частавалася прысутных на ёй людзей. Я крыху забегла наперад, гэта ўжо, мусяць, было па сьмерці Сталіна ці цесна перад гэтым. Як жа мы былі галодныя! Як жа хацелася бульбы, звычайнай паранай бульбы, якою на Беларусі кормяць сьвіней. Калі нашую брыгаду бралі ў «овощехранилище», гдзе былі прадукты для начальства, дык мы на іх накідаліся. «Пані Ларысочко, а можна нам красты?» — пыталіся дарагія ўкраінкі. «Колькі ўлезе,— казала я,— можна нам браць усё з яжы і лахманоў, каб не замерзьці, гэта ніякі грэх, нам яны адабралі ўсё». Часам прысылалі цыбулю з Горкага, і мы на яе накідваліся, елі яе, як яблыкі, грызьлі і не адчувалі, што яна горкая,— так смакавалі. Часам была морква, а часам капуста, якую мы з'ядалі галоўкамі і нас здувала.

Казалі, што найгорай было тут пасьля 45 году. Быў голад, і людзі мерлі. Асабліва тады паміралі людзі з Прыбалтыкі, яны ня так былі звычныя на мучэньні. Трупаў не аддавалі, хавалі іх між сабою, каб атрымаць на іх пайку. Кажуць, нехта зрабіў пабег. Яму хапіла сілаў толькі дабегчы да поля з турнэпсам — ёсьць на поўначы такая вадзяная бручка. Там ён і застраг. Еў без памяці, еў з пяском той турнэпс, і калі яго, наганяючы, застрэлілі і разрэзалі, бо ўсё ж па-навучнаму, дык у жываце гэтага на сьмерць выхудлага шкілета было столькі турнэпсу, што «па-навуковаму» гэта было зусім неверагодна. Раз у тое «овощехранилище» прывезьлі бульбу з Беларусі. Як жа мы на яе паглядалі! Канвой выдаўся нязгоршы і дазволіў нам у нейкім брудным вядры яе зварыць. Елі мы яе, як торт, як найбольшы дэлікатэс. Аднолькава смакавала яна прадстаўніцам усіх нацыяў. Па бульбінцы мы яшчэ схавалі нейк, перайшлі шчасьліва шмон і перанесьлі іх нашым хворым у зоне, як пераносілі часта і цыбулю, часнык ці нешта, што было можна з'есьці. Голадам і тэрорам трымалі нас, як абцугамі.

Ёсьць у гэтай дзяржаве такі народ: блатныя. Яны жылі ў асобных бытавых лагерох. Гэта жудасны элемэнт, які прайшоў усе грахі і ўсе забароненыя рэлігіяй і чалавечымі абычаямі ўсе гадасьці жыцьця, пачынаючы ад забойстваў. Можа, гэта быў і пратэст супраць савецкага ладу, але гэты лад выкарыстоўваў і іх супраць нас, т. зв. «контраў», ці іншага ідэйнага элемэнту. Адным словам, супраць нармальных людзей. Блатныя ў сваіх лагерох галадалі, і ім усё роўна гінуць, дык лепей ужо там, гдзе палітычныя са сваімі пасылкамі. Вось хапіла якой-небудзь блатной Фені аб'явіць на ўвесь голас, што яна не савецкі чалавек, а, нп., унучка Трумэна (ён быў тады прэзыдэнтам), як



яе хапалі, кідалі ў вязьніцу і давалі за такую здраду «любимой родине» роўна 25 год! Пасылалі іх, безумоўна, у нашыя лагеры. Гэтыя Трумэнавыя сваячкі былі найгоршым жахам для нас, ад іхняга слоўніка пачынаючы. Яны маглі абакрасьці, забіць і зарэзаць. Максімальны іх срок ад гэтага ні меншаў, ні большаў. У іх была своя гутарка, пераплеценая рознымі вар'яцыямі самага рускага мата. Вось такіх ставілі над намі брыгадзірамі, карацелямі. Анна Пятроўна Скрыпнікава, з якою я сустрэлася ў Мардоўскай ССР у Дуброўлазе, часам высказвалася шчыра аб лагерным начальстве ці парадках. Яе тады саджалі ў бур, а з ёю блатных, якія накідаліся на старушку (была ў лагерох 22 гады) і разьбівалі ёй да крыві голаў. Пасьля ўкраінкі на адным з этапаў, у якім наслалі на іх блатных, такі далі ім адпор, так іх зьбілі, што гэтую практыку крыху прыпынілі. Але блатныя любілі адважных людзей і такіх, якіх прасьледавала начальства. Для іх, нп., трапіць на дошку гонару ў лагеры быў найбольшы ўстыд, калі яны былі т. зв. «законьнікамі». Не любілі працаваць, казалі, калі нешта трэба было раськідаць: «Бурыць не строіць — сэрца не баліць». Вось, мусяць, з гэтых меркаваньняў яны добра адносіліся даволі да мяне. Памятую такую адну Кацьку, чорную, высокую, якая аднойчы з гонарам заявіла, што яна паважае мяне, бо я такая ж адважная, як і яна, нікога не баюся, і пачала мне расказваць, як яна задушыла ля ўборнай сваю падружку, а пасьля памагала забіць яшчэ некага і так налічыла 6 чалавек... Я ўзялася за галаву. Да яе ніколі не дайшло б, што я мінала чарвяка на сьцежцы, бо і ён хацеў жыць, і што адвага мая з іншых жоралаў і зусім процілеглых мэтаў. Калі нас, неспакойны элемэнт, мелі адвозіць на «Новую зямлю» (так казалі), дык Фрыма Барысаўна (прозьвішча забылася), якую судзілі як яўрэйку, што хацела атруціць студні ў Ленінградзе і г. д.,— усё, безумоўна, выдумка,— вось яна і спалохалася, што там яе блатныя зарэжуць. Блатныя абурыліся, прыйшлі да мяне і кажуць: «Ня бойцеся нас, мы вас уважаем, і калі вас павязуць з намі на «Новую зямлю», мы вас не скрыўдзім, а вось тую Фрыму Барысаўну б... мы тут прыкончым на месцы». Мусіць, Фрыма Барысаўна адкупілася нейк у начальства, яе нікуды не выслалі, а нас выслалі ў Абезь з блатнымі, але гэта пазьней.

А тым часам у мяне йшла перапіска з мужчынскімі лагерамі. Пасьля я пачала зьвязваць сяброў між сабою, каб былі кантакты і поўная цэласьць у нас. Пісалі ўжо ваўсю і нашыя дзяўчаты. Сядзелі за гэта ў бурах, але пісалі, так было лягчэй жыць. У нас стварылася цесная беларуская сям'я. Мы, як толькі маглі, падтрымоўвалі сябе ўзаемна. Часта, калі мы праходзілі каля 1-га, нп., ОЛПу на працу, дык сябры пазнавалі мяне, яны выходзілі амаль да дроту і розна мне паказвалі жэстамі сваю еднасьць, стойкасьць і братэрства. Я, безумоўна, мала што бачыла праз сьлёзы, а дзяўчаты, нават і стукачы, да гэтых праяваў беларускай сямейнасьці адносіліся амаль жа набажна. Сям'я наша была сапраўды нечым набажна ўзьнёслым, вартым нашай Маці Беларусі. Толькі гэта было да пары. Вораг спалохаўся, і пачалі вербаваць розных Шапавалаў, дэзар'ентоўваць іншых, палохаць і раськідваць па другіх лагерох. Нічога, добрае ніколі ня гіне, яно жывое і сяньня. Не памылюся, калі скажу, што беларусы трымаліся найболей шляхотна і найцясьней.

Час поўз, прыйшла восень, нас вадзілі на розныя аб'екты, часам за 12 км. Тады я «пісала» ў памяці свае вершы. Памяць ніяк нельга было прашманаць надзоркам, сэрцы нашыя і душы таксама. Адзінае шчасьце. Калі мне траплялася папера і алавік ды такая зацішная ад начальства і стукачоў хвіліна, я тады перапісвала свае вершы-думы і разсылала сябрам. Частка душы мае — глюкоза для іх. А як жа жудасна за мною сачылі! Запісачкі пісаліся дробненька. Сшываліся малюсенькія і хаваліся ў валасы, у вату бушлатаў, у боты, чаравікі і т. п. Адчайныя дзяўчаты клалі поўную рукавіцу запісак і, расшпіляючы шырака для шмону бушлат, так манэўравалі, каб рукавіца не трапіла гадаўкам на вочы. Калі ж разувалі, дык умудраліся два разы зьняць з нагі той самы чаравік, каб у другім якраз перанесьці запіскі. На аб'ектах, калі недалёка працавалі мужчыны, дык мы, нп., выносячы торф пры вытарфоўцы, ламалі свае насілкі ці тачкі. Работа стаяла, тады адзін з канваіраў валок да іх мужчынаў. Тыя ўмудраліся гіпсам замацаваць у кутку жменю запісак альбо прыбіць іх дошчачкай. Мы лёгка кіркой адбівалі дарагі груз і разьбіралі што каму. Рэшту адносілі ў зону другім. Дзень без запіскі быў сумны дзень. Калі б нашая нянавісьць не выбівалася ў змаганьні, яна ўзарвала б нас, як дынаміт. У нас дэвіз: «Кип смайлинг» з ангельскага. Мы ведалі, што, плачучы, загінем хутчэй. Мы вынаходзілі прычыны для сьмеху, для забыцьця таго, што нас акружала. Што магло нас няшчасных чакаць, каб ня сьмерць таго найстрашнейшага з усіх грузінаў ва ўсіх вяках. Воля пахла нам цеплынёй хаты, хлебам, толькі не парфумамі. Мы іх ненавідзелі,

 

уздрыгаліся, калі іх пранюхалі. Справа ў тым, што ўсе чакісты, сьледаваццелі і ўся іх парода вельмі намагаліся пахнуць рознымі гвазьдзікамі, ружамі і т. п. Яны заглушалі гэтым смурод сваяго сумленьня ці такім чынам хацелі выдзяляцца сярод іншых, што сьмярдзелі потам,— гэтага я не магла разгадаць. І вось доўга для мяне асабіста парфумы напаміналі мне нелюдзяў, як і сабакі, усе добрыя, мілыя сабакі напаміналі мне тых аўчарак, з якімі сустрэлі нас на менскім вакзале, якія акружалі ў будках нашыя зоны і дружна з канваірамі суправаджалі нас на аб'екты работы.

І так восень, разыходзяцца брыгады раніцай, даўгі іх шнур, пахмурныя, як дажджлівае неба, канваіры. Нас павялі недалёка. Мы ўжо ў час работы адчулі, што нешта здарылася, канваіры нашыя азьвярэлі. Калі нас прывялі ў зону, мы даведаліся, што ля Інты застрэлілі Галю Готэс. Гэта была полька. Да сроку 10 год ёй дабавілі яшчэ тры за нейкую лагерную справу раней, але яна ўжо і гэты срок дапрацоўвала... які ж жаль... Была ў яе цудоўная дзяўчынка Ната. Жыцьцё і інстынкты куды сільнейшыя за нашыя ідэі, калі цярпеньні цягнуцца дзесяцігодзьдзі, і вось у лагеры былі дзеці, і нямала. Гэта былі дзеці жанчын, якіх цяжарнымі забралі з волі, і дзеці з мімалётных сустрэч з шафёрамі пад час пагрузкі пяску на аб'ектах, пры разгрузцы вугалю і т. п. Такое дзецятка ад украінца было і ў Галі. Лагер наш грозна замоўк. Нянавісьць, прага помсты і жах з нашае бездапаможнасьці проста брызгалі слязьмі з кожных вачэй. Першымі прыйшлі да мяне полькі: «Што рабіць, пані Ларысо, што рабіць?» Галю кінулі на вахту, а так як яна была прахадная і цесная, дык цераз труп хадзілі. Харошай дзяўчынай была Зося Андрушкевіч, вось і пайшлі мы з ёю прасіць, каб далі нам Галіну. Надзоры думалі, а пасьля папыталіся ў мяне, ці магу заручыцца за спакой у зоне? Я сказала, што магу. Труп нам выдалі. Хутка мы назначылі, што каму рабіць. Былі нейкія кветкі ў зоне, хутка паявіліся вянкі і т. п. Мы з Зосяю мылі цела. Маленькая ранка ніжэй жывата, і ўсё. Іх брыгада выбірала бульбу, тую вадзяную, рэдзенькую... Машына, куды яе зсыпалі, стаяла за агароджаю з вяроўкі, якімі мы самыя сябе мусялі заўсёды апярэзваць. Дзяўчаты туды сыпалі бульбу. Пайшла яе высыпаць і Галя, вось і застрэлілі — выйшла за агароджу... Дзяўчаты прыходзілі, клалі пальцы на ранку, шапталі нешта, прысягалі. Масквічка Рэгіна Тарасава, якой маці была француржанкай, прынясла з пасылкі вялікі кусок батысту. Наташа нічога ня ведала, але ўсё пыталася пра маму, яе нейк суцяшалі, абманвалі. Вечарам мы палажылі ўсю ў белым Галіну на лагерны брудны возік, прыкрылі яе батыстам і вянкамі і ўсе праважалі да вахты. Дзіка крыкнула нам надзорка, калі мы апошні раз цалавалі нежывы тварык: «Мы завтра другую пристрелим...» Мы горда і моўчкі ўзялі гэта пад увагу з разьлікам некалі ім адпомсьціць. На вахце паводле лагерных правілаў малатком яшчэ ўдарылі труп па галаве (а можа, жывая?) альбо пракалолі штыком. Пасьля павязьлі яе на мужчынскі ОЛП, для ўскрыцьця. У саветаў усё «па-навучнаму». Зося Андрушкевіч хацела ўдачарыць Галіную Наташу, ёй не дазволілі...

**Працяг будзе.**

Рэпрадукцыя фотаздымка з архіва **Л. А. Генюш.**

# Публіцыстыка



 

# УСЕНАРОДНАЯ

**Мы прыйдзем, мы вернемся...**
**І вы, далёкія нашчадкі, сустрэнеце нас, расстраляных, павешаных, згноеных у брацкіх магілах і чорных ямах, на калючым іржышчы не пахаваных.**
**Мы прыйдзем з вісельняў і душагубак, з Асвенціма і Трасцянца. Мы вернемся з блакады, зноў і зноў вырвемся з Паліка і з-пад Ушачаў.**
**Мы прыйдзем на ДЗЯДЫ.**
**Мы вернемся да вас чыстымі душамі. Мы так верылі!.. Мы верылі мацней за ўсіх вернікаў Свету і веры сваёй не здрадзілі. І мы не вінаватыя, што нас жорстка падманулі, што нас, МІЛЬЁНЫ ЛЮДЗЕЙ, забілі.**
**Мы прыйдзем, калі аднойчы вы паставіце на покуці горкую чарку.**
**Мы вернемся з надзеяю, што, калі, не дай Бог, нашай з вамі зямлі захочацца ворагу, вы станеце пад зброю. Якая яна ні была б, наша зямля, яна ў нас адна. Бараніць за нас яе ніхто не будзе.**
**Стагоддзямі нашы продкі абаранялі Бацькаўшчыну. І ў самыя змрочныя часіны яны вярталіся мужнай памяццю да нашчадкаў. Як мы аднойчы вернемся да вас...**

## ТАНКІСТ ЧАЙКА

«От имени Президента Соединенных Штатов Америки имею исключительное удовольствие вручить гвардии старшему сержанту ЧАЙКЕ НИКОЛАЮ ПРОХОРОВИЧУ орден Крест за боевые заслуги армии США «В признание его исключительного героизма и мужества, проявленного на советско-германском фронте против нашего общего врага гитлеровской Германии».

Посол США СТЭНДЛИ».

Пасля Сталінградскай бітвы вышэйшай вайсковай узнагароды Амерыкі было ўдастоена 20 савецкіх воінаў. Мікалай Чайка, родам з вёскі Падрэчча Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці,— сярод іх. Танкіст, механік-вадзіцель. Боскай міласцю незаменны талент на вайне.

Талент на вайне... Таленавіты салдат...

Насуперак філасофіі талстоўства ва ўсе вякі ва ўсіх народаў забіць ворага на вайне лічылася геройствам. Забіць, каб ацалець самому, каб ацалеў твой народ. Каб выратаваць дзяржаву, якую прывёў да вайны стальны правадыр, аслеплы з непамернай веры ва ўласны геній. Праз рэкі крыві, губляючы мільёны і мільёны лепшых сыноў і дачок, чатыры гады запар народ будзе ісці да перамогі, выпраўляючы пачварныя памылкі «самага мудрага, самага вялікага палкаводца свету», і той начэпіць на сябе пагоны генералісімуса і на ўрачыстым банкеце падыме чарку «за вялікі рускі народ, які на сваіх плячах вынес галоўны цяжар вайны». Астатнія народы не ў лік, быццам і не ваявалі.

Так вось атрымалася, што, святкуючы перамогу, Сталін не падняў чарку за Мікалая Чайку, які танкавымі гусеніцамі прабаранаваў зямлю ад Львова да Сталінграда і ад Сталінграда да Кёнігсберга.

Ды, урэшце, Мікалай Прохаравіч пра гэта і не думаў ніколі; як бачна, баявыя ўзнагароды (акрамя амерыканскага Крыжа — ордэн Чырвонай Зоркі і абодва ордэны Айчыннай вайны, што для механіка-вадзіцеля ого як многа!) сведчаць, што слава яго ўшанавана належным чынам. Але і па сённяшні дзень не перастае мучыцца ўспамінам, як бязглузда, бяздарна і сорамна пачалася для нас найвялікшая ў гісторыі чалавецтва вайна.

19 чэрвеня 1941 года танкавая дывізія, у якой служыў Чайка, выводзіцца ў лес пад Львоў, кіламетраў за 60 ад мяжы. Тры дні танкісты абсталёўвалі лагер: разбівалі палаткі, пасыпалі пяском дарожкі. Звычайны мірны вайсковы лагер. Павышанай боегатоўнасцю нават і не пахла.

22 чэрвеня, па распарадку, у 6-00 выйшлі на фіззарадку. Пад аркестр! (А ўжо дзве гадзіны, як ішла вайна, была ўзарвана ўся мяжа ад Балтыкі да Чорнага мора, палалі гарады і вёскі.) Пасля фіззарадкі пастроіліся на ранішні агляд — правяралі на вашывасць. Потым сталі ў чаргу ля палявых кухняў. Тут яна і пачалася, праклятая вайна. Увесь лес, уся дывізія былі накрыты нямецкай бамбардзіровачнай авіяцыяй. Пасыпаныя пясочкам дарожкі, па ўсіх правілах расцягнутыя палаткі, катлы з духмянай кашай, танкі, машыны, дрэвы, людзі — усё змяшалася пад бамбёжкай, якая для большасці чырвонаармейцаў была першая ў жыцці. З гэтага моманту многае стане ўпершыню Чайку: жорсткія баі, бясконцае адступленне, аблітая крывёю браня, наматляная на гусеніцы чалавечая плоць, гібель таварышаў. І смерць, смерць, смерць, галоўны бог вайны — смерць на кожным кроку, столькі яе, што быццам і прывыкнуць час, а ўсё не прывыкаеш, бо немагчыма прывыкнуць да таго, што насуперак чалавечай прыродзе.

Яму пашанцавала, ён пачаў вайну на цяжкім танку КВ («Клімент Варашылаў»). Бо ўсякія «бэтэшкі» гарэлі, як свечкі, адны «трыццаць чацвёркі» ды КВ у 1941-м балявалі на полі бою (калі меліся снарады, паліва і камандны розум). Ды нават магутная браня цяжкога танка не ратавала ад смерці.

Барвенкаўскі выступ. Тройчы праклятая Харкаўская аперацыя. Па апошніх звестках, мільённы лік нашых страт. Людзей. Мікалай Чайка прарываецца з катла ў танкавай «групе». Танкаў сем штук. Гэта не танкавая група Гудэрыяна, дзе танкаў сотні. Групка, дзе Чайка, прарываецца на Ізюм. І нарываецца на шалёны агонь. Іх расстрэльваюць, як фанерныя мішэні. З сямі баявых машын толькі дзве паспяваюць адысці. З люкаў падбітых КВ вывальваюцца абгарэлыя хлопцы і тут жа гінуць на бране — лёс танкіста... З пяці экіпажаў уратавалася сем душ. Чароўная лічба сем... З абгарэлым лейтэнантам на руках пад прыцэльным агнём «група» прапаўзае ў балота, хаваецца ў чароце. Зброя: пісталеты, некалькі «лімонак». Ежы аніякай. Загрызаюць камары. Над галавой бясконца рвуцца брызантныя снарады. Немцы ў балота лезці баяцца, праз рупары гугнявяць: рускі танкіст, выходзі к нам, накормім шакаладам, і вы встрэціце карошых рускіх дзевушак. Гугнявяць настойліва, метадычна, а ноч, як назло, месячная — няўжо і месяц на фашысцкім баку?

Ажно праз кулямётную страляніну прарвалася аблачынка, наплыла за ёю другая, а трэцяя хмарка добра прыкрыла месяц.

Яны прыйшлі на хутар, дзе некалькі дзён назад гаспадынька паіла іх малаком. Абгарэлага лейтэнанта забінтавалі ў чыстае, апошняе, знайшлі апрануць сярмягу — танкавае абмундзіраванне на ім згарэла датла.

Дзе свой, дзе вораг, у катле разабрацца вельмі складана. А разбіраліся. Каму трэба.

«Танкавая група» выбілася з хутара на дарожку. Насустрач бег Т-34, абсаджаны аўтаматчыкамі. Свой не свой, ноччу вызначыць цяжка. Хоць па скрыгату тракаў, па гуку матора ведаў салдат-франтавік, якой маркі танк, адрозніваў самалёты свае-чужыя, адрозніваў снарады, міны, кулямёты. Танк быў свой. Але колькі захопленых ворагам танкаў правакацыйна прыкідваліся сваімі, колькі неасцярожных купілялася...

Чайка з таварышамі ўсё ж асмеліліся «прагаласаваць».

Танк быў наш. На ім ехаў афіцэр СМЕРШа правяраць нейкі экіпаж, які на крывавым полі катла пакінуў быццам бы баяздольную, па смершаўскай версіі, машыну.

СМЕРШ ніколі прынцыпамі не паступаўся, чаго гэта ні каштавала б. Зараз яны лезлі ў самае пекла, каб толькі даказаць сваю версію. Таго «баяздольнага» ў смяротнай цемры не знайшлі, але абяцанне выканалі: ні з чым вяртаючыся, прыхапілі і вывезлі да сваіх Чайку і яго таварышаў. Шчасце на вайне!..

Вы бачылі калі сапраўдных, прайшоўшых вайну танкістаў? Іхняе аблічча, прыжмураныя твары, распухлыя, разбітыя інструментам, закарузлыя кулакі?

Сапраўдныя танкісты-вадзіцелі ў большасці з трактарыстаў. Вайна для іх — цяжкая, брудная праца паміж баямі. Рамонт, догляд, абслугоўванне, рыццё апарэляў у абароне, каб закапаць танк па самую вежу. І адчайная рызыка ў баі, калі праз заляпаныя гразёю трыплексы амаль нічога не відно, а пад гарматным агнём, у грукаце і лязгу не чутно ў шлемафонах голасу камандзіра. А шматтонную грамадзіну трэба весці дакладна і як мага хутчэй. Адзін няпэўны рух — і гіне ўвесь экіпаж. А парве міна ці снарад гусеніцу, пашкодзіць матор — вылазь, механік, пад агонь, рамантуйся.

Штосьці падобнае адбылося з Чайкам у начным баі за Новае Сяло пад Оршаю. Здавалася б, пасля крывавай мясарубкі Сталінграда не можа быць страшней і цяжэй. А там жа 24-ы танкавы корпус ваяваў граічна, удала рызыкуючы: адзін рэйд на станіцу Тацынскую чаго варты, танкі ўварваліся на нямецкі аэрадром і спалілі 350 самалётаў. За што корпус перайменавалі ў 2-і гвардзейскі Тацынскі... А тут, пад Оршаю, восенню 43-га і зімою 44-га таптаўся не адзін Бурдзейны. Усе войскі марудна, са стратамі прагрызалі абарону праціўніка. Яе трэба было прагрызці, каб палепшыць свае пазіцыі перад аперацыяй «Баграціён».

У 1943-м Чайка вадзіў танк камандзіра брыгады Несцерава. І пад Новым Сялом у грукаце бою, калі немцы пайшлі ў контратаку, невыразна пачуў каманду камбрыга, не туды скіраваў. Расплата была імгненная: машыну скалануў выбух, пад ногі пацяклі вада, масла. Адно выратаванне — як мага хутчэй выйсці з-пад агню. І Мікалай Прохаравіч, усёй істотай адчуваючы, што матор вось-вось заклініць, спусціўся ў лагчынку. Усяго метраў 200 малым, марудным ходам прапоўз скалечаны танк, але гэтым і выратаваліся.

Назаўтра Чайка чакаў пакарання. А Несцераў сабраў брыгаду, спытаў: вось у такім становішчы (і абмаляваў, як пад ногі масла з вадой цяклі) можна яшчэ рухацца? Яму хорам запярэчылі. А Несцераў: можна! І трэба, бо гэта адзіны спосаб ацалець! І прывёў у прыклад свайго механіка.

Калі разгарнулася аперацыя «Баграціён», тацынцы ляцелі як на крылах, а беларусы ваявалі радасна, з велізарным душэўным уздымам. Каб не паставіць корпус пад удар моцнай гітлераўскай абароны, не згубіць людзей і тэхніку на Мінска-Маскоўскай шашы, А. С. Бурдзейны павёў корпус у абход, лясамі. І тут танкістаў таксама чакала радасць, бо ім на дапамогу выйшла арганізаваная партызанская рацыя: наладжваць пераправы, гаці, весці па блытаных лясных дарогах. І поспех не мінуў. На світанку 3 ліпеня тацынцы ўварваліся на ўсходнюю ўскраіну Мінска, а праз дзве з паловай гадзіны — на яго заходнюю.

Пазней Мікалай Прохаравіч прымаў удзел у разгроме мінскага катла, біў ворага ў Прыбалтыцы, штурмаваў Кёнігсберг.

І была, нарэшце, доўгачаканая Перамога.

І яшчэ доўгая служба армейскага палітработніка. Зараз ён на пенсіі, палкоўнік у адстаўцы.

## ГЕНЕРАЛ ШОЛМАДЗІ

«Я награжден орденом Ленина. Мог бы наверняка стать Героем Советского Союза. Но всю мою военную жизнь, а я с юности военный, меня незримой тенью преследовало отвратительное понятие «сын врага народа». Отец мой давно реабилитирован».

Генерал-маёрам Віктар Эрнставіч стаў далёка ад вайны. Але і вайну закончыў з гонарам — баявым артылерыйскім палкоўнікам.









Мікалай Прохаравіч Чайка

Віктар Эрнставіч Шолмадзі

Уладзімір Рыгоравіч Лавец

Яго прозвішча адразу прывабіла незвычайнасцю, Шолмадзі — венгерскае. Сапраўды, бацька яго быў унтэр-афіцэрам аўстра-венгерскай арміі, на першай сусветнай захоплены ў палон, апынуўся ў Краснаярску. Тут Эрнст Шолмадзі стаў бальшавіком, тут знайшоў будучую Віктараву маці з роду Ганчарскіх, сасланых у Сібір пасля паўстання 1863 года.

Курсантам Сумскага вайсковага вучылішча Віктар Шолмадзі даведаўся, што стаў сынам «ворага народа». Ішоў 1938 год... Бацька загінуў... Ад роспачы, трагічнай няўпэўненасці яго выратаваў камісар вучылішча. Былі і тады людзі.

1941-ы ён сустрэў лейтэнантам, камандзірам батарэі Ф-22: стаялі на ўзбраенні Чырвонай Арміі 76-мм гарматы, універсальныя, маглі страляць як пушкі, гаўбіцы, зеніткі. Да 22 чэрвеня іх нарабілі 200 штук. Пяцьдзесят чатырохствольных батарэй. Як ваявалі іншыя Ф-22, генерал Шолмадзі не ведае, а як змагалася яго батарэя, лейтэнант Шолмадзі памятае дакладна.

Са Слуцка, у першы ж дзень вайны, 20-гадовага афіцэрыка, але не прастадушнага, а даволі бравага, узнагароджанага значком «Варашылаўскі кавалерыст» і вядомага як выдатнік артылерыйскай стральбы, павялі ў бой.

Недзе паміж Нясвіжам і Баранавічамі яго батарэя знішчыла нямецкі дэсант. Потым яго дывізія адбівалася пад Слонімам, потым адступала на Прапойск (цяпер Слаўгарад). Усе войскі згрудзіліся за Сожам і Проняю, адтуль страляла і яго батарэя, а сам Шолмадзі кіраваў агнём з правага берага, з перадавога НП, пад самым носам наступаючага праціўніка. Яшчэ б крышачку, і наўрад ён выбраўся б адтуль, і не было б дзевяці падбітых танкаў, не было б за гэта яго першага ордэна Чырвонага Сцяга, да якога ён быў прадстаўлены ўсяго праз месяц вайны, і не стаў бы ён камандзірам палка ў 23 гады ад нараджэння... Яму пашанцавала. Перадавік-артылерыст, ён за вайну не атрымаў ніводнае драпіны. Але яму і не шанцавала, бо ў адначассе загінула яго батарэя, першая ў жыцці і першая ў палку, якую немцы, не разабраўшыся, палічылі за аўтаматычную.

Гэта было пад вёскаю Горкі, паміж Чэрыкавам і Прапойскам,— батарэя адбівала атакі немцаў з закрытых пазіцый, утуліўшыся на лясной выспе сярод балота. Так добра ўтулілася, закамуфлявалася, што немцы некалькі дзён пасылалі «раму», разведвальны самалёт, каб высачыць яе. Нарэшце Шолмадзі надакучыла «пільнае вока», ён загадаў даць «сабачы залп». Хто не служыў у артылерыі, не ведае, як вядзецца беглы агонь. Згодна статуту, па камандзе страляе першая гармата, а камандзір разліку пры гэтым дае адмашку сцяжком, і ў такім парадку страляюць астатнія: адмашка — стрэл, адмашка — стрэл... Марудна, неэфектыўна. Пры «сабачым залпе» кожная наступная гармата страляе па вылеце полымя з рулі папярэдняй. Атрымліваецца часта, густа і гучыць як «та-та-та-та». Поўнае ўражанне аўтаматычнай стральбы. Так гэту «раму» і збілі. У адказ немцы шпурлялі лістоўкі: «Единственная в Красной Армии автоматическая батарея! Сдавайтесь! Вы не уйдете с этого болота».

Але яна выйшла, каб пазней, 17 верасня, загінуць амаль імгненна. У крытычны момант загадам зверху яе шпурнулі пад агонь ворага. У тых трагічных абставінах загінула не адна батарэя, не адна дывізія, не адна армія. Загінуў сам камандуючы Паўднёва-Заходнім фронтам генерал М. П. Кірпанос.

...У скрозь драўлянай Бякетаўцы — гэта ўжо Сталінград,— на якую чамусьці не звалілася ніводная бомба, мусіць, Бякетаўка аж кішэла варожай агентурай і таму стаяла цалютка, калі навокал жывога месца не існавала,— Шолмадзі сабраў з рэшткаў разбітых войскаў артылерыйскую баяздольную часць з самых нечаканых калібраў і біў ворага, не даючы яму праравацца да Волгі. Уласнай мужнасцю, винаходлівасцю, выдатным веданнем прафесіі тлумачыць Віктар Эрнставіч ваеннае шчасце. Трапіўшы камандзірам артпалка ў другі гвардзейскі кавалерыйскі корпус (Даватараўскі), ён перш-наперш прымусіў казакаў акопвацца насуперак іх зацятай непрыязі да акопаў. Чым выратаваў і казакаў, і полк, і сябе ад разгрому. Пад яго камандаваннем страціў той полк усяго аднаго забітага і дзевяць параненых. І напэўна ж, выручала яго на вайне любоў да конніцы. Бо тое ж Палессе ні прайсці, ні праехаць без коннага цягла не змаглі б. Пры пераправах, на балотах, калі не хапала адной запрэжкі, падпрагалі другую, трэцюю. Выцягвалі не гармату, а ком гразі. «Студэбекеры» суседзяў коньмі даставалі з багны — таксама камы гразі і твані,— але ж выцягвалі, рухаліся наперад, перамагалі ворага.







Аднойчы ў гарачцы бою, калі лёс Шолмадзі і яго падначаленых вісеў на валаску, а паніка разам са смерцю глядзелі ў вочы, яму дужа захацелася пераабуць боты: нешта замулялі. У той момант проста захацеў пазбавіцца няўручнасці. І на віду сваіх падначаленых сеў ды пераабуўся. Эфект быў нечаканы. Раптам усе страпянуліся, і адкуль і выпраўка знайшлася, і сабранасць, і жаданне выстаяць. Пасля выйгранага бою ён нагадаў нейкі фільм пра грамадзянскую вайну — там быў падобны эпізод. Але ж, пераабуваючыся пад ураганным агнём, Шолмадзі і не памысліў «тэатральным» чынам уздзейнічаць на разгубленых байцоў.

Ды людзі ж аднолькавыя: на разгубленых уплывае рашучы, на маладушных — смелы. На гэткіх кантрастах адбываецца вайна. На гэткіх і на страшнейшых, на самых светлых, самых жудасных.

Генерал Шолмадзі спаўна зведаў кантрастаў.

А з усяго пражытага вынес найвялікшае пачуццё — веру ў чалавечую дабрыню. З гэтым ён і жыве.

## ПАРТЫЗАН ЛАВЕЦ

«Неаднойчы гаварыў дзяўчатам з музея ВАВ: чаму не возьмеце ў чыгуначнікаў лапу, якой кастылі выдзіраюць, і ключ, якім з рэек гайкі выкручваюць? Чаму б не змясціць у экспазіцыю звычайныя бутэлькі з бензінам і газаю?! Гэтай прымітыўнай «зброяй» мы пачыналі барацьбу з Гітлерам. І не наша віна, што ў 41-м не мелі сапраўднай. А шкоды яму нарабілі нават тады, амаль голымі рукамі нарабілі».

Лавец — тое самае, што паляўнічы. Прозвішча Уладзіміра Рыгоравіча прыгожа стасуецца з ягонай дзейнасцю ў партызанах.

Родам з-пад Заслаўя, а трапіў у Брэст пасля восені 1939-га. У першы ж дзень вайны супрацоўнік фінаддзела быў паранены і кантужаны. З горам напалам дабраўся да станцыі Кошалева, а там і Збірогі побач, а там Антон Васільевіч Туз схаваў Лаўца ў клуні, лекаваў, карміў, аберагаў.

Лавец нядоўга адлежваўся. 14 жніўня разам з Тузом, Клімуком-цёзкам і Семенюком, забіўшы на Кошалеве начальніка станцыі і разагнаўшы ахову, разабралі стрэлкі і спусцілі з рэек нямецкі эшалон, гружаны танкамі. Зазначым, дыверсія адбылася 14 жніўня 1941 года, прыкладна тады адбывалася Смаленская бітва. Эшалон на станцыі Кошалева пад адхон не зляцеў, не кульнуўся, а ўсяго толькі сышоў з рэек. І то затрымка! Пакуль што да чаго, пакуль паставілі цягнік на рэйкі, адрамантавалі стрэлкі, а на фронце адным лягчэй дзень пражыць, а другім дык наадварот.

Да сярэдзіны верасня атрад Лаўца выходзіў на дыверсіі з віламі, лапамі, ключамі, нажамі, з бутэлькамі бензіну і газы. Вартай зброі амаль не мелі, а становішча што ні дзень горшала: з'явіліся бобікі-паліцаі, стукачы, падбрэхічы.

Вырашылі ўсім гуртам, 18 чалавек, ісці праз лінію фронту. У лютым 42-га яны стараліся праравацца ля станцыі Таропа, што пад Вялікімі Лукамі, але іх спасцігла бяда, пятнаццаць загінула, не прарваўся ніводзін. Уладзімір Рыгоравіч падаўся назад, да роднага Заслаўя, і тут напаткаў брыгаду «Штурмавую». Стаў падрыўніком.

Падрыўнікі «Штурмавой» дзейнічалі на чыгунцы Мінск — Маладзечна. Строга былі падзелены ўчасткі падрыўных атрадных груп, а паміж суседнімі брыгадамі таксама існаваў «водападзел», дзялілі нават напрамкі: каму з якога боку зручней, хто кантралюе Мінскі напрамак, хто — Віленскі. «Зоны ўплыву» размежавалі дзеля таго, каб не раскідвацца сілаю, каб паначы не перастралялі адзін аднаго. А галоўнае, бадай, найгалоўнейшае: каб зберагчы сваю агентуру. Сувязных, падпольшчыкаў, явачныя кватэры. Лепш, каб ведала пра яе як мага меней людзей. Чужых, сваіх — няважна. Павінен ведаць толькі той, каму агентура жыццёва неабходна, хто з ёю надзейна звязаны. Інакш — правал.

На гэтых няпісаных (а можа, і патаемна напісаных) законах трымаецца партызанская барацьба, народнае супраціўленне ворагу.

Уладзіміру Рыгоравічу дасталіся перагоны паміж Мінскам і Аляхновічамі. Хадзіў на падрыў аж пад Масюкоўшчыну. Цяпер гэта частка горада Мінска, Заслаў-

скае вадасховішча побач, а ў вайну ад Масюкоўшчыны і да Заслаўя прасціралася багністае балота. Хадзіць праз яго адно мучэнне. Калі слаба пад'еў, то і не пройдзеш. Затое і немцу лезці ў балота страшна. Пастрэльвае, ракеты шпурляе, а трымаецца чыгункі. На палатне бясконцы «шпацыр»: на кожным кіламетры ўначы трое патрулёў. Не ратавала іх такая пільнасць. Прыдумалі валіць лес, а лясіны не абсякаць — уздоўж чыгункі, на 50 метраў ад палатна. Трашчыць, халера, ламачча, як прабіраешся да запаветнай рэйкі, і усчынаецца шалёная страляніна, аўчарак спускаюць, спяшаецца з бліжэйшай станцыі дрызіна, спяшаецца як на пажар... Не дапамаглі ім завалы: у адным месцы трашчыць, яны кідаюцца туды, а ў другім месцы тым часам хлопцы міну паставілі! Тады што немцы прыдумалі: паліць ля кожнага слупа кастры, і так праз усю ноч. Самім паліць — ніякага войска не хопіць, бо ад слупа да слупа 50 метраў. Дык зганялі сялян з бліжэйшых вёсак, па трое на касцёр, ды каб з сухімі дровамі з'яўляліся на «ўсяночную». А хто ж у вёсачках тых застаўся? Старыя, малыя ды жанчыны. Партызаны падбіраліся да кастроў, звязвалі кастравых, а каб немцы іх не пакаралі за «халатнасць» і недагледжаныя вогнішчы, пакідалі «тлумачальную даведку» за подпісам камбрыга, завераную сапраўднай партызанскай пячаццю.

І ляцеў пад адхон наступны германскі цягнік.

На што толькі не пускаўся акупант, каб спыніць дыверсіі. Пассякаў елачкі, што спрадвеку засланялі чыгунку ад зімовых завеяў. Загадаў скасіць зялёнае яшчэ жыта. Пазносіў ці не ўсе жылыя будкі пуцявых абходчыкаў і пераезных вартаўнікоў. Каб не было дзе хавацца партызанам.

І гэта не дапамагло, эшалоны з нарастаючай рэгулярнасцю падрываліся.

Рэйкавая вайна — масавы, ТАЛАКОВЫ выхад партызанаў на чыгунку. Уладзімір Рыгоравіч быў не дужа вялікім камандзірам на гэтай талацэ, але таленавіта скеміў, як пад варожым агнём хутчэй ірваць пуці. Ён падзяліў сваю групу на чацвёркі — кожнаму падрыўніку па рэйкавай ніці. Авангардная чацвёрка закладвала на стыках тол (менавіта на стыках, у гэтым выпадку адным выбухам падрываліся дзве рэйкі), наступная — дэтанатар, яшчэ адна — бікфордаў шнур, апошняя падпальвала. Невядома, ці атрымліваюць за канвеерныя падрывы чыгункі патэнты, але падобна, гэта быў першы на свеце канвеерны падрыў: 800 рэек за адну ноч недалічыўся вораг. Група Лаўца, працуючы з такой хуткасцю, не паспела азірнуцца, як апынулася ля станцыі Уша.

Контрмерай праціўнік абраў суцэльнае мініраванне чыгуначных подступаў. Паскудныя проціпяхотныя міны (забіць не заб'е, а пакалечыць) злучаліся тонкімі дроцікамі паміж сабою і з пускавымі прыладамі асвятляльных ракет. Загінуць на грымучым феерверку Лавец не дазволіў ні сабе, ні хлопцам. Разам прыдумалі некалькі хадоў у адказ: прасцейшым быў доўгі рагач — ім, лежачы плазам, вадзілі па зямлі, пакуль міннае поле не падрывалася,— альбо паперадзе пускалі каня з перавернутаю бараной. Апошняя панацэя не дужа каб радавала селяніна-партызана, ды чалавечае жыццё, хоць і на вайне, цанілася вышэй.

У партызанаў.

А галоўным на ТОЙ ВАЙНЕ, што ўнукам і праўнукам здаецца не менш далёкай, чым шведская ці напалеонаўская, было жаданне перамагчы.

Аб перамозе марылі і змагаліся за яе ўсе народы СССР.

І прыйшла яна, УСЕНАРОДНАЯ.

* * *

**Яшчэ колькі гадоў — а яны неверагодна кароткія ў асабістым чалавечым жыцці — і мы даведаемся пра ваенныя падзеі, пра салдат і афіцэраў Вялікай Айчыннай толькі з музеяў, кніг, сямейных альбомаў.**

**Пакуль не позна, зробім усё, каб захаваць як мага паўней памяць пра іх.**

**Каб маглі яны аднойчы вярнуцца да патомкаў, прыйсці на ДЗЯДЫ.**

Валянцін ЖДАНОВІЧ

**Фота аўтара.**



*Даляглядьі перабудовы*

# ЦІ НЕ РАНА СВЯТКАВАЦЬ?

Сёння многія задумваюцца: што рыхтуе нам новы дзень перабудовы? Нарастаючую сілу абнаўлення або...

Вядома, хочацца верыць у лепшае. Але існуе рэальнасць, ад яе не адмахнешся.

Дык вось, хочацца пагаварыць перш за ўсё аб тым, што прыкметна зніжаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. З'ява часовая або не?

Сярод прычын, якія, як кажуць, ляжаць сёння на паверхні, гэта — адсутнасць тавараў першай неабходнасці, рост цэн, а галоўнае — не хапае прадуктаў харчавання.

Мы хутка прывыклі да талонной сістэмы на некаторыя тавары, да росту цэн, на некаторыя вырабы яны замарожаны. Але ў магазінах няма з чаго выбіраць. Зрэдку «выкідваюць» вараную каўбасу, амаль зусім зніклі сардэлькі, нават добрыя кансервы не заўсёды знойдзеш.

Некалі ў інтэрв'ю для часопіса «Политический собеседник» паважаны мною міністр Я. Х. Сухарукаў абяцаў за кароткі тэрмін «ашчасліваць», напрыклад, Мінск далікатэсам — курынымі сасіскамі. Я паверыў, але перад навагоднімі святамі збіўся з ног, шукаючы іх. Не знайшоў ні ў адным магазіне. Прадукт свабодна ляжаў хіба што ў кафэ Дзяржаграпрама БССР па вуліцы імя Кірава. Але туды заглянуць я не здагадаўся.

Будзем, аднак, праўдзівымі. У сталіцы становішча з прадуктамі харчавання параўнальна нядрэннае. Але чым далей у глыбінку, тым больш бачыш адзнакі харчовага крызісу, які набліжаецца. На восеньскай сесіі раённага Савета Асіповіцкага раёна народны дэпутат А. Юрчанка з трывогай заявіў: «Паліцы пустыя як у горадзе, так і ў раёне...» Дададзім: хіба толькі ў гэтым горадзе і гэтым раёне?

Пра цэны я сказаў упачатку не выпадкова. Дыфіцыт у дзяржгандлі адразу ажывіў рыначны бізнес, даў штуршок для развіцця ценявой эканомікі, якую нехта трапна назваў «паўзучай контррэвалюцыяй», адна-го з тормазаў перабудовы.

Газета «Сельская жизнь» уважліва сочыць за становішчам на базах буйных гарадоў краіны. У апошні дзень мінулай восені яна абнародавала агляд, з якога, у прыватнасці, бачна: цэны на свініну ў Мінску і Брэсце стабільна перавысілі сем рублёў за кілаграм. Дорага каштуюць тут і малочныя прадукты. У цэлым у рэспубліцы на 12—15 працэнтаў павысіліся цэны на курыныя яйкі.

Праз некалькі дзён пасля гэтай публікацыі я спецыяльна наведаў славуты Камароўскі рынак сталіцы. Факты, як кажуць, пацвердзіліся. Мяса, напрыклад, гаспадыні прадавалі па 8—10 рублёў за кілаграм, мёд — па 12, садавіну, гародніну... Пра іх размова асобная.

Калі вы сабраліся па садавіну і гародніну, падрыхтуйцеся перажыць не адну стрэсавую сітуацыю... Пачнем з магазінаў. Калі там з'яўляюцца, скажам, адносна добрыя слівы, грушы, апельсіны, то ў чарзе прыйдзецца пастаяць ды пастаяць. Між іншым, калі нават падыдзе ваша чарга, вам не вельмі дазволяць выбіраць. Логіка ў некаторых работнікаў гандлю «жалезная»: бяры, што даюць. Не хочаш — заставайся ні з чым.

Выйшаўшы з магазіна, вы трапляеце на якое-небудзь людное перакрыжаванне. Менавіта тут «добрыя малойцы» і «красныя дзевіцы» прадаюць ці не круглы год кавуны, яблыкі, хурму, мандарыны і г. д. Цэны на іх нават не «кусаюцца», яны — «грызуцца». На рынку з вамі наогул ніхто лічыцца не будзе. Там цэны такія, якія назавуць гаспадары.

Паспрабуй даведацца, што за гандляры «выкачваюць» з нашых кішэняў кроўныя грошы, якую «фірму» яны прадстаўляюць, дзе

набылі экзатычную садавіну і гародніну, нічога не атрымаецца. Калі я паспрабаваў гэта высветліць мінулай зімой ля Камароўскага рынка, малады «мэн» працадзіў праз зубы: «Канчай базар, зразумела? Вось такія, як ты, давялі краіну да голаду, цяпер у сваіх грахах абвінавачваеце нас... Не хочаш — не бяры, адвальвай...»

Яго цудоўная сяброўка паўтарала: «Мы— кааператыў... Мы — кааператыў...»

Давялося «адваліць» у бок міліцыі. Усё ж хацелася пачуць адказ на пытанні, якія хвалююць, відаць, кожнага з нас... Аказалася, у «ананімных», ды і ў тых «дзелавых людзей», якія знаходзяцца пад кааператыўным дахам, ёсць нямала надзейных шляхоў абагачэння. Можна набыць тавар у гандляроў з поўдня. Можна перакупіць у дзяржаўных магазінах. Можна адразу з баз...

Менавіта так і рабілі ў свой час «заступнікі» народа з мінскага кааператыва «Прамень». Дамовіліся з кіраўніцтвам рознічнага садавінна-агародніннага камбіната Мінскага раёна. Прама з чыгуначнай станцыі па дамоўленасці «раскрэдытавалі» дзве секцыі мандарынаў і на транспарце таго ж РПК(!) павезлі каля 200 тон пладоў у свае ўладанні. Вядома, справа адпаведных органаў разабрацца, ці ўсё было законна. Я ж мушу сказаць: хай ведае працоўная сталіца рэспублікі, што яна купляла тады мандарыны амаль утрая даражэй, чым яны каштуюць у дзяржаўным магазіне.

Хай, думалася мне, ананасы, бананы, апельсіны і мандарыны ў нас не растуць. Вось і грэюць на гэтым рукі тыя, хто хоча. А яблыкі, скажам? Год жа на іх быў вельмі ўраджайны. За кілаграм яблыкаў на Ленінскім праспекце «дама, прыемная ва ўсіх адносінах», запрасіла ў мяне даражэй, чым у магазіне каштуе ялавічына. Хацелася і сапраўды крычаць: «Караул! Рабуюць!..»

Пра што ўжо, а пра праблему яблыкаў, наогул садавіны ў рэспубліцы пішам, гаворым шмат. І пакуль пісалі-гаварылі, нехта з чыноўнікаў, адказных за стан садавінна-агародніннай галіны грэбліва адварочваўся. Калі ў нашага Дзяржаграпрама няма цяжкасцей, здаецца, ён іх наўмысна стварае, каб потым пераадольваць і рапартаваць аб гэтым.

Кожны сезон рэспубліка купляе ў цёплых краях, нават за мяжой, шмат садавіны, у тым ліку і яблыкі. Адначасова мноства калгасных і саўгасных садоў застаецца па-за ўвагай спецыялістаў, кіраўнікоў, нарыхтоўшчыкаў. Садамі заняты высокаўрадлівыя землі. У штатах гаспадарак садавода сустрэнеш рэдка. Пасля таго, як былі прыняты строгія меры па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам, яблыкі на перапрацоўку не бяруць. І што? Хіба хоць з аднаго кіраўніка спыталі за гэта? Не... За зерне, малако, мяса — караюць. А тут...

Прыгадваецца заметка з Мінскага раёна, надрукаваная ў рэспубліканскай «Сельской газете» 25 кастрычніка мінулага года. У ёй паведамлялася, што абыякавасць раённых нарыхтоўшчыкаў моцна «ўдарыла па кішэні сельскіх уладальнікаў садоў», адмоўна паўздзейнічала на настрой спажыўцоў.

Напрыклад, жыхар вёскі Слабада Уладзімір Іванавіч Чэрнік не змог рэалізаваць некалькі тон першасортнага белага наліву. Урэшце скарміў вітаміны жывёле.

Ламалася голле ў садзе вядомага калгаса «Новы быт». Туды наша кіраўніцтва любіць вазіць гасцей рэспублікі, у тым ліку і з-за мяжы. Мабыць, цудоўна выглядалі садовыя дрэвы ў жніўні. Спыталі б госці, што стала з ураджаем потым.

Такіх прыкладаў шмат. Бездапаможнасць ведамства па вытворчасці і перапрацоўцы дарункаў садоў і палёў АПК, яго нізавых падраздзяленняў мае ў цяперашняй няпростай сітуацыі палітычны аспект. Метадамі, якімі перабудоўваюцца тут, несумненна, дыскрэдытуюць саму перабудову. Можна стварыць дэфіцыт не толькі з садавіны, але з чаго хочаш.

Хочаце ведаць, куды зніклі сардэлькі, добрая каўбаса, чай, кава, вяндліна, дзе выразкі? Наведайце першае, якое вам трапіцца, кааператыўнае кафэ... Дык вось, усім гэтым вас там пачастуюць і... абяруць як ліпку.

Можа быць, яны самі вырошчваюць жывёлу, даглядаюць, узяўшы ў арэнду, сады, збіраюць ягады? Такое сустрэнеш рэдка. Аграпрам наш, як кажуць, незваротлівы.

На самой справе, хіба не злачынна скормліваць жывёле садавіну, у той час калі нам не хапае вострa вітамінаў, асабліва людзям, якія жывуць на тэрыторыі, якая пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС? Гэта не прыдумана, не хапае. Гэта прагучала на адной з прэс-канферэнцый у Мінскім Доме палітасветы.

Імкнуся звесці ў адно свой роздум аб ценявой эканоміцы, цэнах, пустых паліцах у гастраномах і міжволі прыходжу да вываду: нашы мясцовыя ўлады марудна, але відавочна выпускаюць з поля зроку сітуацыю, дапускаюць бескантрольнасць у забеспячэнні і гандлі або дзейнічае «кругавая парука», мафія адкрыта абірае людзей сярод дня, стварае бурлівыя інфляцыйныя працэсы, забірае грошы насельніцтва ў тугія кашалькі дзялкоў.





М. БАСАЛЫГА. Грунвальская бітва. 1410 (аўталітаграфія. 1989)



В. ВАЛЫНЕЦ. Антрапагенны ландшафт (алей, 1989).

Спашлюся на вывады, да якіх прыйшоў вядомы эканаміст А. Сяргееў (часопіс «Наш современник», № 10, 1989). Вучоны лічыць, што на сённяшні дзень агульны капітал ценявых бізнесменаў дасягнуў у краіне 0,5 трыльёна рублёў, гадавы абарот ценявой эканомікі складае недзе 130—150 мільярдаў.

Калі назіраеш, як развіваецца ў апошнія гады «свабодны» гандаль у рэспубліцы, верыш: яго «ўклад» у агульную справу падрыву жыццёвага ўзроўню народа немалы. Мясцовыя «бізнесмены» не толькі перапрадаюць. Майстры без роду і племя, без допускаў і дазволу свабодна прапаноўваюць нам у розных месцах вараную кукурузу, лаваш, шэрбет, пеўнікі на палачках, падфарбаваную бураковым сокам «клубніку», шакаладныя цукеркі ў «залатых» абгортках, глазіраваныя «грыбкі» і іншае.

Я не здзіўлюся, калі адзін з такіх ананімных і бескантрольных махінатараў дзеля «жарту» можа арганізаваць «лёгкую» эпідэмію або масавае атручэнне. І не будзе каго прыцягнуць да адказнасці.

Права чытача па-свойму аднесціся да сказанага. Жыццё сведчыць аб іншым: варыянт магчымы нават у сферы, якую кантралюе дзяржава. Успомнім масавае атручэнне ў студэнцкіх сталоўках Масквы (сальманэла). Некалькі месяцаў таму «Социалистическая индустрия» змясціла матэрыял «Накармілі... ядам». Дзе? У Рызе. Каго? Дзяцей.

Пакуль размова ішла аб зніжэнні жыццёвага ўзроўню, аб прычынах, якія навідавоку. Але гэтыя прычыны маюць свае карані.

Здаецца, у таго ж самага эканаміста я прачытаў: калі не хапае прадуктаў харчавання, трэба не пустыя вітрыны біць, а задумацца, чаму яны пустыя. Сёння мы ведаем, што і вітрыны разбіваюць (успомнім хаця б перадавагодні падзеі ў Свярдлоўску, гарадах паўднёвай Украіны і інш.), і раздумваюць, што рабіць.

Калі я сказаў пра гэта знаёмаму журналісту, які прадстаўляе ў нашай рэспубліцы адно з паважаных маскоўскіх выданняў, той рашуча заявіў: «Калі толькі напішаш артыкул аб харчовым крызісе ў Беларусі, я запярэчу таксама ў друку. Крызісу такога няма. Наадварот, з пераходам рэгіёна на самакіраванне і самафінансаванне становішча рэзка палепшыцца, бо рэспубліка значна менш будзе вывозіць за свае межы мясамалочных вырабаў...»

Размаўлялі мы паўгода назад, я ў нейкай ступені згадзіўся: так, крызісу пакуль няма, але...

Тады мы не мелі афіцыйнай ацэнкі ўрадавых экспертаў, іншай інфармацыі аб стане спраў у сельскай гаспадарцы. Яна прагучала на XIII сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе разглядаўся план эканамічнага і сацыяльнага развіцця рэспублікі на гэты год. Адзначалася, што адбываюцца станоўчыя зрухі ў аграпрамысловым комплексе, павялічваюцца вытворчасць і нарыхтоўка сельскагаспадарчай прадукцыі. Але нягледзячы на гэта карэннага пералому ў вырашэнні харчовай праблемы ў рэспубліцы не адбылося. Адзначалася таксама, што становішча з забеспячэннем прадуктаў харчавання пагоршылася ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС.

Думаецца, прызнаць становішча —яшчэ не значыць выправіць яго. Трэба выявіць прычыны, вызначыць стратэгію і тактыку выхаду на новы ўзровень гаспадарання.

Калі казаць аб прычынах, яны бачныя. Возьмем чарнобыльскую праблему, наогул справы на Палессі.

Пасля аварыі з сельгасабароту Гомельскай вобласці ўжо выведзена больш 100 тысяч гектараў сельгасугоддзяў. Хутка, відаць, будзе выведзена яшчэ 140 тысяч. З зоны павышанай радыяцыі выехалі тысячы працоўных. Працягваюць выязджаць. Гэта, несумненна, адмоўна ўздзейнічае на маштаб, тэмпы і якасць сельгасработ. Вядома, карміць трэба і тых, хто жыве ў зоне, і тых, хто перасяліўся на новыя землі. І не проста апошніх працаўладкаваць. Аналізуючы сітуацыю, першы сакратар Гомельскага абкома партыі А. А. Грахоўскі заўважыў, што не было канцэпцыі небяспечнага пражывання людзей на забруджаных тэрыторыях. Не былі распрацаваны і прыняты абгрунтаваныя медыцынскія нормы харчавання насельніцтва. Адсутнічала комплексная ацэнка радыяцыйнага становішча... Адзначаў тав. Грахоўскі, што кіраўніцтва вобласці не раз прапаноўвала зменшыць пастаўкі сельгаспрадукцыі ў саюзны фонд, улічваючы страты, памеры і ступень радыяцыйнага забруджвання. Аднак Дзяржплан і Дзяржаграпрам рэспублікі не надаюць увагі гэтым аб'ектыўным прычынам. Справа дайшла да таго, што, як адзначаў тав. Грахоўскі на XII сесіі Вярхоўнага Савета БССР, у мінулым годзе ўжыванне мяса на аднаго жыхара вобласці склала ўсяго 63 кілаграмы, тады як у сярэднім па рэспубліцы — 73. Выходзіць, што «зона асаблівай увагі» толькі прыгожая фраза?

Ці не ствараюцца штучныя цяжкасці? Не лепшае становішча цяпер у шэрагу раёнаў Магілёўскай і Мінскай абласцей, дзе на многіх плошчах ад зямлі таксама нічога не

возьмеш. Праз некаторы час, калі верыць прагнозам вучоных, новыя клопаты паставіць перад намі жытніца рэспублікі — Палессе. І гэта не эмоцыі.

Нечаканa палескую праблему абвастрыў на старонках газеты «Труд» 5 кастрычніка мінулага года кіраўнік новага Міністэрства водагаспадарчага будаўніцтва СССР П. А. Палад-задэ. Апраўдваючы здзейсненае меліяратарамі ў розных канцах краіны (знішчэнне ўгоддзяў), ён пісаў: «Трэба спытаць тых, хто жыве на Беларускім Палессі, ці карысна зробленае намі там?»

Прыйшлося так і зрабіць, спытаць у прафесара БДУ імя У. І. Леніна В. Н. Кісялёва, які займаецца рэгіёнам амаль трыццаць гадоў, які жыў там ці не два дзесяцігоддзі.

Пераказваю сэнс яго адказу: пытанне варта перафразіраваць: як жыць людзям на Беларускім Палессі пасля «карысных» дзеянняў меліяратараў? Зразумела, не меліяратараў у прасоленай і прамасленай робе, а тых, хто вызначыў палітыку шматразовага пераворвання невінаватай шэрай зямлі, тых, хто не знайшоў, як па-сапраўднаму прымяніць працу былога земляроба. Неўсвядомлены трагізм сітуацыі заключаецца ў тым, што змяніўся прыродны воблік радзімы дзяцінства, што ён стаў пастаянным дакорам для выканаўцаў чужых планаў.

Як жыць на зямлі, калі яна забруджана радыенуклідамі і ядахімікатамі, калі вада забруджана нітратамі, а паветра насычана радыяцыяй?

Сёння на Палессі экалагічная сітуацыя цяжкая. Жыць палешукам без чыстай зямлі, без крыштальнай вады. І на гэтым фоне варта разглядаць вынікі «асушэння балот».

Дзейнасць меліяратараў на Палессі давяла да таго, што гэты рэгіён перастае быць аб'ектам геаграфічнага пазнання і экалагічнай сітуацыі. Яна ўжо частка нашага ў многім нігілістычнага светаразумення, тая частка, якая паступова прыводзіла і прыводзіць да дзеянняў тыпу: «пасля нас хоць патоп». На жаль, гэты прынцып надзвычай моцна ўтрымліваецца ў узрастаючым спажывецкім імкненні грамадства. Меліярацыі Палесся, дарэчы, папярэднічала і наша жаданне як мага больш узяць ад прыроды, каб цэнтралізавана задаволіць запатрабаванні народа. Няўжо народ не мог знайсці альтэрнатыўных магчымасцей (з карысцю для сябе), каб па-сапраўднаму, па-гаспадарску выкарыстаць мільярды рублёў, укладзеных у меліярацыю?

Якая ж карысць ад дзейнасці меліяратараў на Палессі?

Так, нялёгка там жылося людзям. Але шматлікія жыццёвыя праблемы і цяжкасці, несумненна, былі часткай паступальнага развіцця грамадства.

Як аб'яднаць паўсядзённыя клопаты палешука, за якімі тысячагадовая праца яго продкаў і сучасныя экалагічныя праблемы, навуковы ўзрост, скажам так, якіх вылічаецца пакуль дзесяцігоддзямі? Гэта можна зрабіць толькі на канкрэтных прыкладах.

Усе балотныя масівы, якія асвойваюць меліяратары, можна падзяліць на дзве групы. Адна з іх — балоты і забалочаныя землі ў поймах малых рэк. Другая — вялізныя балотна-пясчаныя раўніны. Большасць вясковых пасяленняў размясціліся ўздоўж рэк або на ўскраінах балотных масіваў. У выгадным становішчы знаходзіліся пасяленні ля малых рэк. На забалочаных землях (да асушэння) людзі касілі сена, пасвілі жывёлу. У рэках было шмат рыбы, у лясах — звяроў і птушак. Як сведчаць палешукі, за вёскамі за тры-чатыры вярсты былі добрыя землі на пясчаных водападзелах («паўночныя» пяскі). Пад імі на глыбіні 1—2 метраў — вада. А далей — лясы. Суседства з вялізнымі «балотамі», вядома, змяняла сялянскае жыццё. Як адзначаў акадэмік А. І. Ваейкаў, які наведаў Палессе ў канцы XIX стагоддзя, вёскі ў гэтым краі былі самымі багатымі ў Расіі. Палешукі не ведалі голаду, які перыядычна апустошваў Расійскую імперыю, які пракочваўся па краіне і ў савецкі час.

Пасля ліквідацыі ў 20—30-х гадах царкоўнага землеўладання (цэрквы на Палессі валодалі значнай часткай прыгодных для апрацоўкі зямель) многія з іх зараслі драбналессем. Вёскі і малыя паселішчы (з агародамі, абшчыннымі ўгоддзямі) аказаліся «прыціснутымі» да забалочаных, а пасля калектывізацыі зарослых кустоўем, альховым драбналессем поймаў малых рэк. Затым іх асушалі, бяздумна спрамлялі рэчышчы, узаралі землі, што знішчыла перш за ўсё натуральныя, хоць і не вельмі прадуктыўныя, лугавыя ўгоддзі (балоты!). Сялянскія гаспадаркі страцілі сенажаці і ворыўныя землі. Касіць на саўгасных і калгасных землях да нядаўняга часу забаранялася. Жывёлу пагналі ў лес, а з лесу — на бойню.

Успамінаю нядаўнюю сустрэчу на Палессі. Па пясчанай дарозе малады мужчына сярод лета вядзе на вяроўцы карову.

— Куды ты яе вядзеш? — пытаю.
— Карміцельку?.. Здаваць!
— Навошта?
— Бачыш, вунь балота асушваюць.
— Дык гэта ж добра.
— Але ж дзе цяпер жывёлу пасвіць?
— Даруй, ты, здаецца, на падпітку?



— Зразумей, карміцельку маіх дзяцей шкада...

Меліяратары лічаць сваёй заслугай, што вярнулі рэспубліцы 3,5 мільёна гектараў ворных зямель, парослых лесам і кустамі за цяжкія для палешукоў гады выпрабаванняў. Аднак плошча беларускіх лясоў за апошняе дзесяцігоддзе не зменшылася. Прырост ворыўных зямель адбываўся за кошт асушэння балота і забалочаных плошчаў, якія ў сваёй большасці былі сенажацямі і пашамі. Такім чынам, у выніку меліярацыі сельская гаспадарка рэспублікі практычна засталася без натуральных лугавых угоддзяў, на якія абапіраліся сялянскія гаспадаркі.

На Палессі гэта не самая вялікая бяда. Бяда ў экалагічных выніках асушэння поймаў малых рэк. Непазбежнае зніжэнне грунтовых вод на сумежных тэрыторыях стала прычынай страты «шэрых пяскоў», пясчаных ворыўных зямель, на якіх цяпер і сасоннік не ўсюды расце. Уся кормавытворчасць, не кажучы ўжо аб збожжавай гаспадарцы, аказалася сканцэнтраванай у нешырокіх асушаных поймах малых рэк. Такіх гаспадарак на Палессі не адзінкі. Адсюль — хранічная бяскорміца, адсюль і вынік таго, што сена косяць у забруджаных радыенуклідамі поймах Прыпяці.

У хуткім часе, відаць, сітуацыя абвострыцца. Пасля здабычы торфу, у выніку інтэнсіўнага выкарыстання асушаных поймаў малых рэк, неабходна праводзіць рэканструкцыю асушальнай сеткі, перш за ўсё яе паглыбляць. Адпаведна знізіцца ўзровень вады на пясчаных землях. На прысядзібных участках цяжка будзе вырошчваць бульбу і гародніну. Што рабіць селяніну?

Меліяратары ганарацца, што на асушаных, некалі вялізных балотных масівах ствараюцца новыя саўгасы, што каштуе вельмі і вельмі дорага. Прытым яны забываюць, што гэтыя «балоты» — вынік нашай (менавіта нашай, а не чыёй іншай) сельскагаспадарчай палітыкі. Гэта наша пакаленне не ўзбагацілася вопытам папярэдніх, у выніку чаго, у прыватнасці, сенажаці ператварыліся ў чаратова-асаковыя балоты. Тут размова ідзе аб Брэсцкім Палессі. Гонар меліяратарам, што яны пераўтварылі нядаўна бязлюдныя вялізныя тэрыторыі і там узніклі сучасныя гаспадаркі. Аднак карэнныя жыхары Палесся засталіся жыць і працаваць у сваіх родных вёсках, для якіх дзяржаўная казна не была такая шчодрая.

Праблемы, якія ўзніклі пасля асваення вялізных балотных прастораў, ужо неаднойчы абмяркоўваліся ў рэспубліцы. І з кожным годам іх становіцца больш. Чаму б не спытаць у вучоных, якую ролю адыграла меліярацыя Палесся ў іх навуковай творчасці?

У пачатку сямідзесятых невялікая група маладых вучоных, атрымаўшы заданне прааналізаваць сітуацыі, якія склаліся на Палессі, пачалі ліхаманкава шукаць шляхі вырашэння экалагічных праблем. Аднак ранейшыя аптымістычныя, але навукова мала абгрунтаваныя запэўніванні старэйшага пакалення вучоных, якія працавалі на ніве асушэння балот, прывялі ў канчатковым выніку да дыктатуры ведамства. Сёння мы «пажынаем» вынікі гэтага кан'юнктурнага разбэшчвання. Навуковыя калектывы, якія б паспяхова маглі працаваць і знаходзіць вырашэнне вастрэйшых экалагічных праблем прыродакарыстання, распаліся, не вытрымаўшы кан'юнктурнага націску. І такая сітуацыя не толькі ў нас. Канчатковы вынік меліярацыі, думаецца, будзе зроблены не хутка. На вайстрэйшае пытанне: хто і калі будзе вызначаць шляхі вырашэння экалагічных праблем Палесся, Беларусі ў цэлым, расійскага Нечарназем'я, Арала, Заходняй Сібіры і іншых рэгіёнаў, якія закранула «пераўтвараючая» меліярацыя, пакуль адказу няма.

В. Н. Кісялёў сцвярджае, што непапраўнае адбудзецца не заўтра, не паслязаўтра, але думаць і рашуча дзейнічаць, каб не дапусціць яшчэ адну «аварыю», трэба сёння.

Не ведаю, як каго, а мяне асабіста пераконвае логіка прафесара. Бо свае вывады ён робіць не на кан'юнктурных меркаваннях, а на глыбокіх навуковых разліках, цвёрдай, калі можна так сказаць, ідэалагічнай аснове, думаючы аб будучыні.

Каб паставіць кропку на «палескай тэме», не магу абысці маўчаннем іншыя «роднасныя» моманты. У нас сталі звыклыя пыльныя бураны, з'явіліся свае пустыні, глеба актыўна падвяргаецца эрозіі. І хто яшчэ можа сцвярджаць, што гэта з'явы прыродныя, а не антрапагеннага, створанага чалавекам, паходжання?

Па даных спецыялістаў Дзяржаграпрама БССР, толькі ў пачатку бягучай пяцігодкі, дакладней, у 1985 годзе, палескія сяльчане правялі супрацьэразійныя мерапрыемствы на плошчы ў 600 тысяч гектараў. Усяго ж у рэспубліцы, па некаторых даных, эрозіяй пашкоджана 30 працэнтаў ворных зямель. Ці можна на гэтых землях вырошчваць сельскагаспадарчую прадукцыю? Вядома, не. Дадайце сюды самы вялізны з усіх краін свету парк цяжкой тэхнікі, якая адмоўна ўздзейнічае на глебу. Між іншым, падлічана, што пераўшчыльненне адсумоў-

6*

вае на кожным гектары збожжавых на 10—15, бульбы на 20—25 працэнтаў.

Вышэй я назваў некалькі прыкмет харчовага крызісу. Можна назваць яшчэ і яшчэ больш дробных, якія маюць, тым не менш, сацыяльнае значэнне.

Неяк праграма «Час» паказала сюжэт Кіпраса Мажэйкі з буйнога бельгійскага супермаркета. Прадуктаў столькі, што цяжка ўявіць. Журналіст паведамляў, што ўсе віды прадукцыі ў гандлёвай зале маюць цэннікі, спецыяльныя інфармацыйныя бюлетэні, дзе ўказваецца, колькі нітратаў, нітрытаў, іншых хімічных рэчываў. Тут жа названы гранічна дапушчальныя нормы, вызначаныя медыкамі. Падкрэсліў: кантроль за якасцю вельмі жорсткі, пакаранні строгія, такія, што можна страціць усё.

А што ж у нашых магазінах? Мала таго, што прадуктаў не хапае, але мы не ведаем, якой якасці тыя, што ёсць. Што датычыць садавіны і гародніны, то спашлюся на «Праўду» ад 22 кастрычніка мінулага года: «Да цяперашняга часу, напрыклад, мінчанін так і не ведае, які сорт бульбы ён купляе і хто яе вырошчваў. Па-ранейшаму тут гаспадарыць абязлічка...»

Ці толькі бульбы? А морквы, салаты, памідораў, агуркоў, яблыкаў і г. д.?

Пацвярджэнне таму, што ўжываць іх нельга, іншы раз бывае проста небяспечна, я атрымаў праз месяц. 16 снежня ў сельскай праграме Белрадыё адзін з удзельнікаў прызнаў, што месцамі ў Мінскай вобласці вырошчваецца такая «захімічаная» гародніна, многія тоны якой нельга ўжываць без глыбокай перапрацоўкі.

Калі так, то чаму ў нашых магазінах няма інфармацыйных бюлетэняў накшталт амерыканскіх ці заходнееўрапейскіх? З подпісамі адказных асоб, каб было ў каго спытаць. Думаецца, рэспубліканскае таварыства спажыўцоў зразумее маю думку.

Абурацца лёгка, чую я ў свой адрас, але што ты сам прапаноўваеш? Ёсць у мяне асабістыя сякія-такія меркаванні... Але, скажыце, чаму я, не спецыяліст у гэтай галіне, павінен нешта прапаноўваць, некага павучаць? У нас жа нямала людзей, якія ведаюць праблему, сапраўдных спецыялістаў. Але іх голасу і ў эпоху галоснасці нешта не чуць. У друку мы сустракаем адны і тыя ж імёны: Папоў, Карагіна, Шмялёў, Буніч. Паглядзіце, які гэта дружны хор эканамічных генералаў з леварадыкальных колаў! У асноўным ён імкнецца навязаць свае меркаванні ЦК КПСС, ураду, Вярхоўнаму Савету СССР, усяму народу, нарэшце, як яму пазбавіцца голаду і дэфіцыту. І, здаецца, небяспаспяхова.

У нашай рэспубліцы, як я разумею, у палітыкаў склалася формула наступнага плану: на сучасным этапе крызісныя з'явы ў аграрным сектары можна рэальна пераадолець з дапамогай **дырэктыўна-эканамічных** метадаў. (Гл. «Праўду» за 5 студзеня 1990 г.)

Несумненна, любы пункт гледжання заслугоўвае ўвагі, мае права на існаванне. На тое і плюралізм меркаванняў. Аднак, калі загады сыходзяць зверху, людзі на месцах не вельмі ахвотна іх выконваюць, не зусім вераць у іх мэтазгоднасць. Калі і дзейнічаюць, то неахвотна. Дзейнічаць жа трэба даўно, смела, з пачуццём высокай адказнасці, памятаючы: дазволена ўсё, што не забаронена законам. Трэба рашуча ісці наперад, пераадольваючы эканамічны кансерватызм, зыходзячы з мясцовых умоў.

Звернемся нарэшце да рэканструкцыі, якая адбываецца на ўсіх узроўнях апарату Дзяржаграпрама БССР. Я не па чутках ведаю, які там высокі прафесійны ўзровень кадраў. Людзі, якія працуюць там, у сваёй большасці прайшлі выдатную школу, літаральна выратавалі ад краху сельскую гаспадарку рэспублікі ў застойныя часы. А ў іх адрас цяпер чаго толькі не пачуеш. Патрабуюць наогул разагнаць, маўляў, сядзяць на карку селяніна, папракаюць высокімі акладамі і г. д. І вось там, нібы спалохаўшыся, замест таго, каб займацца карэннай перабудовай АПК, праводзяць усемагчымыя скарачэнні штатаў, перадаюць камандныя прэрагатывы ад аднаго падраздзялення да другога.

Між іншым, напрыклад, у ЗША Мінсельгас па ліку працуючых не меншы, чым Аграпрам СССР. На ўзроўні штатаў, заўважым, у апошнія гады ён нават павялічыўся. Паверце, бясплатна там ніхто не працуе. Атрымліваюць нямала. Але функцыі амерыканскіх чыноўнікаў зусім іншыя, чым нашых. Яны, амерыканцы, прагназуюць (чаго ў нас няма), каардынуюць, шукаюць новыя рынкі збыту, даюць неабходныя кансультацыі, кантралююць, адпрацоўваюць забеспячэнне і г. д. Там зарплата спецыялістаў цесна звязана з поспехамі розных галін, а не з нарматыўнымі адлічэннямі.

У нас наогул усё пастаўлена, як кажуць, з ног на галаву. Сялянам даводзіцца па хлеб, масла і каўбасу ехаць у горад. Успамінаецца расказ дырэктара Горацкага племзавода «Леніна» Н. Н. Ларковіча, дзе знаходзіцца буйны жывёлагадоўчы комплекс. Кожную восень гаспадарка адпаведна дзяржзаказу адпраўляе недзе каля 4 тысяч тон збожжа, а потым завозіць тысячу тон камбікорму. Ці не парадокс?

Думаецца, пакуль аграрнікі не пазбавяцца псіхалогіі ўтрымальнікаў (унізе ведаюць: дзяржава не пакіне ў бядзе), перабудова сапраўдная там не адбудзецца. Хочацца спытаць, хто забараняе АПК пераймаць сусветны вопыт, карэнным чынам мяняць у сваёй сферы ўзаемаадносіны? Трэба ж некалі пачынаць. У бліжэйшыя часы, каб накарміць людзей, прычым самымі рознымі прадуктамі, вёсцы прыйдзецца рэзка павялічыць вытворчасць і перапрацоўку харчовай сыравіны, арганізаваць работу на новай якаснай аснове. У нас жа пакуль — паўмеры. Разгарнулася была кампанія па ўкараненню падраду, гасразліку. Хутка з высокіх трыбун прагучала: 60—70 працэнтаў нізавых вытворчых фарміраванняў укаранілі новае, вось-вось будуць усе 100. Калі так, чаму не хапае прадуктаў?

І вось новая хваля. Хутчэй трэба ўкараняць арэнду. Так, маўляў, Ленін наказваў. Можна падумаць, што да Карла Маркса і Уладзіміра Ільіча Леніна арэнды не існавала. Ды яна вядома са старажытных часоў. Кітайцы, напрыклад, апошнія дзесяць гадоў амаль толькі ёй і займаліся. Быццам змаглі, калі верыць адданаму прапагандысту кітайскай мадэлі народнаму дэпутату СССР Ф. Бурлацкаму, накарміць народ. Але ў адным рэпартажы з КНР убачыў, што там на вёсцы пачаўся крызіс. Бо землі няшчадна эксплуатаваліся, абяднелі. Адыходзяць ад арэнды, зноўку вяртаюцца да планавання. Так што патрэбна разумная асцярожнасць, як бы не паўтарыць памылак.

Кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, спецыялісты спрачаюцца: а калі радыкалы пераканаюць заканадаўцаў прыняць юрыдычныя акты, згодна якіх зямля будзе перададзена сялянам? Козыр жа ў руках «прарабаў» перабудовы: востры недахоп прадуктаў харчавання, вельмі нізкая эфектыўнасць большасці гаспадарак. Лепшыя калгасы і саўгасы ў краіне і рэспубліцы, як кажуць, можна пералічыць па пальцах.

Думаю, што не баяцца трэба, а дзейнічаць. Прытым рашуча. Па меркаванню вядучых нашых вясковых кіраўнікоў, тыя ж калгасы яшчэ па-сапраўднаму сябе не паказалі. Гэтаму перашкаджае камандна-адміністрацыйны апарат, загады зверху. І патрабуюць яны зусім мала — магчымасці самастойна вырашаць усе гаспадарчыя пытанні: з кім кааперавацца, што вырошчваць, каму прадаваць, па якіх цэнах. У дзяржзаказ жа павінна ўваходзіць самае асноўнае, без чаго не абысціся.

На самой справе: колькі збожжа можа атрымаць хутаранін, нават маючы тэхніку? Затое калгас можа многа. І наадварот, вырошчваць салату, гародніну, садавіну буйной, шматгаліновай гаспадарцы часта нявыгадна. Тут якраз і можа выручыць арэнда, мясцовы кааператыў, нават гасразліковае арэнднае звяно. Умовы зноў жа адны: свабодная рэалізацыя па дагаворнай цане. Вядома, бясплатна не будзе працаваць ні калгаснік, ні фермер. Гэта разумеюць усе.

Дарэчы, у Беларусі ды, здаецца, і ў краіне застаўся сапраўдным адзін калгас—«Рассвет» імя К. П. Арлоўскага. Тут разам з зарплатай дзейнічае працадзень, гэта значыць часткова ажыццяўляецца выдача заробленага натуральнай сельгаспрадукцыяй. Здавалася б — навошта? Для таго, каб сяляне пасля напружанай работы на асноўным месцы маглі адпачыць дома. У іх больш магчымасцей на адпачынак, задавальненне культурных запатрабаванняў.

А ці багата вольнага часу ў нашага вясковага жыхара ў сярэднім па рэспубліцы? БелНДІ эканамічных праблем АПК БССР правёў даследаванні. Высветлілася: 20 працэнтаў нерабочага часу летам жанчына траціць на хатнюю гаспадарку, мужчыны крыху менш. Дадайце сюды асабістае падвор'е, агарод, набіраюцца гадзіны. Думаю, не ўсё дрэннае было ў калектывізацыі.

Далей. Нерэнтабельныя гаспадаркі часта зліваюцца з перадавымі. Даўгі іх спісвалі, павялічвалі закупачныя цэны. Прыедзеш у раён, а першы сакратар з гонарам кажа, што ў іх няма нерэнтабельных гаспадарак. Прыедзеш праз два-тры гады, а яны як грыбы пасля дажджу выраслі.

Цікавы выхад не так даўно прапанаваў урад краіны: спісваць даўгі толькі тым, хто возьме вытворчасць у арэнду.

У нас у рэспубліцы з'явіўся кволы расток вопыту, які, як мне ўяўляецца, мае шанец на надзвычайны эфект. Толькі б не загубіць ідэю на корані. Сутнасць яго, калі коратка, у наступным. Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі Жлобінскага раёна мясцовыя буйныя прадпрыемствы пачалі ўкладваць вялікія сродкі ў развіццё сацыяльнай і вытворчай інфраструктуры калгасаў і саўгасаў. На аснове дамоўленасці. Разлічваюцца звышпланавай сельскагаспадарчай прадукцыяй. Выгада і тым і тым: умацоўваецца вёска, вырашаюцца праблемы забеспячэння прадуктамі харчавання гараджан.

Хачу яшчэ паўтарыцца: прыхільнікам ініцыятывы адміністрацыйная сістэма, даклад-

ней, цыркуляры перашкаджаюць. І трэба парваць гэтыя путы, дапамагчы, падтрымаць ініцыятыву.

У заключэнне зноў хочацца засяродзіць увагу на тым, што ва ўмовах Беларусі «чыстая» прадукцыя мае вельмі вялікае значэнне. Яна — здароўе нацыі, адна з умоў выжывання пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, якой не было ў сусветнай практыцы. Але як прымусіць даваць высокую якасць прадукцыі, калі яе і колькасна не хапае? Відаць, зацікавіць цэнамі. Так, экалагічна чыстыя прадукты будуць каштаваць не танна, як, дарэчы, і ў іншых краінах.

І апошняе. На XIII сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР гаварылася: «Аналіз вынікаў гаспадарчай дзейнасці за мінулы год паказвае, што толькі невытворчыя выдаткі і страты ў народнай гаспадарцы рэспублікі перавысілі 1,6 мільярда рублёў».

Цікава, колькі іх прыпадае на сельскую гаспадарку? Такія лічбы чамусьці не прынята шырока абнародаваць нават цяпер, у перыяд небывалай галоснасці. Знаёмы старшыня неяк з горыччу сказаў: «Калі б у нас была нармальная сельскагаспадарчая і перапрацоўчая тэхніка, аб харчовым крызісе нават без усялякіх рэформ не было б і размовы».

Страты, на жаль, на кожным кроку: у полі, пры перавозцы, захаванні, перапрацоўцы. Па афіцыйных даных (гл. «Сельскую жизнь», 18.10.1989 г.), за апошнія 10 гадоў больш чым у два разы павялічыліся ўкладанні дзяржавы ў тэхніку, угнаенні. Аддача амаль нулявая.

Вялікая надзея тут на канверсію. Асабліва па стварэнню тэхнікі для перапрацоўкі сыравінных рэсурсаў. У Беларусі яшчэ не было года, каб у гэтай галіне выконваліся даведзеныя заданні. Не будзе прарыву ў тэхнічным пераўзбраенні перадавой і тылоў АПК — усе задумы, планы не здзейсняцца. А харчовы крызіс—гэта не набор асобных недахопаў, народжаных звычайнай безгаспадарчасцю. Харчовы крызіс, варта яму з'явіцца, ёсць крызіс палітычны. Ён ставіць на мяжу праваЛу лёс і перабудовы і сацыялізму.

Таму, думаю, святкаваць рана. Трэба думаць, шукаць, аналізаваць, працаваць.

Цікава, а што на гэты конт думаюць чытачы?

Мікалай ВАСЬКОЎ



# векавечнае святло



## ДА 500-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Ф. СКАРЫНЫ



Адным з важнейшых вынікаў развіцця еўрапейскага грамадства эпохі Адраджэння з'яўляецца станаўленне нацый, нацыянальнай свядомасці і літаратуры. Заснавальнікам рэнесансава-нацыянальнай традыцыі ва ўсходнеславянскай культуры, беларускага і шырэй — усходнеславянскага кнігадрукавання стаў палачанін Францыск Скарына, які як мысліцель, ідэолаг, вучоны, пісьменнік, перакладчык, мастак, інтэлігент вырас на аснове сінтэзу перадавых айчынных і заходнееўрапейскіх культурных традыцый.

Скарына — тытан беларускага Адраджэння, першы нацыянальны пісьменнік Беларусі, сцяганосец нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа... Тут мы павінны ўлічваць некалькі акалічнасцей.

У Беларусі, Літве, на Украіне, у Расіі і Польшчы ў XVI—XVII стст. нацыі яшчэ не склаліся і дзяржаўна-палітычная і нацыянальна-культурная дыферэнцыяцыя ўсходнееўрапейскіх народаў не завяршылася. Нягледзячы на гэта, іменна ўжо ў эпоху Рэнесансу ўзніклі поўныя элементы іх нацыянальных культур (фарміраванне мовы, літаратуры, мастацтва, грамадскай думкі). Вось чаму дзейнасць Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Я. Вісліцкага, В. Цяпінскага, Л. Зізанія, С. Буднага, М. Сматрыцкага, А. Філіповіча, Сімяона Полацкага і інш. адлюстроўвае «пачатковую стадыю станаўлення беларускай нацыі»[1].

Нацыянальна-патрыятычная праграма Скарыны выяўлена яшчэ недастаткова выразна, калі можна так сказаць, кампрамісна. Апрацаваную, унармаваную беларускую літаратурную мову, як, напрыклад, паляку Каханоўскаму ці немцу Лютэру — у еўрапейскіх літаратурах, Скарыне стварыць не ўдалося. Ды да гэтага ён, па сутнасці, і не імкнуўся, таму што выпрацаваць яе на царкоўнаславянскай аснове (а іменна такой з'яўляецца мова яго выданняў) было немагчыма. Аднак важна, што Скарына стварыў беларускі тып кніжна-славянскай мовы, высокі кніжны стыль, агульназразумелы для ўсіх усходніх славян.

Патрыятызм і хрысціянскае асветніцтва Скарыны звернута як да Беларусі (гэ-

ты тэрмін, праўда, ён яшчэ не ўжывае), так і да ўсёй Русі, «рускіх» слаёў Літвы,— да «рускага народа», і накіраваны на адраджэнне і ўмацаванне адзінства ўсходніх славян — спадчыннікаў былой Старажытнай Русі.

Гэтая «кампрамісная» нацыянальна-патрыятычная праграма Скарыны характарызавала і выявіла не адсутнасць нацыянальнай годнасці ў гуманіста, а наадварот — яго веліч, празорлівасць і мэтанакіраванасць ідэйна-палітычнай пазіцыі. У часы турэцкага і татарскага нашэсцяў на Еўропу Скарына тым самым як бы заклікаў у «Бібліі рускай» да ваенна-палітычнага саюзу паміж варожымі Літоўскім і Маскоўскім княствамі — аб'яднаўчымі дзяржаўнымі карпарацыямі ўсходніх славян, а не да ваеннага іх супрацьстаяння, і, такім чынам, ён геніяльна прадоўжыў на новым гістарычным этапе грамадскага развіцця, на ўзроўні палітычнай і мастацкай свядомасці беларускага народа літаратурныя традыцыі бессмяротнага старажытнарускага «Слова аб палку Ігаравым».

Усходнеславянскі першадрукар і асветнік-гуманіст, каталік па веравызнанню, Скарына ўвасобіў у сваёй творчай дзейнасці гуманістычныя і палітычныя ідэі і погляды не толькі таго крыла беларускіх дзеячаў і асноўнай, праваслаўнай часткі беларускага народа, якія здаўна мелі цягу да Расіі, Масквы (пазней выразнікамі гэтых тэндэнцый сталі А. Філіповіч, Сімяон Полацкі і інш.), але і погляды каталіцкага кола, што імкнулася да збліжэння з заходнееўрапейскай, славянскай і літоўскай культурамі. Як ідэолаг Скарына абараняў ідэю агульнарускага, усходнеславянскага і агульнаеўрапейскага адзінства.

Кансерватыўна і па-сярэдневяковаму настроеныя праваслаўны, каталіцкі і уніяцкі лагер і клір, фанатычныя прадстаўнікі праваслаўна-візантыйскай (А. Курбскі), рымска-каталіцкай (канфіскацыя скарынінскіх кніг у Вроцлаве) і уніяцкай (А. Сялява) ідэалагічна-культурнай арыентацыі варожа ўспрымалі «Біблію рускую». Творчая дзейнасць Скарыны не ўпісвалася ні ў адно з гэтых ідэалагічных цячэнняў, а значыць, яна мела сваё самастойнае, гуманістычнае, агульначалавечае значэнне. Скарына выступаў супраць духоўнай манаполіі царквы з рэнесансава-гуманістычных пазіцый, з антрапацэнтрычнай, адкрытай сістэмай сваіх філасофска-грамадскіх і эстэтычных поглядаў, заснаваных на сінтэзе лепшых айчынных, заходнееўрапейскіх і антычных традыцый, г. зн. перадавога інтэлектуальнага вопыту Еўропы таго часу. У светапоглядзе Скарыны ёсць і рэфармацыйныя элементы, таму што ён, не рэвізуючы часта рэлігійныя догмы, імкнуўся, аднак, абгрунтаваць у прадмовах неабходнасць абнаўлення маралі, права, судаводства, кніжна-літаратурнай мовы і такім чынам стаў прадвеснікам Рэфармацыі ва Усходняй Еўропе. Карацей кажучы, прыўзнімаючыся над канфесіянальнай палемічнай барацьбой у Еўропе, якая вялася і, па сутнасці, не затухала з часоў ранняга сярэдневякоўя, Скарына праявіў сябе як талерантная, творча-гуманістычная, энцыклапедычна-універсальная асоба, быў, па сутнасці, чалавекам новага раннебуржуазнага часу і, нібы прадбачачы будучыя рэлігійныя бітвы ў сваім краі, звяртаўся, як і большасць еўрапейскіх гуманістаў, да ранняга хрысціянства і лепшых духоўных здабыткаў чалавецтва.

У той жа час існавала і другая палітычная і культурная тэндэнцыя. М. Гусоўскі, Я. Вісліцкі, Э. Вітэлій, Ян з Літвы і інш. у сваёй нацыянальна-патрыятычнай і агульнапольскай і славянскай і агульнаеўрапейскай праграмах дзейнасці сталі выразнікамі дум і спадзяванняў таго крыла беларускіх дзеячаў, гараджан, шматлікай шляхты, прадстаўнікоў каталіцкай царквы, якія імкнуліся найперш да збліжэння з Польшчай, Літвой, Рымам. Гэтыя гуманісты кіраваліся сваёй «нацыянальнай» ідэяй, ідэяй роўнасці і ўзаемасувязей народаў і культур Усходу і Захаду.

Дыяметральна супрацьлеглыя гістарычныя тэндэнцыі (усходняя, заходняя) і сінтэтычная айчынна-агульнаеўрапейская — у культурна-палітычным, рэлігійным жыцці Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай XV—XVII стст., зразумела, аслаблялі палітычнае, рэлігійнае і культурнае адзінства гэтых дзяржаў і былі надзвычай важнымі для гістарычнага лёсу Беларусі, яе літаратуры і наогул культуры.

Гэтыя тэндэнцыі ў жыцці беларусаў захоўваліся аж да XIX ст. Разам з тым велікакняжацкая, каралеўская ўлада імкнулася нярэдка кансалідаваць у адно цэлае гэтыя тры рухаючыя гістарычныя грамадскія сілы.

Таленавітым выразнікам і прадаўжальнікам гэтай аб'яднаўчай дзяржаўнай палітыкі, нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа, усходніх славян для пачатку — сярэдзіны XVI ст. быў Францыск Скарына, які ў сваёй творчай дзейнасці





**М. КУПАВА. Ф. Скарына з маці ў Полацку** (аловак, 1989).

сінтэзаваў усе («усходнюю», «заходнюю», айчынную, грэка-візантыйскую і заходнееўрапейскую) лініі станаўлення беларускай культуры і літаратуры, беларускага Рэнесансу і арыентаваўся на паскоранае развіццё нацыянальных традыцый.

Ідэйная гуманістычна-асветніцкая агульнаруская, агульнаеўрапейская праграма дзейнасці Скарыны, яго прадуманая ідэалагічная платформа, яго зварот да ўсяе Русі, яго арыентацыя на простага масавага чытача абумовілі спецыфіку і паэтыку «Біблії рускай» і іншых скарынаўскіх кніг.

«Біблія руская» — не проста першы ў гісторыі ўсходнеславянскага кнігадрукавання і культуры вопыт навуковага рэнесансавага выдання Бібліі, а ідэйна прадуманы яе «спецвыпуск» — «малымі кніжкамі», арыентаванымі на даступнасць для ўсёй усходнеславянскай супольнасці, на даступнасць мовы, зместу, пакупніцкую магчымасць чытачоў з мэтай выхавання і павышэння ўзроўню адукаванасці тагачасных працоўных мас.

Гэта быў упершыню так магутна і адкрыта заяўлены ў беларускай і ва ўсёй усходнеславянскай літаратуры і культуры дэмакратычны зварот да ўсяго народа, а не да нейкага асобнага саслоўя ці касты. Менавіта Скарына зрабіў прарыў у новую літаратуру і свядомасць сярод беларусаў, прыўзняўшыся над сярэдневяковым «каставым» мысленнем і элітарным мысленнем многіх заходнееўрапейскіх гуманістаў, і тым самым паклаў дабратворны пачатак дэмакратызацыі ўсходнеславянскіх нацыянальных культур.

Неаднойчы ён падкрэсліваў у сваіх прадмовах: «Пожиточьны же суть сие книгы всякому человѣку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболѣй тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку», альбо: «Не толико докторове а люди вченые в них разумеють, но всякий человек простый и посполитый, чтучи их или слухаючи, можеть поразумети», ці: «Абы, братия моя Русь, люди посполитые, чтучи могли лепей разумети»[2]. На яго думку, мастацтва звяртаецца «ко всему собору людей» і па сваёй сутнасці ўсенароднае, шматзначнае.

Менавіта сацыяльна-дэмакратычны зварот Скарыны да ўсяго народа, гуманістычна-грамадскі, у значнай ступені народны дэмакратызм — адзін з галоўных кампанентаў і асаблівасцей яго рэнесансавага светапогляду, на што даследчыкі, на жаль, мала звярталі ўвагі. У гэтай сувязі адзначым: большасць твораў і прадмоў пісьменства перыяду Кіеўскай Русі звернута да пэўных лакальных чытацкіх груп, за выключэннем некаторых літаратурных помнікаў, у тым ліку «Слова аб палку Ігаравым», аўтар якога звяртаўся да «братии» ўсёй Русі, што рабіў і Скарына ў больш разгорнутай форме.

Арыгінальнасць Скарыны як пісьменніка і перакладчыка мы бачым не толькі ў яго ідэйна-палітычнай пазіцыі, а, зразумела, і ў яго таленце, самаахвярнасці, засваенні і перапрацоўцы ім здабыткаў сусветнай культуры (хрысціянскай, асветніцкай, антычнай і рэнесансавай традыцый, народнай філасофіі і літаратурнага вопыту).

Дасягнуўшы вышынь еўрапейскай адукацыі, ён узняў беларускую культуру да еўрапейскага, рэнесансавага ўзроўню і такім чынам надаў Рэнесансу на Беларусі выразны, нацыянальна адметны характар і кірунак.

Аднак трагедыя лёсу Скарыны, яго драма як чалавека і дзеяча новай эпохі, заключалася ў тым, што ў сілу гістарычных абставін і параўнаўча недастатковай развітасці беларускага Рэнесансу гэтага перыяду высокаадукаваны муж, гонар і слава свайго народа і ўсёй усходнеславянскай інтэлігенцыі таго часу, не знайшоўшы мецэната на радзіме, вымушаны быў, як выгнанец, шукаць сабе шчасця, кавалка хлеба і прытулку на чужыне, у Чэхіі. Гэта асабістая і грамадская драма Скарыны сімвалізуе сабой драматычнасць будучага развіцця шматпакутнага беларускага народа, яго нацыянальнай дакастрычніцкай культуры і літаратуры і сведчыць, што ў скарынаўскі час на Беларусі і ў Вялікім княстве Літоўскім увогуле зараджаліся палітычныя і культурныя тэндэнцыі, плыні і сітуацыя, якія спарадзілі пазней польскага Міцкевіча, рускага Дастаеўскага і Капіевіча, калі сілы народныя вымушаны былі працаваць на чужую, а не на сваю літаратуру і культуру. Светач ісціны і духоўнай свабоды, які Францыск Скарына нёс у свой край, абпаліў яго самога. Але сказанае яшчэ не азначае, што выразнага гуманістычнага руху не існавала ў Вялікім княстве Літоўскім, як думаюць некаторыя даследчыкі, а хутчэй даказвае неаднозначнасць зместу гэтага руху, ідэалагічную барацьбу ў ім розных плыняў. Нацыянальны геній не можа нарадзіцца без адпаведных традыцый і асяроддзя. У гэтым сэнсе не выключэнне і Скарына.



Аб выдатных пісьменніцкіх і паэтычных здольнасцях Скарыны мы сёння можам канкрэтна меркаваць па яго 48 прадмовах і 62 пасляслоўях, 3 вершаваных узорах, некалькіх акравершах, шматлікіх загалоўках раздзелаў, гімнаграфічнай прадукцыі, па якасці перакладу кніг Бібліі на мову, набліжаную да беларускай. Фактычна наша ўяўленне тут аднабаковае і далёка не поўнае. Гэта толькі вядомы друкаваны творчы набытак Скарыны, звязаны з яго выпускам «Біблії рускай», «Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала». У гэтых кнігах, адаптаваных для простага чытача, не маглі і не змаглі поўнасцю раскрыцца душа і талент Скарыны як выдатнага мысліцеля, натхнёнага пісьменніка, паэта, гімнографа, філолага, тэкстолага новага тыпу, хоць гэтыя кнігі — таксама яго дзецішча і выяўленне яго аўтарскага «я».

Творчы патэнцыял і інтэлект Скарыны былі багацей і вышэй выкарыстанага ім «біблейскага метаду», які, падкрэслім, арганічна, але не адэкватна ўвабраў усю гаму яго пачуццяў і светапогляду.

Беларускі гуманіст, як і большасць еўрапейскіх культурных дзеячаў эпохі Рэнесансу, быў, на мой погляд, шматмоўным творцам і пісаў, апрача беларускай і царкоўнаславянскай, на класічных (лацінскай, грэчаскай) і некаторых іншых еўрапейскіх (чэшскай, польскай, нямецкай) мовах, ствараў і перакладаў свецкія творы, філасофскія і прыродазнаўчыя трактаты. Гэтыя творы («паперы»), напэўна, і прыгадваюцца ў копіі граматы чэшскага караля Фердынанда I ад 29 студзеня 1552 г., пра якія ведаў сын Скарыны Сімяон і імкнуўся іх набыць. На жаль, яны не адшуканы.

Выдатная заслуга Скарыны як пісьменніка і кнігавыдаўца была ў тым, што ён увёў прадмовы і пасляслоўі ў шырокі ўжытак ва ўсходнееўрапейскай літаратуры, надаў ім маральна-этычны, пазнавальна-асветніцкі, гуманістычны характар, адмовіўся ад ананімных этыкетных прадмоў сярэдневяковага пісьменства, стаў пачынальнікам беларускай філалогіі, кніжнага вершаскладання. Метадам гуманістычнай інтэрпрэтацыі, актуалізацыі біблейскай тэматыкі і праблематыкі, шляхам выкарыстання дасягненняў інтэлектуальнай думкі эпохі антычнасці, сярэдневякоўя і Рэнесансу Скарына заснаваў у беларускай літаратуры рэнесансавую дыдактычна-маральную, навукова-асветніцкую, філасофскую публіцыстыку.

Ідэйная спадчына Скарыны даволі грунтоўна прааналізавана ў працах скарыназнаўцаў. Менш пакуль што ўвагі ўдзялялася імі літаратурна-эстэтычным поглядам, творчаму метаду пісьменніка, перакладчыка, паэтыцы і стылістыцы яго прадмоў і пасляслоўям-словам, паказу велічы творчай пісьменніцкай індывідуальнасці Скарыны з яго філасофскай узнёсла-літаратурнай, музычна-паэтычнай душой.

Нягледзячы на тое, што ў публіцыстыцы беларускага гуманіста няма яшчэ выкладзенай у стройную сістэму поглядаў на эстэтыку, літаратуру і мастацтва (яе можна рэстаўраваць часткова па асобных эстэтычных выказваннях і ацэнках), іменна Скарына разам з М. Гусоўскім з'яўляецца заснавальнікам літаратурнай крытыкі і эстэтычнай навукі ў Беларусі і ва ўсім усходнеславянскім рэгіёне[3]. Падзяляючы вучэнне Піфагора, Арыстоцеля[4], візантыйскіх філасофаў і айцоў царквы аб катарсісе, ачышчальным, выхаваўчым, «псіхатэрапеўтычным» уздзеянні твораў мастацтва на чалавека, беларускі асветнік-гуманіст ідзе далей, ставіць пытанне аб поліфункцыянальным характары, значэнні і ўзаемасувязі літаратуры і мастацтва (прозы, паэзіі, музыкі, спявання песень, графікі, жывапісу), паказвае іх грамадскую, пазнавальную, эмблематычна-сімвалічную, выхаваўчую і геданістычную функцыі. Пазней аналагічных поглядаў на ролю паэзіі, музыкі, спявання песень прытрымліваўся беларускі барочна-рэнесансавы паэт Сімяон Полацкі, першы вялікі паэт Расіі, заснавальнік яе свецкай паэзіі, у чым мы бачым пераемнасць перш за ўсё беларускіх нацыянальных літаратурных традыцый у сваёй полілінгвістычнай форме.

Своеасаблівым маніфестам літаратурна-эстэтычных поглядаў Скарыны з'яўляецца яго паэтычная прадмова да «Псалтыра», асноўнага вучэбнага дапаможніка з часоў Кіеўскай Русі. Глыбока сімвалічны сэнс ёсць у тым, што ён першай выдаў менавіта гэту кнігу ў Празе 6 жніўня 1517 г., да дня свята Спаса (Праабражэння).

Яна найбольш адпавядала асветніцка-выхаваўчым і эстэтычным мэтам беларускага першадрукара.

Энцыклапедычна адукаваны вучоны, доктар свабодных навук і медыцыны, філосаф, натураліст, натхнёны паэт, «в науках и в лекарстве учитель», Скарына, безумоўна, высока ацэньваў ідэйна-мастацкія вартасці Псалтыра. Як вядома, на царкоўнаславянскую мову Псалтыр перакладзены вялікімі славянскімі асветнікамі Кірылам і Мяфодзіем, а надрукаваны ўпершыню Швайпольтам Фіёлем у Кракаве ў 1491 г. Але Скарына лічыў сябе паслядоўнікам і прадаўжальнікам справы не толькі адзначаных знакамітых папярэднікаў, але і славутага Ераніма (каля 340—420 гг.), аўтара перакладу Біблії на лацінскую мову, і іншых перакладчыкаў і ўсведамляў свой нацыянальна-патрыятычны доўг як апостальскую, «учительскую» місію славянскага і «рускага», г. зн. беларускага, першадрукара і гуманіста-асветніка («повѣлел есми Псалтырю тиснути рускыми словами а словенскым языком»). Сваю задачу ён бачыў у служэнні ўсяму народу, «посполитому люду рускаго языка», для памнажэння «пожитку посполитого доброго наболей с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил»[5].

Звернемся да іншых аспектаў гэтай скарынаўскай прадмовы. «Всяко писание богом водъхненое полъзно ест **ко учению и ко обличению, исправлѣнию, и ко наказанию правды.** Да совершен будеть человѣк божий и на всяко дѣело добро уготован, якосвятый апостол Павел пишеть. И сего ради святые писма уставлѣна суть,— сцвярджаў гуманіст,— **к нашему навчению, исправлѣнию, духовному и телесному, различными обычаи.** Едины — законом ветхым и новым, другые святыми пророки даны суть нам, иные деянием святых отець, а некые притъчами премудрых учителей, некоторые теж **песнями и псалмы, от царя Давыда и от иных божих певцев сложеными,** яко ест Псалтырь»[6]. Такім чынам, Скарына тут «ставіць праблему мастацка-эстэтычнага пазнання трансцэдэнтнага і рэальнага» і прыходзіць да вываду, што пазнанне не можа абмяжоўвацца логіка-разумовымі сродкамі, што ў гэтым працэсе вялікую ролю адыгрываюць таксама і «пачуццёва-эмацыянальныя фактары»[7]. Гуманіст ставіць, па сутнасці, праблемы, якія з'яўляюцца важнымі ў мастацкай літаратуры, мастацкім асваенні рэчаіснасці.

Ідучы ад шырокіх індывідуальнафіласофскіх абагульненняў і ацэнак свяшчэннага пісання (на што мог адважыцца для таго часу толькі вучоны смелага, рэнесансавага, рэфарматарскага складу мыслення), беларускі асветнік звяртаецца да канкрэтнага «літаратуразнаўчага» аналізу «Псалтыра». Цікава прасачыць за ходам думак Скарыны.

Паводле мысліцеля, усе біблейскія кнігі, рэалізуючы свае лакальныя задачы (закрананне аспектаў веры, маралі, права і г. д.), маюць агульную прыкмету — павучальна-дыдактычны, рэальны і сімвалічны характар зместу. «Псалтырь же сама едина вси тые речи в собѣ замыкаеть и всех тых учить и все проповедуеть,— пісаў Скарына,— суть бо в ней псалмы, якобы сокровище всих драгих скарбов, всякии немощи, духовныи и телесныи, уздравляють, душу и смыслы освѣщають, гнев и ярость усмиряють, мир и покой чинять, смуток и печаль отгоняют, чувствие в молитвах дають, людей в приязнь зводят, ласку и милость укрепляють, бесы изгоняють, ангелы на помощь призывають»[8]. Такім чынам, на думку мысліцеля, Псалтыр, як выдатны літаратурны твор, робіць на чалавека ўсебаковае, усеахопнае, шматграннае ўздзеянне.

У каментарыях да Псалтыра, адзначаў У. Конан, «змяшчаецца здагадка аб змястоўнай шматзначнасці мастацтва ў адрозненне ад паняційнай адназначнасці навукі, аб шматгранным выхаваўчым уздзеянні музыкі і паэзіі, нарэшце аб багацці эстэтычнага ўспрыняцця і перажывання»[9]. Гэты вывад аб'ектыўна, больш правільна было б экстрапаліраваць на ўсю публіцыстыку Скарыны. Крыніцамі яго прадмовы да «Псалтыра», як нам думаецца, паслужылі антычная эстэтычная тэорыя (Платон, Арыстоцель), а таксама гамілія на псалом «айца царквы» Васіля Кесарыйскага (IV ст. н. э.), якія беларускі гуманіст творча выкарыстаў і пераапрацаваў. Таму гэта «здагадка» Скарыны была не зусім самастойная з пункту гледжання «рафінаванай» эстэтыкі Рэнесансу. Але тут неабходна зрабіць агаворку. У духу сярэдневяковай культурнай традыцыі феадальнага перыяду выкарыстанне агульнапрызнаных, аўтарытэтных крыніц, стварэнне кампіляцый па анфіладнаму прынцыпу творчасці не лічылася плагіятам у сусветнай літаратуры.



Творчасць Скарыны ўпісваецца ў гэту старую літаратурную традыцыю, і ў адзначаным сэнсе яго спадчына цалкам арыгінальная. Да першакрыніц, еўрапейскага духоўнага вопыту ён адносіўся творча, смела, беражліва і свабодна, аб чым скажам пазней. Але галоўнае ў тым, што як традыцыяналіст, рэнесансавы мысліцель і пісьменнік Скарына сплаўляў старое і новае, ствараў сваю літаратурную форму, сваю традыцыю, свой стыль.

Даўшы змястоўную ідэйна-жанравую характарыстыку псалма, Скарына адначасова спрабаваў абгрунтаваць сваю канцэпцыю адзінства этыкі, маралі і мастацтва (літаратуры, музыкі, як вынікае з іншых прадмоў, і графікі), асэнсаваць катэгорыю эстэтычнага ўспрыняцця рэчаіснасці як самастойны фактар і састаўную частку светаадчування, мыслення чалавека.

У стылістычным плане характарыстыка псалма настолькі выразная, ёмістая, запамінальная, што ён чытаецца як своеасаблівае крытычнае эсэ і верш у прозе. Гэтаму садзейнічала выкарыстанне ім багатага арсеналу моўна-выяўленчых сродкаў (падваенні, анафара, градацыя, супастаўленне, рытарычнае пытанне, рытмічнасць прозы), майстэрскае валоданне словам: «Псалом ест щит против бесовскым нощьным мечтанием и страхом, покой данным суетам и работам, защититель младых и радость, старым потеха и песня, женам набожная молитва и покраса, детем малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце, мужем моцное утверьжение... Псалом ест ангельская песнь, духовный темъян, вкупе тело пѣнием веселить а душу учить...

Там ест справедливость, **там ест чистота, душевная и телесная. Там ест наука всякое правды.** Там мудрост и разум доскональый. Там ест милость и **друголюбство без льсти, и вси иншии** добрые нравы якобы со источника оттоле походять...»[10]

Быць «навукай усякай праўды» — так універсальна Скарына разумеў грамадскае прызначэнне Псалтыра, літаратуры і мастацтва, кнігадрукавання ўвогуле.

Скарынаўская ўстаноўка на універсалізм і рэлігійна-эстэтычную адкрытасць і талерантнасць — сведчанне глыбокага ўзаемапранікнення і ўзаемасувязі ў яго арыгінальнай творчасці навуковага і паэтычна-мастацкага пачаткаў, засваення ім агульнай арыентацыі візантыйскага гуманізму [11], заходнееўрапейскага Рэнесансу на духоўную свабоду, энцыклапедычнасць мыслення і творчасці, незвычайную шырыню дзейнасці. Гэта традыцыя Скарыны знайшла свой творчы працяг у яго паслядоўніках на Беларусі (М. Гусоўскі, С. Будны, В. Цяпінскі, М. К. Сарбаўскі, Сімяон Полацкі) і іншых дзеячаў усходнееўрапейскага Рэнесансу і барока.

Неабходна падкрэсліць: рэнесансавы мастацкі універсалізм быў абумоўлены нараджэннем новай свецкай інтэлігенцыі, агульнай атмасферай эпохі Адраджэння, у многім вялікімі геаграфічнымі, прыродазнаўчанавуковымі і мастацкімі адкрыццямі свайго часу, падрыхтаваў і прадвызначыў барочны і асветніцка-класіцыстычны энцыклапедызм у літаратуры Еўропы, у тым ліку на Беларусі.

Далей, Скарына дае правільную этымалогію назвы «Псалтыр»: «А зовѣтся Псалтырь гудба, едина подобна к гуслям... Ест же той раздел Псалтыри от гуслей. Гуслѣ имеють много струн. Псалтырь же толико имать десеть струн». У заключэнні гэтай прадмовы гуманіст нагадаў свайму адрасату, «простым людзям», што для іх на палях («на боцех») кнігі ён растлумачыў «руским языком» некаторыя незразумелыя словы і абгрунтаваў структуру свaёй працы («Теже розделил вси псалмы на стихи по тому, яко ся выных языцех делить»).

Вось якая цудоўная паслядоўнасць, лагічнасць, канкрэтнасць, рэнесансавая празрыстасць зместу і мастацкасць выкладу скарынінскай думкі! Аналагічныя якасці пісьменніцкага пяра Скарыны захаваны ў поўнай ступені ва ўсёй яго публіцыстыцы і перакладах.

У сувязі з заключнай часткай гэтай прадмовы адзначым яшчэ некалькі важных момантаў. Скарына звярнуў увагу чытача, па-першае, на сувязь вершаванай мовы, лірыкі (псалмаў) з напевам («гудбой»). У яго часы пад «стихами» разумелі не толькі вершаваныя радкі, вершы, але і страфіку, раздзелы, г. зн. элемент кампазіцыйнай будовы твора. Па-другое, кожная кніга, як меркаваў Скарына, павінна мець канкрэтнага адрасата ці быць масавай па прызначэнню («для посполитого люда»). Па-трэцяе, асветнік пільную ўвагу праяўляў да ўнутранай будовы твора, паліграфічна-мастацкага афармлення кнігі, разумеў кнігу як цэласны, завершаны твор мастацтва, цесную ў ім сувязь формы са зместам і зместу з формай, важнасць

спасціжэння формы як змястоўнага кампанента твора для правільнага разумення яго зместу.

Не будзе перабольшаннем, калі сказаць, што ўпершыню ва ўсходнеславянскай філалагічнай і мастацтвазнаўчай навуцы Скарына зрабіў структурна-кампазіцыйны, стылістычны, «літаратуразнаўчы» і «тыпаграфічны» (мастацтва афармлення друкаванай прадукцыі сродкамі набору і вёрсткі)[12] аналізы кнігі, рэалізаваў іх на практыцы і паставіў імпліцытна комплексную праблему «пісьменнік — кніга — чытач».

У «Предьсловии в книгу Иов» гуманіст пісаў: «Делится же сия книга на главы, а главы ся делять на стихи, по тому ж, яко и Псальтир ся делить. Почении от третиея главы даже до останочное, вся сия книга стихами розделена ест, яко же чтучи поразумееш»[13]. «Чытаючы — зразумецы!»— неаднойчы рэкамендаваў Скарына сваім чытачам для ўяснення зместу і формы кнігі, у прыватнасці твораў Біблії. У «Другой предьмолве... в книгу Исуса Сирахова» гуманіст развіваў далей думку аб сувязі формы са зместам і наадварот: «Делится же сия книга на двое. Едина часть от зачала книги даже до четвертое главы. А в той части приводить нас к **мудрости и к добрым обычаем путем разуму**. Вторая же часть почичается от четырдесят четвертое главы даже до конца. В сей же части приводит нас **к святости и к добрым делам путем прикладу**, припоминаючи нам жития святых, како добре поживши на свете, по смерти достали суть вечное славы»[14].

Як бачна, Скарына лічыў крытэрыем ісціны розум, мудрасць, якая «мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению». Ён вучыў чытача даходзіць да разумення сэнсу з'явы твора «шляхам розуму і прыкладу». У памянёнай прадмове ён выдзяляў антычнае эстэтычнае (арыстоцелеўскае) вучэнне «о мерности» (меры) і адзначаў карыснасць неаднаразовага прачытання той ці іншай змястоўнай кнігі, у прыватнасці кнігі Ісуса Сірахава: «И елико крат в ней будеши чести, по кажном чтении новаго нечто научишися, чего жь есь пред тым не умел...»[15]

Менавіта мера, гармонія, суладнасць усіх кампанентаў вызначаюць скарынаўскую кнігу як завершанае і непаўторнае мастацкае і выхаваўча-асветніцкае цэлае, арыгінальную публіцыстыку, паэтыку і вылучылі яго кнігу як велічны помнік ва ўсім еўрапейскім кнігадрукаванні.

Беларускі мысліцель закранаў сацыяльна-эстэтычную праблему ідэалу чалавека, грамадства і дзяржавы, а ў дачыненні да літаратуры, філасофіі, эстэтыкі — праблему ідэалізаванага характару, станоўчага прыкладу для пераймання сучаснікамі і нашчадкамі, тое, што называецца сёння ў літаратуразнаўстве і мастацтвазнаўстве праблемай станоўчага героя. Ён яе вырашаў таксама ў духу эстэтыкі літаратурнага этыкету і этыкі Рэнесансу, сацыяльна-культурнай арыентацыі рэнесансавых дзеячаў літаратуры і мастацтва на «ідэальныя», станоўчыя вобразы антычнай і біблейскай гісторыі, ідэалы раннехрысціянскай камуны і г. д.

Не менш сугучныя сучаснасці заклікі Скарыны да міру, дружбы, роўнасці паміж людзьмі і народамі Еўропы. Наш вялікі міралюбец і чалавекалюб пісаў: «Каждый хрестианин свое имея дарование к посполитого доброго размножению да уделяеть, наиболей любовь ко всим да соблюдаеть, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто проспешно ест»[16] або: «хрестианьская свобода не во грехочинение дана ест, но во друголюбие...»[17]. Сваімі жыццём і дзейнасцю Скарына ўнёс значны ўклад ва ўмацаванне дружбы паміж народамі, узаемасувязей паміж Усходам і Захадам.

Гэтыя вечныя ідэі (праблема станоўчай асобы, вайны і міру) мелі шырокае бытаванне сярод гуманістаў, прагрэсіўных дзяржаўных дзеячаў у Беларусі, Літве, Польшчы, як і ў цэлай Еўропе. Так, фаварыт вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Аляксандра, дыпламат, гуманіст і публіцыст-лацініст Эразм Вітэлій, мецэнат М. Гусоўскага, у сваёй выдатнай, напісанай цыцэронаўскім стылем прамове ўсхваляў у Рыме (1501 г.) «асобу станоўчага ўзору» і з аптымізмам яшчэ глядзеў на адносіны паміж індывідам і грамадствам, а ў прамове ў Аўсбургу (1518 г.) услаўляў мір і спакой на зямлі. Гэта рабіў і Гусоўскі ў славутай паэме «Песня пра зубра».

Павандраваўшы па Еўропе, Скарына не ўбачыў ідэальных сучасных яму ўладароў, сацыяльных парадкаў ні ў адной з еўрапейскіх краін (прынамсі, на такі вопыт ён не спасылаецца).







Таму найпершы клопат беларускага пісьменніка і энцыклапедыста — клопат аб выхаванні новага чалавека, фізічна і духоўна развітага, грамадзяніна і патрыёта, забяспечэнні яго духоўна-маральнай аўтаноміі, годнасці, «чистоты душевной и телесной» і дзейнасці, удасканаленні грамадства і яго інстытутаў.

Чалавекалюбства і народны гуманізм усіх часоў, эпох і народаў заключаны ў простым прынцыпе: не рабі таго другім, чаго сабе не пажадаеш. Такі ж быў універсальны маральны імператыў беларускага першадрукара, запазычаны з народнага шматвяковага вопыту: «следует то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети». Такую мудрасць можна знайсці ў беларускім фальклоры, антычнай, раннехрысціянскай, усходняй літаратурах. Гэты маральны імператыў актуальны і ў наша тэрмаядзерпае стагоддзе. А як ён быў актуальны ў той складаны, суровы, супярэчлівы, авантурны і паэтычны час Адраджэння!

Ды ці мала можна знайсці актуальных для сённяшняга дня ідэй у публіцыстыцы Скарыны? Напрыклад, яго адносіны да роднай мовы, культуры і звычаяў беларускага краю, катэгорыя красы, дабра, праўды — справядлівасці, служэння грамадскаму доўгу, патрабаванні абнаўлення і ўдасканалення дзейнасці сацыяльна-палітычных, прававых і іншых інстытутаў грамадства і г. д. У вядомым сэнсе арыгінальная спадчына гуманіста, актуальная і сугучная нашаму часу, вымагае сёння новага прачытання і пераасэнсавання.

З праблемай ідэалу асобы, грамадства, дзяржавы, сусвету ў Скарыны імпліцытна звязаны ідэальны закон. Невыпадкова ж ён абгрунтоўваў асноўныя прынцыпы дзяржаўнага заканадаўства, абавязаныя забяспечыць гармонію грамадска-вытворчых і дзяржаўных узаемаадносін чалавека і грамадства.

Рэнесансава-асветніцкая утопія Скарыны, ідэалістычная па сваёй сутнасці, мела зямную накіраванасць, сацыяльны і літаратурна-эстэтычны, паэтычны ракурс, бо была злучана з утапічнай «ідэальнай» літаратурай і эстэтыкай (Томас Мор, пазней Кампанела і інш.), з марамі і спадзяваннямі лепшых сыноў свайго часу аб магчымасці дасягнення людской і зямной дасканаласці, міру і спакою на зямлі праз кніжную асвету, пасціжэнне прыгажосці, самаўдасканаленне асобы і міждзяржаўныя адносіны без рэвалюцыйнай перабудовы грамадства. У гэтым была гістарычная абмежаванасць умерана-гуманістычнага руху дамарксісцкага часу.

Таму для літаратурна-эстэтычных поглядаў, як і ўсяго светапогляду Скарыны, характэрна паяднанне свецкага рэнесансавага гуманізму, арыентаванага на далейшую (пасля старажытнарускага перыяду) паслядоўную рэабілітацыю антычнай спадчыны, уяўленняў аб зямной прыгажосці, гармоніі, радасці, рэальнага чалавечага жыцця і быцця чалавецтва, з хрысціянскімі каштоўнасцямі — асветніцтвам, гуманізмам, маральным рыгарызмам. Шукаючы ідэальна-гарманічны пачатак у прыродзе, грамадстве, гісторыі чалавецтва, Скарына не мог не бачыць трагічную неадпаведнасць рэальнага ідэальнаму, сваіх лепшых памкненняў з сацыяльна-палітычнымі парадкамі на радзіме, ды ва ўсёй Еўропе. Скарынаўскі подзвіг — гэта духоўны бунт асобы раннебуржуазнага часу з жорсткай сярэдневяковай, феадальнай рэчаіснасцю. Ён быў і бунтам беларускага Рэнесансу супраць сярэдневякоўя лепшых прагрэсіўных сіл мірнымі сродкамі барацьбы (кніга, асвета для простага народа, павучанне і настаўленне ўладам). Адсюль вытокі частага выкарыстання ў публіцыстыцы такога мастацкага прыёму, як антытэза (дабро — зло, дабрачыннасць — ліхадзейства, згода — сварка, праўда — няпраўда, свабода — рабства, каханне — нянавісць), сацыяльна-моўны дэтэрмінізм у перакладах з праекцыяй на беларускую рэчаіснасць. Гэта «беларуская праекцыя» заўважана і ў ілюстрацыйна-паліграфічным, шрыфтавым афармленні тэкстаў Скарыны [18].

Скарына выдатна разумеў, што выхаванне новага грамадства на сваёй радзіме, яе шчасце і будучыня былі немагчымы без кансалідацыі нацыянальных патрыятычных і перадавых інтэлектуальных сіл і міру ў Еўропе. Таму з яго публіцыстычнымі творамі прыйшла ва ўсходнеславянскую літаратуру праблема вялікай (уся Русь і хрысціянская Еўропа) і малой Радзімы (свой родны «славный град Полоцк» гуманіст прыгадвае ў прадмовах і пасляслоўях больш 80 разоў!). Гэта актуальная праблема, вытокі якой былі для Скарыны ў беларускіх народных уяўленнях і старажытнарускай эстэтыцы, набыла поліфанічнае гучанне ў беларускай і сусветнай літаратурах пазнейшага часу.

Вось чаму важнае і заканамернае месца ў сістэме літаратурна-эстэтычных катэгорый Скарыны (ідэальнае, прыгожае, гераічнае, справядлівае і г. д.) займае разуменне ім патрыятычнага як натуральнага закону чалавека і трагічнай паўсядзённай супярэчнасці.

Са школы помнім мы славутыя словы вялікага грамадзяніна і патрыёта сваёй Бацькаўшчыны аб шчырай любові да радзімы («люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають»), вобраз самаахвярнай патрыёткі «вдовицы Юдиф», якая для выратавання народа і «места рожения своего выдала... живот свой на небезпеченство». Але падчас не задумваемся над сацыяльна-эстэтычнай тэзай Скарыны, выказанай у прадмове да кнігі Іоў: «Чего ради господь бог на добрих и на праведных допущаеть беды и немощи, а злым и несправедливым даеть щастье и здравие»[19]. А вось адказ гуманіста: «Всякому человѣку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены»[20].

Але такі адказ будзе няпоўны, таму што гуманіст сваёй дзейнасцю і подзвігам даваў суайчыннікам прыклад самаадданага служэння роднаму народу і бацькаўшчыне, чым заслужыў яе вечную славу.

Шырокая сацыяльна-дэмакратычная і універсальная эстэтычная праграма Скарыны непасрэдна ўплывала на характар яго кнігавыдавецкай дзейнасці, якасць філалагічна-літаратурнай працы, пераклад Біблії.

Спачатку акцэнтуем увагу на жанравых адметнасцях скарынаўскага прадмоўна-пасляслоўнага комплексу.

Аснову вядомай літаратурна-публіцыстычнай спадчыны беларускага гуманіста складаюць 48 прадмоў (20 ён называе «предословиями» ці «предьсловиями», 25 «сказаниями», 2 «предмовами» або «предьмольвами»), у якіх ён часткова выявіў свае грамадска-палітычныя, філасофскія, педагагічныя, прававыя і літаратурна-эстэтычныя погляды.

«Предьсловия» Скарыны, якія маюць тэарэтычна-канцэптуальны, праграмна-асветніцкі характар, большыя за іншыя яго прадмовы, энцыклапедычныя і сінкрэтычныя паводле формы і зместу. Звычайна яны складаюцца з некалькіх частак: абагульняльнага выкладу філасофскай, маральна-дыдактычнай ідэі твора, агульнай характарыстыкі зместу і структуры кнігі, яе аўтараў і герояў, гістарычных, філалагічных, юрыдычных, тэалагічных каментарыяў, тлумачэння этымалогіі, назвы кнігі, падрабязнай анатацыі, асабліва да кніг апавядальна-гістарычнага ці сюжэтна-фабульнага зместу, тлумачэння прынцыпу перакладу і выдання. У асобных прадмовах Скарына ясна вызначаў эстэтычна-выхаваўчыя функцыі той або іншай кнігі, часта адзначаў сваю кампетэнтнасць і мэту («Про то ж и я, Францишек, Скоринин сын с Полоцка, в лекарских науках доктор, знаючи сее, иже ест наивышшая мудрость размышлѣние смерти, и познание самого себе, и въспоминание на приидущие речи, казал есми тиснути книгу святого Іова рускым языком богу ко чти и людем посполитым к научению»)[21], неаднойчы акрэсліваў кола чытачоў сваіх кніжак, звяртаўся да іх з натхнёным словам публіцыста, тэарэтыка, паэта, перакладчыка[22].

«Сказания» Скарыны — прадмовы, створаныя крыху па іншаму прынцыпу: гэта кароткія прамовы-анатацыі з іх лаканічнай тлумачальнай інфармацыяй («В сей малой книзе, рекомой Руф, о великой речи пишеть, то ест о початку родов царских; с них же потом изволил ест господь Ісус Христос нашего ради спасения народитися»[23]). Яны захоўваюць прыкметы пропаведзей, святочных казанняў, звязаных з тлумачэннем слухачу і чытачу той або іншай з'явы ці тэмы (узнёслы склад, аратарскі дух, разлічаныя на эмацыянальнае ўспрыняцце, і г. д.).

«Предмовы» і «предьмольвы» Скарыны вызначаюцца адноснай ідэйна-жанравай завершанасцю, багаццем канкрэтнага зместу, шырынёй светапогляду аўтара, яго мудрай разважлівасцю, узнёсласцю і афарыстычнасцю выкладання думкі.

Паводле Скарыны, у кнізе «Ісус Сірахаў» «вся Саломонова и Аристотелева божественная и житейская мудрость... краткыми словы замкнена ест». Таму аб сваёй мэце гуманіст піша ў «предьмольве»: «...для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатрености, разуму и науки приложил... працу выложити книгу сию на рускый язык». А ў «предмове» да Апостала Скарына, расказваючы пра дзейнасць і творчасць «в лекарских науках доктара пренавченого», «лекаря тѣлесного» и «лекаря душ» евангеліста Лукі, дае эстэтычную ацэнку кніг Новага запавету. На думку Скарыны, «святый Лука писал ест о слове божием наивышей, наистей и нарядней, нежели иные» евангелисты, г. зн. больш узнёсла, глыбока і прыгожа. Адсюль вывад: беларускі асветнік-гуманіст бачыў і адзначаў рознастылёвасць і сінкрэтычнасць зместу Біблії, індывідуальны характар стварэння яе кніг, а гэта ўжо была рэнесансавая па сваёй сутнасці ацэнка творчасці.



У скарыназнаўстве слушна падкрэслівалася, што жанравае размежаванне сваіх прадмоў («предьсловия», «сказания», «предмовы») беларускі першадрукар не змог правесці паслядоўна на працягу ўсёй працы над «Бібліяй рускай»[24]. Сапраўды, грунтоўную прадмову да «Книги втораго закону Моісеова» — па сутнасці, уводны артыкул прававога і этыка-юрыдычнага зместу — Скарына назваў «сказаннем», а канец «предмовы» да Апостала завяршыў словамі: «Конець сказанию». Кароткае слова да першай кнігі «Царстваў» — «сказание», а такія ж кароценькія анатацыі да наступных трох кніг «Царстваў» ён называе «предословиями».

Дзякуючы гэтаму дзіўна паэтычнаму сінкрэтызму, сінтэзу грамадскай думкі розных эпох і рэнесансаваму, талерантна-энцыклапедычнаму характару асобы аўтара многія прадмовы Скарыны з'яўляюцца самастойнымі публіцыстычнымі творамі, каштоўнымі літаратурнымі помнікамі і дакументамі свайго часу.

У 62 скарынаўскіх пасляслоўях (поўных, кароткіх і зусім лаканічных) падаюцца важныя звесткі пра час заканчэння і месца друкавання кнігі, пра выдаўца-перакладчыка і рэдактара, мэту выдання кнігі, яе грамадскае і выхаваўчае значэнне. Гэтай, здавалася б, простай, элементарнай інфармацыі беларускі асветнік надаваў важную ідэалагічную і эстэтычную функцыі.

З аднаго боку, пасляслоўі служаць яркім выяўленнем і доказам засваення Скарынай законаў рэнесансавай і антычнай эстэтыкі, паэтыкі і рыторыкі аб неабходнасці класічнай завершанасці твора ці кнігі, з'яўляюцца выяўленнем новай, рэнесансавай гістарычнай самасвядомасці Скарыны, усведамлення ім значнасці сваёй асобы, пісьменніцкай працы і працы вучонага, жадання застацца ў памяці нашчадкаў. Сярэдневяковая, як правіла, ананімная беларуская літаратура аналагічных задач перад сабой не ставіла і не магла ставіць, таму што не дасягнула такога ўзроўню гістарычнага і мастацкага мыслення.

З другога боку, нельга не заўважыць, што пасляслоўі Скарыны набраны ў разнастайнай графічнай форме (чаша, сасуд, крыж, храмавая ўмывальніца). Адзначаныя графічныя малюнкі маюць не толькі эмацыянальнае і прыкладное значэнне — пазбегнуць аднастайнасці ў шрыфтавым наборы, але і эстэтычны, сімвалічна-эмблематычны сэнс, звязаны з агульнай вобразнай сістэмай біблейскіх тэкстаў і жаданнем гуманіста аблегчыць іх разуменне і запамінанне простым чытачом. Гэта яшчэ адзін доказ актыўных пошукаў Скарыны ў галіне формы і зместу кнігі. Сімвалічна-эмблематычная форма стане пануючай у барочнай паэзіі Еўропы.

Прадмоўна-пасляслоўны комплекс у скарынаўскіх выданнях, што чытаецца і сёння як цэльная «анфіладная» кніга,— выдатная з'ява беларускай і агульнаславянскай літаратуры эпохі Рэнесансу, прадукт пісьменніка новага тыпу, пісьменніка раннебуржуазнай эпохі, які арганічна сінтэзаваў традыцыі ўсходнеславянскай рукапіснай кнігі, еўрапейскага кнігадрукавання і сваёй думкай, падзвіжніцкай дзейнасцю і творчасцю быў скіраваны ў будучыню.

Як пісьменнік і мысліцель, Скарына цудоўна разумеў, што важным інструментам публіцыстычнага і ўвогуле мастацка-літаратурнага слова з'яўляюцца прыёмы і сродкі паэтыкі і стылістыкі, таму ён надаваў ім вялікае значэнне.

Адна з самых важных характэрных адметнасцей стылістыкі скарынаўскай публіцыстыкі — яе дыялагічная форма, урачысты, спакойны, разважлівы тон, яснасць[25], сцісласць, грунтоўнасць і афарыстычнасць выказванняў і сентэнцый, шматлікасць спосабаў уздзеяння на чытача з мэтай пераканаць яго, усхваляваць і схіліць на свой бок, аблегчыць запамінанне галоўных думак і тэзісаў. Такая асаблівасць паэтыкі прадмоўна-пасляслоўнага комплексу Скарыны сведчыць аб тым, што ён ствараўся з разлікам на дыдактычна-выхаваўчы, дэмакратычна-асветніцкі характар выданняў, на іх індывідуальнае ўспрыняцце і на чытанне ўслых, для аўдыторыі, паводле яго ж слоў, «чтучи их или слухаючи, можешь поразумети».

Гуманіст разлічваў на двайное выкарыстанне сваіх друкаваных тэкстаў яшчэ і таму, што ў яго час школ, а таксама рукапісных і друкаваных кніг не хапала (хоць з друкаванай кніжнай прадукцыяй ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне адукаваныя лю-

дзі былі знаёмы задоўга да скарынаўскіх выданняў) і яны былі дарагія, недаступныя для большасці простых чытачоў. Іменна пагэтаму Скарына ўзяўся за друкарскі варштат, імкнуўся зрабіць свае выданні недарагімі (друкаваў часта на таннай паперы), даступнымі і цікавымі па зместу і эстэтычна дасканалымі па форме (зручны фармат, прыгожае мастацка-паліграфічнае афармленне).

Бясспрэчна, дыялагічная форма творчасці была асабліва распаўсюджанай і любімай у еўрапейскіх гуманістаў эпохі Рэнесансу, якія пераймалі яе ў антычных пісьменнікаў, таксама з фальклору (гутаркі, казкі, песні). Яна характэрна і для паэтыкі «Песні пра зубра» М. Гусоўскага, які ўвёў у канву паэмы абстрактны вобраз чытача, і для большасці рэнесансавых пісьменнікаў Беларусі.

Выпускнік факультэта свабодных навук Кракаўскага універсітэта, Скарына свабодна валодаў прыёмамі антычнай і рэнесансавай паэтыкі і рыторыкі, тагачасных тэарэтычных дысцыплін аб мастацтве слова, паэзіі, аб тым, як прыгожа пісаць і гаварыць, якія штудзіраваліся ва універсітэтах, і ў многіх выпадках па-майстэрску выкарыстоўваў іх асноўныя палажэнні ў сваёй арыгінальнай творчасці. Так, ён спалучаў гамераўска-платонаўскую канцэпцыю «ляпіць душы» з цыцэронаўскай тэорыяй красамоўства, якая патрабавала ад творцаў выкарыстання трох стыляў, рытмізаванага складу ў прамовах, прозе і паэзіі.

Інтанацыйна-рытмізаваная форма — адметнасць арыгінальнай (празаічнай і вершаванай) спадчыны Скарыны. Аднак яго стылістыка не ўкладваецца цалкам у нормы антычных і рэнесансавых рыторык. Скарынаўскі стыль — параджэнне не толькі яго навуковых поглядаў, але і душы, засваення новай маральнай філасофіі, прадукт стылю жыцця і мэтанакіраванай тытанічнай дзейнасці.

У арсенале скарынаўскай стылістыкі важную мастацка-выяўленчую ролю адыгрываюць такія сродкі, як сінонімы, антонімы, метафара, алегорыя, ампліфікацыя (нарастанне аднатыпных слоў і выразаў), падваенне, анафара, градацыя, супастаўленне, рытарычнае пытанне. Яркім прыкладам ампліфікацыі з'яўляецца наступны сказ Скарыны: «Наболѣй о мудрости, о страху господьнем, о слове божием, о справедливости, о вере, о любви, о надежи, о чистотѣ, о службе божией, о долготерпении, о смирении, о милостыни, о крепости, о трезвости, о мерности, о почтивости, о щедроте, о тихости, о друголюбии, о науце закона божия, о послушании родителей своих, о справовании самого себе, о товаристве добром и злом, о похвале мужей святых, о славе царей праведных, о достойности пророков и о иншых различных многых добрых обычаех и нрвех»[26].

Скарына ўмела выкарыстоўваў у сваёй публіцыстыцы таксама дзелавы стыль, выпрацаваны беларускай пісьменнасцю, летапісамі, ён выдатна валодаў мастацтвам малых форм.

Вяртаючыся да праблемы творчага сінтэтычна-сінкрэтычнага метаду Скарыны, трэба сказаць, што яе высвятленне немагчыма без вывучэння адносін гуманіста да літаратурных першакрыніц. Не прэтэндуючы на ўсеахопны разгляд праблемы, закранём толькі некаторыя метадалагічныя аспекты.

Літаратурны метад Скарыны, як і змест яго прадмоў, носіць характар сапраўды энцыклапедычны (выкарыстанне і спалучэнне метадаў сінкрэтычнага, сінтэтычнага, параўнальна-гістарычнага, «індуктыўнага і дэдуктыўнага», сярэдневяковага патрыстычнага і новага рэнесансава-рацыяналістычнага прынцыпаў тлумачэння Бібліі). Ён выпрацаваў сваю філасофскую, этычную дактрыну і літаратурную праграму на аснове ўласнага і народнага вопыту, сусветных навуковых і культурных дасягненняў, свабоднага спалучэння грэка-праваслаўнай і рымска-каталіцкай і ўсходняй традыцый. Таму няправільнае ўяўленне некаторых даследчыкаў аб тым, што Скарына не спасылаўся на «айцоў» царквы.

Народжаны канкрэтна-гістарычнымі патрэбамі раннебуржуазнага часу, Рэнесанс вырас з сярэдневякоўя і антычнасці, змог сфарміраваць у ідэалагічнай барацьбе з сярэдневякоўем свой культурна-філасофскі пласт, свой тып светапогляду, свой твар, але моцна яшчэ быў звязаны з сярэдневякоўем і яго катэгорыямі культуры: пануючы масавы светапогляд заставаўся не рэнесансавы, а тэалагічна-рэлігійны, пераважна сімвалічна-міфалагічны; царква з'яўлялася і ў гэты перыяд адной з вядучых сіл па ўздзеянню на свядомасць працоўных мас. Дваістасць, ідэалагічная і культурна-моўная шматслойнасць эпохі Рэнесансу, як і пазнейшых сацыяльна-культурных эпох феадальнага перыяду ў Еўропе, у тым ліку на Беларусі,



амаль да XIX ст. дазваляла захоўваць, утрымліваць у той ці іншай форме, і ў новай інтэлектуальна-духоўнай абалонцы сярэдневяковую плынь.

Улічваючы нераўнамернасць культурнага развіцця розных народаў, можна сказаць, што выразнае «ачышчэнне» крыві ў арганізме сусветнай, у тым ліку агульнаеўрапейскай, беларускай культуры як выразна еўрапейскай, іх светапоглядной сістэмы ад сярэдневяковага кампанента, найперш тэалогіі, наступіла толькі ў новым часе. Аднак і гэта культурнае перараджэнне, нягледзячы на выпрацоўку якасна, кардынальна новых светапогляду, навукі, культуры, мастацтва, не можа лічыцца завершаным.

Кожная новая сацыяльна-культурная фармацыя дыялектычна ўтрымлівае прагрэсіўныя элементы, рудыменты, рэмінісцэнцыі папярэдніх эпох. (Напрыклад, трансфармаваныя сярэдневяковая сімволіка, біблейскія сюжэты, антычная міфалогія шырока распаўсюджаны і ў сучасным мастацтве, літаратуры.)

Калі з вышыні гэтай пазіцыі паглядзець на творчасць Скарыны, то можна ўбачыць значны ўплыў на яе не толькі антычнай, але і хрысціянскай старажытнасці, часта ў секулярызаванай, рэнесансавай і іх сінтэзаванай формах.

Выкарыстанне літаратурных крыніц Скарынай мае характар творчай перапрацоўкі, непасрэднага цытавання тэкстаў з указаннем імён аўтара і без іх паказу. Па нашых падліках, Скарына, напрыклад, цытуе і выкарыстоўвае Біблію каля 200 разоў, і, такім чынам, яна аказала значны ўплыў на складванне афарыстычнага стылю гуманіста. Па-свойму ён выкарыстоўваў патрыстыку, каментарыі да Бібліі Ераніма, Міколы з Ліры, Грыгорыя Вялікага, Васіля Кесарыйскага і інш., ідэі антычнай спадчыны (Арыстоцель, Платон, Цыцэрон, Салон, Лікург, Сакрат), старажытнарускай і народнай эстэтыкі.

Многія мясціны ў прадмовах Скарыны пададзены ў форме перафразы. Напрыклад, словы Хрыста з Евангелля (Мф. 8, 20): «Лісы маюць норы і птушкі нябесныя гнёзды, а Сын Чалавечы не мае, дзе прытуліць галаву» (Пераклад наш.— В. Д.) Скарына перарабіў так арыгінальна, з улікам свайго натуралістычнага вопыту, што яны загучалі паэтычным гімнам патрыятызму: «Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують вира своя; пчелы и тым падобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають»[27].

Сярод літаратурных сродкаў паглыблення ўспрыняцця і растлумачэння ідэй кніг Бібліі важную ролю Скарына адводзіў вершам. Свае вопыты рэлігійнай і свецкай беларускай паэзіі ён змясціў у прадмовах да пражскіх выданняў (кнігі «Іоў», 1517 г.; «Зыход», 1519 г.; «Эсфір», 1519 г.), у віленскі перыяд выступіў з гімнаграфічнай творчасцю, з акравершамі ў акафістах «Малой падарожнай кніжкі» (каля 1522 г.) і, такім чынам, стаў заснавальнікам цэлага роду літаратуры — кніжнага вершаскладання на роднай мове.

Версіфікатарская практыка Скарыны паказальная як самы ранні друкаваны ўзор нацыянальнай паэзіі ва ўсходніх славян і ў аспекце службова-прыкладным, эстэтычным і літаратурна-тэарэтычным. Адсылаю чытача да адпаведных прац літаратуразнаўцаў [28] і падкрэслю наступнае, на мой погляд, важнае.

У першых друкаваных вопытах кніжнага ўсходнеславянскага вершаскладання на роднай мове вялікі палачанін геніяльна ўгадаў будучы рух беларускай і шырэй — усёй усходнеславянскай паэзіі ад інтанацыйна-сказавай, рытміка-інтанацыйнай і «сілабічнай сістэмы вершаскладання, якая тады толькі зараджалася ў Беларусі, да сілаба-танічнай»[29], да сінтэзаванага выкарыстання элементаў гэтых будучых вершаваных сістэм.

Арыентуючыся на еўрапейскую сілабіку (польскую і чэшскую паэзію) і вершатворчыя нацыянальныя традыцыі, прасадычныя законы беларускай мовы, Скарына выявіў гэту тэндэнцыю, пачынаючы з чатырохрадковага эпіграфа ў прадмове да кнігі Іова:

Богу въ троици единому // ко чти и ко славе,
Матери его пречистой // Марии к похвале,
Всем небесным силам // и святым его к веселію,
Людем посполитым // к доброму научению (л. 1).

Тут захаваны няроўнаскладовасць радкоў (16 : 15, 15 : 14), парная рыфма

(жаночая і дактылічная), заўважаецца чаргаванне ўдарных і безударных складоў і тым самым парушаны строгі ізасілабізм, пастаянства цэзуры, кадэнцыйны пададзел. У агульнай мелодыі верша ўгадваецца ледзь улоўны ўплыў антычнага верша.

Тонкім паэтычным слыхам Скарына добра адчуваў еўрапейскую кніжную вершаваную і айчынную народную культуру і таму імкнуўся прышчапіць яе ўзоры да нацыянальнай літаратурнай глебы ў сінтэзаванай форме. Складанасць сінтэзу, гарманічная гукавая арганізацыя радка, творчы падыход да версіфікацыйных традыцый і прыёмаў характарызуюць усю яго паэзію, у тым ліку верш з прадмовы кнігі «Зыход»:

Веруи в бога единаго,
А не бери надармо имени его.
Помни дни святые святити,
Отца и матку чтити.
**Не забивай ни едина,**
**И не делай, грѣху блудна.**
Не вкради, что дружнего,
А не даваи сведецтва лживага.
Не пожедаи жены ближнего,
Ни имения или речи его (л. 2).

Цесная сувязь гэтага верша з сілабічнымі фармантамі (строгі ізасілабізм у трэцім двувершы, «кароткія сілабікі», парнасць рыфмоўкі, імкненне да уніфікацыі клаузул), але сэнсава-інтанацыйная завершанасць двувершаў і натуральнае гучанне «рускай» прасодыі — таксама важныя і, мабыць, вырашальныя паказчыкі мелодыкі і метрычнай арганізаванасці (9 : 12; 9 : 7; 9 : 9; 7 : 11; 10 : 11) паэтычнай мовы Скарыны, што надала кодэксу хрысціянскай маралі асаблівае гучанне.

Мы можам, такім чынам, гаварыць аб своеасаблівым сінтэзе ў вершах Скарыны сілабічных кніжных форм і народнага інтанацыйна-сказавага, рытміка-інтанацыйнага вершаскладання, што характэрна і для метрычнага ладу (11 : 5; 13 : 7) маральнага імператыва Скарыны як своеасаблівага белага верша, пададзенага ім у канцы прадмовы да кнігі «Эсфір»:

Не копаи под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Амане, Мардохею шибенице,
Сам ввалишся в ню.

У акравершах «Писал доктор Скоринич Францискус», «Делал доктор Скоринич Францискус» зноў жа выяўляецца арганічны сінтэз народных беларускіх форм («Скоринич»), лацінскіх («Францискус») і грэка-візантыйскіх (тэкставая арганізацыя акафістаў) літаратурных традыцый.

Такім чынам, Францыск Скарына наглядна дэманстраваў чытачу свае класічныя, але не чыста сілабічныя (з боку метрыкі) узоры і пракладваў плённыя шляхі для станаўлення беларускай кніжнай паэзіі на еўрапейскіх традыцыях. Службовая, вучыцельная і маральна-дыдактычная функцыя яго вершаў атрымала далейшае развіццё ва ўсходнеславянскай паэзіі XVI — першай паловы XVII ст. у многіх жанрах (дэкламацыя, эпіграма, паэма) на роднай, лацінскай і польскай мовах, а выяўленыя ім тэндэнцыі да сінтэзаванага выкарыстання элементаў розных версіфікацыйных сістэм і прыёмаў знайшлі свой працяг толькі ў новай і сучаснай славянскай паэзіі.

Разам з тым нельга як недаацэньваць, так і пераацэньваць значэнне вершаваных вопытаў Скарыны ў фарміраванні нацыянальнай паэзіі. У той жа час на Беларусі, як і ва ўсёй Еўропе, была шырока распаўсюджана народна-фальклорная песенная плынь, антычная (лацінская і грэчаская) і навалацінская паэзія, якія ў поўным сэнсе ўзаемадапаўнялі адна адну і абслугоўвалі эстэтычныя густы фарміраваўшагася шматкласавага беларускага грамадства.

Важна падкрэсліць: Скарына бачыў перспектыву развіцця кніжнай нацыянальнай паэзіі і ўвогуле літаратуры ў яе дэмакратызме, служэнні народу, набліжэнні да працоўных мас. Шлях да народа, які шукала і знайшла новая беларуская паэзія XIX—XX стст. у асобе В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Сыракомлі, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча, К. Каліноўскага, класікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, ішоў праз стагоддзі ад Скарыны.

Духоўная еднасць і пераклічка пачынальнікаў беларускай літаратуры XIX ст. са Скарынай прасочваецца і ў публіцыстычных творах, напрыклад, у публіцыстыцы К. Каліноўскага. Вялікі рэвалюцыянер-дэмакрат Каліноўскі ў апошнім лісце з-пад шыбеніцы пісаў: «Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толькі магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толькі, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць».



Тая ж і ў Скарыны і Каліноўскага арыентацыя на культ розуму і навуку, паспаліты люд («радню цэлу»), пасмяротнае прызнанне заслуг чалавека.

Састаўной часткай арыгінальнай спадчыны Скарыны з'яўляюцца пашыраныя загалоўкі раздзелаў у «Біблії рускай» — рытмізаванае сярэдняе звяно паміж прадмовамі і перакладамі і служаць працягам яе аўтарскай інтэрпрэтацыі. На іх упершыню звярнулі ўвагу І. Первольф і П. Уладзіміраў, а ў апошні час — Ю. Лабынцаў. Першы даследчык адзначыў: «Загалоўкі ў Біблії Скарыны паказваюць, што ён кіраваўся менавіта венецыянскім выданнем чэшскай Біблії, у выданнях пражскім і кутнагорскім іх няма»[30]. П. У. Уладзіміраў падкрэсліў, што «тлумачэнні зместу кожнай главы» змешчаны «ва ўсіх біблейскіх кнігах Скарыны, за выключэннем Псалтыра»[31].

Архітэктанічна скарынаўскія загалоўкі ўпісваюцца ў агульны тэкст з дапамогай ламбарда (малюнка ініцыяла), адпаведным шрыфтам і адступам, захоўваюць прынцып апорных ключавых слоў. Ствараецца, такім чынам, поўная слоўна-мастацкая сімфонія. Паводле літаратурнай традыцыі, гэтыя лаканічныя, лапідарныя тлумачэнні тэкстаў Скарынай стаяць на мяжы грэка-візантыйскай і новай германеўтычнай традыцый Еўропы.

Карыстаючыся венецыянскім выданнем чэшскай Біблії і іншымі тэкстамі, Скарына, аднак, не пайшоў шляхам стварэння толькі перакладаў-калек, а ўносіў і ў гэту працу свой аўтарскі, творчы пачатак.

Скарынаўскі пераклад Біблії з'яўляецца выдатнай з'явай у культурна-літаратурным жыцці Усходняй Еўропы. Ён мае не толькі літаратурна-эстэтычнае, але і светапоглядное значэнне. Імкнучыся рэканструяваць Біблію ў «чыстым выглядзе», Скарына даследаваў і яе зямное, «чалавечае» паходжанне, называў многіх першатворцаў біблейскіх, «боганатхнёных» кніг. Парадак выдання беларускім гуманістам кніг свяшчэннага пісання не адпавядае кананічнаму раду, прынятаму ў хрысціянскай царкве. Здымаючы з Біблії арэол святасці і адрасуючы яе на роднай мове шырокаму чытачу, Скарына рупліва вывучаў адпаведныя крыніцы не толькі на царкоўнаславянскай, але і на чэшскай («Біблію чэшскую, у Венецыі друкаваную» ў 1506 г.), лацінскай (Вульгату), старажытнаяўрэйскай і грэчаскай (Сэттуагінту) мовах. Ён фактычна ішоў насуперак намаганням царквы (яна забараняла веруючым чытаць поўны тэкст Біблії), вучыў людзей успрымаць біблейскія тэксты не толькі на веру, а свядома. Скарына разам з іншымі еўрапейскімі гуманістамі закладваў асновы для стварэння навуковай крытыкі Біблії, дэсакралізацыі помніка. Ідучы шляхам сінтэзу філасофскай і перакладчыцкай культуры, Скарына абыходзіўся з тэкстам святога пісьма даволі свабодна, творча і смела. Ён імкнуўся захаваць арыгінальны дух тэксту і ў першую чаргу выдаў тыя кнігі Біблії, якія адпавядалі асветніцка-выхаваўчым і пазнавальным мэтам.

Заснавальнік ва Усходняй Еўропе новага тыпу аўтарскага перакладу, Скарына зрабіў вялікі ўплыў на станаўленне перакладчыцкай, літаратурнай справы ў славянскіх народаў.

Скарынаўская кніга — яркі, высокага еўрапейскага ўзроўню ўзор гарманічнага мастацкага цэлага, на якім ляжыць адбітак вялікага творчага духу яе стваральніка. Яна зрабіла эпахальны ўплыў ва Усходняй Еўропе на развіццё культуры, літаратуры, мастацтва, навукі, кнігадрукавання, на фарміраванне нацыянальнай свядомасці. Змястоўныя і дасканалыя паводле стылю творы Скарыны паўплывалі на дзейнасць многіх наступных пакаленняў асветнікаў, пісьменнікаў, кніжнікаў усходнеславянскага свету XVI—XVIII стст[32].

Віктар ДАРАШКЕВІЧ

## Крыніцы і літаратура

[1] Конон В. М. От ренессанса к классицизму. Мн., 1978. С. 9.
[2] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969. С. 20, 47, 61, 62.
[3] Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979. С. 188.
[4] Аристотель. Поэтика: Об искусстве поэзии. Мн., 1951. С. 12.
[5] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 11.
[6] Там жа. С. 9.
[7] Подокшин С. А. Франциск Скорина. М., 1981. С. 127.
[8] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 10.
[9] Конон В. М. Эстетические взгляды Франциска Скорины // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 83.
[10] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 10.
[11] Медведев И. П. Византийский гуманизм XIV—XV вв. Л., 1976. С. 11—50.
[12] Неміроўскі Я. Тыпаграфіка скарынінскіх выданняў // Мастацтва Беларусі. Мн., 1987. № 11. С. 59—61.
[13] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 14.
[14] Там жа. С. 26.
[15] Там жа. С. 24.
[16] Там жа. С. 132.
[17] Там жа. С. 136.
[18] Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984. С. 44.
[19] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 13.
[20] Там жа. С. 14.
[21] Там жа. С. 15.
[22] История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 116—117.
[23] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 99.
[24] Конан У. М., Шматаў В. Ф. Скарына Францыск // ЭЛіМБел. Т. 5. Мн., 1987. С. 9.
[25] Чемерицкий В. А. Скорина и становление белорусской литературы // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 75.
[26] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. С. 24.
[27] Там жа. С. 59.
[28] Беркаў П. А. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 245—261; Ралько І. Д. Беларускі верш. Мн., 1969; Яго ж: Вершаскладанне. Мн., 1977; Грынчык М. М. Шляхі беларускага вершаскладання. Мн., 1973; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 219. Турилов А. А. Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции // Проблема научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Л., 1981. С. 241—247; Саверчанка І. В. Ф. Скарына і ўзнікненне беларускага вершаскладання // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. № 3. Мн., 1988. С. 107—113.
[29] Чемерицкий В. А. Скорина и становление белорусской литературы. С. 76.
[30] Первольф И. Славянская взаимность с древнейших времен до XVII века. СПб., 1874. С. 253.
[31] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина: Его переводы, печатные издания и язык. СПб., 1888. С. 127—128.
[32] Русская старопечатная литература (XVI—первая четверть XVIII в.): Тематика и статистика предисловий. М., 1981. С. 27—71, 129—153.





# ПОЎДЗЕНЬ

## *Уладзіміру Ліпскаму — 50.*

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вы аўтар «дарослых» кніг «Райкомаўскія будні», «Дзень нараджэння», «Дзень за днём», «Якое яно, шчасце», а таксама «дзіцячых» кніг «Рыгоркавы прыгоды», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Лаўрэнавы працадні», дакументальных аповесцей—«Крутыя вёрсты», «Высокія зоркі», «Урокі Купрэвіча», «Раны»... Некалькі слоў пра гісторыю іх напісання.**

— Першыя кнігі ўзніклі з дзённікаў, якія я пачаў весці яшчэ з восьмага класа. Кнігі для дзяцей напісаны з жыццёвых назіранняў і, безумоўна, пры дапамозе фантазіі. А вось дакументальныя аповесці — гэта вынік працы і ў архівах, і гутаркі з многімі людзьмі, і вывучэнне многіх матэрыялаў у бібліятэцы... Мне здаецца, што ўдалося сказаць сваё слова пра Зінаіду Міхайлаўну Тусналобаву-Марчанка, Васіля Феафілавіча Купрэвіча, міліцыянера Вячаслава Сцяпанава. Дарэчы, кніга «Крутыя вёрсты» мае сем выданняў на розных мовах.

**— Не так даўно ў перыёдыцы былі ўрыўкі з новай аповесці «Адпяванне жывых». Пра што гэты твор?**

— Гэтая аповесць — пра маю палескую вёску Шолкавічы. Тут здаўна завязваліся пякучыя вузлы чалавечых лёсаў. Здаецца, толькі цяпер зразумеў, усім сэрцам палю-

біў працавітых і добрых аднавяскоўцаў. Гэта аповесць — мой помнік людзям, якія ніколі не здраджвалі свайму сумленню, зямельцы-карміцельцы і сваім дзецям.

**— А чаму такая на першы погляд песімістычная назва аповесці — «Адпяванне жывых»!**

— Карані майго роздуму — у тым часе, калі ў сялян адбіралі зямлю. Вось тады практычна пачалося адпяванне жывых. А цяпер вёска Шолкавічы ў ліку неперспектыўных...

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вось кніга «Люби меня при всякой доле». Некалькі слоў пра яе.**

— Мы напісалі яе з украінцам Багданам Чалым. Кніга пра тых, хто ў час Вялікай Айчыннай вайны быў вывезены ў рабства, у Нямеччыну. Самая вялікая каштоўнасць гэтых людзей — захаванае пачуццё любові да сваёй зямлі, да сваёй Радзімы. Многія з іх казалі: «Толькі б дапаўзці, толькі б дайсці да сваёй зямелькі, прыпасці да яе...» А калі яны вярнуліся, ім было прад'яўлена шмат прэтэнзій: маўляў, вы былі там, рабілі на ворага, значыць, вы рабілі супраць нашых. Безумоўна, гэта — незаслужаныя абвінавачванні. І гэтай кнігай мы як бы рэабілітуем цэлае пакаленне людзей, некалькі мільёнаў нашых хлопцаў і дзяўчат, пакрыўджаных лёсам.

Я нядаўна атрымаў пісьмо з Галандыі ад аднаго вязня. Ён піша, што ў нямецкіх лагерах былі і галандцы, югаславы, палякі, італьянцы, французы... І нам хацелася б знайсці гэтых людзей, каб і ад іх пачуць пра іхні боль.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вы як старшыня праўлення Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна клапоціцеся пра людзей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды.**

— Мы перадалі нямала аднаразовых шпрыцоў і дазіметраў, якія нам прыслалі землякі-беларусы са Злучаных Штатаў Амерыкі. Яны сабраліся і вырашылі неяк дапамагчы нашым дзецям. Тут, дарэчы, ёсць адна дэталь, а дакладней — факт, які мяне больш за ўсё ўзрушыў. З 27 тысяч шпрыцоў 426 купілі дзеці. Яны правялі кірмаш, напяклі сухарыкаў, піражкоў, пончыкаў, выйшлі на вуліцы і прадалі ўсё гэта, а на вырučаныя грошы купілі шпрыцы. Мне думаецца, што вось такая спагада, пачуццё, дабрыня адгукнецца ў сэрцах нашых дзяцей.

Чарнобыльская бяда — гэта вялікая трагедыя, большай трагедыі пасля Вялікай Айчыннай вайны наша грамадства не ведала. Сёння нам вядома, што ў раёнах чарнобыльскай зоны пражывае 800 тысяч дзяцей. Я маю на ўвазе зоны з забруджанасцю рознай ступені — ад 1 кюры да 15 і вышэй. Гэта азначае, што амаль кожнае трэцяе дзіця ў нас, у Беларусі, пражывае ў зоне. Адсюль мы павінны разглядаць усе нашы праблемы. І Дзіцячы фонд — гэта грамадская арганізацыя дарослых людзей, якая ўзяла на сябе абавязак абараняць правы дзяцей, разбудзіць грамадства да праблем дзяцінства. Ну і, канечне, паказаць, як гэта трэба рабіць. Мне думаецца, што Савецкі дзіцячы фонд вельмі канкрэтна вызначыў сваю ролю і месца ў дапамозе чарнобыльскім дзецям.

У Мінску будзе адкрыты Усесаюзны дыягнастычны радыелагічны цэнтр Савецкага дзіцячага фонду. Зараз падбіраецца будынак. Мы са свайго боку абавязаны аснасціць гэты цэнтр найноўшай медыцынскай тэхнікай, медыкаментамі. Ад імя нашай міласэрнай арганізацыі запросім лепшых вучоных, медыкаў з усіх краін свету, каб яны прыехалі, папрацавалі з нашымі дзецьмі, падказалі ім, як трэба сябе паводзіць, лячыцца, дапамаглі канкрэтна.

Мы павінны дбаць пра ўсіх, хто мае патрэбу ў падтрымцы. Скажам, тых, хто ад чарнобыльскай трагедыі пацярпеў як спецыяліст. Адзін прыклад: ёсць у Беларусі член-карэспандэнт Акадэміі навук, вельмі сумленны чалавек Васіль Барысавіч Несцярэнка. Ён у той час быў дырэктарам Інстытута ядзернай фізікі. Ён першы, можа быць, адчуў гэтую небяспеку, першы склаў карты забруджання, напісаў запіску ў ЦК КПБ. Дзе яго ўсе гэтыя дакументы? Яны ж так і не абнародаваны. А Васіль Барысавіч на сённяшні дзень ужо не дырэктар інстытута...

**— Адпаведна, вы не выпадкова як пісьменнік развіваеце тэму мужнасці...**

— Так, гэтая тэма ў полі зроку ўсіх маіх твораў. І, мабыць, найбольш у аповесці «Стрэлы над старым акопам», дзе я расказаў пра мужны подзвіг міліцыянера, сціплага чалавека Вячаслава Сцяпанава з Рагачоўскага раёна. Ён у самай цяжкай сітуацыі не змаладушнічаў, нават больш — ведаючы, што яго, захопленага знянацку, заб'юць бандыты, захаваў вытрымку і выбраў хвіліну, на пачцы «Беламорканала» напісаў прозвішча злачынцы. Сам ішоў на смерць, але спрыяў затрымаць бандыта і выратаваць ад яго добрых людзей.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вы яшчэ займаецеся дзецьмі-сіротамі...**

— Што тычыцца бязбацькавічаў, то, на вялікі жаль, іх вельмі шмат у нашай рэспубліцы: 40 тысяч дзяцей выхоўваецца ў школах-інтэрнатах, дзіцячых дамах, дамах дзіцяці. Праўда, тут не ўсе сіроты. 80 працэнтаў гэтых дзяцей — сіроты пры жывых бацьках. Значыць, трэба змагацца за тое, каб быў прыняты закон аб правах дзіцяці. Я лічу так: у прававой дзяржаве правы дарослых не могуць быць вышэй правоў дзяцей. Мы ж парушаем гэтыя правы. Нашы маленькія грамадзяне маюць права на імя, прозвішча, нацыянальнасць, на клопаты бацькоў, на сацыяльную і эканамічную абароненасць. І пра ўсё гэта, безумоўна, трэба пісаць.

**— Калі ласка, некалькі слоў пра часопіс «Вясёлка», галоўным рэдактарам якога вы з'яўляецеся.**

— Радуюся, што тыраж у гэтым годзе ў параўнанні з мінулым узрос амаль у два разы — зараз сто восемдзесят тысяч. «Вясёлка» выдала два зборнікі лепшых твораў, якія друкаваліся з часу яе стварэння. Думаю, што сённяшнія нашы рубрыкі «Урок цікавых сустрэч», «Наша спадчына», «Урок роднага слова» таксама вырастуць у асобныя кнігі.

**— Уладзімір Сцяпанавіч, вашы творчыя планы!**

— У гэтым годзе выходзіць маё выбранае «Вясёлая азбука» і кніга пра Ігната Грынявіцкага «Невядомы». Пра задумы гаварыць не буду, бо іх шмат. А чытачам «Маладосці» прапаную ўрыўкі з новай аповесці «Каралева белых прынцэс».

**— Дзякуй, Уладзімір Сцяпанавіч! Здароўя вам і плёну на ўсіх напрамках вашай літаратурнай і грамадскай дзейнасці.**

Гутарыў Алесь КАМАРОЎСКІ

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇

*Уладзімір Ліпскі*

# КАРАЛЕВА БЕЛЫХ ПРЫНЦЭС

УРЫЎКІ З АПОВЕСЦІ

## ДОБРАЯ ЛІСІЧКА

З Алёнкай — у дзіцячым парку. Кожны год яна адкрывае там нешта новае. Хоць у парку мала што мяняецца з гадамі.

На гэты раз спадабаўся маленькі драўляны домік з ганкам, распіснымі вокнамі. Убегла ўсярэдзіну.

— Ой, як добранька! Я буду тут жыць. Прыходзь да мяне ў госці.

Бацька стукаецца:

— Можна да вас у госці?

— А хто ты?

— Зайчык.

— Калі ласка, заходзь.

— А ты хто, што ў доміку жывеш?

— Я — Лісічка.
— Ты мяне не згамаеш?
— Не палохайся, я добрая Лісічка.
— З кім ты жывеш?
— У мяне ёсць брацік Воўк і тата Мядзведзь.
— Ой-я-ёй... Ой, трэба ўцякаць адсюль,— спалохана запішчаў бацька.
— Што з табой, Зай?
— Гэта ж твой брат Воўк ганяецца за мной і ўсё крычыць: «Ну, Заяц, пачакай!» Ён хоча мяне з'есці.
— От дурненькі. Ён так забаўляецца з табой. Я яму абеды гатую. Пакаштуй і ты.
Лісічка падняла талерку «кашы».
— А твой тата Мядзведзь такі калматы, страшны. Ён мяне затопча.
— Не, ён таксама добры. Малых не крыўдзіць.
— А дзе яны цяпер?
— Пайшлі на паляванне.
— Лавіць зайцоў?
— Не, яны ловяць злых пацукоў.
— А яшчэ каго?
— А яшчэ Чырвоную Шапачку.
— Яна навошта ім?
— Каб запрасіць у госці.
— Добрыя вы ўсе ў гэтым доміку.
— Ага, мы добрыя,— адказала Лісічка.
У гэты самы момант бацька глянуў уверх і ледзь не аслупянеў. Вялікімі літарамі на даху выразана: Маша+Сяргей=дурні. Добра, што Лісічка не ўмела яшчэ чытаць.
— Чаго ты засумаваў, Зай?
— Я да мамы захацеў.
— Пагуляй, я зараз і тваю маму сюды прывяду.
Выбегла з доміка. І тут жа вяртаецца, вядзе за руку некага нябачнага.
— От і твая мама.
— Дзякуй табе, Лісічка.
— Пойдзем, я вас пакармлю, пакладу спаць.
— Як смачна ўсё, як добра ў цябе,— падхвальвае Зайчык Лісічку.
— Дык жыві ў нас.
— Што я буду рабіць у вас?
— Гуляць, абедаць.
— А працаваць не будзеце прымушаць?
— Не палохайся, не буду. Толькі сваю міску памыеш і будзеш гуляць,— гаворыць Лісічка.
— Больш нічога?
— Ну, прыбярэш пасля сябе ложак і будзеш гуляць.
— Больш нічога?
— Ну, падмяцеш яшчэ падлогу і будзеш гуляць.
— І ўсё?
— Ну, сходзіш у лес па дровы і будзеш тады ўжо гуляць...
Вось што адбываецца ў звычайным доміку, калі там «пасяляюцца» фантазёры.

## ЛЮДСКАЯ МОВА

Паказвае свой блакнот з калякамі-малякамі. Пагартаў бацька, не ўсё зразумела. Пачаў распытваць, дзе што намалявана. Алёнка расказвае, але трохі са здзіўленнем: як гэта дарослы чалавек не разумее, што намалявана ў блакноце. Гэта ж во — дзіцячы сад, каралева з завушніцамі.
Адна старонка блакнота закалякана нейкімі загагулькамі. Але яны выведзены роўна, як радкі пісьма.





— Гэта што?
— Гэта ж пісала так.
— А што тут напісана, пачытай.
— Ну, добра. Слухай.
Уселася ямчэй. Наморшчыла лоб.
— Пачакай трохі. Зараз успомню, пра што я тут пісала... Ага!..— павесялела Алёнка і пачала чытаць: — «Жыла-была Баба-Яга. І аднойчы яна паляцела дзяцей лавіць. Вось ляціць у ступе і бачыць: на дрэве сядзіць пеўнік з курачкамі. Паглядзела на іх і паляцела далей. Ляцела яна, ляцела і прыляцела да доміка, дзе жыла Машачка. Дзяўчынка ўбачыла, што ў яе хату ідзе Баба-Яга, узяла і схавалася. Як толькі Баба-Яга ўвайшла ў хату, Машачка і зачыніла яе там. Сама пабегла, села ў бабуліну ступу і паляцела гуляць. Выйшла Баба-Яга з доміка — няма яе ступы. Яна заплакала і пайшла ў цёмны лес...»
Алёнка так упэўнена чытала, вадзіла нават пальцам па радках, што аж зняверылася: мо сапраўды там усё гэта напісана?
— На якой мове напісана твая казка?
— Гм,— дзівіцца Алёнка.— На людскай мове...

## ГУЛЬНЯ

— Тата, давай пагуляем у дарослую работу.
— Як гэта?
— Ну, як? Нібыта мы з табой пайшлі працаваць, каб зарплату давалі.
— Што ж, давай паспрабуем.
Садзяцца за стол. Пішуць паперы.
— Ты што, не чуеш, звоніць тэлефон? — гаворыць «супрацоўніца» Алёнка.
— Паслухай ты.
— Ало, што вы хацелі? Не, сёння па грыбы не паедзем.
Тата смяецца, вельмі ж натуральна скапіравала Алёнка нечую дарослую работу. Яна адвярнулася ад трубкі і сказала:
— Давай па-чэснаму гуляць, не смяяцца,— а ў трубку дадала: — Так што мы не паедзем. Будзьце здрасце... Ой, да пабачэння...
Кожны піша свае паперы. Выконваюць нейкую папяровую працу. Зноў як бы звоняць. Алёнка хапае трубку.
— Ало, здрасце... Я не ведаю... Мы тут з адным дзядзькам разам працуем. Ён усё піша і піша... Прыехаць?.. А куды?.. У Маскву?.. Скажыце ваш тэлефон (запісвае і адначасова паўтарае), сорак два... Ну добра, прыеду... Ало, ало, а што мы там будзем рабіць?.. Гуляць?.. О, а мне трэба на работу хадзіць. Што, можна не хадзіць?.. Ну, у нас так нельга. У нас нават выхадных няма...
Кладзе трубку і кажа бацьку:
— Хутка па мяне заедуць. Праз дзень я вярнуся, не сумуйце.
— А як жа я без цябе працаваць буду?
— Не ведаю... О, зноў звоняць... Ало!.. Між іншым, не перашкаджайце нам працаваць... Мы занятыя,— сур'ёзна даводзіць Алёнка.
Бацька не стрымаўся, хмыкнуў.
— А ты пішы, не хмыкай.
Каб расслабіць вельмі ўжо заўзятую работу, бацька падышоў да радыёлы і ўключыў яе.
— Давай патанцуем.
— Давай.
Пачалі тупаць пад мелодыю Тарывердзіева. Раптам партнёрка страпянулася, занепакоілася:
— Ой, што мы робім? На рабоце ж не танцуюць. Нас выганяць з работы. Давай пісаць.
Працуюць рупліва. Бацька замурлыкаў мелодыю.
— Не гудзі. Выганяць,— папярэджвае і зноў звоніць.— Дзень-дзінь.
На гэты раз бацька бярэ трубку, імправізуе размову.

— Ало, добры дзень, Іван Іванавіч. Ага, гэта я. Усё добра, але мая супрацоўніца Алёна збіраецца ехаць у Маскву пагуляць. Ага, а яшчэ яна танцавала ў рабочы час... А ў Ленінград збіраецца ехаць па вінаград... Так што бачыце, якая ў мяне працаўніца...

Алёнка выскачыла з-за стала і ўжо каля дзвярэй з дакорам сказала:

— Гэта я прыдумала гуляць у дарослую работу, і можаш мяне не абзываць. Сам цяпер працуй...

Алёнка грукнула дзвярыма. Праз хвіліну адчыніла дзверы і павесялелым голасам паведаміла:

— Мяне перасяляюць на залатую работу. Будуць кветкі прыносіць, і ніхто лаяць не будзе. Вось так... Ты пішы сваю работу, я пайшла...

Яна зноў грукнула дзвярыма. А яшчэ пры гэтым паказала язык.

## ШКОЛЬНІЦА

— Давай пагуляем у школу? Я буду вучаніца, а ты настаўнік.

— Давай,— пагаджаецца бацька.

Яна бярэ з шафы некалькі кніжак, ручку, сшытак, прыходзіць у залу і садзіцца за столік. Бацька садзіцца ў крэсла.

— Ну, дзеці, вучыце ўрокі,— загадвае «настаўнік».

— Ага, ты не так,— паднялася «вучаніца».— Ты выйдзі з пакоя. Зайдзі і скажы: «Дзеці, добры дзень». А то адразу: вучыце ўрокі!

Трэба слухацца. Бацька зрабіў усё так, як сказала дачка. Тая ўстала, паздароўкалася з «настаўнікам».

— Зараз пачнем урок арыфметыкі,— сказаў «настаўнік» і зноў сеў у крэсла.

— А-а, не так. Ты хадзі па класе, рукі за спіну і гавары, а то адразу рассеўся.

Дзіва разабрала і страх: адкуль яна ведае, як павінен паводзіць сябе настаўнік?

Добра, ходзіць «настаўнік» па пакоі, рукі за спіну і задае задачу:

— У парку расло восем дрэў. Адно дрэўца паваліў вецер. На яго месца пасадзілі яшчэ тры. Колькі дрэўцаў стала ў парку? Думайце, дзеці.

Алёнка падняла руку.

— Калі ласка, Алёнка, адказвай.

— Я не Алёнка, я Марына.

— Добра, Марына, адказвай, колькі дрэўцаў расце ў парку?

— Дзесяць.

Бацька ад нечаканасці закашляўся і пабег на кухню піць ваду.

Алёнка дагнала яго і з дакорам пасарамаціла:

— А настаўнікі з урокаў не збягаюць.

Бацька папрасіў прабачэння ў сваёй «вучаніцы».

## ПАКАРАННЕ ЗА ПЕСНЮ

— У вас выхавацелька якая?

— Злосная.

— Чаму так?

— Пакаранні нам часта дае.

— Якія?

— Ну, у кут ставіць. Раней за ўсіх можа спаць пакласці.

— А яшчэ?

— А яшчэ, у каго памада ёсць, забірае. У каго дарослыя пярсцёнкі, таксама адбірае і лаецца.

— Цікава, раскажы, хто з тваіх сяброў атрымліваў спагнанні і за што?

— Ну, Лена за тое, што не ішла абедаць... Валерык, што не дапіў малако... Сасік, што доўга еў... Света наступіла на дзяўчынку, ляльку такую, новую... Юля ўзяла ў сяброўкі пярсцёнак і сказала, што гэта яе... А Наташу пакаралі за тое, што расказала сваёй бабулі, быццам яе не пускалі ў туалет...



— А ты, Алёнка, атрымлівала пакаранні?

— Не-а.

— Няўжо ні разочку не правінавацілася?

Сарамліва ўсміхаецца. Глядзіць спадылба і паказвае два пальцы.

— Два разы.

— За што?

— За тое, што ляжала на левым баку.

— Чаму вам не дазваляюць ляжаць на левым баку?

— Таму, каб роўненька спалі, а то адзін — туды, другі — сюды.

Бацька тлумачыць ёй: з левага боку — сэрца, і калі класціся на яго ўсім целам, то яму цяжка працаваць. Прыкладвае руку да сваіх грудзей, слухае. Праўда, нешта стукаецца. У яе ёсць сэрца, а яна і не ведала.

— Ну, а завошта цябе ў другі раз пакаралі?

— Песню спявала.

— Песню?! Хіба за гэта караюць?

— Караюць,— уздыхае Алёнка.

— Якую песню пела?

— А ты мяне ў кут не паставіш?

— Не хвалюйся, не пастаўлю,— адказвае бацька, бо вельмі хочацца паслухаць Алёнчыну песню.

Яна садзіцца ў крэсла, складвае далоні разам і пачынае спяваць:

Хорошо живет на свете
Винни-Пух.
У него жена и дети —
он лопух...

Закончыла спяваць, глядзіць бацьку ў вочы. Правярае, ці спадабалася песня.

— Гэтаму выхавацелька вас навучыла?

— Ты што?.. Юлька расказала...

Раніцай Алёнка чамусьці захацела прадоўжыць гэтую гаворку.

— А ў нас яшчэ пакаранні даюць за брудныя рукі,— заклапочана сказала яна і чакала, відаць, каб яе пашкадавалі.

Захацелася з ёю таксама быць шчырым, і бацька прызнаўся:

— Ведаеш, Алёнка, я расказаў Ігару і маме, як вас караюць у садзіку, і яны вельмі смяяліся.

Алёнка зазлавала. Ускочыла з канапы. Узяла рукі ў бокі, губы сцяла, вочы нахмурыла:

— Ве-ельмі смешна!..— адбеглася да дзвярэй, павярнулася і зноў акінула бацьку позіркам раз'юшанага, разгневанага чалавека: — Ве-ельмі смешна!..

## ДАДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

— Алёнка, сёння табе споўнілася пяць гадоў.

— Сама ведаю, не падказвай.

— А можна ў цябе ўзяць інтэрв'ю?

— Што, што ўзяць?

— Інтэрв'ю.

— Не, не дам,— рашуча адказвае імянінніца і дадае: — Сёння мне павінны даваць гэта... ну, што ты сказаў... падарункі.

— Дык, можа б, казку якую прыдумала ці што-небудзь цікавае расказала?

— Добра, раскажу. Якраз я заканчваю дадумваць адну гісторыю.

— А доўга ўжо думаеш?

— Мільён дзён.

— Я гатоў слухаць цябе.

— Ну, слухай... Жылі-былі дзед і баба, і была ў іх унучка Марынка. Захацелася дзядулю рэпкі. Пайшоў ён у агарод. Прайшоў граду з морквай, потым граду з капустай, потым граду з агуркамі. Глядзіць, аж перад ім — града з рэпкай. Узяўся дзед за рэпку. Цягнуў-цягнуў — рэпка не цягнецца. А тут нешта побач я-як зашыпіць. Спалохаўся дзед і пабег у хату.

«Эх ты, баязлівец»,— сказала яму баба і пайшла сама на рэпчыну граду. Узялася за рэпку, цягнула-цягнула, а рэпка ні з месца. Раптам зноў нешта я-як зашыпіць. Запішчала баба і пабегла ратавацца ў хату.

«Твая праўда, дзед, нехта шыпіць ля рэпкі, не дае вырваць».

«Я пайду па рэпку»,— сказала Марынка.

«Ідзі,— гавораць спалоханыя дзед і баба.— Толькі будзь асцярожнай, унучка».

Прыйшла Марынка на рэпчыну граду і пачала рваць. Чуе, нехта шыпіць. Кінула яна рэпку, падбегла да таго месца, адкуль чуваць было нечае шыпенне.

«Я — Марынка. А ты хто?»

«Я — Вожык. Вартую рэпку».

«Давай возьмем адну рэпку і пойдзем да нас у хату,— прапанавала Марынка.— Я цябе малаком пачастую».

«Давай»,— пагадзіўся Вожык.

Вырвалі яны адну рэпку і прыйшлі ў хату. Убачылі дзед з бабай Вожыка, які шыпеў на іх, і пачалі смяяцца. Вось і ўсё...

— Што, казцы канец?

— Канец, канец... Можаш і ты ўжо смяяцца,— сказала Алёнка і пабегла даваць «інтэрв'ю» маме.

## КАЛІ ЛЮБІШ...

— Давай пагуляем у гульню,— просіць Алёнка.

— У якую?

— Ну, я буду Каця, а ты кім?

— Ну, а я хачу пабыць Вінні-Пухам.

— Ты што?.. Калі я Каця, дык ты павінен быць Рошчыным.

Усё зразумела: наглядзелася тэлефільмаў па раману А. Талстога «Блуканне па пакутах».

— А Рошчын — гэта хто?

— Не ведаеш хіба? Ваенны салдат.

— А Каця?

— Вой, які ты... Рошчын любіць Кацю. Ты што, не бачыў?..

— Не, я не глядзеў фільмаў.

— Там ведаеш, як было?.. Прыходзіць Рошчын да Каці, кажа «здрасьце» і ў руку цмок-цмок...

— Ого, як было хораша.

— Хораша, хораша...— зазлавала трохі дачка і пачала тлумачыць: — Выйдзі за дзверы, пазвані і, калі ўбачыш сваю Кацю, падыдзі і пацалуй ёй руку...

Што тут рабіць? Трэба слухацца, бо бацька ж таксама, як і Рошчын, вельмі любіць сваю мілую Кацю-Алёнку...

## ПЯШЧОТА

Прыходзіць бацька дадому на абед. Пустая кватэра, цішыня і сумная адзінота. Хто на рабоце, хто ў школе, хто ў садзіку.

На пісьмовым стале сядзіць Бобік, жоўты пластмасавы сабачка. Побач з ім Алёнчыны малюнкі, алоўкі. Уявіў бацька таго Бобіка жывым. Сядзіць, бедны, цэлы дзень у хаце. Ніхто з ім не пагуляе, ніхто не пашкадуе. Вочы ў яго вялікія і такія журботныя.







Вечарам, калі ўсе разам сабраліся дома, бацька расказаў Алёнцы пра сваё адкрыццё.

— Ой, дык мой жа Бобік жывы,— адказала дачка і пахваліла: — добра, што ты яго пашкадаваў. Ён так любіць лашчыцца...

Алёнка пачала расказваць пра свайго любімчыка. Ён, выходзіць, умее ласавацца цукеркамі і любіць слухаць казкі. Умее есці капусту і хлеб.

Калі яму сумна, апускае свае доўгія вушы (такі ён быў дома ў абед). Калі радуецца, падымае вушы ўгору, а калі хоча слухаць казку, натапырвае адно вуха, галаву нахіляе набок. Усё гэта Алёнка паказала разам з Бобікам. Ён быў вельмі паслухмяны. А вочы яго і трохі смешная мордачка адсвечвалі радасць.

Той ноччу клапатлівая гаспадыня спала са сваёй «жывой» цацкай. Яны ляжалі нос у нос. Адным вокам, тым, што на падушцы, Бобік спаў, а другім пазіраў. Усю ноч не зводзіў вока з Алёнкі, вартаваў яе сон. Калі бацька прыйшоў у спальню да дачкі, каб накрыць яе, Бобік зірнуў на яго адным вокам і як бы падміргнуў: «Малайчына, што накрываеш, бо нам холадна...»

Напэўна, у Алёнкі той Бобік сапраўды жывы.

## ЛІСЯНЯ—НЕВІДЗІМКА

Пачынае прыносіць з вуліцы дрэнныя словы і непрыстойныя песенькі.

— Хто табе ўсё гэта расказвае? Хто навучае цябе гэткаму бруду?

Маўчыць.

— Мо выхавацелька Ірына Сямёнаўна вучыць?

— Не-а.

— Мо хто з дзяцей?

— Не-а.

— Мо чый тата ці мама?

— Не-а.

— Дык хто ж тады? — пачынае злавацца бацька, бо не хапае цярпення ў упартасць дачкі.

— Да нас у групу прыходзіць лісяня.

— І яно мо расказвае вам дрэнныя вершыкі?

— А як жа, яно і расказвае. Толькі рэдка прыходзіць да нас,— уздыхае Алёнка.

— Адкуль яно з'яўляецца да вас?

— Адкуль? З лесу, вядома, са свайго доміка. Мама яго на базар пойдзе, а лісянятка — да нас... Яно, ведаеш, такое рыжанькае, маленькае. Хвост пушысты...

Алёнка увайшла ў ролю. Падумала, відаць, што бацька паверыў ёй. І давай фантазіраваць пра лісяня-невідзімку...

Чаму яна выбрала для апраўдання лісяня? Мо таму, што ліса ў казках заўсёды хітрая, выходзіць «сухой» з любой бяды? Значыць, і яе лісяня павінна быць такім.

## РАСЦЕ ЧАЛАВЕК

Сёння апошні дзень зімы. Спачатку спакваля, а потым усё больш рашуча бярэ ў свае рукі «ўладу» чараўніца вясна.

Вы бачылі ці чулі, як расце трава?

Алёнка гаворыць, што бачыла. У мульціку. А калі прыглядзецца да «мульціка» жыцця...

На вільготнай, прыгрэтай зямлі кволяцца спярша хісткія, пасівелыя пад снегам леташнія сцяблінкі. А з-пад іх вытыркаюцца зялёныя, маладзенькія парасткі. Яны цешаць людзей сваёй прывабнасцю. Яна, вясна-красна, ва ўсім — у зялёных

парастках і пяшчотных лісточках, у цёплых промнях сонца і ў першых спевах вясны — шпаках...

А потым над пачарнелай, сухой зямлёй падымаюцца стаўбуны пылу. Ён асядае на рунь, на прывабныя ўборы дрэў. Неміласэрна смаліць летняе сонца. Пяшчотная вясновая зеляніна нікне, грубее і не так ужо радуе вока і сэрца.

У сям'і набіраецца сілы, наліваецца жыццёвай мудрасцю «вясновы парастак» — чароўная Алёнка.

Расце чалавек... Кожны дзень расце, кожнае імгненне. Прыслухайцеся, што хвалюе чалавека на пачатку шостай вясны.

— Татка, памерай мяне. Праўда, я ўжо вялікая вырасла?

— Вялікая, вялікая. Во вымахала!

— Яшчэ буду расці,— запэўнівае дачка.

— Галоўнае, доня, каб была не рослай, а разумнай.

— А я і так літары ведаю.

— Усе?!

— Усе. Хочаш, раскажу пра «А», «Б», ведаю літару «Ж». Яна на жука падобная.

— Ну, а літару «Ч» ведаеш?

— Чэ?..— зморшчыла лоб Алёнка і раптам прасвятлела.— Пачакай мяне, я пайду гляну, як Ігар малюе, і вярнуся, добра?

— Ідзі сабе, глядзі.

— Я ўспомніла літару «Ч»,— вяртаючыся ад Ігара, аб'яўляе Алёнка і піша яе на паперы.

— Дык ты мо і лічбы ведаеш?

— А як жа,— дзівіцца Алёнка і пачынае лічыць да дзесяці і далей.— Можаш мне задачы задаваць.

— Ну, добра, атрымлівай задачу...

Бацька ведаў, што задачы да дзесяці Алёнка «грызе», як цукеркі. А далей?

— Добра, скажы мне, колькі будзе адзінаццаць плюс шэсць.

Задумалася. Сашчапіла кулачкі. Потым скінула тапкі і пачала круціць пальцы на нагах. Доўга круціла. Урэшце аб'явіла:

— Адзінаццаць і шэсць будзе семнаццаць...

— Што ж, малайчына,— хваліць бацька дачку, а ёй як бы і не да гэтага. Яна ўжо расказвае свае навіны.

— А да нас на свята арміі прыходзілі сувораўцы і падарылі мне салдацкую зорку.

— Хто такія суворАўцы?

— Яны вучацца ў вучылішчы і стануць афіцэрамі. Вучацца страляць з гармат па немцах...

У Алёнкі ўсе ворагі на зямлі — гэта тыя немцы, якія ў 1941-м ішлі вайной на нашу краіну.

— А Ларыска казала, што зноў можа быць вайна,— нечакана павярнула гаворку Алёнка.

— А ты як думаеш?

— Я думаю, што не будзе.

— Чаму так думаеш?

— Таму што нашы салдаты не прапусцяць немцаў. Яны, як была вайна, ведаеш, як напалохалі іх?

— Як?

— Як, як? — зазлавала Алёнка.— Паўцякалі немцы з нашай краіны, во як!.. Мне нават сон сніўся.

— Раскажы.

— Адзін дзень прыснілася мне вайна. Падкрадваюцца немцы да нашага дома, падкрадваюцца. І тут камандзір наш я-як крыкне: «Атрад, за мной!», і пайшлі салдаты на вайну. Я спалохалася, прачнулася, расплюшчыла вочы, а Ігар спіць... Паляжала трохі. За акном ноч. І я зноў заснула...

За акном цяпер — вясна. Яна пачынаецца на ўсёй планеце. Хай жа вясною спакойна спяць усе дзеці.







На вастрыі атакі — Ігар ГУРЫНОВІЧ.

# НАВІДАВОКУ І Ў ЗАЦЕНІ

**ЗАМЕСТ УСТУПУ**

**Бадай, ніводзін від спорту не мае столькі аматараў. У сталіцы, абласных і раённых цэнтрах, у так званай глыбінцы сотні тысяч людзей жывуць футболам. Радуюцца поспехам, перажываюць за няўдачы — ад нацыянальнай зборнай Савецкага Саюза да каманд сваіх калгасаў, прадпрыемстваў, вёсак, вуліц... А колькі напісана аб футболе кніг, газетных і часопісных публікацый, колькі праведзена радыё- і тэлерэпартажаў, створана навуковых і спартыўных даследаванняў!**

**Феномен футбола — рэальнасць нашага жыцця. А чым жыве наш, беларускі футбол! Якія ў яго апошнія дасягненні! Ці ёсць тут праблемы, нявырашаныя пытанні! Якім бачыцца яго заўтрашні дзень! Адказы на гэтыя і іншыя пытанні паспрабую даць у гэтых, мабыць, у нечым і суб'ектыўных нататках.**

## «ДЫНАМА»: УЧОРА, СЁННЯ, ЗАЎТРА

Амаль кожны раз, прыходзячы на мінскі стадыён «Дынама», сустракаю там свайго даўняга сябрука і калегу Міколу Аўсіевіча. Павітаўшыся, пачынаем з ім высвятляць адносіны: хто сёння пераможа, з якім лікам, хто з футбалістаў заб'е галы ў вароты сапернікаў... Прыводзім адзін другому свае довады, аргументы, факты. А канчатковыя акцэнты расстаўляе гульня.

Аднак апошнім часам на фінішы сезонаў Мікалай Ільіч пачаў здзіўляць сваімі прагнозамі.

— Прайграем матч сёння, вось пабачыш,— сказаў ён мне ў канцы мінулагодняга сезона, калі дынамаўцы Мінска прымалі на сваім полі сталічных спартакаўцаў.—Гасцям ачкі патрэбны пазарэз, а нам яны не даюць нічога. Тым больш, што напярэдзе два паядынкі са «Спартаком» на Кубак Савецкага Саюза. Да таго часу масквічы стануць чэмпіёнамі краіны і, натуральна, аддадуць нам доўг...

— Калі не сумняваешся ў такім зыходзе, чаго ж ты тады прыйшоў на стадыён?— спытаў я.

— Паглядзець, як гэта будзе.

Суседзі па трыбуне здзіўлена зірнулі на нас: маўляў, адкуль такая інфармацыя... Адзін пажылы дзядзька нават забурчэў: «Эх вы, патрыёты!» Але Мікола не разгубіўся і прапанаваў пацярпець, пасачыць за ходой падзей.

«Спартак» і сапраўды перамог. Без асаблівых намаганняў. Вазьму на сябе смеласць, пры патуранні дынамаўцаў вывелі госці на ўдарную пазіцыю свайго лепшага форварда Фёдара Чаранкова, і той у сярэдзіне першага тайма забіў гол: адзіны, рашаючы, так патрэбны масквічам. Ні ветэраны «Дынама» Віктар Сокал, Сяргей Гоцманаў, Андрэй Зыгмантовіч, ні моладзь — Сяргей Герасімец, Юрый Антановіч, Сяргей Дамашэвіч — нават не памкнуліся аднавіць раўнавагу, узяць у спартакаўцаў хоць бы ачко... З лікам 1 : 0 бакі разышліся пры сваіх інтарэсах.

Менш чым праз месяц — у лістападзе 1989-га — саапернікі сустрэліся зноў. Пад Масквой, на трэніровачнай базе «Спартака» ў Тарасоўцы, насуперак усім інструкцыям і палажэнням аб спаборніцтвах усесаюзнага маштабу, мінчане і гаспадары за зачыненымі дзвярамі правялі першы матч 1/8 фіналу розыгрышу Кубка СССР. З мінімальнай перавагай 2 : 1 перамаглі гаспадары, і канчатковы зыход барацьбы за выхад у чвэрцьфінал залежаў ад паўторнай сустрэчы ў Мінску. Даведаўшыся пра падрабязнасці і вынік першай гульні, спартыўныя каментатары прыйшлі да адзінай думкі: шанцы ў беларускіх майстроў вышэй, чым у спартакаўцаў, якія да таго часу сталі ўжо чэмпіёнамі краіны.

Так, прынамсі, усё і атрымалася. У матчы ў адказ мінчане выканалі праграму-мінімум: забілі ў вароты «Спартака» адзіны гол і па суме дзвюх сустрэч (пры аднолькавых суадносінах мячоў мінчанам аддадзена перавага дзякуючы мячу, забітаму на полі саперніка) выйшлі ў наступны этап розыгрышу Кубка СССР.

Для мінчан была радасць: каманда змагаецца за Кубак краіны і мае рэальныя шанцы ўжо сёлета прыняць удзел у розыгрышы еўрапейскага Кубка ўладальнікаў кубкаў... «Спартак» таксама не ў маркоце: выканаўшы галоўную задачу — заваяваўшы залатыя медалі чэмпіёнаў СССР,— калектыў выступіць сёлета ў спрэчцы за Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў... Ці не праўда, як у той прымаўцы: і авечкі цэлыя, і ваўкі сытыя.

Чытач, які мала дасведчаны ў такіх вось змовах за кулісамі — у спорце наогул і ў футболе ў прыватнасці,— у здзіўленні і роспачы развядзе рукамі: маўляў, няўжо так можна? І дадасць: а дзе доказы? А найбольш «адданыя» аматары наогул могуць закрычаць: паклёп!

Але ж ці паклёп гэта?!

З нядаўніх часоў у футбольным лексіконе з'явілася паняцце «дзіўныя» матчы. Прыняты нават спецыяльны дакумент, у якім гаворыцца, што прэзідыум Федэрацыі футбола СССР можа ануляваць вынікі гульняў, калі ўстановіць дамоўленасць бакоў. Але... Пакуль што ўсё абыходзіцца... Хоць такіх вось «дзэктыўных» вынікаў — больш чым дастаткова.

У нашым футболе хапае не толькі «дзіўных» матчаў, але і іншых каляфутбольных метамарфоз. Чаго вартая, скажам, сітуацыя, калі ў Маскве за падзел футбольнай улады ў самай сапраўднай бойцы сышліся ажно тры паважаныя намі, на перыферыі, арганізацыі: Федэрацыя футбола краіны, Саюз футбольных ліг і Упраўленне футбола і хакея Дзяржаўнага камітэта СССР па фізічнай культуры і спорту... Падтрыманы на першым этапе барацьбы ўсімі без выключэння кіраўнікамі каманд майстроў, Саюз футбольных ліг быў у рэшце рэшт накаўціраваны моцнай спайкай Федэрацыі і Упраўлення. Дзіва што: у іх жа і грошы, і афіцыйная ўлада, і падтрымка ў вярхах. А Саюз, задуманы як самастойны, прававі, гаспадарчаразліковы орган, быў вымушаны спыніць сваё існаванне.

Але гэтая тэма — «не наша».

Тая перамога над «Спартаком» некалькі прыўзняла настрой у шматлікіх прыхільнікаў мінскага «Дынама», дазволіла «даравацъ» камандзе многія пралікі і ўпушчэнні ў сезоне-89. Аднак мы ўсё ж вернемся да яго вынікаў: падстаў для роздумаў і вывадаў тут, як кажуць, больш чым дастаткова.

Пасля ўзлётаў беларускіх футбалістаў у 1982 і 1983 гадах, калі яны сталі спачатку чэмпіёнамі, а потым — бронзавымі прызёрамі чэмпіянатаў Савецкага Саюза, на нашу каманду звярнулі ўвагу не толькі аматары, сапернікі і спецыялісты, а і функцыянеры футбола. Закончылася гэта, як вядома, тым, што малады і поўны задум настаўнік дынамаўцаў Эдуард Малафееў быў запрошаны ў Маскву: яму прапанавалі ўзначаліць алімпійскую, а пасля і нацыянальную зборную краіны. Гэта было настолькі нечакана, што ў Мінску проста разгубіліся...

Святое месца пустым не бывае, сцвярджае народная мудрасць. Вакансію галоўнага трэнера «Дынама» на працягу наступных чатырох гадоў па чарзе запаўнялі былыя памочнікі Эдуарда Васільевіча — Веніямін Арзамасцаў і Іван Савосцікаў. Але... Запоўніўшы вакансію намінальна, гэта значыць па форме, ні першы, ні другі не змаглі кампенсаваць страту (а ад'езд Малафеева быў сапраўднай стратай для беларускага футбола) па зместу.

Педагагічны талент, гэтак жа, як і трэнерскае майстэрства,— непаўторныя, яны дадзены ад роду. Эдуард Малафееў тады, у канцы 70-х і пачатку 80-х гадоў, быў сапраўды каларытнай фігурай: са сваім разуменнем гульні, непаўторнымі, уласцівымі толькі яму падыходамі да футбалістаў. Ведаючы няблага і В. Арзамасцава, і І. Савосцікава, я, шчыра кажучы, дзіву даваўся, калі даведаўся, што спачатку першы з іх, а потым — другі далі згоду стаць на чале «Дынама»: абодва ж раней нават невялічкімі калектывамі не кіравалі... А тут — не проста флагман беларускага футбола, а вялікая, турботная, складаная гаспадарка. І адна справа быць у ёй «другім» чалавекам і зусім іншая — «першым», галоўным трэнерам.

На працягу трох наступных сезонаў «Дынама» плыло па хвалях лёсу. Патэнцыялу, закладзенага Эдуардам Малафеевым разам з тымі ж Веніямінам Арзамасцавым і Іванам Савосцікавым, пакуль што хапала для таго, каб зрэдку напамінаць аб сіле і магутнасці, а іншы раз — і аб своеасаблівасці дынамаўскага ансамбля. Нават на міжнароднай арэне — у розыгрышах еўрапейскіх кубкавых турніраў — мінчане не-не ды і радавалі перамогамі над клубамі Венгрыі, Фінляндыі, Польшчы... І ўсё ж адчувалася: стан эйфарыі адольвае і новае кіраўніцтва, і тых, каму па абавязку службы належала падтрымліваць у калектыве высокае працоўнае напружанне.

Футбалісты, асабліва тыя, што значыліся ў радах «Дынама» не адзін год, натуральна, ведалі аб слабых і моцных баках сваіх настаўнікаў. Разумелі і Арзамасцаў, і Савосцікаў, што «націснуць» на спартсменаў, запатрабаваць ад іх большага напружання на трэніроўках, аддачы ў гульнях яны, проста кажучы, не маюць маральнага права. Інакш, пабойваліся, што тыя ж Георгій Кандрацьеў, Віктар Янушэўскі, Юрый Трухан, Аляксандр Кісцень могуць, як кажуць, адмахнуцца, заварыць такую кашу, што па галоўцы не пагладзяць. А ў выніку закрываліся вочы там, дзе трэба было прымяніць уладу.

Адступленнем стала і прамаруджванне з абнаўленнем саставу «Дынама». Новая кроў, канкуруючая ветэранам з боку маладой хвалі футбалістаў былі патрэбны, як паветра. Праўда, сказаць, што ў гэтым напрамку не рабілася выключна нічога, нельга. Само жыццё, гэта значыць траўмы, фізічная непадрыхтаванасць многіх асноўных ігракоў вымушалі кіраўніцтва падпускаць на гульні Аляксандра Мятліцкага і Сяргея Шырокага, Андрэя Шаліму і Паўла Раднёнка, Генадзя Лесуна і Сяргея Паўлючука. Змена пакаленняў у футболе — працэс заўсёды складаны, хваравіты. А тут яшчэ пераплічаныя вышэй няўвязкі... Словам, праблем хапала.

Тым часам нялёгка і супярэчліва складваўся ў Маскве і далейшы футбольны лёс Э. Малафеева. Я ведаю дакладна: выпраўляючыся ў сталіцу, Эдуард Васільевіч цешыў сябе марай калі не здзівіць, дык парадаваць краіну новымі футбольнымі вышынямі, адкрыццямі і нават тэорыямі... Забыўся толькі ўлічыць адно: Масква слязам не верыць, там энтузіястаў гэтакіх хапае і сваіх. Супраць выведзенай ім у Мінску тэорыі «шчырага» футбола выступіў — прычым надзвычай агрэсіўна — кіеўскі ка-

лега Валерый Лабаноўскі, не прынялі Малафеева і іншыя спецыялісты, што не толькі вызначаюць футбольную палітыку, але і непасрэдна дзеляць партфелі. На ўсіх без выключэння ўзроўнях. Нягледзячы на тое, што пад кіраўніцтвам Эдуарда Васільевіча савецкая зборная дамаглася права выступаць у фінальнай стадыі першынства свету 1986 года, везці каманду ў далёкую Мексіку яму, тым не менш, не дазволілі. Расчараваны і ўзрушаны, ён, падпарадкаваўшыся дынамаўскай (чытай: армейскай) дысцыпліне, застаўся ў Маскве — стаў галоўным трэнерам сталічнага «Дынама».

Цяпер жа яго пацягнула назад — у Мінск. Пабываўшы, кажучы баксёрскай тэрміналогіяй, у накаўце, Малафееў зразумеў: самыя верныя і шчырыя сябры і дарадцы ў яго — у сталіцы Беларусі. Адчувала і наша спартыўнае кіраўніцтва — старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па фізічнай культуры і спорту Валянцін Сазановіч і першы намеснік старшыні Белсавета «Дынама» Павел Піляк,— што здольны трэнер не ў сваёй талерцы, не на сваім месцы... Былі неафіцыйныя сустрэчы, перамовы. А калі таварыства «Дынама» ўзначаліў у Маскве новы кіраўнік — Валерый Сысоеў, той падтрымаў намаганні беларускіх калег аб вяртанні Малафеева на ранейшыя, зыходныя пазіцыі.

30 красавіка 1988 года футбольны Мінск сустрэў вяртанне «блуднага сына» ўсплёскам сапраўднай авацыі. І не без падстаў на тое: мясцовае «Дынама» імкліва кацілася ўніз па турнірнай табліцы першынства Савецкага Саюза. Яго трэба было ратаваць.

— Выканаўцы ёсць,— сказаў ён мне тады, пасля першага матча дынамаўцаў пад яго кіраўніцтвам.— Няма галоўнага — каманды... Многія хлопцы ўжо не ў стане вырашаць тыя вялікія і адказныя задачы, што стаяць перад «Дынама». Рэканструкцыю будзем рабіць на маршы.

Што ён меў на ўвазе, адчулі неўзабаве і ў камандзе, убачылі і балельшчыкі. Дзіўнае непаразуменне (іншых слоў і не знаходжу) атрымалася з навабранцам сезона-88 Аляксандрам Журкіным. Прыйшоў ён да мінчан з талінскага «Спорта». Хтосьці (потым многія спасылаліся на Людаса Румбуціса — былога іграка мінчан, а зараз — настаўніка брэсцкага «Дынама») ведаў яго ледзь не як брата, хтосьці за яго... папрасіў (гэтая версія больш праўдападобная). Залічылі, пачалі прыглядацца. Выйшаў навабранец на замену ў матчы з тбіліскімі аднаклубнікамі і паказаў, што не ведае... як распарадзіцца мячом, куды бегчы і наогул, што рабіць на полі... А калі пазней я пацікавіўся ў капітана «Дынама» Сяргея Алейнікава думкай наконт гэтага футбаліста, той шчыра і аб'ектыўна сказаў: «Такой бездапаможнасці ў вышэйшай лізе я не бачыў...»

Э. Малафееў адпусціў Журкіна «з богам» літаральна адразу ж.

Былі праявы і іншага характару.

У часы Арзамасцава і Савосцікава, ды і пасля вяртання Малафеева, сярод аматараў хадзіла мноства чутак аб бесклапотным жыцці ў калектыве вядомага форварда Георгія Кандрацьева. Шмат разоў спрабаваў я высветліць гэта ў Веніяміна Уладзіміравіча і Івана Іванавіча — безвынікова. «Не трэба выносіць смецце з хаты»,— прасілі яны. І дадавалі: «З'ява нетыповая, Жора абдумаецца...» Толькі Кандрацьеў думаў інакш.

А вось Малафееў нават у адносінах да патрэбнага камандзе футбаліста паставіў сябе інакш — прынцыпова і бескампрамісна. Літаральна праз некалькі тыдняў пасля прыняцця каманды ён сказаў мне:

— Маральная абстаноўка ў нас нездаровая. Калі ў Кандрацьева і надалей будуць мець месца парушэнні дысцыпліны, яго ў калектыве не будзе. Мы вельмі ўважліва сочым за рэжымам кожнага футбаліста, у тым ліку і Георгія. Ён сур'ёзны чалавек і пастаяць за сябе павінен сам...

Так, павінен быў. Ды, на жаль, не змог.

Ён вельмі быў патрэбен мінскаму «Дынама». І яму, галоўнаму трэнеру Э. Малафееву,— таксама. Гульня, і асабліва ў атацы, не ішла, ачкі даваліся вельмі і вельмі цяжка. На каго мог і павінен быў разлічваць настаўнік? Вядомая справа, на тых, з кім працаваў чатыры гады назад — да запрашэння ў Маскву, на каго рабіў стаўку, дарэчы, і ў зборных СССР — спачатку алімпійскай, а потым і нацыянальнай. Кандрацьеў пад кіраўніцтвам Эдуарда Васільевіча гуляў і ў той, і ў другой камандзе... Нарэшце, мог спадзявацца Малафееў і на тых, каго знайшоў ён для вялікага футбола, вывеў, як кажуць, у людзі. І тут сярод гэтых «тых»— Георгій Кандрацьеў.

Упершыню Малафееў убачыў яго ў Талачыне — у радах зборнай раёна супраць ветэранаў мінскага «Дынама». Параіў падацца пасля васьмігодкі ў Віцебскі тэхнікум фізкультуры. А ў 1980 годзе прыняў Эдуард Васільевіч Жору пад сваю апеку і павёў па нялёгкай футбольнай і жыццёвай дарозе. Памятаю, колькі шышак набілі мы, журналісты, Малафееву, калі ў 1982-м раз за разам ставіў ён форварда ў састаў, а той ніяк не мог забіць хоць бы адзін мяч у вароты сапернікаў... Аднак урэшце дзякуючы





**Заслужаны трэнер СССР, заслужаны майстар спорту Эдуард МАЛАФЕЕЎ перад пачаткам гульні.**

веры і падтрымцы трэнера знайшоў сябе. І атрымаў у канчатковым выніку залаты медаль чэмпіёна краіны.

А колькі дасталося Малафееву ўжо ад нашых сталічных калег, калі ён, нібы на буксіры, цягнуў мінскага нападаючага ў галоўную каманду Савецкага Саюза?! Аддадзім належнае: Кандрацьеў і тады апраўдаў спадзяванні настаўніка. Яго рашаючыя галы ў вароты зборных Швейцарыі і Нарвегіі дазволілі савецкім футбалістам выйсці ў фінальную стадыю чэмпіянату свету.

І вось — новая сустрэча Малафеева і Кандрацьева. Эдуард Васільевіч у прамым сэнсе слова не пазнаў вучня.

Літаральна пасля першай жа п'янкі форварда галоўны трэнер хацеў адлічыць яго з каманды. Не давалі, аднак, спакою сумненні аб правільнасці рашэння. Інакш кажучы, Малафееў не хацеў верыць, што форвард стаў на слізкую сцяжынку парушэнняў дысцыпліны. Пасля неаднаразовых заўваг той сам прыходзіў да Малафеева. Кляўся, абяцаў выправіцца, «завязаць»... Пасля тых размоў — шчырых і, вядома ж, непрыемных для абодвух — гора-форвард трымаўся колькі дзён. А потым — зноўку за сваё, за шклянку...

Вынік «адысеі» стаў вядомы праз пяць месяцаў: за сістэматычныя п'янкі, уцягванне ў іх дынамаўскай моладзі кіраўніцтва каманды прыняло рашэнне адлічыць з калектыву нападаючага Г. Кандрацьева. За нежаданне працаваць над сабой развіталі і з абаронцам Віктарам Янушэўскім. Малафееў стрымаў слова: нягледзячы ні на

што ад парушальнікаў дысцыпліны рашуча і беспаваротна пазбавіліся.

Можа, і не варта было так падрабязна ўнікаць у гэтую гісторыю? Але яна павучальная. Па-першае, канфлікт з Кандрацьевым стаў урокам для іншых, асабліва маладых, дынамаўцаў. Па-другое, павінны шматлікія прыхільнікі каманды ведаць праўду аб усім. І па-трэцяе, на маю думку, гэты выпадак яскрава сведчыць аб адраджэнні дынамаўскага духу ў калектыве, шчырасці і сумленнасці ва ўзаемаадносінах паміж ігракамі і іх выхавацелямі.

З галоўнай ідэяй аб стварэнні здаровага, баявога калектыву працавалі дынамаўцы і летась. А гэтая справа і няпростая, і нялёгкая. Таму і пайшлі кіраўнікі на рашучае абнаўленне радоў футбалістаў.

Сам Эдуард Малафееў, яго памочнікі Іван Шчокін, Міхаіл Вяргеенка і Яўген Кузняцоў праверылі дзесяткі прэтэндэнтаў на месцы пад сцягам «Дынама». Чатырнаццаць чалавек — амаль што палавіна саставу — прынята ў каманду. Большасць — выхаванцы беларускай школы футбола. І літаральна адразу ў поўны голас заявілі аб сабе Юрый Антановіч і Сяргей Дамашэвіч, Эрых Яхімовіч і Фёдар Сікорскі, Юрый Вяргейчык і Андрэй Тайкоў, Сяргей Журавель і Аляксандр Лухвіч... У многім дзякуючы іх намаганням рэзервовы састаў мінчан заняў у сезоне-89 першае месца сярод дублёраў вышэйшай лігі. Такі поспех дасягнуты мінчанамі упершыню ў гісторыі айчыннага футбола.

Каб паўней ліквідаваць прабелы ў калектыве, шукалі папаўненне для «Дынама» і ў іншых гарадах краіны. Амаль што не памыліліся і тут. Трывала замацаваліся ў радах мінчан Уладзімір Дзямідаў з маскоўскага «Дынама», Сяргей Герасімец з «Шахцёра», Алі Алчагіраў з Нальчыка, Яўген Кашанцаў з Барнаула...

На жаль, у адным іграку Э. Малафееў прыкра памыліўся.

З вялікай надзеяй запрасіў ён у Мінск юнага форварда з маскоўскага «Дынама» Андрэя Цімашэнку — футбаліста скараснага, тэхнічнага, таленавітага. Каманда прыняла яго добра, стварыла ўмовы для росту і ўдасканалення. Але... Штосьці не спадабалася ў нас юнаку, і папрасіўся Андрэй назад у сталіцу — на гэты раз у «Спартак». У адказ на пытанне: «Што здарылася?» Эдуард Васільевіч шматзначна заўважыў:

— Калі на дабро чалавек дабром не адказвае — чаго ад яго чакаць...

Скажы Малафееў што-кольвечы іншае, я, магчыма, прапусціў бы гэтыя словы міма вушэй. Аднак прыгадаўся такі вось выпадак...

За некалькі сезонаў да ваяжу ў Мінск А. Цімашэнкі прыглянуўся кіраўніцтву «Дынама» неблагі паўабаронца з варонежскага «Факела» Ігар Шардыкін. Клікнулі ў Мінск — прыйшоў, згадзіўся гуляць. Стараўся на трэніроўках, настойліва рыхтаваўся да будучых баталій. І раптам... знік у невядомым кірунку. Як потым высветлілася — па прапанове ветэранаў-дынамаўцаў. Аднойчы на трэніроўцы некалькі старажылаў адвялі яго ўбок і адзін з іх «ад імя і па даручэнню» вынес вердыкт: ідзі, хлопец, адкуль прыйшоў, а не — дык горш будзе... Падстава? Мог Шардыкін завалодаць у «Дынама» адной з адзінаццаці футболак асноўнага саставу і такім чынам «пасадзіць» на лаўку запасных каго-небудзь з іх, ветэранаў...

Не, не хачу праводзіць паралелі з Андрэем Цімашэнкам. Але ж усё бывае ў гэтым шматаблічным і супярэчлівым футболе...

А ў сёлетнім сезоне, які ўжо стартаваў, дынамаўцы Мінска маюць намеры зноў заявіць аб сабе на ўсесаюзнай арэне. Калі адразу пасля першых трэніровачных збораў павёў я з Э. Малафеевым размову аб планах на сезон-90, той быў настроены рашуча і аптымістычна.

— Мы выдатна разумеем, што аматары футбола і спецыялісты чакаюць ад нас сталай гульні і дастойных вынікаў. А для гэтага патрэбен стабільны моцны калектыў. Думаю, ён на падыходзе. Залатыя медалі дублёраў сведчаць аб патэнцыяльных магчымасцях «Дынама». Галоўнае ў сёлетнім сезоне — знайсці аптымальны састаў, спалучэнне вопыту і маладосці.

Ужо пры падрыхтоўцы да чэмпіянату-90 каманда страціла яшчэ аднаго вопытнага іграка: услед за Сяргеем Алейнікавым, які, як вядома, з сярэдзіны мінулага года гуляе за італьянскі «Ювентус», падаўся ў замежны клуб Сяргей Гоцманаў. Ён будзе выступаць за англійскі «Брайтан». Што ж, і сваёй гульнёй за «Дынама» і зборную СССР, і сваімі паводзінамі ён заслужыў заахвочвання. Такім чынам, з кагорты чэмпіёнаў краіны 1982 года застаецца адзін Андрэй Зыгмантовіч. Праўда, і на яго разлічваць асабліва не даводзіцца: паводле разлікаў галоўнага трэнера зборнай Савецкага Саюза Валерыя Лабаноўскага, Зыгмантовіч будзе рыхтавацца ў саставе зборнай да сусветнага першынства ў Італіі. Вось і застаюцца з ветэранаў Юрый Курбыка, Ігар Гурыновіч, Віктар Сокал, Сяргей Гоманаў. Прынамсі, няма ўжо сакрэтаў у вялікім футболе і для Аляксандра Мятліцкага, Андрэя Шалімы, Сяргея Шырокага, Андрэя Сацункевіча, Паўла Раднёнка, Уладзіміра Дзямідава, Сяргея Герасімца... У іх узросце — а гэта 24—27 гадоў — самы час дэманстраваць і высокае выканаўчае майстэрства, і спартыўную сталасць, і сапраўдныя байцоўскія якасці...

Па разліках кіраўніцтва, павінны ўмацаваць рады каманды запрошаныя з маскоўскага «Дынама» абаронца Сяргей Сілкін і форвард з «Нефтчы» (Баку) васемнаццацігадовы Руслан Лукін. Толькі б не памыліцца ў ваяжорах на гэты раз!

— Наша задача сёлета,— працягвае Эдуард Малафееў,— заняць месца сярод лідэраў чэмпіянату, каб ужо ў наступным сезоне прадстаўляць савецкі футбол у розыгрышы еўрапейскіх кубкавых турніраў. Праўда, можна гэтую мэту і наблізіць: выступіць у фінале Кубка Савецкага Саюза і восенню ўключыцца ў барацьбу за Кубак уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін. А для гэтага трэба адно: працаваць і яшчэ раз працаваць.



Барацьбу за мяч вядзе **Андрэй ШАЛІМА** (у белай футболцы).

### КАМУ І КІМ ДАВОДЗІЦЦА «КІМ»!

Вялікі футбол у нашай рэспубліцы — гэта не толькі калектыў дынамаўцаў. Яго прадстаўляюць на ўсесаюзнай арэне таксама і каманды «Хімік» (Гродна), «Гомсельмаш», «Днепр» (Магілёў), «Дынама» (Брэст), «КІМ» (Віцебск). У мінулым годзе гэтыя калектывы выступалі ў пятай зоне другой лігі айчыннага футбола. Брэсцкія дынамаўцы былі сёмыя, «Днепр»—на 9-м, «Хімік»—на 10-м, «КІМ»— на 13-м, «Гомсельмаш»— на 14-м месцах сярод 22-х удзельнікаў спаборніцтваў. Падстаў для задавальнення, як бачым, няма ніякіх.

Літаральна кожны год, уступаючы ў барацьбу ў чэмпіянаце, два з пяці нашых прадстаўнікоў другой лігі бяруць на сябе абавязацельства змагацца за пуцёўку ў першы эшалон. І толькі аднаго разу магілёўскі «Днепр» стрымаў слова. Праўда, ужо на наступны год ён вярнуўся на зыходныя пазіцыі і больш не рабіў спроб вызначыцца, скажам, на фоне гамяльчан ці віцябчан. А дарэмна.

У Дзяржаўным камітэце БССР па фізічнай культуры і спорту, гэтак жа, як і ў савецкіх, прафсаюзных і спартыўных органах Магілёўшчыны, «Дняпру» кожны сезон выдаюць вялікія і ліслівыя авансы, якія, на жаль, так і застаюцца авансамі. Вопытны клуб, добры падбор ігракоў, выдатныя ўмовы для вучэбна-трэніровачных заняткаў—ну, скажыце, калі ласка, чаго яшчэ не хапае?..

Вазьму на сябе смеласць сказаць: у магіляўчан залішне шмат высакамер'я, самаўпэўненасці, усведамлення ўласнай перавагі над сапернікамі... Менавіта з-за гэтага і губляе калектыў ачкі там, дзе іх можна і трэба браць у свой актыў. Паглядзіце на састаў каманды, і вы пераканаецеся ў гэтым. Добрую школу ў мінскім «Дынама» прайшлі сённяшнія лідэры «Дняпра» Аляксандр Ванюшкін і Мікалай Лук'янчыкаў, Юрый Малееў і Алег Радушка, Дзмітрый Клюйко і Міхаіл Смірноў... Больш чым палавіна — сталыя і здольныя футбалісты. Аднак не — падалося галоўнаму трэнеру Валерыю Стральцову, што трэба і яму запасціся ваяжорамі з-за межаў не толькі вобласці, а і рэспублікі. І вось летась прыбылі ў Магілёў «навабранцы» (адкуль бы вы

думалі?) — з самой Масквы(!). Уладзімір Мацюнін, які спрабаваў свае сілы нават у сталічным «Дынама», дублёр ЦСКА Сяргей Мяснікоў і зусім нікому не вядомы Ігар Казьмін папоўнілі «Днепр» з яўнымі прэтэнзіямі стаць у ім калі не «зоркамі» першай велічыні, дык лідэрамі другой лігі — не менш. Адна справа жаданне, а зусім іншая — магчымасць. І хоць Мацюнін і Казьмін і забілі ў вароты сапернікаў па некалькі мячоў, узняцца калектыву ў турнірнай табліцы гэта не спрыяла.

Нельга не спыніцца і на такім моманце. Летась на базе «Дняпра» быў створаны першы ў рэспубліцы гаспадарчаразліковы футбольны клуб. Шмат чулася меркаванняў, што пасадзілі футбалістаў на шыю калектыву мясцовага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно», якое шмат гадоў з'яўляецца апекуном каманды. Але, калі падлічылі грошы, аказалася, што гэта зусім не так. Каля ста тысяч рублёў атрымаў клуб ад касавага збору за продаж білетаў, шмат далі ў яго касу завод «Тэхнапрыбор», аграгандлёвая фірма «Днепр» і іншыя вытворчыя калектывы, прадукцыю якіх рэкламавалі на стадыёне ў час футбольных матчаў. Гэта, прынамсі, дазволіла павялічыць прэміяльны фонд для ігракоў. Шкада, вядома, што вынікі пагоршыліся...

Прыкладна гэтак жа, як і ў «Дняпра», складваецца лёс і ў брэсцкага «Дынама». Няйнакш, як камандай-загадкай, можна назваць калектыў з горада над Бугам. Сустракаецца ён з кім-небудзь з лідэраў ці з сапернікамі... з беларускіх каманд — гуляе проста на задавальненне. Так было летась у сустрэчах з яўным фаварытам спаборніцтваў — ціраспальскім «Тэкстыльшчыкам» і з суседам — гродзенскім «Хімікам». А выехалі дынамаўцы да «Зары» ў Бельцы, «РАФа» ў Йглаву — і паказалі такую бездапаможнасць, што проста дзіва. Цуд ды і толькі! Затое з яўнай перавагай над іншымі лідзіравала «Дынама» сярод парушальнікаў правілаў гульні. У 42 матчах атрымалі 40 папярэджанняў. Сем з іх на асабістым рахунку Эдуарда Сугака, шэсць — Аляксандра Герасімука, пяць — Сяргея Валковіча... Нічога не скажаш: гладыятары дый толькі. Мабыць, не тым відам спорту заняліся хлопцы, хоць усе — і здатныя, і ўмелыя.

Тым не менш, у мяне асабіста вера ў брэсцкіх дынамаўцаў найбольш трывалая. Так, марудней, чым гэтага хочацца, аднак усё больш смела і настойліва бярэцца за трэнерскую справу вядомы ў мінулым майстар скуранога мяча чэмпіён краіны 1982 года Людас Румбуціс. Умее ён і знайсці таленавітага хлопца, і заахвоціць яго, і давесці да патрэбнага ўзроўню. На першы погляд усё ёсць, што трэба. Ды паўстае праблемай матэрыяльнае заахвочванне. «Дынама», як гэта ні парадаксальна, сярод іншых калектываў мае самы меншы каштарыс на ўтрыманне. Адсюль і недаўкамплектаванасць радоў, і няпоўная аддача ў дзеяннях, і няўпэўненасць ва ўласных сілах. Ёсць над чым падумаць кіраўніцтву Белсавета таварыства «Дынама».

То радуюць, а часцей — засмучаюць сваіх шматлікіх прыхільнікаў і футбалісты гродзенскага «Хіміка», «Гомсельмаша». Хоць у першых сталы і здольны настаўнік Вячаслаў Сівакоў, а на поле каля дзесяці гадоў выходзяць такія вядомыя футбалісты, як браты Сяргей і Валерый Саладоўнікавы, Уладзімір Няфёдаў, Сяргей Кароза, Уладзімір Кашэўнік, Уладзімір Рабоцін, Сяргей Жылюк... Але і іх вопыт, несумненнае майстэрства чамусьці не знаходзяць поўнай (ці хоць бы працэнтаў на 70—80) рэалізацыі ў справе, якой прысвяцілі яны сваё жыццё. Адчуўшы, праўда, што змена пакаленняў — працэс проста неабходны, В. Сівакоў пачаў спакваля падпускаць у асноўны састаў зусім яшчэ юных варатара Сяргея Бабко, абаронцу Сяргея Гурэнку, паўабаронцу Дзмітрыя Траско. І калі ўжо сёлета рызыкне настаўнік даверыць ім ключавыя пазіцыі, дзеянні каманды пойдуць на ўздым. Так лічаць многія, хто пільна і пастаянна сочыць за «Хімікам».

Каманда ж з Гомеля — сапраўдны рэкардсмен у нашай рэспубліцы ў трэнерскай чахардзе. За апошнія некалькі гадоў тут змянілася сем настаўнікаў. Нарэшце летась спартыўныя функцыянеры абласнога цэнтра спынілі свой выбар на добра вядомым у футбольных колах чалавеку — Аляксандру Пражнікаве. Аматары са стажам памятаюць, што спрабаваў ён свае сілы як футбаліст і ў мінскім «Дынама», і ў родным «Гомсельмашы», і ў калектыве першай лігі — запарожскім «Металурзе»... Карацей кажучы, пабачыў на сваім вяку ўсяго патроху. А вось на трэнерскай рабоце вырашыў паспрабаваць сябе толькі дома.

Не будзем паглыбляцца ў тую абстаноўку, у якую трапіў Пражнікаў, прымаючы калектыў. Уласна кажучы, і калектыву таго не было. Недаўкамплектаванне, завалены падрыхтоўчы цыкл, засілле тых жа ваяжораў... Горшага проста не прыдумаеш. Дзесьці ў сярэдзіне сезона адразу пяць ігракоў былі злоўлены за п'янкай. Двух новы настаўнік папярэдзіў, пакараў матэрыяльна, трох жа завадатараў адлічыў з каманды, хоць здрабіць гэта, асабліва ў адносінах да здольнага форварда Уладзіміра Камінскага, было вельмі няпроста. А тут яшчэ пачаў выкідваць «конікі» лідэр атакі Ігар Фралоў: маўляў, не разумеюць мяне партнёры, не так пасы аддаюць, не туды бягуць, куды трэба... Няпроста было папярэдзіць гэтую «зорную» хваробу, як кажуць, дзякуй богу, што ўсё абышлося...

— Калі дадуць мне час, магчымасць папрацаваць тры-чатыры гады, каманда ў Гомелі будзе,— сказаў Аляксандр Пражнікаў адкаго разу.— Перспектыўныя хлопцы на Гомельшчыне ёсць.

Сапраўды, як хочацца, каб гэты час маладому трэнеру «Гомсельмаша» ўсё ж далі.

І, нарэшце, яшчэ адна наша каманда другой лігі — віцебскі «КІМ».

Падзаголовак артыкула — «Каму і кім даводзіцца «КІМ»?— не імправізацыя слоў і зусім не імкненне да паэтычнай рыфмы. Гэта — пытанне жыцця. Па крайняй меры — для самой віцебскай каманды.

Тройчы толькі за апошні час «пераапраналася» каманда з горада над Заходняй Дзвіной. Яшчэ ў 1986 годзе была яна «Дзвіной». Гуляла — горш не прыдумаеш: апошняе, зрэдку — перадапошняе месцы. Мабыць, уся бяда ў назве, палічылі віцябчане і назвалі калектыў гордым словам «Віцязь». Але па-ранейшаму заставаліся «віцязі» хлопчыкамі для біцця: гэтак з іх і кпілі па ўсім Прыдзвінскім краі. Не дапамагла нават перадача футбольнай каманды багатаму і ўсемагутнаму апекуну — калектыву вядомага на ўсёй краіне тэлевізійнага завода.

А летась задумалі ў Віцебску чарговае «пераапрананне»: на самым высокім узроўні — у Мінску — павялі гамонку аб перадачы каманды панчошна-трыкатажнаму камбінату імя КІМа. Прызнацца, калі я пачуў пра гэта, некалькі разгубіўся: калектыў жа той у большасці жаночы... Ці не дагуляліся ўжо віцябчане?!

Аказалася — не. Калі ўзяцца за справу як мае быць, можна і на голым месцы штокольвечы зрабіць...

Закасаўшы рукавы, прыступіў да работы трэнерам «КІМа» былы нападаючы мінскага «Дынама» Пётр Васілеўскі. Чалавек сур'ёзны, удумлівы, ён разумеў, што адразу мала што зменіць. Задача нумар адзін, вядома ж, падбор аднадумцаў у трэнерскім корпусе. І тут Пятру з аднаго боку пашанцавала, а з другога — паспрыялі: начальнікам у «КІМ» з сёлетняга сезона прызначаны сябрук і былы калега Васілеўскага па сталічнаму клубу Юрый Курненін. Шмат пагулялі яны разам, а цяпер вось з ахвотай узяліся за выратаванне віцебскай каманды. Ці ўдасца — пакажа час...

— Як вопытныя, сталыя, так і маладыя, таленавітыя ў нашым распараджэнні ёсць,— з упэўненасцю сцвярджае Пётр Васілеўскі.— Варатар Андрэй Любчанка, паўабаронца Аляксандр Мазгавы, форварды Ігар Басько, Віктар Навумаў, Аляксандр Грыдзюшка умеюць літаральна ўсё. Юныя ж Антон Маёраў, Юрый Шуканаў, Аляксей Асацкі, Ігар Патапаў таксама павінны раскрыцца спаўна, заявіць аб сабе на ўсю моц. Галоўнае ж — ёсць цяпер у Віцебску сур'ёзныя адносіны да футбола, а гэта і адна з гарантый таго, што будзе неўзабаве і змястоўная гульня.

* * *

Вось такі ён, футбол: захапляючы і прыгожы, кантрастны і супярэчлівы, таямнічы і непрадказальны... Не, не выпадкова любяць і захапляюцца ім мільёны.

Гэта толькі мяч футбольны — круглы. А сама гульня, як, прынамсі, і вельмі многія сітуацыі вакол яе — з вострымі вугламі і нярэдка з загадкавым зыходам... Так было і ёсць.

Але быць так не павінна.

Анатоль МЯСНІКОЎ

Фота **М. Амельчанкі.**



Клуб „Ён і Яна"

# Непрыгожы— прыгожы

**Для гэтай публікацыі мы адабралі з чытацкай пошты лісты прыкладна на адну тэму, што, як убачым неўзабаве, вельмі хвалюе пэўную частку нашай моладзі. А можа, і не толькі юнакоў і дзяўчат, але і многіх са старэйшага пакалення.**

**Спачатку — радкі з лістоў, а пасля — каментарыі-развагі нашых вядучых.**

## НЕПРЫГОЖЫ, НЕПРЫГОЖАЯ

**Надзя К. 17 гадоў, Мінскі энергатэхнікум:**

«Выбачайце, я не называю свайго прозвішча, крыху змяніла сваё імя. Я хачу расказаць вам пра тое, што мяне не толькі хвалюе, але прыносіць нават вялікую пакуту. Я непрыгожая. Нават вельмі.

Што я якраз такая, уведала досыць рана. Яшчэ ў дзіцячым садзіку, у старэйшай групе. Як цяпер помню, мы, дзеткі, гуляем у вялікім пакоі; непадалёку, каля дзвярэй, стаіць наша выхавацелька, а каля яе — мама Ірачкі, якая з намі ў адной групе. Абедзве пазіраюць на нас і размаўляюць. Нечакана маё сэрца нібы ўстрапянулася: Ірачкіна мама запыніла позірк на мне. Адчуўшы гэта, я, здаецца, затаілася і неўзабаве чую: «Беднае дзіця! Весяліцца, смяецца, не ведаючы, што будзе нешчаслівая! Такая непрыгожая!»

Убачыўшы, што я пачула, наша выхавацелька разгубілася, перамяніла размову, а ў мяне — слёзы на вочы. Неяк адразу стала вельмі крыўдна і балюча. Калі потым прыйшла забіраць мяне маці, я запытала адразу: «Мама, чаму я непрыгожая?» Маці спачатку распытала. што тут і да чаго, а пасля ўзялася супакойваць: «Не вер, дачушка, той злой цёці, ты такая, як і ўсе дзеці». Гаворыць так, гладзіць мяне па галоўцы, туліць, а сама плача...

Не ведаю: злая ці не тая жанчына (што не вельмі разумная, гэта дакладна), але што злы мой лёс — гэта праўда. Сваю нялёгкую долю я пачала адчуваць у малодшых класах, а ў старэйшых — дык асабліва. Як я ні апраналася добра (бацькі маюць — урачы, зарабляюць няблага), як ні рабіла прыстойныя прычоскі — усё адно лоб, нос, шчокі ці вусны не паправіш, што ні вазьмі — усё няспрытнае. Ні ў школе, ні тут, у тэхнікуме, мне ні адзін хлопец не напісаў запіскі, не запрасіў у кіно. Усе імкнуцца, як кажуць, да недалёкіх, але прыгожанькіх. Некаторыя з іх слаба разбіраюцца ва ўсім, усё ха-ха ды хі-хі, але... задаволеныя сабой, вясёлыя, шчаслівыя. Робяць усё, што хочуць. Як ім уздумаецца, так і водзяць за нос хлопцаў, якія зусім не бачаць, што іх «перабіраюць», цацкаюцца з імі альбо ідуць з імі толькі дзеля таго, каб яны завялі ў кафэ, на дыскатэку ці яшчэ куды-небудзь.

Магу прадбачыць, што вы можаце параіць: не лічы сябе непрыгожай, дбай не столькі пра фізічную красу, колькі пра душэўную, вучыся, працуй і... Так то яно так, але я хацела б быць і фізічна прыгожай, адчуваць сябе цалкам паўнацэннай: прызнаюся шчыра, я зайздрошчу тым, хто прыгожы. Не, я не хацела б выхваляцца сваёй красой, узвышаць сябе побач з іншымі альбо мецьад гэтага нейкую карыслівасць, не, я проста хацела б быць прыгожай жанчынай... Ды... Такой не буду, вы нічым мне не паможаце, але вось па нейкай душэўнай патрэбе захацелася напісаць. Можа, той, хто прачытае гэта, будзе болей цярпімы да нас, непрыгожых, будзе болей асцярожны, не параніць лёгкім ці, лепш сказаць, выпадковым, неабдуманым словам. Паверце, лепш горш апранугца, лепш горш есці, чым пачуць знявагу ці «праўду», але горкую і балючую...»



**Алена, настаўніца, Барысаўскі раён:**

«...Жанчына звычайна не называе сваіх гадоў, жанчыне звычайна не гавораць пра яе ўзрост. Але я скажу: мне 27. Працую ў вясковай васьмігадовай школе, нас, жанчын, тут дзевяць. З іх пяць незамужніх. Я таксама з ліку апошніх.

Што да іншых, то ім тут проста няма за каго выйсці замуж. Некалькі мужчын-настаўнікаў ужо жанатыя, спецыялісты саўгаса — таксама ўсе сталыя, сямейныя. Ёсць некалькі вясковых халасцякоў: аднаму ўжо трыццаць, п'яніца, працуе «куды пашлюць», два маладыя шафёры і адзін трактарыст, астатняя моладзь — у Барысаве. Гэтыя, шафёры, трактарыст і пара халасцякоў-гараджан, скажу шчыра, не вялікая радасць, жыць з імі настаўніцам — пакута. Таму яны і заседжваюцца ў дзяўчатах ці лепш сказаць — папрацуюць тут яшчэ год-два і ўцякуць.

Што да мяне, мне, мусіць, наканавана быць незамужняй. Я — непрыгожая. Завельмі поўная, з буйнымі рысамі твару. Спачатку я вельмі перажывала — асабліва ў гадоў дваццаць — дваццаць два, а то і да дваццаці пяці, калі мае знаёмыя роем выходзілі замуж, мелі сем'і, дзяцей, а потым супакоілася. Калі ўбачыла, што многія з іх жывуць абы-як. Ці бедна, ці ў сварках. Нямала і тых, што развяліся, асіраці пры сваім жыцці дзяцей.

Я працую, зарабляю няблага. Во ўсякім разе мне хапае і на харч, і на адзенне, і на кнігі. Шмат чытаю, вяжу, летам езджу на поўдзень. Канечне, бывае настальгія па сям'і ці нейкая меланхолія, але я навучылася сама сябе браць у рукі, у тым ліку і па індыйскай сістэме супакойвання нерваў. Рашыла: калі не выйду замуж ці не нараджу ад таго, хто мне спадабаецца, то вазьму чыёсьці дзіця і буду гадаваць яго. Няма чаго лішне скардзіцца, плакаць: жыццё яшчэ пакажа, хто шчаслівы, а хто не...»

**Юля** (адкуль яна, колькі ёй гадоў, чым займаецца, не ведаем. Спачатку мы не хацелі прапаноўваць да друку радкі з яе ліста, але потым усё ж вырашылі вынесці іх на ваш суд. Як кажуць, што напісана пяром, то... Пазнаёмцеся, паразважце і ацаніце ўсё самі).

«...Спачатку, недзе на першых курсах інстытута, я адчувала пэўны дыскамфорт, што не «смазливая», што не выйшла такое, як у Афрадыты, «личико», зайздросціла шчаслівым. Потым, перамогшы сябе, я пачала глядзець на красунь звысоку, нават пагарджаць імі. Па-другое, я зразумела, што і як трэба мужчынам. І я займела ў іх поспех — так-так, у мужчын. Нават больш — я адбіла ў лепшай сваёй сяброўкі-красуні мужа, паставіла сябе так, што ён, як кажуць, ланцугом прывязаны да мяне, да нашай дачкі. Так што, дарагія мае, трэба менш разводзіць нейкія сентыменты, трэба быць рашучай, ісці ўсяму насуперак і часамі нічым не грэбаваць... Непрыгожую, як і сірату, бог любіць, але шчасця не дае, шкадуе. Дык трэба яго браць самой...»



**МІКОЛА, 26 гадоў, рабочы, г. Магілёў:**

«...Неяк няёмка, нават сорамна, але трэба сказаць: я нешчаслівы. Жыву і нічога добрага не бачу. Работа і інтэрнат, інтэрнат і работа. Праца, п'янкі, сон, калі-нікалі — танцы альбо кіно. Можа, было б па-іншаму, каб я... ну, як сказаць... каб быў прыгажэйшы, ці што. А так — ні самому ў люстэрка зірнуць, ні іншым паказацца на вочы. Надта ж нос — ну, бульбіна... Дзяўчаты — цугам ад мяне... Можа, і прыхінулася б якая, каб ведала, што маю кватэру... Пачынаю думаць: адно ў мяне выйсце — прыстаць да якой удавы...»

## ПРЫГОЖЫ, ПРЫГОЖАЯ

Паверыце ці не, але лістоў ад мужчынскай паловы, хто прыгожы на справе ці хто сам сябе лічыць такім, няма. Ці яны задаволеныя сабой, жывуць, як жывецца, працуюцца, ці... Цяжка меркаваць, але, паўтараем, карэспандэнцыі ад гэтай катэгорыі хлопцаў ці мужчын не маем. А вось ад дзяўчат і жанчын, якія лічаць сябе прыгожымі, лісты ёсць.



**Наташа Як...ва, г. Мінск** (больш ніякіх звестак няма).

«...Можна сказаць, зусім выпадкова я пазнаёмілася з вашым часопісам. Ехала ў вялікую дарогу, дык купіла ў кіёску той нумар, што ляжаў. Хацела ці не хацела, але прачытала ўсё, ад вокладкі да вокладкі (хоць і не ўсё зразумела на беларускай мове).

Што я хачу сказаць? Мне многае спадабалася, асабліва па гісторыі, скажу шчыра, многага, пра што вы напісалі, я дасюль не ведала. Але... Любіце ці не любіце, але я павінна вам сказаць, што не ўсё ў вас калі

не зусім цікавае, то сучаснае... Як я зразумела, вы — маладзёжны часопіс, але ў вас зашмат пра дзядуль і бабуль, ды і малюнкі, здымкі нейкія, выбачайце, часамі старамодныя. Можа, памыляюся, але вы трошкі адстаяце ад жыцця.

Хто я такая, што суджу так строга? Я філолаг, ведаю рускую і замежную літаратуру, маю магчымасць глядзець так званыя закрытыя замежныя фільмы, у тым ліку і сексуальныя, шмат езджу, шмат бачу. На аснове гэтага лічу: вы трошкі, а то і не трошкі, не так рыхтуеце нашу моладзь да жыцця. У вас падкрэсліваецца чысціня пачуццяў, вернае каханне, любоў да чалавека, дабрыня і г. д., але ж у жыцці не толькі гэта і так, у жыцці бывае і інакшай. Вось як у мяне. Я, як кажуць, па дурноце сваёй на апошнім курсе ледзь не выскачыла замуж за аднакурсніка, як выскачылі многія мае сяброўкі. Выскачылі і... Ну, што яны ўбачылі? Міскі, пялёнкі, венік і анучку... У многіх выпадках «прозябание» з маладых гадоў... Я ж... Я ў час зразумела, чым мяне надзяліў бог, што можна з гэтага мець. І не абы-што, а тое, што трэба. Я знаю, што такое добры рэстаран, адпачынак на поўдні, што такое добры замежны абутак, замежнае адзенне — у нас хапае маладых і пажылых ёлупаў, якія гатовы цябе нават за адну ўсмешку карміць і апранаць, даваць табе столькі, колькі ты не заробіш на сваёй рабоце за год.

Я ведаю: так працягвацца доўга не будзе. Калі настане час, я выйду замуж. І абавязкова за так званага простага інжынера альбо якога механіка ці нават рабочага. Каб ён нямала зарабляў і, галоўнае, маліўся на маю красу, каб лічыў за шчасце, што я ягоная жонка.

Скажаце, амаральна? Няхай сабе. Я адчуваю сябе добра, я ўсё маю — нават ужо для сваёй будучыні...»

**Вольга Я., прадаўшчыца, г. Пінск:**



«...Мне хацелася б перасцерагчы ў тым-сім, можа, не так дзяўчат, як маладых жонак. Само па сабе зразумела, на сваім горкім вопыце.

Я, як кажуць, не пакрыўджаная богам. Лепш сказаць — была не пакрыўджаная. Мела як спрытныя ногі, так і ўсё, што на іх. Амаль адразу пасля школы пераехала з вёскі ў горад, праз год-другі выйшла замуж. За настаўніка. За спакойнага, сарамлівага і добрага хлопца.

Нейкі час жылі на прыватнай кватэры, потым узбіліся на сваю. Праўда, жылі беднавата, я і ён атрымоўвалі няшмат. Але надта не бедавалі, цешыліся сваім каханнем і сынком-першынцам. Але, на маё няшчасце, трапіліся мне дрэнныя сяброўкі. Выйшла так, што яны былі разводніцы. Дык вось яны пачалі мне гудзець на вушы: як ты жывеш? Гібееш, свету не бачыш! Карацей, перамаглі маю вясковую цярплівасць, уцягнулі ў сваю кампанію, да загарадных паездак з чужымі мужчынамі, да чаркі. Мала-памалу ахаладнела я да сям'і, загуляла і рана-позна страціла свайго Колю і, як кажуць, пайшла па руках. Хто толькі не быў у мяне: спачатку — маладыя і харошыя, потым — старыя, крывыя і абы-якія, хто трапіцца. Цяпер вось, у пяцьдзесят гадоў, ні ранейшай красы, ні маладосці, я — апушчаная бабуля. Муж мае сям'ю, жыве шчасліва, сын адрокся ад мяне, жыве на поўначы...»

## КАМЕНТАРЫІ-РАЗВАГІ НАШЫХ ВЯДУЧЫХ

### АЛЕСЬ

Як заўважылі, абсалютная большасць лістоў ад дзяўчат ці жанчын. Адпаведна, можа, лепш сказаць сваё слова наконт прачытанага Яніне.

Што да Міколы з Магілёва, то скажу ясна: мне здаецца, дружа, што непрыгожых мужчын не бывае. Бывае высокі ці нізкі, поўны ці тонкі, спрытны да ўсякай работы ці няўдалы, але непрыгожых — не, няма. Я лічу: калі малады чалавек працуе, і працуе добра, сумленна, калі ён шчыры, таварыскі, акуратны, то яму няма чаго непакоіцца. У гэтым выпадку, можа, не ён, а яго хтосьці з жаночага полу знаходзіць і прыносіць шчасце. А ў сямейным жыцці кожны люднее, набірае сваю норму ва ўсім. Так што, Мікола, менш песімізму і адчаю. Вазьмі сябе ў рукі — твая дзяўчына чакае цябе...



### ЯНІНА

Безумоўна, мне цяжэй, чым Алесю.

Дзяўчаты, жанчыны напісалі пра розныя жыццёвыя нюансы (хоць колькі іх яшчэ ў жыцці). Што да тых, хто скардзіцца на сваю долю, наракае, што прырода не дала ім красы, я разумею. Кожная з нас хоча быць стройнай, прыгожай, модна апранутай, шчаслівай. Але... Па-першае, цяжка сказаць, што такое — фізічная прыгажосць, якія яе крытэрыі (у кожнага яны свае), а па-другое, догляд за сабой (можа, найперш духоўны), само жыццё, у тым ліку і сямейнае, часта выпраўляюць тое, што не так стварыла прырода. Адпаведна, не варта лішне самой падкрэсліваць нейкія свае хібы, можа, нават і не хібы, а тое, што мы лічым непрыгожым, варта ці не прыцягваць да гэтага пастаянную ўвагу, ці перамагаць непаўнацэннае пачуццё, прымаць, духоўна развіваць і цела, і душу сваю.

Выбачайце, гавару прапісныя ісціны, але сама бачыла на свае вочы: тая жанчына, якая асуджае сама сябе, бывае сапраўды нейкая няўдалая ва ўсіх адносінах, а тая, якая паважае сябе, нейк нават незаўважна на нейкім адрэзку жыцця зроўніваецца з тымі, каго мы лічым красунямі. Асабліва ў гэтым сэнсе, на маю думку, становучае ўздзеянне сям'і, дзяцей. Адным словам, дарагія мае, хто лічыць сябе непрыгожай: пазбаўцеся комплексу непаўнацэннасці, жыццё наша разнастайнае, складанае, спрэчнае і добрае, калі ты верны яму і ягоным лепшым ідэалам, то яно ўмее ўзнагароджваць! І часамі нечакана!

Што да красунь, то паверце, у іх свае... цяжкасці. Ім наканавана несці тое, што шчодра можа даць прырода, і несці не абы-як, не бяздумна, шмат, як кажуць, растрасаючы, а беражна. Хто нясе ношку красы, любасці належным чынам, той узвышае сябе і іншых, хто не ўмее альбо не хоча быць разумным, цярплівым носьбітам, той нямала прыносіць бяды як асабіста сабе, так і блізкім. Каму многа дадзена, з таго і большае запытанне. Якраз у гэтым асяроддзі найбольш зламаных лёсаў — распуснасці, разводаў, смерцяў... А на заканчэнне хацелася б падкрэсліць простую, але мудрую думку: чалавек, кожны чалавек — вялікае тварэнне прыроды, кожнаму яна штосьці дае (скажам, розум, пачуцці), наша задача — падняць, развіць у сабе ўсё лепшае, што закладзена ў нас і што кожнаму з нас дае магчымасць стаць Чалавекам.

Фота **В. Ждановіча.**





*Ліст у рэдакцыю*

# ЗНІШЧАЮЦЬ ПАМЯЦЬ

Даруйце, што са спазненнем адгукаюся на публікацыю ў 10-м нумары за 1989 год намесніка пракурора Мінскай вобласці С. Скаруліса «Бульдозерам па... гісторыі».

Падзяляю яго трывогі і згодны з усімі яго прапановамі. Праўда, яшчэ не ведаю, як адрэагавалі на абураючыя факты ў адносінах да помнікаў гісторыі і культуры нашага народа, хто і як адказаў за гвалт над нашым найдаражэйшым скарбам. Нарэшце, ці прымаюцца слушныя прапановы аўтара.

Нядаўна, наведаўшы сваю родную вёску Леснікі на Лагойшчыне, як заўсёды, зайшоў на могілкі. Там пахаваны мае бацька і маці, дзяды і прадзеды. Побач з бацькоўскімі магілкамі за металічнай агароджай магілы партызан, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Наперадзе магіла адважнай партызанкі Веры Апанасенка, а за ёй — надмагільныя пліты-кветніцы. Пад імі ляжаць усё яшчэ «невядомыя» народныя мсціўцы. На кожным бетонным надмагіллі зроблены спецыяльныя нішкі, дзе павінны быць мармуровыя ці металічныя плітачкі з імёнамі пахаваных тут герояў Вялікай Айчыннай вайны. Раней вёска адносілася да Крайскага сельсавета, потым — да Ізбішчанскага, зараз — да Задор'еўскага. Улады мяняюцца, амалоджваюцца, а памяць, на жаль, паступова зусім прападае. Але ў вёсцы, якая хутка старэе, яшчэ жывуць некалькі чалавек, што памятаюць імёны партызан, якіх прывозілі мёртвымі з месцаў баёў і хавалі на могілках нашай зацішнай лясной вёскі. Хутка споўніцца 45 гадоў з Дня Перамогі, мінае 46-ы год пасля вызвалення Беларусі, а загінуўшыя партызаны так і застаюцца безыменнымі.

— Добра, што і так захоўваюцца,— адказала мне бабулька, якая сядзела ля магілы свайго сына.— Вунь у Ізбішчы царква сто гадоў стаяла, колькі войнаў перажыла. Зараз нібы буран які знёс яе.

Папытаўся ў людзей, ці ведаюць яны, хто загадаў знесці каштоўны векавы помнік драўлянага народнага дойлідства, бо разбурылі тады, калі ўжо зашумелі над нашай зямлёй вятры адраджэння гісторыі і культуры.

На жаль, не ведаюць вяскоўцы тых, каму так намазоліла вочы царква на могілках, якую, на добры лад, трэба было адрамантаваць. Хто называе сельсавецкае начальства, хто — раённае, абласное. Публікацыя ў часопісе «Бульдозерам па... гісторыі» таксама не дала дакладнага адказу. Няўжо аўтару абураючага ліста, намесніку абласнога пракурора тав. Скарулісу С. У., так і не ўдалося знайсці тую першую і галоўную паперку — прысуд помніку, які, дарэчы, у «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (Мінская вобласць, кніга 1, 1987 г., с. 251) значыцца яшчэ «жывым»? Такі адказ, па-мойму, павінен быць.

Знішчаюць помнікі па розных прычынах: ад безадказнасці, бескультур'я, дрымотнага невуцтва і свядомага вандалізму. Лічу слушнай прапанову зрабіць матэрыяльную ацэнку кожнага помніка, хоць гэта і нялёгка, асабліва, калі гутарка вядзецца аб помніках даўніны. Прыцягваць да найстражэйшай адказнасці за кожны замах на любы помнік. І перш за ўсё да матэрыяльнай.







Сапраўды, варта ўвесці ў пастаянную практыку, у абавязковую нават, пры атэстацыі работнікаў партыйнага апарату і мясцовых Саветаў усіх узроўняў, кіраўнікоў калгасаў, саўгасаў, лясгасаў, дарожна-будаўнічых і меліярацыйных прадпрыемстваў, землеўпарадчыкаў, дырэктараў і настаўнікаў гісторыі, асабліва сельскіх школ, культасветработнікаў, нават мясцовых журналістаў ставіць пытанні аб веданні імі помнікаў гісторыі сельсавета, раёна, вобласці. Успамінаецца такі прыкры выпадак. Калі будавалі дарогу Радашковічы — Карпавічы, Маладзечанскае ДРБУ-195 больш як напалавіну разабрала і вывезла Загорцаўскую гару — старажытнае гарадзішча. Калі даведаўся пра гэта, паехаў у Граніцкі сельсавет, старшынёй якога тады працаваў В. Шыманскі. Чалавек з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй, які тут нарадзіўся і вырас, шмат гадоў узначальваў мясцовыя ўлады. Пытаюся: «Чаму дазволіў, калі нават было ўказанне з райвыканкома?» «А я не ведаў, што гэта такое»,— з дзіцячай наіўнасцю адказаў Вячаслаў Міхайлавіч.

Павёз яго ў Загорцы, паказаў, што натварылі дарожнікі, запрасіў зазірнуць у суседні дом. Сустрэў нас стары чалавек. Дзікунамі, вар'ятамі ён назваў нас абодвух. А потым, ужо супакоіўшыся, расказаў пра гэты помнік цэлую нізку паданняў, звязаных з ім. Былы пан, гаспадар гэтай зямлі, па яго словах, пільней за ўсё берагаў «сваю» гару, у святы запрашаў на яе толькі самых важных гасцей. У лесе можна было ўкрасці дрэвы, а тут — не, зазначыў стары. А сучасныя гаспадары разбурылі, і ніхто нікога не пакараў. Праўда, Шыманскі В. М. хутка потым сам паставіў тут ахоўны знак.

І гэта не адзін такі выпадак у нашым раёне.

Калі ты прыйшоў працаваць, жыць, кіраваць людзьмі на нейкім кавалачку зямлі, то ў першую чаргу паспрабуй бліжэй уведаць яе. А калі будзеш ведаць ды яшчэ навучышся паважаць, то, пэўна ж, не будзеш шкодзіць ёй, нішчыць тое, што стваралі людзі стагоддзямі і даверліва пакінулі нам у спадчыну. І для ўзбагачэння яе спрыяць сваёй руплівай дзейнасцю.

**Вячаслаў ЛЯШКОВІЧ,**
**заслужаны работнік культуры БССР, член рэспубліканскага савета беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры**

# *Нашы аўтары*

**ТАРАСАУ Сяргей** нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага. Працуе ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**БАБАЕД Аляксандр** нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Чаўнышкі Бешанковіцкага раёна. Скончыў Віцебскі медінстытут, працуе ўрачом у г. п. Бешанковічы.
Друкаваўся ў часопісах. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Віцебшчыны.

**ІВАНОУСКІ Юрый** нарадзіўся ў 1962 годзе ў Віцебску. Скончыў Магілёўскае культурна-асветніцкае вучылішча імя Н. К. Крупскай. Зараз—студэнт тэатральнага аддзялення Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**КАЖАДУБ Алесь** нарадзіўся ў 1952 годзе ў Ганцавічах Брэсцкай вобласці. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Настаўнічаў, працаваў навуковым супрацоўнікам, рэдактарам тэлебачання, у часопісе «Маладосць». Аўтар кніг прозы «Гарадок», «Размова», «Лесавік», «Высоко солнышко, высоко».

**ГОЛУБ Юрка** нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна на Гродзеншчыне. Скончыў БДУ імя У. І. Леніна, працаваў рэдактарам на Гродзенскай студыі тэлебачання, у газеце «Гродзенская праўда», цяпер—на Гродзенскай студыі тэлебачання.
Выдаў зборнікі паэзіі «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Сын небасхілу».

**ЛАГВІНОВІЧ Іван** нарадзіўся ў 1940 годзе на Ганцаўшчыне. Паступіў у горнапрамысловае вучылішча. Працаваў на шахце, на абагачальнай фабрыцы.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**«МОЛОДОСТЬ» № 5 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Валянціна Марынчанка.**
Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.03.90. Падпісана да друку 25.04.90. АТ 0160. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 16,61. Тыраж 10 028 экз. Зак. 674. Цана 60 к.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



**М. КУПАВА.** Трыбунал Вялікага княства Літоўскага. Ю. Радзівіл, віленскі біскуп Ян, К. Астрожскі (алоўак, 1989).